# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (107) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2024 г.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (107) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2024 г.

## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі:** *Офіс турыстычнай фірмы “Адрас лета”, г. Ліда, вул. Замкавая, 8.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

**Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-3**

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, г. Ліда, вул. Лётная, 7 а.**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 150 асобнікаў**
**10 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2024 г.**

**Часопіс надрукаваны 14.01.2025 г. у Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**

**Замова № 31.**

ISSN 2218 – 1792







# Кроніка Ліды




3 ліпеня ў Лідзе адкрылі новы шляхаправод па вуліцы Чырвонаармейскай.

Ва ўрачыстым адкрыцці прыняў удзел губернатар Гарадзенскай вобласці Уладзімір Каранік, старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік і іншыя ганаровыя госці.

Мерапрыемства прымеркавана да святкавання Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 80-годдзя вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Новы шляхаправод у лічбах:

даўжыня - 400 м, шырыня - 26,5 м, колькасць палос руху - 4, шырыня ходнікаў - 2,25 м, разліковая інтэнсіўнасць руху аўтамабіляў - да 1600 адзінак у гадзіну.






8 ліпеня ў Лідзе каля вайсковага пахавання воінаў-вызваліцеляў па вуліцы Савецкай адбыўся мітынг, прысвечаны 80-годдзю вызвалення горада Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Да значнай для лідзян даты быў адкрыты новы памятны знак на якім высечаны імёны 25 загінулых воінаў-вызваліцеляў Лідчыны, а таксама была закладзена капсула з пасланнем нашчадкам, якая будзе ўскрыта да 150-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

13 ліпеня перад храмам Усіх Святых па вуліцы Астроўскага ў Лідзе ўстаноўлена скульптура вялікапакутніка і цаліцеля Панцеляймона.

Ідэя ўвекавечыць памяць вялікага святога і хрысціянскага лекара належыць настаяцелю храма протаіерэю Уладзіміру Яромічу. Дапамагло ў гэтай добрай справе лідскае прадпрыемства "Хавер BY".

Пастамент выканаў лідскі скульптар Рычард Груша.



У ліпені ў грэчаскіх Салоніках на чэмпіянаце свету сярод юніёраў ва ўзросце ад 15 да 17 гадоў сярод 460 атлетаў з 30 краін другое месца і тры срэбныя медалі ў катэгорыі да 61 кг. заваяваў лідзянін Глеб Паўлюкевіч. Трэнер Іван Клім.





19 ліпеня 2024 года, Яго Святасць Папа Францішак прызначыў ксяндза Андрэя Зноску, да гэтага часу пробашча парафіі Божай Міласэрнасці ў горадзе Лідзе Гарадзенскай дыяцэзіі, дапаможным біскупам Пінскай дыяцэзіі, надаючы яму тытулярны пасад Скардоны.

Выпускнік лідскай школы № 9 імя А.В. Нічыпорчыка Ягор Сушко (настаўнік Эдмунд Уладзіслававіч Цыдзік) заваяваў залаты і срэбны медалі на XVII Міжнароднай алімпіядзе па навуках пра Зямлю (IESO), якая праходзіла ў Пекінеў перыяд з 8 па 16 жніўня. У алімпіядзе ўдзельнічалі 150 школьнікаў з 36 краін свету.






З 16 па 18 жніўня ў Гвродні прайшоў чэмпіянат краіны па грэка-рымскай барацьбе. Залаты медаль у катэгорі да 60 кг заваяваў Яраслаў Кардаш з Бярозаўкі. Трэнер Ігар Вардзіс.



21 жніўня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў рамках паседжання аматарскага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" прайшла прэзентацыя кнігі Наталлі Анашкевіч "Мае класныя спадарожнікі".

Наталля Мікалаеўна Анашкевіч - класны кіраўнік у ДУА "Сярэдняя школа № 11 г. Ліды".

28 жніўня калектыву Лідскага гістарычна-мастацкага музея прадстаўлены новы дырэктар - Наталля Хацяновіч.

Працаўнікі культуры Лідчыны павіншавалі з гэтым падзеяй Наталлю Аляксандраўну. Раней яна займала пасаду намесніка дырэктара музея па навукова-даследчай дзейнасці.





31 жніўня ўведзены ў эксплуатацыю ўчастак аб'язной дарогі "Пад'езд да горада Ліды" ад аўтамабільнай трасы М-11 у раёне завода "Конус" і в. Даліна.





"Лідскія харчовыя канцэнтраты" пастараліся да Дня горада і ўпрыгожылі Ліду. На адным са сваіх збудаванняў прадпрыемства стварыла мурал, дзе намалёваны заяц, вядомы ўсім аматарам лідскіх кукурузных палачак.

1 верасня Дзень пісьменства ў Івацэвічах Берасцейскай вобласці завяршыўся перадачай вымпела гораду Лідзе Гарадзенскай вобласці. Урачыстая цырымонія закрыцця прайшла на галоўным пляцы. Для прыняцця эстафеты правядзення Дня пісьменства ў Івацэвічы прыбыла цэлая дэлегацыя з Ліды.





6-7 верасня ў Маладзечне прайшоў камандны чэмпіянат Беларусі па гарадошным спорце. На вышэйшую ступень п’едэстала падняліся Аліса Шанько і Настасся Пракопчык з Бярозаўкі.



Майстры ААТ "Шклозавод "Нёман" увесь час пацвярджаюць свой творчы пачатак стварэннем арыгінальных вырабаў. Нядаўна калекцыю сувеніраў у Палацы Незалежнасці ў Менску папоўніў крыштальны зубр з Гарадзенскай вобласці. Скульптуру на шклозаводзе ў Бярозаўцы вырабіла пад замову брыгада Вадзіма Барташэвіча. Пасля выраб быў напоўнена рапсавым алеем, таму ён стаў залацістага колеру.



18 верасня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў рамках паседжання аматарскага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" адкрылася выстава акварэлі і графікі Алены Мікалаеўны Несцеравай, і прайшла прэзентацыя яе кнігі "Адмысловы выраб - вершы". Гэта першая кніга аўтара.



Пасля працяглай хваробы на досвітку 25 верасня, прыняўшы святыя сакраманты, ва ўзросце 65 гадоў адышоў у вечнасць ксёндз Рышард Пэрчак.

З 1997 года і да самой смерці быў нязменным пробашчам парафіі св. Міхала Арханёла ў Белагрудзе Лідскага дэканата, Гарадзенскай дыяцэзіі.

З канца 1990-х ксёндз Рышард рэгулярна штолета служыў святую імшу на мемарыяле "Крыжы", на месцы пахавання паўстанцаў 1863 года паміж вёскамі Мохаваічы і Малое Ольжава, што на Лідчыне






У канцы верасня ў выдавецтве “Ridero” выйшла электронная кніга Леаніда Лаўрэша “Лябёдка Іваноўскіх”.

Гэта аповесць пра маёнтак Лябёдка Іваноўскіх, месца, дзе ў адной сям'і выраслі і сфармаваліся выдатныя дзеячы трох суседніх народаў: беларускага, польскага і летувіскага. Беларуса Вацлава Іваноўскага, які быў цэнтральнай фігурай у справе адраджэння нашай радзімы, выгадавала Лідская зямля і яго родная Лябёдка.

30 верасня, калі Папа Францішак прыняў адмову ад пасады дыяцэзіяльнага біскупа Гарадзенскай дыяцэзіі Аляксандра Кашкевіча, на пасаду біскупа Гарадзенскай дыяцэзіі заступіў біскуп Уладзімір Гуляй, былы пробашч Лідскага фарнага касцёла.



***Леанід Лаўрэш***

# Легенды Лідскага замка*

У пэўным сэнсе нам, лідзянам, пашанцавала - кароткі звод галоўных легенд Лідскага замка ў адным са сваіх артыкулаў надрукаваў лепшы знаўца лідскай гісторыі XX ст. Міхал Шымялевіч (1879-1969). Важна, што і другі наш зямляк, знаны археолаг і этнограф Вандалін Шукевіч запісаў і выдаў амаль што аднатыпныя з лідскімі легенды пра замкі ў Троках і Коўні. Я пераклаў вялікія этнаграфічныя і надзвычай цікавыя працы Шукевіча і спадзяюся на іх хуткае апублікаванне, а ў дадатку да артыкула, прывожу дзве аўтэнтычныя легенды, запісаныя недзе ў другой палове XIX ст., яны ў асноўным супадаюць з легендамі Лідскага замка.

Шымялевіч пісаў, што адразу на поўнач ад замка, па Гедымінаўскім завулку (адразу перад паўночнай сцяной замка), яшчэ ў XIX ст. стаяў будынак гарадскога вучылішча, якое з-за свайго месцазнаходжання, было пагружана ў аўру легенд і паданняў гэтага сапраўднага гістарычнага "сэрца" нашага горада. На месцы вучылішча па Гедымінаўскім завулку раней *"стаяла старое драўлянае гумно - склад усялякай вайсковай старызны, а завулак Гедымінаўскі - вузкі, балоцісты і цёмны - усімі гараджанамі абмінаўся. Тут не раз здаралася, што жаўнер, які ўначы стаяў на варце, стрэлам з карабіна ўздымаў трывогу, тлумачачы, што сярод старых, таямнічых соснаў яму нешта здалося і настрашыла. У той час на вуліцах не толькі электрычнасці не было, а нават і звычайнай аляёвай лямпы на слупе. Старыя бабы, лежачы на цёплых ляжанках, умелі апавядаць і вельмі цікава апавядалі пра розныя страшныя рэчы, якія рабіліся ў замку і пад замкам: (1) пра замкнутага ў замкавай вежы невінаватага чалавека, (2) пра скрыні на ланцугу са скарбам, пра страшнага сабаку, які пільнуе ўваходы ў замкавыя падзямеллі, (3) пра замкавыя лёхі і ходы, якімі можна ехаць чацвёркай коней да Вільні і Наваградка, (4) пра*



***Вінцэнт Дмахоўскі. Разваліны замка ў Лідзе, першая палова XIX ст. Бачны галоўная і запасная брамы, яшчэ часткова захаваліся вежы***



***Лідскі замак у першай палове XIX ст. Бачны рэшткі вежы, два ўвахода ў замак (малы і вялікі), два эркеры-прыбіральні і легендарныя сосны***

*каралеву, якая раз у год выходзіць з замкавых падзямелляў і просіць у першага ж сустрэтага ёй лідзяніна, каб замовіў набажэнства за ўратаванне яе пакутнай душы - набажэнства павінна адбыцца толькі ў замку, і ксёндз павінен не забыць прынесці ўсё патрэбнае з касцёла, але ксёндз заўсёды нешта забываў ці яму перашкаджала паліцыя, (5) пра зачараваных у тых соснах дзвюх каралеў і г. д. (6) У тыя часы лідзяне свята верылі, што ў пэўны дзень, у 12 гадзін у поўдзень, а можа, уначы, калі зрабіць насечкі на кары соснаў, з іх будзе пырскаць кроў. Хто з нас не спрабаваў гэта на практыцы? Колькі на кары нічым не вінных сосен засталося знакаў ад нашых сцізорыкаў?"*, - я пранумараваў аўтэнтычныя легенды Лідскага замка, у тэксце Шымялевіча гэтай нумарацыі няма.

**Легенды пра сосны ля замка.**

Ксёндз Вайшвіла, лідскі экс-піяр, у сваіх успамінах, напісаных у 1853 г. (засталіся ў рукапісе), адным з першых запісаў легенду пра сосны каля Лідскага замка: *"Мне вядома легенда, якую я чуў, што дзве сасны, якія і зараз растуць на самым вале замкавага мура, на галоўнай вуліцы горада, былі пасаджаны хрысціянамі на парэштках двух капланаў, забітых на гэтым месцы паганцамі. Аднак, сам узрост тых соснаў паказвае беспадстаўнасць гэтай пагалоскі"*.

Сосны ля замка былі, бадай, галоўнай лідскай легендай, і лідзяне ведалі, што калі прыйдзе самы страшны вораг і жыццё стане невыносным, менавіта адсюль прыйдзе збаўца.

* Лаўрэш Леанід. Легенды Лідскага замка // Наша слова.pdf № 18 (122), 2 траўня 2024.; № 19 (123), 8 траўня 2024.

Аляксандр Станіслававіч Макрэцкі, які паходзіў з маёнтка Дзітрыкі, што на Лідчыне, у маладосці спрабаваў сілы ў паэзіі. Захаваўся яго верш на польскай мове, напісаны ў 1850 г., пра знакамітыя дзве сасны ў Лідзе (гл. дадаткі).

Першай надрукавала легенду пра сосны этнограф Бірута (сапраўднае імя -Даравінская Амелія) у 1889 г. у часопісе "Вісла":

**"Сосны ля Лідскага замка.**

*На схіле ўзгорка, нібы падпіраючы замак, растуць дзве шматгадовыя сасны. Яны захаваліся дзякуючы пашыранаму сярод гараджан і навакольных жыхароў перакананню, што яны выраслі не на раслінным соку, а на крыві. Здарылася гэта, быццам, яшчэ ў часы, калі ў Літве панавала язычніцтва. Прыйшлі сюды дзевяць манахаў-францысканцаў прапаведаваць хрысціянскую рэлігію. Аднак ліцвіны, не жадаючы прымаць хрысціянства, забілі гэтых місіянераў, а іх трупы ўкінулі ў яму на схіле Лідскага замка. На гэтым месцы, не сеяныя і не саджаныя, выраслі дзве сасны, якіх ліцвіны, ужо стаўшы каталікамі, не чапалі. Але вось аднойчы хтосьці адсек галінку, і з яе выступіла кроў. З той пары ніхто ўжо не адважваўся ўзняць сякеру на гэтыя дрэвы...".*

Бірута запісала паданне, якое было іншым па сюжэце ад верша Макрэцкага, але ў яе ёсць агульны з вершам элемент - калі паспрабаваць ссекчы гэтыя сосны, то з іх пацячэ кроў, і таму, хто наважыўся гэта зрабіць, пагражаюць вялікія беды.

У 1930-я гг. у старым будынку каля замка месцілася гарадская агульнаадукацыйная школа № 5 імя Людвіка Нарбута. Былая лідзянка, вучаніца гэтай школы, Яўгенія Ярмант (Ярмантовіч) пісала з сваёй кнізе ўспамінаў: "*Ліда - бачу цябе вачыма душы маёй. Як на яве вяртаецца да мяне ва ўспамінах прыгажосць твая. Бачу высокія сцены замка Гедыміна, у цені якіх я жыла і вучылася. Бачу дзве карлікавыя сасны на замкавым схіле, таямнічыя і абвеяныя легендамі з-за дзіўнай формы іх крон. ... З вуснаў у вусны перадавалася легенда аб дзвюх соснах, якія растуць на схіле гары каля ўваходу. Яны звярталі на сябе ўвагу дзіўнай формай крон. Казалі, што гэта дзве зачараваныя літоўскія князёўны.*

*... дзве сасны пад сцяной замка, якія насамрэч не сосны, а зачараваныя князёўны - дочкі князя Гедыміна. Яны шмат стагоддзяў чакаюць, калі іх расчаруюць. ... казалі, што апоўначы па надрэзах на ствалах тых сосен сцякала людская кроў, аднак мы так ні разу не сходзілі туды ноччу, каб пераканацца ў гэтым самім.*

*А князёўны ўсё чакалі і клікалі сваіх вызваліцеляў. Я ўяўляю, як яны клічуць:*

*- Прыйдзіце да нас! Мы чакаем вас!*

*І аднойчы ноччу пачуўся працяглы гук і здрыганулася зямля. У замку з-пад зямлі выйшаў атрад сярэднявечных рыцараў з князем Гедымінам на чале. Я сама іх бачыла. Усе мураваныя дамы ў горадзе разбурыліся ад гэтага штуршка. Доўжыўся ён усяго некалькі секунд і зноў стала ціха. Зніклі хвоі - літоўскія князёўны, не засталося следу ад школы - яна зраўнялася з зямлёй, якая пакрылася тратуарнымі плітамі, нібы надмагіллямі.*

*Толькі замкавыя сцены працягваюць стаяць і глядзець на новыя будынкі, якія раптоўна выраслі, зусім не падобныя на старыя, на іншы горад і яго новых жыхароў*", - як бачым, Ярмант згадвае ўжо і новую, сучасную Ліду.

У другой палове 1920-х гг., дзякуючы ўмяшанню



***Сосны каля замква, бачна агароджа каля дрэва, здымак канца 1930-х гг.***




***Гарадское вучылішча, знятае праз галінкі легендарных соснаў, пачатак XX ст.***

генеральнага кансерватара Ежы Рэмера (чалавек, які адказваў за захаванне культурнай спадчыны ў маштабах дзяржавы), а таксама прыхільнага стаўлення ваяводскай управы і лідскага старасты (кіраўніка павета) Багаткоўскага (зяця Міхала Шымялевіча), Лідскае староства выдала распараджэнне магістрату горада Ліды, якое абавязала прысыпаць зямлёй аголеныя карэнні дзвюх соснаў і агарадзіць іх плотам. Гэты невялікі плот можна ўбачыць на тагачасных фотаздымках.

Міхал Шымялевіч пісаў, што *"найвялікшая і самая паважаная легенда Ліды - гэтыя дзве акружаныя таямніцай сасны"*, былі пасаджаны паміж 1740 і 1790 гг. У 1754-66 гг. лідскім падстарастам і адміністратарам Лідскай эканоміі (уладальнікам якой быў лідскі староста дэ Кампа Сцыпіён), г. зн. фактычным гаспадаром Лідскага замка і старшынём гродскага суда быў Францішак Гадэбскі (герб Гадэмба) - у 1754 г. тытулярны лоўчы, а ў 1762 г. лідскі войскі. Герб Гадземба Каспер Нясецкі апісаў так: *"Мае сасну з трыма зялёнымі вяршынямі, ці галінамі, з якіх адна ў сярэдзіне, а дзве па яе баках, пад імі дзве абсечаныя галіны, адна з аднаго боку, другая з другога, дрэва мае пяць каранёў, поле чырвонае"*. Міхал Шымялевіч заўважыў: *"Хіба ж на тле калісьці чырвонага замкавага мура тры зялёныя сасны не былі натуральным гербом Гадэмба?"*

Далей Шымялевіч пісаў: *"Чуў з вуснаў Эвеліны Сегень, ... якая - я ўпэўнены - ніколі не бачыла ніякіх старых дакументаў, а апавядала так, як чула ад старых людзей, што некалі каля тых дзвюх соснаў расла і трэцяя, якую лідскі бургамістр Перхур ... сцяў. Быў пакараны - сам Перхур памёр, і ягоны род загінуў"*.

Шымялевіч піша далей: *"Са старых папер я даведаўся, што ў Лідзе яшчэ ў XVII ст. жыў род Перхураў, месцічаў лідскіх, з якіх каля 1717 г. лідскім бургамістрам быў Стэфан Перхур, а другі Перхур, імя якога не ведаю, таксама быў бургамістрам у Лідзе каля 1740 г. ... З паловы XVIII ст. усялякія ўзгадкі пра Перхураў у метрыкальных актах Лідскай фары знікаюць"*.

Па маім меркаванні, сувязь соснаў каля замка з лідскім падстарастам Гадэбскім - гэта найбольш верагодная варыянт іх паходжання.

Ад сосен зараз засталіся толькі здымкі.

Падмуркам гэтай легенды, бясспрэчна, стаў наступны радок з самага першага артыкула пра Ліду, надрукаванага Тэадорам Нарбутам у дадатку да яго 5-га тома "Гісторыі ...": *"У 1366 г. [у Ліду] прыбыла францысканская місія, рэпрэзентаваная трыма манахамі, у 1369 г. пры нейкай сумятосе іх пазабівалі паганцы"*.

**Легенды пра падземны ход**

У кастрычніку 1933 г. лідскі староста Багаткоўскі сказаў археолагу Віленскага ўніверсітэта доктару Хелене Цэгак, што легенды аб лёхах пад Лідскім замкам гэта, часткова легенды, а часткова факт: *"Расказваў мне 80-гадовы стары, 65 гадоў таму, будучы хлопцам, ён хадзіў па падзямеллях. Тады адкрыўся ўваход у гэтыя падзямеллі. І цягнуліся яны далёка, як мовілі, ажно да Трок. Так далёка стары не хадзіў, бо яго лучыны не хапіла. Той стары, можа, часткова і мае рацыю. Падзямеллі могуць існаваць"*.



***Малая брама з гатычнай аркай, захаваўся аўтэнтычны выгляд, 1946 г.***

Лідзянін Ян Станіслаўскі пісаў у сваіх мемуарах, што ў 1936 г. быў знойдзены падземны ход з замка да фарнага касцёла, але атрымаць дадатковую інфармацыю, якая пацвердзіла б гэтую знаходку, аўтар не змог.

Аналагічныя расповеды пра падземныя хады з Лідскага замка я чуў у 1970-я гады, у сваім дзяцінстве, часткай якога быў і наш замак. Замак тады ніколі не зачыняўся, і я з сябрамі праводзіў у ім шмат часу. Агульным месцам для лідзян была вера ў тое, што падземныя хады ёсць, яны вядуць ці то ў Вільню, ці то ў Навагрудак, і шмат асоб іх бачыла, але каб нехта сказаў: "Я бачыў, і я па гэтых хадах хадзіў", - такога не было, але ўсе казалі, што чулі пра тых, хто хадзіў гэтымі хадамі.

Верагодна, усе замкі былога ВКЛ маюць свае легенды пра падземныя хады. Такія легенды мае і блізкі сваяк нашага замка - Крэўскі замак. Выдатныя беларускія гісторыкі А. Дзярновіч, А. Трусаў і І. Чарняўскі пісалі ў кнізе пра гэты замак: *"Даследаваў Крэўскі замак беларускі фалькларыст і этнограф Рамуальд Зянькевіч, ён жа запісаў легенду пра падземны ход, якую потым скарыстаў М. Балінскі"*.

Таксама паводле легенды, ад сярэдняй вежы Навагрудскага замка пачынаўся падземны ход, які злучаў замак з Мірам ці нават з Нясвіжам, і г.д.

Пры гэтым трэба разумець, што наяўнасць функцыянальнага падземнага хода ў абарончай пабудове таго часу было звычайнай і, магчыма, неабходнай справай, напрыклад, у Менскім Дамініканскім касцёле меўся падземны ход, які вёў з падвала левага нефа і касцёла Бернардынаў, падземныя хады мела Ляхавіцкая і Глуская фартэцыі і г. д. Але гэта ўсё ж былі чыста вайсковыя пабудовы адносна невялікай даўжыні. Таму цалкам магчыма, што нейкі непрацяглы падземны ход меў і Лідскі замак, па логіцы, ад замка ён мог ісці толькі на поўнач, бо ва ўсе іншыя бакі замак акружала багна.

Прыкладна на тым месцы, дзе ў старыя часы стаяў кармеліцкі кляштар, сёння знаходзіцца будынак музычнага каледжа. Пры дабудове да сучаснага музычнага каледжа спартовай залы былі ўскрыты магут-





***Сучасны здымак малога гатычнага ўвахода ў Лідскі замак. Мае вышыню 2,45 метра. Захаваліся сляды ад бегункоў варот (бачны ўнізе з двух бакоў). Гэта два вялікія камяні ў аснове аркі з круглымі гнёздамі-адтулінамі. Знадворку малы ўваход бараніла падкавападобнае ў плане збудаванне, ад якога засталіся нязначныя рэшткі падмуркаў - такі Лідскі "барбакан наадварот". Такі выгляд мае сапраўдная брама нашага замка***

ныя лёхі былога кляштара са скляпеністай столлю - старая Ліда чарговы раз нагадала пра сябе, і гэта дало штуршок новаму адраджэнню легенды пра падземныя хады вакол нашага замка.

Покуль ніякіх рэальных слядоў такога падземнага хода не знойдзена, але самыя розныя легенды працягваюць нараджацца і пераказвацца лідзянамі. Самую апошнюю і самую бязглуздную я прачытаў некалькі дзён таму у сацыяльных сетках. На гэты раз відавочца прайшоў метраў 20 - 30 па падземнаму ходзе з замка ў ... капліцу св. Барбары на старых могілках! У капліцу, будаўніцтва якой не было нават скончана да 1939 г. і дабудаваная яна была ўжо бліжэй да нашага часу!

Упэўнены, што легенды пра падземны ход, будуць нараджацца зноў і зноў, бо іх нараджае таямнічасць нашага сярэднявечнага замка.

**Легенды пра князёўну Лідзію**

Здаецца легенды пра князёўну Лідзію з'явілася не раней за 1960-я гг. Першы раз я пачуў яе яшчэ дзіцём у сярэдзіне 1970-х гг. ад ... штатнага экскурсавода.

Па адной з гэтых легенд князь Гедымін назваў горад у памяць пра сваю любую дачку Лідзію. Прыгожай князёўне Гедымін меркаваў у мужы багатага старца. Пачуўшы вырак бацькі, чарнавалосая прыгажуня спачатку замкнулася ў пакоі, а потым і кінулася з замкавай сцяны ўніз.

Па другой легендзе адзін з рыцараў тэўтонскага ордэна ўбачыў Лідзію ў акне замка і быў уражаны яе прыгажосцю. Ён захацеў узяць яе ў жонкі, але князёўна адмовіла рыцару: "Калі ты не хочаш быць маёй жонкай, то не будзеш нічыёй!" - усклікнуў рыцар, захапіў замак і загадаў замураваць Лідзію ў яго сценах. Тры дні і тры ночы працякалі слёзы дзяўчыны праз сцены, і яны далі пачатак рацэ, якая з таго часу цячэ ля замка.

Нарэшце, трэцяя легенда расказвае, што даўным-даўно ў замку жыў князь, у якога было двое дзяцей: сын і дачка. А побач з замкам ляжала невялікая вёсачка. Малады святар з гэтай вёскі сябраваў з сынам князя, які і пазнаёміў яго са сваёй прыгажуняй сястрой Лідай. Яны пакахалі адзін аднаго..., але пра іх сустрэчы даведаўся князь і аднойчы, застаўшы закаханых у замкавай вежы, забіў абодвух. Смерць любай сястры горка аплакваў сын князя. А неўзабаве - невядома, ці выпадкова - жорсткі стары князь памёр. І брат прыгажуні Ліды, стаўшы князем, назваў селішча ля сцен замка імем сваёй сястры.

Гэта толькі тры варыянта адной і той жа легенды, але насамрэч гэтых варыянтаў існуе значна болей.

**Легенда пра д'яблаў (чарцей) у замку**

У рукапісах дачкі гісторыка Нарбута - Тэадоры Манчунскай - я знайшоў наступную легенду, у якой адчуваецца і пачуццё гумару сям'ім Нарбутаў: *"Нехта з гараджан ішоў каля руін замка і пачуў галосную гаворку, а вядома было, што там часта чуліся галасы д'яблаў, спалоханы гараджанін упаў пад мур - аказалася, што на гэты раз д'яблы не размаўлялі, але з замка даносіўся скрыгат зубны, плач і лямант - новапрыбыўшы і цалкам няшчасны д'ябал, тлумачыў іншым прычыну свайго плачу: "Марачэўскі спавядаўся, а Нарбут ажаніўся", - вось чаму хорам скавыталі д'яблы.*

*Марачэўскі быў хлусам і бязбожнікам, а пан Тэадор ажаніўся толькі, калі меў ужо 5 дзяцей. І страціўшы такіх грэшнікаў, д'яблы ўпалі ў роспач".* Д'яблы ў нашым старым замку - гэта неяк натуральна і нават да месца.

Думаю, што з гэтай старой легендай, стасуецца наступная сучасная легенда, якая нават патрапіла на старонкі прэсы.

**Легенда пра прывід Лідскага замка**

Газета "Гродзенская праўда" ад 25 красавіка 2007

г. пісала: *"Духі продкаў у Лідскім замку. Ігар Пешахонаў расказаў: "Паколькі ў выдавецтве "Беларусь" запланаваны мой чарговы альбом "Краявіды Лідчыны", дык у апошні час я часта здымаю ў замку. Падчас усяго гэтага працэсу нічога звышнатуральнага не бачыў, але... Калі стаў праглядаць кадры на дысплеі, аж прысвіснуў ад нечаканасці! І нават моцным слоўцам услых выказаўся! На экране была бачна пляма, у абрысах якой відавочна адгадваўся старажытным воін у плашчы, які трапеча.*

*На мае эмоцыі адгукнуўся Мікалай Шаўчэнка: у гэты дзень у двары цвердзі "секліся" хлопцы з рыцарскага клуба, Мікалай адрэагаваў на прагледжаныя кадры, а іх было тры, гэтак жа, як і я. А потым прызнаўся, што і сам быў відавочцам таго, як імкліва прабег уздоўж усёй галерэі цень воіна-здані. І легенду распавёў аб пакінутых князем вартавых...*

*Але гэта яшчэ не ўсё. Прыйшоўшы ў студыю я пачаў перакідваць зняты матэрыял на кампутар. Хацелася хутчэй у павялічаным выглядзе разглядзець загадкавыя контуры ваяра. Гэта неверагодна, але тыя самыя файлы былі ... сцёртыя, карта памяці - пустая! Я добра ведаю сваю тэхніку: яна не магла падвесці. Нічога падобнага, ніякіх тэхнічных праколаў дагэтуль у мяне не здаралася. Вось і думай, што хочаш.*

*Убачанае ў цвердзі на дысплеі фотаапарата мяне настолькі ўразіла, - кажа Ігар Пешахонаў, - што я як фатограф вырашыў усё ж рэканструяваць той кадр. Гэта ні ў якім разе не падробка, а аднаўленне ідэнтычнай карцінкі ..."*.

**Легенды пра сакральныя аб'ект у замку і вакол яго**

Ва ўсё тым жа дадатку да свайго 5-га тома Тэадор Нарбут пісаў: *"Капліца ў замку існавала ад пачатку яго будаўніцтва"*. І гэта ўсё, што мы ведаем пра існаванне капліцы ў паўночна-заходняй вежы (вежы Гедыміна). Трэба разумець, што Нарбут як аўтар не карыстаецца вялікім даверам ў гісторыкаў, бо ён быў вялікім майстрам фальсіфікацый на карысць балцкага элементу гістарычнай Літвы

Тым не менш, прааналізуем самы пачатак артыкула Тэадора Нарбута пра Ліду з таго самага дадатку да яго 5-га тома, дзе сярод іншага, згадваецца і капліца, Нарбут пісаў: *"Гэтая мясцовасць пасля заваёвы каля 1180 г. Дайнаўскага княства, у якім яна размяшчалася, ёсць абшар літоўскі* (у сэнсе - балцкі, а не славянскі - *Л. Л.*), *бо Ліда абазначае паляна, поле, ачышчанае ад лесу. Замак быў заснаваны ў 1323 г. вялікім князем Гедымінам; будавалі яго кіеўскія майстры і скарыстаны былі палонныя з Валыні. Хрысціянская рэлігія русінскага* (у сэнсе - усходняга - *Л. Л.*) *веравызнання была пастаўлена ў гэтым краі з вельмі даўніх часоў; капліца ў замку існавала ад пачатку яго заснавання"*.

Зараз цвёрда вядома, што першае гістарычнае паселішча на месцы нашага горада, якое ад пачатку знаходзілася каля будынка сучаснай галоўнай пошты, было славянскім[1]. Гэта пацверджана археалагічна, і таму шукаць крыніцу назвы нашага горада ўсё ж лепш у беларускай мове. Замак быў заснаваны Гедымінам, ён з'яўляецца класічнай еўрапейскай "кастэллю" [2], і яго будавалі еўрапейскія майстры, якіх наняў Гедымін, а так званага "валынска палону" на той час проста не было.

Нарбут піша пра капліцу, заўважу - безымянную капліцу, а не царкву. Як для мяне, адзіным аргументам на карысць існавання капліцы ў нашым замку з'яўляецца сам факт згадвання яе Нарбутам, бо каб не ён, дык ніхто б пра капліцу не ведаў і не пісаў бы. Таму цалкам магчыма, што кут пакоя на адным з паверхаў вежы быў выкарыстаны пад капліцу для воінаў-хрысціян, якія былі ў гарнізоне. Усё гэта добра разумеюць людзі, якія прафесійна займаюцца гісторыяй нашага горада.

Аднак амаль што з ніадкуль з'явілася легенда, пра тое што:

1. Адначасова з будаўніцтвам замка была пабудавана драўляная царква для будаўнікоў, і гэта пры тым, што будаўнікі - з вялікай верагоднасцю, былі яшчэ пагандамі, а кіраўнікі будоўлі - рыма-каталікамі;

2. Потым гэтую царкву, як быццам, перанеслі ў вежу Гедыміна, а яшчэ потым яна была вынесена на падзамча, прыкладна туды, дзе зараз стаіць помнік Гедыміну.

Пасылам гэтай легенды з'яўляецца толькі адзін, цытаваны вышэй, радок Нарбута пра капліцу, і ў астатнім, яна не мае ніякага апірышча ні ў гістарычных крыніцах, ні ў археалогіі і з'яўляецца сапраўдным народным фальклорам.

Дадам, што прыкладна на месцы сучаснага помніка Гедыміну, нейкі час - з другой паловы XVII па сярэдзіну XVIII ст., стаяў драўляны фарны касцёл, папярэднік сучаснага мураванага. Пры гэтым спрадвечная тэрыторыя вакол сучаснага фарнага касцёла, дзе стаялі некалькі яго драўляных папярэднікаў, заставалася тэрыторыяй парафіі, на якой працягваліся пахаванні нябожчыкаў, косткі якіх і сёння, на жаль, выкопваюцца пры кожных земляных работах каля сучаснага фарнага касцёла.

**Легенда пра паўночную браму замка і скразны шлях праз замак у паўночную браму**

Гэта зусім новая народная легенда цікавая тым, што яна не абапіраецца наогул ні на якія крыніцы, не мае пацверджання ні ў археалогіі ні ў тапаграфіі мясцовасці вакол нашага замка, ні ў канструкцыі самога замка.

Вельмі аўтарытэтны археолаг Алег Трусаў, які вялікую частку свайго жыцця аддаў вывучэнню Лідскага замка пісаў: *"У XV ст. замак меў тры ўваходы. У паўднёвай сцяне на адлегласці 22 метраў ад вежы - невялікі паўцыркульны праём на вышыні 4 метраў ад*

[1] Гл: Лаўрэш Леанід. Лакалізацыя "Ліды Нарбута", першаснага паселішча на тэрыторыі нашага горада // Лідскі Летапісец. 2023. № 2 (102). С. 30-35.

[2] Кастэль, ад castells, замак, тып абарончага збудавання.

*першапачатковага ўзроўню двара, які, відаць, лічыўся запасным (на выпадак выведкі або ўцёкаў), і трапіць туды можна было толькі з дапамогай доўгай прыстаўной альбо вераўчанай лесвіцы. Два ўваходы - ва ўсходняй сцяне: малы, зроблены на ўзроўні абрэза падмуркаў сцяны, і вялікі (відаць, крыху пазнейшы), размешчаны каля паўночна-ўсходняй вежы на вышыні 2,5 метра. Трапіць у замак праз вялікі ўваход можна было толькі дзякуючы пад'ёмнаму мосту. Пра яго наяўнасць сведчыць вялікая разгрузачная спічастая ніша, якую праразаў уваходны праём меншых памераў".*

Аднак свежанароджаная легенда расказвае, што ад пачатку ў паўночнай сцяне меўся яшчэ адзін, невядомы навуцы ўваход у замак, і вандроўнік, які прайшоў праз гэтую браму, трапляў у міфічны мытны пост у замку, з якога выходзіў праз запасную вузкую паўдзённую браму, якая адмыслова была зроблены на вышыні не менш за 4 метры і выходзіла у бок багны (каб ёй не скарыстаўся вораг). Уявіце сабе гэты сапраўдны "трылер": фурманкі з грузам, людзьмі і коньмі, праціскаюцца ў вузкі (нешта каля 1 метра) запасны выхад і падаюць з яго пад сцяну замка. Але прыгоды купцоў (а хто яшчэ мог вандраваць у той час) на гэтым толькі пачынаюцца. Алег Трусаў піcаў: *"Для замка была выбрана невялікая пясчаная выспа ў балоцістай сутоцы дзвюх рэк - Лідзеі і Каменкі. Выспу пераўтварылі ў штучную прамавугольную пляцоўку і месцамі яе дасыпалі жвірам, камянямі, буйной рачной галькай да вышыні 5-6 метраў. З поўначы, на адлегласці 7 метраў ад яе праходзіў шырокі (каля 20 метраў) роў, які злучаў дзве ракі і аддзяляў умацаванне ад горада".* Таму на поўдзень, купцы, якія выпалі з вышыні 4 м "раптоўна" бачаць дзве ракі якія злучаюцца якраз каля замка, а за імі, на кіламетры ў бок поўдня, цягнуцца знакамітыя Лідскія балоты якія пераходзяць ў Дакудаўскія, каля-Дзітвянскія і г. д. І купцы-небаракі, павінны былі б уздоўж вонкавых сцен прабірацца да замкавага моста (ці мастоў).

Але ўсё было б яшчэ цікавей! Яшчэ пры спробе ўвайсці ў замак з поўначы, нашы купцы сутыкнуліся б з невырашальнай праблемай. Бо, з поўначы (з боку фарнага касцёла), археолагі знайшлі рэшткі вельмі шырокага рова (каля 20 метраў), але не знайшлі рэштак моста. І нашым купцам трэба было б неяк разам з нагружанымі фурманкамі і коньмі пераплываць праз роў, каб пасля гэтага ўперціся ў моцную і глухую замкавую сцяну, у якой ні звонку, ні знутры няма і не было ніколі ніякіх слядоў брамы! Каб зразумець, як павінна была б выглядаць гэтая міфічная брама, калі б яна тут была, на наша шчасце, цікаўным асобам дастаткова толькі агледзець аўтэнтычныя брамы замка з гатычнымі аркамі, якія, з большага, захаваліся да нашага часу.

І апошняе. Тыя, усім бачныя некалькі цаглін знутры паўночнай сцяны замка, якія чамусьці дзеля легенды пачалі выдаваць за тое, што засталося ад брамы, найверагодней, з'яўляюцца рэшткамі былой печы ў казарме гарнізона замка. Бо, як пісаў усё той жа аўтарытэтны археолаг Алег Трусаў: *"Падчас раскопак двара [замка] высветлілася, што з трох бакоў (акрамя паўднёвага) да замкавых муроў туліліся драўляныя аднапавярховыя будынкі-казармы (захаваліся рэшткі падмуркаў, печаў і абгарэлых бярвенняў). Шырыня іх каля 4 метраў".* Чаму казармы імкнуліся пабудаваць каля паўночнай сцяны ці бліжэй да яе, цалкам зразумела. Бо толькі з поўначы, з сухога ўзгорка, вораг мог штурмаваць і абстрэльваць наш замак, таму месца ўнутры замка каля паўночнай сцяны было ў той час самым бяспечным. І менавіта таму з гэтага боку не было ні моста, ні брамы - імі абавязкова скарыстаўся б наш вораг. Таму, аніякіх слядоў міфічнай брамы ў глухіх замкавых паўночных мурах няма і, з вайсковага боку гледжання, быць не можа.

***

Але ўсё ж, думаю, можа, і не трэба навукова лагічна аналізоўваць сапраўдны фальклор. Бо фальклор - як песня, у ім галоўнае, каб было цікава, прыгожа і прыцягвала людзей. Усе мы любім легенды, казкі і паданні і вельмі паважаем асоб, якія маюць вялікі талент ствараць сапраўдны народны фальклор.

Але шматлікім турыстам, якія прыязджаюць у Ліду, легенды трэба падаваць менавіта, як легенды, бо сярод іх бываюць і вельмі кампетэнтныя асобы, якія потым законна абураюцца абсурднымі з навуковага боку гледжання, рэчамі. І пасля гэтага нічога не застаецца, як сказаць ім: *"Гэта толькі легенды, прыгожыя, беларускія народныя легенды, падобныя легенды маюць усе замкі, мае іх і наш замак, яны былі і будуць заўсёды, іх наяўнасць пацвярджае толькі, што замак наш сапраўдны, што гэтую перлу цаніць трэба, любіць і ганарыцца!"*

**Дадаткі**

***Аляксандр Макрэцкі***

**Да дзвюх соснаў,**
**якія стаяць пад Лідскім замкам**

Сосны, дзве прыгажуні Лідскага замка ў нашай зямлі,
Раскажыце, чаму вы так смутна стаіце?
Раскажыце нам, раскажыце пра мінулае ваша жыцце,
Што бачылі вы? Хто вас садзіў і калі?

Як прылеглі да даўніх, амшалых тых сценаў?
Чаму абнялі іх вашыя кроны,
Як каханак каханку? Так вы хвіляў мільёны
Стаіце, нібы сёстры ў глухім задуменні.

Дзіўных казак сплялі тут старэйшыя людзі:
Вы - не сосны - заклятыя дзве каралеўны,
Што ў час невядомы, ды пэўны
Бразгат зброі і крыкі вас будзяць.

Што часта між ночы занімецца ззянне,
Пад ім жа дзве ў беллі прыгожыя панны,
Ды труны ля ног не падпусцяць цікаўных,
І доўжыцца тое да самага рання.

Раз нейкі смяльчак хацеў ссеч вас, спаліць,
Пырскнула кроў з-пад сякеры струменем,
Зямля задрыжала, і хлопец з трымценнем
Уцёк, каб жыццё ў той жа час не згубіць.

Можа выраслі вы з касцей нашых браці,
Каб пільнаваць тут іх светлай магілы?
І кронамі горад стары вы пакрылі,
Каб нікому-нікому яго не аддаці.

А мо алтары перад вамі стаўлялі
На гонар якога літоўскага бога
І кожнай галінцы маліліся строга,
Рэліквіі шчыра ў паклоне складалі.

Хай было там, як хоча, скажу вам па-свойму:
Столькі стагоддзяў на свет вы глядзіце,
Вы бачылі нашых прашчураў жыцце,
І бітвы на полі, і ў горадзе соймы.

Святыя часіны, як кожны з сабрацця
Нёс маёмасць сваю і жыццё на ахвяру
За вольнасць Айчыны, за светлую мару
І не баяўся, што ўсё можа страціць.

Іх слаўныя дзеі Бог дабраславіў,
Імя іх набатам грымела ў вяках,
Праймалі суседзяў павага і страх,
Як хто пра ліцвінаў казкай іх бавіў.

Святы час! Святы! Аддаў бы і жыцце
За светлай мінуўшчыны дзень...
Ды край па касцях маіх продкаў брыдзе,
І роспач буяе мятліцамі ў жыце.

Помнікі сведчаць, ды іх ужо мала,
Колькі ў крушні лягло і прапала навекі.
Як дзве сіраты без падмогі, апекі
Вы засталіся над стромаю вала.

Як міла пад вамі ў цяньку прыпыніцца,
Каб глянуць на горад, тлум рознага люду
І з пакорай прасіць Маці Божае цуду,
Каб яму наказала духам праўды з'явіцца.

Каб горад той ласкай сваёй ахінула,
Шлях асвяціла ў варожасці ночы...
Ды ўсё тут маўчыць, толькі вецер з паўночы
Глуха нам цвердзіць, што ўсё прамінула.

*13 ліпеня 1850 г., м. Дзітрыкі, Лідскае староства.*
*(Пераклад Станіслава Судніка.)*

**Легенды пра замкі ў Тракаі (Троках) і Каўнасе (Коўні), надрукаваныя Вандалінам Шукевічам[3]**

Наступныя дзве легенды, надрукаваныя Вандалінам Шукевічам, з большага ідэнтычныя лідскім і могуць быць выкарыстаны і як наш, мясцовы, фальклор.

***Заклятый ў Троцкім замку скарб***

Шмат гадоў таму ў Троках жыў слынны злодзей Чараповіч. Ён быў сапраўднай пакутай для спакойных месцічаў і ваколічных гаспадароў, бо заўсёды так рабіў свае цёмныя справы, што ніколі не трапляўся на гарачым. І хаця, грунтуючыся на ускосных доказах, яго часам выклікалі ў суд, ён заўсёды выкручваўся і пазбягаў заслужанага пакарання.

Незадаволеныя з-за няўдач трайчане, не маючы магчымасці атрымаць справядлівы суд, вырашылі самі выправіць зло. Аднойчы ўначы вялікая грамада сабралася каля хаты Чараповіча, схапіла яго ў ложку і звязанага, як барана, павяла на востраў у замак. Там яго кінулі ў падзямеллі, таямнічыя глыбіні якіх яшчэ бачны сярод руін замка Кейстута. Зрабіўшы гэта, месцічы засыпалі яму камянямі і друзам, знішчыўшы такім чынам ўсе сляды свайго злачынства.

Але провід, відаць, пільнаваў Чараповіча і выратаваў яго ад пераломy карку, а потым ад галоднай смерці ў той страшнай магіле і даў яму час адрачыся ад граху.

Апрытомнеўшы пасля перажытага жаху і падзення, пасля якога нейкім цудам косці засталіся цэлымі, Чараповіч устаў і неяк вызваліўся ад путаў. Хоць нічога не бачыў у поўнай цемры і не ведаў, у які бок падацца, ён, абмацваючы рукамі сцены, пачаў павольна рухацца. Чараповіч не ведаў, колькі часу ішоў, калі ў далечыні ўсё ж убачыў слабое святло. Узрадаваны гэтым паратункам, пайшоў у той бок і раптам анямеў, бо відовішча, якое адкрылася яго вачам, магло прымусіць задрыжаць любога зуха. Ён убачыў чалавека ва ўсім белым, які стаіць на каленях з кнігай у руцэ побач з вялікім, акутым жалезам, куфрам, на якім ляжыць вялікі сабака на ланцугу і трымае ў лапах свечкі.

Ахоплены жахам, Чараповіч захацеў уцячы незаўважаным, але сабака ўбачыў і з лютым брэхам пачаў на яго кідацца. І тут падняўся чалавек у белым. Узмахам рукі ён супакоіў сабаку і замагільным голасам спытаў у Чараповіча:

- Адкуль і чаму ты прыйшоў?

Напаўжывы ад страху, дрыжучы і ляскаючы зубамі, злодзей расказаў пра ўсё, што з ім адбылося і чаму ён быў пакараны.

- Табе пашанцавала, што сказаў мне шчырую праўду, - сказаў прывід - таму я цябе ўзнагароджу. У гэтым куфры ляжаць невычарпальныя скарбы - бяры

[3] Гл: Szukiewicz Wandalin. Niektore wierzenia, przesady i zabobony ludu naszego, legiendy i podania // Kwartalnik Litewski wydawnictwo poswiecone zabytkom przeszlosci, dziejom, krajoznawstwu i ludoznawstwu Litwy, Bialorusi i Inflant. 1910. T. 2. S. 85-102.

колькі можаш панесці.

- Мне няма куды ўзяць, - адважыўся сказаць Чараповіч.

- Хоць порткі скінь і завяжы, а бяры, калі даюць!

Сказаўшы гэта, ён сагнаў сабаку і падняў вечка куфра.

Убачыўшы, колькі там золата, Чараповіч на хвіліну аслупянеў. Але зрабіў так, як яму загадалі, і насыпаў столькі, колькі мог панесці. Пасля чаго прывід сказаў:

- Ідзі і не крадзі больш.

Потым загадаў сабаку вывесці яго з падзямелля.

Пасля доўгай хады яны прыйшлі да вялізнага каменя, які ад удару сабачай лапы адсунуўся і дазволіў Чараповічу выйсці на свет Божы. Як толькі ён выйшаў, валун зноў заваліў праход. Былы злодзей на адлегласці за 1,5 кіламетры ад вострава ўбачыў кляштар бернардынаў (сёння турма). Падзякаваўшы Богу за сваё цудоўнае выратаванне, ён вярнуўся дадому. Частку з атрыманага скарбу аддаў касцёлу, а з рэшты пабудаваў дом, стаў заможным і пачцівым чалавекам.

### *Заснуўшы ў Ковенскім замку*

Звычайна кожная руіна ў Літве, ахрышчаная ў народзе "замкам каралевы Боны", мае свае легенды пра скарбы, якія, ці сцерагуць зачараваныя прынцэсы, ці скарбы знаходзяцца пад аховай чараў, якія можна пераадолець толькі пры пэўных, цяжкавыканальных, умовах. Але скарбы адчыняюць смельчаку цуды, якіх ніколі не бачыла яго вока і не чула вуха.

Адну з такіх легенд падаю ніжэй. Яна цікавая тым, што ў ёй, як і ў карпацкай легендзе, мы сустракаем рыцараў, усыпленных сілай заклёнаў, якія чакаюць толькі слова, каб паўстаць і выратаваць сваю радзіму.

Пры вусці ракі Віліі ў Коўні захаваліся рэштікі старога замка, дзе, паводле легенды, у акружэнні шматлікага двара і харугваў адборнага войска, некалі жыла каралева Бона. Хаця гэта было так даўно, што нават бацькі і дзяды самых старых людзей не памяталі тых вялікіх часоў, аднак дакладна вядома, што каралева Бона не памерла да нашых часоў, але спіць у падзямеллях замка, якія цягнуцца недзе ў бок Вільні, яна спіць зачараваная заклёнам трывожным сном, сярод сваіх багаццяў, слуг і рыцараў. І чакае зручнага моманту, каб выйсці з падзямелля на чале сваіх войскаў, разбіць ворагаў і адрадзіць дзяржаву. Такі момант здараецца кожныя сем гадоў, калі каралева Бона прыходзіць у сне да каго-небудзь з жыхароў Коўні і расказвае яму, што трэба зрабіць, каб зняць моц закляцця. Выконваючы яе інструкцыі, перш за ўсё патрэбна ачысціць сваю душу ад грахоў праз споведзь і пакаянне. Потым у пэўную гадзіну ночы, трэба пайсці ў замак і капаць там у вызначаным месцы, покуль не з'явіцца вуголле. Пад ім, глыбей, будуць жалезныя, а яшчэ глыбей - медныя дзверы, адчыніўшы якія, трапіш у вялізную залу, дзе на шыкоўным троне з золата і каштоўных камянёў, сядзіць каралева Бона, акружаная заснулымі прыдворнымі і рыцарамі, побач з ёй стаіць вялізны куфар, напоўнены незлічонымі багаццямі, а на куфры ляжыць леў. Аднак не трэба баяцца гэтага льва, а смела ісці да куфра, які адчыніцца сам, і тады можна будзе ўзяць усё дабро, якога толькі душа жадае. Адначасова з гэтым усе абудзяцца і пойдуць выконваць сваю вялікую справу.

Як бачым, умовы не занадта складаныя і, каб іх паспяхова выканаць, вам спатрэбіцца толькі крыху смеласці. Але ў гэту справу абавязкова ўмяшаецца паліцыя, якая пра ўсё ведае і сочыць, каб ніхто не капаў у замку. Нягледзячы на гэта, аднаму зуху ўдалося ўцячы ад паліцыі, ён пачаў капаць, дабраўся да вуголля і нават да жалезных дзвярэй. Аднак працы аднаго чалавека мала, а летняя ноч занадта кароткая, і таму пры дзённым святле падкоп быў знойдзены, і ўсё закончылася арыштам смельчака і судовай справай. Потым яшчэ шмат хто з гараджан сніў Бону, але ўсе яны баяліся ўладаў.

Бона і да гэтага часу дарэмна чакае вызвалення ад закляцця.

***Алесь Мацулевіч***

### **Паданне аб пакінутай варце**

Што шэпчаш, вецер з глыбіні вякоў,
што крыламі ўздымаў плашчы з крыжамі?..
На замак рушыць процьма крыжакоў.
У замку - войска, князь ды гараджане.

Спужаўся князь - і з войскам уначы
паспешна ўцёк праз патайную брамку.
Пакінуў перад тым, як уцячы,
ён жменьку вартавых на сценах замка.

На гібель пэўную пакінуў князь
няшчасных, крыжакам на разарванне:
нічога не каштуе жменьку зняць
у чырванню афарбаваным ранні.

А раніцай да брамкі вораг лез,
ад радасці ў шчыты ўдараў мячамі -
ды вартавых сустрэў мячоў тых лес,
што кроў сваю з варожаю змяшалі.

У тым баі ўся варта палягла,
ды ў замак вораг так і не прабраўся…
Паданне ходзіць: прывід ваяра
на замка сценах з тых часоў застаўся.

Калі ізноў ля замка звон мячоў,
цень да байніц ляціць па галярэі -
падставіць бесцялеснае плячо
таму, хто ў бітве ворага агрэе.

Спяшаюцца сваім дапамагчы
загінуўшых вартаўнікоў фігуры…
Што шэпчаш, вецер, і аб чым маўчыш,
пануры замак - вартаўнік пануры?..

*Кніга "Леў і ключы", 2015 г.*

*Леанід Лаўрэш*

# Маёнтак Хацяновічы

**Да мяне патрапіў інвентар маёнтка Хацяновічы 1763 г., што на Лідчыне. Мне ўдалося прааналізаваць гэты цікавы дакумент і напісаць артыкул пра не самае вядомае месца на Лідчыне.**

У 1678 г. *"велебный его милость отецъ Клеменсъ на Ольдове* (Голдаве - *Л. Л.*) *и Лебеде Тризна - законникъ закону светого в Базылего великого"* пад залог фальварка Хацяновічы з вёскамі Казламі, Ходараўцамі і Серкамі і *"асабліва са ставам на рацэ Лебядзе, з млынам і яго вывалкамі"* пазычыў 26 000 злотых у Віленскага Свята-Духава брацтва[1].

З падымнага рэестра Лідскага павета 1680 г. бачна, што маёнтак Хацяновічы (36 дымоў) належыць Станіславу Невяроўскаму (палкоўніку літоўскіх войскаў, старасце Будавецкаму) і яго жонцы Марыі з Трызнаў (дачцы Адама Трызны), а суседняй Лебядой (1 дым) валодае Уладзіслаў Ланеўскі (ці Уладзіслаў Воўк-Ланеўскі)[2].

У 1728 г. Воўк-Ланеўскі меў у Хацяновічах 18 дымоў[3].

З інвентара 1763 г.[4] даведваемся, што гэты маёнтак належаў Марыі Беаце з Завішаў Ланеўскай, вялікай лоўчыне ВКЛ, жонцы ў той час ужо нябожчыка, ЯВ мосці Пана Ігнацыя Воўка-Ланеўскага, вялікага лоўчага ВКЛ[5], старасты Неманойцкага[6], палкоўніка гусарскага.

У Вопісах парафій Лідскага дэканата ў 1784 г. рыма-каталікі Хацяновічаў з'яўляліся парафіянамі Няцецкай парафіі, двор Хацяновічы належаў Валовічам, за мілю ад яго меўся вялікі стаў на рацэ Лебядзе[7].

У 1829 г. двор і карчма Хацяновічы знаходзяцца ў межах Голдаўскай грэка-каталіцкай парафіі[8].

Што мы ведаем пра Ігнацыя Воўк-Ланеўскага?

Ігнацы Воўк-Ланеўскі герба Корчак памёр 24 красавіка 1761 г.[9] Ён быў: слонімскім стражнікам з 1720 г., слонімскім харунжым з 1741 г., пісарам вялікім літоўскім з 1744 г., лоўчым вялікім літоўскім з 1746 г., маршалкам Галоўнага трыбунала ВКЛ з 1753 г., паручнікам гусарскай харугвы канцлера ВКЛ Чартарыйскага ў 1760 г. Таксама ён абіраўся паслом ад Інфлянцкага ваяводства на сойм 1746 г. і на сойм 1748 г. ад Слонімскага павета[10].

Ігнацыя Воўк-Ланеўскага ў сваіх цікавых і карысных мемуарах неаднаразова ўзгадвае віленскі ваявода і вялікі гетман ВКЛ Міхал Казімір Радзівіл (мянушка "Рыбанька")[11]: *"29 ліпеня 1738 г. Прыйшла ведамасць, што ў Навагрудку абралі패асламі Вольскага, скарбніка, і Рэйтана, стражніка, Навагрadскіх; са Слоніма сталі: Слізень, падканюшы В. К. Літ., і Ланеўскі, стражнік Слонімскі …*

…

*22 верасня 1744 г. Прабацыя цэлага войска была, як будзе перад панам, шыхт быў такі: ...* (ідзе пералік харугваў - *Л.Л.*) *… харугва кн. Чартарыскага - паручнік Ланеўскі, харунжы Шорць....*

…

*4 траўня 1745 г. (У Вільні на Трыбунале.) Па набажэнстве саленным пайшлі мы да Ізбы, там, па маім прывітаньні, распачалі і пачалі прысягаць дэпутаты: ... са Слоніма Ланеўскі, пісар В.К.Л., і Лашоўскі....*

…

---

[1] АВАК. Т. XI. С. 222.

[2] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 226-227.

[3] Лаўрэш Леанід. Падымны рэестр шляхты Лідскага павета, 1728 г. // Лідскі Летапісец. 2022. № 3-4 (99-199). С. 43-60.

[4] AGAD. ASK (Archiwum Skarbu Koronnego.). F. 103. Dz. XII. Teka 977. Cz. 3. Inwentarz Maietnosci Chocianowicz w Powiecie Lidzkim lezacey. 1763.

[5] Лоўчы вялікі літоўскі (па-лацінску: venator, praefectus venationum) - ураднік у Вялікім Княстве Літоўскім. Сачыў за лясамі, у якіх паляваў вялікі князь, распараджаўся паляваннем. Ігнацы Воўк-Ланеўскі - вялікі лоўчы з 26 лістапада 1746 г. да смерці ў 1761 г.

[6] У Троцкім павеце. Цэнтр мястэчка ў Летуве Неманойці, Неманайцы (лет. Nemunaitis), на правым беразе Нёмана.

[7] Вопісы парафій Лідскага дэканата ў 1784 г. // Лідскі летапісец. 2017. № 3 (79). С. 19-20.

[8] ДГАЛ Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Арк. 11-21 адв.

[9] AGAD. ASK . F.103. Dz.XII. Teka 977. Cz. 3. Арк. 119.

[10] Urzadnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Ksiestwa Litewskiego XIV-XVIII wieku. Spisy. Kornik 1994, S. 249.; Zlota ksiega szlachty polskiej, r. XVIII, Poznan 1896, S. 134.

[11] Гл: Дыярыюш Князя Міхала Казіміра Радзівіла, Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага В.К.Літ. // Спадчына. 1994. № 4. С. 18-47; 1994. № 5. С. 37-57; 1995. № 1. С. 52-65; 1995. № 2. С. 47-76; 1995. № 4. С. 35-60; 1995. №5. С. 135-161; 1995. № 6. С. 170-199; 1996. № 1. С. 195-223; 1996. № 2. С. 205-233; 1996. № 4. С. 219-250.

*25 лістапада 1746 г. Вечарам быў у графа Бруля, каторы аддаў да пячаткі падпісаныя прывілеі на ... Ям п. Ігнацыю Ланеўскаму, пісару в. В.К.Л., пісарства в. В.К.Л.*

…

*18 траўня 1747 г. ... каторым усім таксама facundo sermone дзякаваў і на хлеб жалобны запрашаў Ям п. Ланеўскі, лоўчы В.К.Л. ...*

…

*1 красавіка 1748 г. Сталі мы ў Нясвіжы, застаў княгіню Яе м-ць Барбару з Завішаў Ружыцаў гербу Лебедзь Радзівілаву, ваяводаваю Наваградскую, удаву; Іхмцяў Ігнаца Ланеўскага, лоўчага В.К.Л., Альбрыхта, князя Радзівіла, старасту Рэчыцкага, і іншых сіла людзей...*

…

*29 студзеня 1751 г. На абед стаў у Нясвіжы, застаў Іхмц п. п. Ігнацыя і Марыю з Завішаў Ланеўскіх, лоўчых В.К.Л....*

…

*7 траўня 1753 г. Ранкам з'ехаліся мы да Ям ксяндза біскупа Віленскага, адтуль да катэдры, там, як выслухалі набажэнства, рушыліся мы на замак; па распачацці праз мяне Трыбуналу Іхмці п.п. дэпутаты прыступілі да прысягі .... з Коўна - Іхмці п.п. Ігнацы Ланеўскі, лоўчы В.К.Л., і Міхал Горскі ... ... а я еў абед у сябе, падчас каторага паведамілі, што Ям п. Ігнацага Воўка Ланеўскага, лоўчага В.К.Л., абралі маршалкам Трыбунальскім ...".*

Як бачым, Ігнацы Воўк-Ланеўскі бясспрэчна быў часткай дзяржаўнай эліты ВКЛ. Гіпаліт Корвін-Мілеўскі, маці якога паходзіла з Воўк-Ланеўскіх (але герба Дзве трубы), пісаў, што Воўк-Ланеўскія належалі да верхняга слоя шляхты[12], што складаўся са100 ці максімум 200 сямей, якія часам былі звязаны сямейнымі сувязямі з адным з магнацкіх родаў, раней займалі нейкія сенатарскія пасады і зваліся "кармазынамі" [13].

Інвентар 1763 г. быў складзены як вячысты тастамент для продажу маёнтка. Сведкамі (выканаўцамі ці экзекутарамі) пры складанні дакумента выступілі: маршалак Слонімскага павета Казімір Юзаф Валовіч і слонімскі стольнік і судовы падстараста Антоні Кабылінскі[14]. Верагодна, слонімскі маршалак Валовіч быў зацікаўленай у гэтай справе асобай, бо ў 1785 г. Хацяновічы ўжо належалі якраз ЯВп Валовічу.

Казімір Юзаф Валовіч (1712 - 28.08.1790) паходзіў са шляхецкага роду Валовічаў герба Багорыя. Нарадзіўся у 1712 г. у сям'і Юзафа Ігнацыя Валовіча і Ружы з Шукштаў. У 1732 г. - ён дэпутат і суддзя Галоўнага Трыбунала ВКЛ ад Старадубаўскага павета. У 1736 г. - цівун вешвянскі; падскарбі навагрaдскі, дэпутат і суддзя Галоўнага Трыбунала ВКЛ ад Слонімскага павета, слонімскі судовы падстараста ў 1744-1748 г., маршалак Слонімскага павета з 22 чэрвеня 1748 па 1779 г. З 1736 г. - у шлюбе з Людвікай з Шэметаў, меў сына Міхала Вінцэнта Каспара (1742 г.н.)[15].

Аднак вернемся да інвентара маёнтка Хацяновічы ад 1763 г., які дазваляе скласці ўяўленне пра маёнтак сярэдняга памеру ў сярэдзіне XIX ст. на Лідчыне.

Інвентар маёнтка Хацяновічы пачынаецца з апісання толькі што пабудаванай царквы, магчыма - Дзікушскай, калятарамі якой Воўк-Ланеўскія, здаецца, не былі: *"Каля Ходараўскай дарогі стаіць новая крытая гонтай царква, пасярэдзіне даху купал, на купале жалезны крыж. Пасярэдзіне гэтага купала звон. На ўваходзе ў бабінец царквы падвойныя філёнчатыя дзверы, цвікамі жалезнымі на ружачках (разетках) збітыя, кожная са створак на двух жалезных завесах, засаўкі ўнізе і ўгары дзвярэй на спружынах, на дзвярах унутраны замок з ключом. Уваход у царкву з бабінца праз адзінарныя дзверы на жалезных завесах з клямкай на спружынах. У гэтай царкве шэсць не пабітых вокнаў, на вялікім алтары шэсць драўляных падсвечнікаў такарнай работы, два малыя пафарбаваныя, белыя, новых чатыры. Столь ва ўсёй царкве з дошкі. Агароджа роўная з бабінцам"* [16]. Як бачым ў 1763 г. Дзікушская царква называецца "новай" і знаходзіцца ў добрым стане. Тым не менш, каля 1770 г. замест яе будзе пабудавана новая, драўляная і большая па памерах царква.

22 чэрвеня 1762 г. падскарбіна зямель прускіх Разалія Чапская падпісала кантракт на выраб срэбных шатаў і кароны для абраза Найсвяцейшай панны згодна з абрысам на каперштыху (гравюрай на медзі - *Л. Л.*) для Дзікушскай царквы з віленскім злотнікам Міхалам Злотнікам[17].

Каля 1770 г. была пабудавана новая, драўляная Дзікушская царква. Пры будаўніцтве царквы цесляроў узначальваў віленскі майстар цяслярскага мастацтва Рыгор Мяшакін, работы па вырабе і афарбоўцы крыжоў выканаў сталяр Андрэй Павэлак і мастак Антон Шпакоўскі. Шкло для вокнаў зрабіў майстар Саламон (яўрэі

[12] Korwin-Milewski Hipolit. Siedemdziesiat lat wspomnien (1855-1925). Poznan, 1930. S. 5.

[13] Кармазынавы колер - ярка-чырвоны колер, кармазын - каштоўная чырвовая тканіна, адсюль: кармазын - заможны шляхціц. Так называлася прывілеяванае саслоўе шляхты - за кармазынавы (чырвоны з ухілам у малінавы альбо цёмна-вішнёвы) колер адзення. Цікава, што, калі шляхецтва якой-небудзь асобы выклікала сумнеў, гаварылі: "Няпэўны кармазын". - *Л. Л.*

[14] AGAD. ASK. F. 103. Dz. XII. Teka 977. Cz. 3. Арк. 119.

[15] Валовічы ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага XV-XVIII стст. складальнік А. М. Янушкевіч ; навуковы рэдактар А. І. Шаланда. Мінск, 2014. С. 199.

[16] AGAD. ASK . F.103. Dz.XII. Teka 977. Cz.3. Арк. 119-119 адв.

[17] APK. AMCh. Syg. 334. K. 2.

[18] Muzeum Narodowe w Krakowe. Biblioteka Czartoryjskich. Sygn. Rkp.857/1. Арк. 164-189.

яшчэ не мелі прозвішчаў), а майстар сніцарскага мастацтва Войцех Вішнеўскі вырабіў фігуру Езуса на Крыжы для вялікага алтара царквы.

Цікавым з'яўляецца тытулаванне майстроў: майстар цяслярскага мастацтва Рыгор Мяшакін названы "ўчцівым". Вядома, што ў ВКЛ, гэтак называлі паважаных месцічаў, якія займалі высокія пасады ў гарадскіх самакіраванні ці былі кіраўнікамі рамесных цэхаў. Сталяр Андрэй Павэлак і майстар сніцарскага мастацтва Войцах Вішнеўскі - "паны", верагодна, яны - шляхціцы. Мастак Антон Шпакоўскі і яўрэй Саламон запісаны без тытулаў[18].

З інвентара Хацяновічаў бачна, што гэта царква, вельмі блізка з маёнткам Хацяновічы - царкоўная тэрыторыя практычна межавала з дваром маёнтка. Магчыма, гэта драўляная царква згарэла, а можа будаўніцтва новай царквы каля 1770 г. было выклікана, неабходнасцю аднесці гэтую пабудову на большую адлегласць ад маёнтка.

Дарога паміж царквой і маёнткам у інвентары называецца вуліцай. Пачынаючы ад царквы і царкоўных могілак і саду, вакол вуліцы, *"якая ідзе ад двара да царкоўнай брамы, густа забіты ў зямлю калы, паміж якімі, унізе і ўгары, зроблена агароджа з пераплеценага лазовага хросту. Такая ж самая агароджа лазовым плотам зроблена ад кута саду да поля. У гэтай агароджы ёсць брама з пілаваных дошак на могілкі, гэта падвойная брама на драўляных бегунках"* [19].

Паміж дваром і царквой меўся сад: *"За царквой да пабудоў двара цягнецца сад, які пачынаецца ад кута могілак, ён агароджаны ад вуліцы да брамы каля... У гэтым садзе яблыні, грушы, венгерскія слівы, вішні, парэчкі, агрэст. У гэты сад з падворка (двара маёнтка) маецца брамка з дошак на драўляных бегунках"* [20].

На ўездзе ў двор з боку царквы стаяла старая брама з дошкі на драўляных бегунках ў раме, брамная рама *"ўгары з'ядноўваецца, і тут на версе маецца драўляная каралева"* (скульптура Маці Божай?).

Паглядзім на больш старажытныя часы Дзікушскай царквы.

Ад Скуміных-Тышкевічаў у прытворы царквы яшчэ ў XIX ст., у раме, знаходзілася перанесеная са старой драўлянай царквы, пабітая мармуровая пліта памерам 3х1,5 аршыны (1 аршын = 0,711 м) і таўшчынёй у 0,5 аршына. На гэтай пліце меўся старaславянскі надпіс. Тэадор Нарбут яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. пісаў: *"У Лідскім павеце, у вёсцы Дзікушкі, у былой драўлянай царкве, побач з грэка-ўніяцкай плябаніяй, калі я там быў, ляжала на падлозе над магілай знатнага роду, літая з жалеза пліта, $1\frac{1}{2}$ у шырыню і $2\,\frac{1}{2}$ літоўскага локця у даўжыню, з надпісам рускімі літарамі, царкоўным пісьмом* (па-старабеларуску - *Л. Л.*), *які ледзь чытаецца ад зношанасці і іржы, бо кветкі вакол надпісу як і самі літары выпуклыя, цяпер перададзена праваслаўнай царкве і прымацавана да сцяны. Адкрыў яе і прачытаў надпіс, ганаровы радца, с. п. Пётр Лаўроў, член-карэспандэнт статыстычнага камітэта Віленскай губерні"* [22]. Нарбут дае тэкст, спісаны з пліты, кірыліцай і лацінкай.

Гэты ж тэст бліжэй да канца XIX ст. занатаваў мясцовы настаўнік[23]. На жаль, настаўнік зрабіў некалькі памылак. Насамрэч, замест *"потомства своего душ болше 838"* напісана *"потомства своего душъ болше осмі деті"*. Замест *"всем людем в том панстве въ 20 летъ знаемая"* напісана *"всем людем в том панстве В(еліком) К(нястве) Лет(овском) знаемая"* і г.д.

Навукова дакладна прачытаў надпіс на гэтай пліце беларускі гісторык Дзяніс Лісейчыкаў. Ён зрабіў гэта з літаграфіі якая была надрукавана ў кнізе Яўстаха Тышкевіча (дарэчы, нават і сам Тышкевіч нарабіў памылак пры прачытанні гэтага тэксту), на мармуровай пліце было напісана:

[19] AGAD. ASK. F. 103. Dz. XII. Teka 977. Cz. 3. Арк. 119 адв.

[20] Там жа.

[21] Там жа.

[22] Narbutt T. Pomniejsze pisma historyczne szczegolnie do historyi Litwy odnoszace sie (z dziesiacioma rycinami). Wilno, 1856. S. 254-255.

[23] Настаўнік перапісаў з памылкамі: "Туть лежить в томъ гробе положена Марина Мартиновна М…сковича Скуминовня Тышкевичая невеста побожностью и учтивостью вшелякую часу житія своего на свете всем людем в том панстве въ 20 летъ знаемая цнот вшелякихъ христіанскихъ взоръ и образъ видомыхъ дней добрыхъ благославенства божего пана пошедши за мужъ зъ дому родичевъ своих у году 14 лет отъ нароженія своего жила у малженском стани … 42 годы по смерти мужа своего удовою годовъ 32 учтиво своего провиденя до конаня своего о другомъ малженствіе не мыслечи оставивши … всего потомства своего душъ болше 838 … въ старости … не только матка маткомъ але бабкомъ и прабабкамъ маткою была дождавши пращурят т.е. четвертага поколеня своего оглядавши в року 88 отъ нароженія своего душу свою въ руки Творцы Своему отдала и до фалы его святое зъ сего света представилася у выменю отчинномъ малжонка … на которомъ отъ него оставлена была в Дикушкахъ Року божага нар. 1598 мца іюля 28 дня у воророкъ годину 4 и въ томъ же року 98 мца сентября 3 дня похована при церкве преображенія Христова отъ своихъ старшего Дмитра Скумина старосты менскаго маршалка его к. мсти у в. кн. лит. писаря замковъ волостеи украины а молодшаго Теодора Скумина воеводы Новгородскага старосты Городенскага, Олитскаго, Юрборскага и Нововольскаго". Гл: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 101.

*«түт лежит в том гробѣ положона мари|на мартиновна ме(леш)ковича скүміноваѧ тишкеви(чо)ваѧ. | невѣста побожностю і үчтивостю вшелѧкою час ү житѧ сво|его навѣтъ всѣм людем в том панствѣ в(еликом) к(нястве) лѣт(овском) знаемаѧ, цнот вшел□|ких хрести□нских взор ї ѡбраз видомыи днеи добрых благословенства божѣго | полна. пошедши замүж з дом ү родичов своих ү году ді (14) ѡт нарожения своего, жи|ла ү малженском ст(ане ...) мв (42) годы, по смеръти мүжа своего үдовою | годов л҃в҃ (32) үчтіво (...) с(в)оего провадения до сконания своего ѡ дрү|гом малженствѣ не мы(с)лечи, ѡставивши п(особ)ѣ всего потомства своего дүш | болшѣ ѡсмі деті, в старости (...) не толко матка матком, але | бабкам ї прабабкам маткою бү(ла, до)ждавши пращүрат, то ест чет|вертого поколения своего ѡгледавъши, в рокү п҃и҃ (88) ѡт нарожения своего | дүш ү свою в рүкі творцы своемү ѡтдала ї до валы 4 его светое з сего св|ѣта преставіласѧ ү выменю ѡтчином малжонка (своего?), на кото|ром ѡт него ѡставлена была, в Дикүшкахъ ро(кү ...) | бож(ого) нарож(енѧ) ҂а҃ф҃ч҃и҃ (1598) м(еся)ца їюлѧ к҃и҃ (28) днѧ ү воторок годины д҃ (4) і в том | же рокү ч҃и҃ (98) м(еся)ца сентѧбрѧ г҃ (3) днѧ похована прі ц(е)р(к)вѣ преѡбраженѧ | х(ристо)ва ѡт с(ы) нов своих, старшого Дмитра скүміна, старосты мѣ(н)ского, мар|шалка его к(оролевскои) м(и)л(ос)ти, ү вели(ким) к(ня)ст(ве) лѣ(товском) пісара замков властеи Үкраіны, | а молодшого теѡдора скүміна, воеводы новгородского, старо|сты городенского, Ѡлитского, юрборского ї н|ововолского»*[24].

У цэнтры пліты, вырабленай з чорнага мармуру, мелася выява чэрапа і перакрыжаваных касцей, па кутах пліты выявы гербаў "Корчак" і "Корсак". Надмагілле багата аздобленае раслінным арнаментам і ў цэлым сённяшні дзень фрагмент названага надмагілля захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры[25]. Менавіта пра гэтае надмагіле пісаў Яўстах Тышкевіч у кнізе "Надмагіллі сям'і Тышкевічаў"[26].

Цікава, што Тэадор Нарбут пісаў, што гэта пліта *"літая з жалеза"* (верагодна з чыгуну). Можа мармуровая пліта надмагілля - гэта копія першай пліты?

Скуміны-Тышкевічы - старажытны шляхецкі род (гербу Ляліва), прозвішча паходзіць ад трэцяга сына Каленіка Мішковіча Цішкі (Цімафея), які жыў у першай палове XV ст. Унук другога сына Цішкі - Льва - Ян Тышкевіч, стараста Чарнобыльскі, меў сем дачок і двух сыноў. Яго сын Зміцер Скумін-Тышкевіч (маршалак ВКЛ, менскі стараста) быў бацькам чатырох сыноў. Разам са сваім другім сынам Тэадорам (Фёдарам) Скумінымі-Тышкевічам ён фундаваў мармуровую дошку ў Дзікушскай царкве.

Тэадор Скумін-Тышкевіч быў высокаадукаваным чалавекам, вучобу пачаў у Базэлі, потым вучыўся ў Цюбінгене (1560 г.) і заканчваў адукацыю ў Ляйпцыгу (1563 г.), у Базыльскім універсітэце ён запісаны як "Fridericus Skumin Lithuanus"[27].

У 1568 і 1577 гг. Тэадор Скумін-Тышкевіч быў у складзе дыпламатычнай місіі ў Маскву. Браў удзел у выправах караля і вялікага князя Стэфана Баторыя і вызваленні Полацка ад войскаў Івана Жахлівага. У 1577 г. быў паслом караля Стэфана Баторыя ў Маскве. Пры двары Тышкевіча нейкі час жыў пісьменнік, перакладчык і каментатар твораў антычных аўтараў Беняш Будны - выпускнік Кёнігсбергскага пратэстанцкага ўніверсітэта[28].

У 1581 г. Тэадор Скумін-Тышкевіч стаў старастам браслаўскім. У 1576 г. атрымаў урад пісара і падскарбія дворнага, у 1586 г. - урад падскарбія земскага. Існуюць звесткі, што ў гэты перыяд ён пачаў біць манету з гербам

---

[24] Лісейчыкаў Дзяніс. Надмагільныя камяні з "рускімі" надпісамі XVI-XVII стст. каля в.Малькавічы Ганцавіцкага раёна // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт.; вып. 13. Мінск, 2015. С. 102-104.

[25] Там жа. С. 104.

[26] Groby rodziny Tyszkiewiczow. Opisal Eustachy Tyszkiewicz, b. Prezes Komissyi Archeologicznej i kurator Muzeum starozytnosci w Wilnie, czlonek honorowy cesarskiej Akademii Nauk w Petersburgu, Krolewskiej Akademii Historyi i Starozytnosci w Sztokholmie, Instytutu Archeologicznego w Londynie, Cesarskiej Publicznej biblioteki w Petersburgu, Serbskiej Maticy w Budystynie, towarzystw naukowych: w Moskwie, Kopenhadze, Odessie, Rydze, Moguncyi, Krakowie, Poznaniu, Mitawie, etc. Warszawa, 1873. S. 14a.

[27] Zoladz-Strzelczyk Dorota. Peregrinatio academica. Studia mlodzezy polskiej z Korony i Litwy na akademijach i uniwersytetach niemieckich w XVI i pierwszej polowie XVII wieku". Poznan, 1996. S. 59; 231.

[28] Энцыклапедычны даведнік. Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Мінск, 1995. С. 186-188

уласнага роду. У 1590 г. стаў ваяводам наваградскім. У 1599 г. упамінаецца ў Літоўскай Метрыцы як староста гарадзенскі. Быў сенатарам Вялікага Княства Літоўскага. Браў удзел у Наваградскім генеральным з'ездзе 1603 г., які забараніў польскім войскам размяшчацца на пастоі ў дзяржаўных і шляхецкіх маёнтках ВКЛ. Узімку 1608 г. далучыўся да войска Дзмітрыя-Самазванца II і даў яму 400 коней на чале з ротмістрам Тупальскім. Пазней у той выправе прымаў удзел сын Тэадора - Ян Скумін-Тышкевіч: *"У 1610 г., пасля Новага года, у студзені адправіў ЯМ кароль з-пад Смаленска паслоў да царскага войска, пад Сталіцу: ... ям. п. Скуміна, браслаўскага старосту, ..."*, у іншым месцы: *"харугва п. Скуміна, браслаўскага старосты - 100 вершнікаў"* і г. д. [29].

Вядома, што першапачаткова Тэадор Скумін-Тышкевіч выступаў супраць аб'яднання цэркваў. Але потым стаў прыхільнікам уніі[30]. Мітрапаліт Макарый у сваёй "Гісторыі Рускай царквы" пісаў: *"…і наваградскі ваявода Скумін-Тышкевіч, які настолькі раней быў супраць уніі, зараз прыняў яе і зрабіўся яе заступнікам"* [31].

Руплівы каталік і настойлівы прыхільнік уніі, кароль і вялікі князь Жыгімонт Ваза ў 1609 г. даручыў Скуміну-Тышкевічу як аднаму са свецкіх патронаў уніі, супакоіць праваслаўных міран і святарства.

Цікава, што Скуміна-Тышкевіча навярнуў у унію ў Вільні сам Язафат Кунцэвіч[32] і яго сын, Ян Скумін-Тышкевіч, пабудаваў капліцу і сямейную пахавальню пры віленскай уніяцкай Св.-Троіцкай царкве[33]. Вядомы мемуарыст Самуіл Маскевіч пісаў: *"Перад Вялікаднем памёр ям. п. Тэадор Скумін, наш наваградскі ваявода. Пахаванне адбывалася 24 ліпеня* [1618 г. - *Л. Л.] у Вільні, у царкве св. Тройцы, у новай капліцы, збудаванай яго сынам, панам браслаўскім старостам"*[34]. У гэтай жа капліцы, якую часта называлі капліцай Тышкевічаў, таксама спачылі яго жонка Кацярына і сын Януш з жонкай Барбарай з Нарушэвічаў.

Апошнім з роду Скумінаў-Тышкевічаў быў Людвік Скумін-Тышкевіч († 1808), польны гетман ВКЛ, жанаты з сястрой апошняга караля Рэчы Паспалітай Канстанцыяй Панятоўскай. Людвік валодаў маёнткам Гародна на Лідчыне[35]. З яго смерцю закончылася галіна Скумінаў-Тышкевічаў.

Вернемся да інвентара. Пасля царквы ў інвентары даецца апісанне двара маёнтка.

Калі ісці ад уваходнай брамы (ад царквы) у двор, па леваму баку стаяў крыты дранкай бровар. Дзверы ў бровар зроблены з дошак на драўляных бегунках з жалезнымі прабоямі, каля бровара мелася студня з калаўротам для падняцця вады, ад студні ў сярэдзіну бровара праз сцяну ішоў жолаб, па якім у бровар падавалася вада. Галоўным начыннем бровара быў *"невялікі, стары кацёл з трыма трубамі і трубніцай"*, у бровары меліся 2 чопы-коркі, карыта для зліву зваранага піва, зліў-жолаб для катла і прылады для вытворчасці гарэлкі[36].

Далей за броварам стаяла крытая дранкай кухня з дзвярыма з дошак на драўляных бегунках. Начыннемэбля кухні было зроблена з круглага дрэва, стол на сохах, убітых ў зямлю, падлога земляная.

Наступным будынкам у двары стаяў *"новы, вялікі, крыты гонтай"* жылы дом. Як належала, увайсці ў дом трэба было праз сені. З сеняў, улева праз падвойныя дзверы на французскіх завесах (на адной палове дзвярэй угары і ўнізе засаўка добрай слясарнай работы, на другой палове клямка на спружыне і ручка для адкрыцця) можна было зайсці ў вялікі пакой з 3 вокнамі, кожнае з якіх складалася з 4 шыбаў, у якіх стаяла ляйпцыгскае шкло. Кожнае акно мела ўнізе фортку на жалезных завесах з зашчапкамі і жалезнымі прабоямі, угары шыбы былі забіты жалезнымі цвікамі. З падворка на гэтых вокнах меліся падвойныя акяніцы на жалезных завесах з жалезнымі зашчапкамі і прабоямі. З пакоя наскрозь праз рамы акна праходзілі шрубы для замыкання акяніц.

З вялікага пакоя ў бакавы пакой вялі падвойныя дзверы на французскіх завесах, у гэтым сумежным пакоі меліся 2 акны ляйпцыгскага шкла такой жа канструкцыі, як і ў папярэднім пакоі. У гэтым меншым пакоі стаялі мураваны комін і печ з зялёнай кафлі на два пакоі праз агульную сцяну.

З меншага пакоя *"праз дзверы на простым замку"* меўся ўваход у гардэробны пакой, *"у гардэробе падвойнае акно лейпцыгскага шкла"* і з яго ўваход у аптэчны пакой праз дзверы на завесах. *"З аптэчкі выхад на падворак праз дзверы на простых жалезных завесах з зашчапкай на якой кручок і жалезныя прабоі"*. Ва ўсіх вышэй пералічаных пакоях мелася *"звычайная падлога з дошак, у гардэробе і аптэчцы падлога з бітай гліны. Столь у пакоях, гардэробе і аптэчцы з габляваных дошак"* [37].

Вяртаемся зноў у сені. З сяней у правы бок - сталовы пакой, у які вялі падвойныя дзверы на фран-

---

[29] Дыярыушы XVII стагоддзя (1594-1707 гады). Мінск, 2016. С. 38; 44; 74.

[30] Niesiecki K. Herbarz Polski. Wyd. J. N. Bobrowicz. Lipsk, 1842. T. 9. S. 17-184.

[31] Макарий. История Русской церкви. Том 5. Отдел 1. [Электронный ресурс] - Рэжым доступу: zhurnal.ru/magister/library/history/makary/mak5102.htm - Дата доступу: 07.02.2010.

[32] Erka [Уладзіслаў Талочка]. Sw. Jozafat w Wilnie // Preglad Wilenski. № 21, 16 grudnia 1923. S. 3-10.

[33] Вестник Виленского православного Св.-Духовского братства. 1914. № 11(178). С. 238.

[34] Дыярыюшы XVII стагоддзя (1594-1707 гады). С. 130.

[35] Aftanazy. R. Dzieje rezydencji T. 4. Wroclaw, 1993. S. 122-139.

[36] AGAD. ASK. F. 103. Dz. XII. Teka 977. Cz. 3. Арк. 119 адв., 122.

[37] Там жа. Арк. 120.

цузскіх завесах (на адной палове дзвярэй дзве засаўкі добрай сталярная работы, на другой клямка на спружыне). У гэтым пакоі мелася печ зялёнай кафлі з карункамі на жалезных частках печы і тры падвойных акна лейпцыгскага шкла (6 шыбаў у вокнах былі выбіты). Вокны і акяніцы мелі такую ж канструкцыю, як і ў пакоі левай паловы дома. *"У гэтым пакоі столь з габляваных дошак, падлога звычайная, таксама з габляваных дошак"* [38].

Сталовы пакой межаваў з сенямі-кухняй. У кухню вялі падвойныя дзверы з дошак на простых жалезных завесах. Тут стаяла кухонная мураваная печ з комінам, які выходзіў на дах. Кухонны комін быў галоўным у доме, да яго падыходзілі тры дымаходы з іншых пакояў. Інвентар удакладняе, што на калідоры, роўна са столлю, да галоўнага коміна па аркадзе ішлі два коміны, якія злучаліся ў адзін. Усе коміны мураваныя і атынкаваныя вапнай.

Каля гэтай кухні-сяней меўся пакой у які можна было ўвайсці праз дзверы на завесах і жалезнай клямкай на спружыне. У гэтым пакоі стаяла круглая печ з зялёнай кафлі з комінам, мелася адно падвойнае акно ляйпцыгскага шкла, падлога і столь з дошак.

За сталовым пакоям ішоў кутні пакой, у які з калідора вялі дзверы на жалезных завесах, з клямкамі на спружыне. У гэтым пакоі стаяла печ з зялёнай кафлі на жалезных кратах з комінам. У пакоі меліся два падвойных акна лейпцыгскага шкла, у гэты вокнах 12 шыбаў былі разбітыя. Каля кутняга пакоя з калідора былі дзверы на падворак (з дошкі на жалезных простых зашчапках з простай клямкай і жалезнай засаўкай). За гэтымі дзвярамі на ганку *"сходы цяслярскай работы на 5 прыступак вядуць на двор"*.

У кухні мелася падлога з сасновых габляваных дошак, а ў калідоры з бітай гліны, столь у кухні і калідоры з габляваных дошак. На паддашку гэтага будынка, мелася чатыры акны[39].

З інвентара бачна, што ў сядзібным доме ніхто не жыў - у ім няма мэблі, і некаторыя шыбы пабітыя, гэта тлумачыцца тым, што для Воўк-Ланеўскіх маёнтак Хацяновічы не быў галоўным маёнткам-рэзідэнцыяй іх сям'і.

А зараз пра некаторыя гаспадарчыя пабудовы.

*"Па сярэдзіне дзядзінца стаіць спіжарня* (амбар, зернясховішча - *Л. Л.*) *на два паверхі, крытая дранкай"*. У спіжарню можна ўвайсці праз зробленыя з дошак дзверы на жалезных завесах з унутраным жалезным замком. *"У гэтай спіжарні - 4 загарадкі з дошак для ссыпання збожжа, падлога з дошак. На другі паверх вядуць старыя драўляныя сходы … У спіжарні акно, закратаванае жалезнымі кратамі"*.

Насупраць спіжарні стаяла *"стайня, крытая саломай з падвойнай брамай з дошак на драўляных бегунках"*. Пры стайні мелася вазоўня з *"драўлянай падвойнай брамай з дошкі на драўляных бегунках"*.

Далей у сядзібе стаяла крытае саломай гумно на 12 слупоў для складзіравання збожжа і малы свіран, крыты саломай, з дзвярамі на бегунках з жалезнай зашчапкай і прабоямі. Каля гумна і свірана стаяла другая сядзібная брама (на драўляных бегунках з жалезнай антабай і жалезнымі прабоямі), праз якую можна было прасці ў сядзібны "стары" фальварак.

Увесь двор меў агароджу, якая *"цягнецца ад кута бровара міма кухні і новага жылога будынка да кута стайні. Зроблена з калоў, густа ў лінію ўбітых у зямлю. Калы ўнізе і ўгары пераплецены лазовым хростам"* [40].

На шляху ад сядзібы да фальварка *"па левым боку стаіць студня з калаўротам для пад'ёму вады ў карыта для быдла"*.

У старым фальварку меўся яшчэ адзін жылы дом, крыты саломай, з уваходнымі дзвярыма на драўляных бегунках. У ім не было ўжо ні ляйпцыгскага шкла ні французскіх завесаў. З сяней гэтага жылога дома, у правы бок меўся жылы пакой з каморай, у пакоі 4 акна і кафляная печ. З сяней ў левы бок быў уваход у вазоўню.

У фальварку стаяла пякарня *"з круглага дрэва, крытая саломай, дзверы ў сені пякарні з дошак на жалезных завесах. … у пякарні 4 малыя акны"*. Тут жа ў фальварку стаялі 4 хлявы пад адным саламяным дахам *"для球 рознага быдла"*. Ідучы ад пякарні *"вуліцай да стайні, па левым баку выкапана сажалка, ад якой пачынаецца дарога на вёскі Карпейкі, ... ідзе праз сенажаць. Сажалка выкапана для асушэння сенажаці"*.

Мелася і абора, у якой стаялі: *"Рыжая карова, карова шэрая, цёлка рыжая"* [41].

Пра гаспадарку і вёску маёнтка Хацяновічы ў 1763 г. гл. пераклад інвентару ў дадатках.

Недалёка ад маёнтка Хацяновічы, каля вёскі Баяркі, ля дарогі і зараз яшчэ стаіць цагляная стэла, якую не магчыма не заўважыць. Эдвард Хлапіцкі, у красавіку 1862 г. едучы дарогай з Наваградка ў Гародню, гэтак апісваў сваё падарожжа: *"... За Нёманам вёска і мястэчка князя Вітгенштэйна Беліца. Дарога ў тры мілі з Беліцы да Жалудка бяжыць сярод шырокіх раўнін, якія ўпрыгожваюцца гаямі і маляўнічымі вёскамі. Вялікія абшары, а пасярод іх купкі з бярозак, ліп і каліны. Часам па квяцістых лугах уюцца раўчукі, нагадваючы нам добра знаёмую Францыю і яе прыгожыя раўніны пад Саонам у Бургундыі. Тая ж дрымотнасць і пяшчотнасць пейзажу, тая ж самая неахопліваемая вокам, ва імзе вясковых дымоў і надводнай пары, знікаючая перспектыва. Толькі сялянскія хаты і сам быт сялян іншыя. Толькі згода і еднасць*

[38] AGAD. ASK. F. 103. Dz. XII. Teka 977. Cz. 3. Арк. 120..
[39] Там жа. Арк. 120 адв.
[40] Там жа. Арк. 121.
[43] Там жа. Арк. 121 адв.




***Хацяновічы на карце 1869 г.***

*паміж рознымі сацыяльнымі пластамі іншая! На дзясятай вярсце за Беліцай краявіды мяняюцца. Прыгожы пас сасновых бароў, а сярод іх высокі надмагільны абеліск з напісаным на бронзе імем харунжага Філіповіча; скрыжаванне дарог, за лесам зноў палі, вёскі і абсаджаныя ляшчынай крыжы. Далей млын (Ходараўцы), белая і прыбраная, як маладая дзяўчына цэркаўка паноў Грабоўскіх (Дзікушкі) і потым Жалудок"* [42]. Такім чынам, высокая прыгожая стэла ля дарогі - надмагілле абшарніка Філіповіча, які памёр да 1862 г., на жаль, бронзавая дошка з інфармацыяй пра пахаванага на помніку не захавалася.

З фундаментальнай кнігі выдатнага гісторыка з Вільні Чэслава Малеўскага даведваемся, што Філіповічы, гербу Ліс, у першай палове XIX стагоддзя валодалі фальваркам Вярсока (каля Эйшышак), ваколіцай Шаркіны (каля Лядска), маёнткам Камышова (у Наваградскім павеце), маёнткам Абрэмаўшчына (у Гарадзенскім павеце) і, самае галоўнае, маёнткам Хацяновічы (у 1818-1838), які стаяў зусім недалёка ад месца пахавання і дзе, відавочна, жыў сам Філіповіч[43].

У 1845-1858 гг. маёнткам Хацяновічы з вёскамі Баяры, Карпейкі і Ходараўцы валодала Урсуля Свяржынская з Жмёўскіх (629 дзесяцін, 137 мужчынскіх і 137 жаночых душ)[44].

З паловы XIX ст. маёнткам валодалі Шалевічы.

***Дадатак***

## Інвентар маёнтка Хацяновічы ў Лідскім павеце, 1863 г. [45]

Цялят - 2.
Старых авечак - 31, маладых - 12.
Старых свіней - 7, маладых - 3.
Вепрукоў старых - 17, маладых - 5, парасят - 5.
Гусі - 19.
Качкі - 19.
Куры - 32.

**Начынне бровара:**
Невялікі, стары кацёл з трыма трубамі …
Трубніца - 1.
Чопаў (коркаў) для піва і брагі - 2.
Карыта для зліва піва - 1.
Зліў для катла - 1.
Жолаб для катла - 2.
… гарэлачны - 1.

**Рознае начынне для ссыпання збожжа:**
Шанак гербавы (мера аб'ема сыпучых матэрыялаў, роўная 24 ці 48 гарнцаў - *Л. Л.*) - 1.
Шаснаццатка - 1.
Піўных бочак - 8.

[42] Chlopicki Edward. Notatki z roznoczasowych podrozy po kraju. Warszawa,1863. S. 81-82.

[43] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 71.

[44] Там жа. S. 197-198.

[45] AGAD. ASK . F.103. Dz. XII. Teka 977. Cz. 3. Inwentarz Maietnosci Chocianowicz w Powiecie Lidzkim lezacey. 1763. Арк. 122-124.

Антал (мера, чвэрць вялікай бочкі - *Л. Л.*) - 1.

**Начынне фальваркавае:**
Карэц для гародніны - 7.
Міса для выпечкі хлеба - 1.
Міска малая - 1.
Цэбраў вялікіх - 2.
Цэбраў меншых - 2.
Вёдры - 2.
Жорны - 1.
Цэп для малацьбы - 1.
Стол пякарскі
Дошак - 44.
Вулляў пчаліных ва двары - 3.
Борці з пчоламі ў бары - 6.

**У будынку:**
Сталоў якія складваюцца, на жалезных завесах - 3.
Сталоў без жалеза - 4.
Стол пафарбаваны - 1.
Вялікіх зэдляў - 2.
Новых столікаў - 12
Зэдль - 1.

**Засейваецца:**
Жыта засейваецца дваровай меры 100 шанкаў.
Пшаніцы, той жа меры, шанкаў - 5.
Ячменю, шанкаў - 20.
Аўсу, шанкаў - 50.
Грэчкі, шанкаў - 6.
Боб, шанкаў - 1.
Гарох, шанкаў - 1.
Яравое збожжа, шанкаў - 3.

**У гэтым маёнтку Хацяновічы:**

Палеткі, сенажаці, зараслі, хмызняк, дворны і сялянскі як у абрубках, гэтак і ў розных шахаўніцах, згодна з ранейшымі інвентарамі …

| Падданыя гэтага маёнтка Хацяновічы | Уласныя валы | Коні | Пчолы | Валокі | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | цяглыя | прынятыя |
| **Вёска Сяркі:** | | | | | |
| Янук Масявіч, сын Васіль (з'ехаў) | | | 10 | 4 | 4 |
| Базыль Турэчак, сын Андрэй | 2 | 1 | | 4 | 4 |
| Янук Паляк, сын Дзяніс | 1 | 1 | | 4 | 4 |
| Леан Цімкевіч, зяць Леан | 1 | | | 4 | 4 |
| Мацей Цімкевіч, сыны Паўлюк і Сцяпан | 2 | 1 | | 4 | 4 |
| Сцяпан Цімкевіч, пляменнік Міхал, жанаты сын Сцяпан | 1 | 2 | 2 | 4 | 4 |
| Язэп Цімкевіч, сын Сцяпан | 1 | | | 4 | 4 |
| Кастусь Цімкевіч, сын Міхал | 1 | 1 | | 4 | 4 |
| Арцём Паляк, пляменнік Сямён | 1 | 2 | | 4 | 4 |
| Янук Ярмантовіч, брат Амел'ян, сын Ян | 1 | | | 4 | 4 і 8 |
| Леан Масявіч, сыны Прохар і Ян | | | 4 | 4 | 4 і 8 |
| **Вёска Баяры (сучасныя Баяркі):** | | | | | |
| Ян Блоцкі на баярстве, мае сыноў Міхала і Рыгора | - | - | - | - | 1 і 8 |
| Францішак Блоцкі ці Грынкевіч, мае сына жанатага Ігната і сына Марціна, які з'ехаў | - | - | - | - | 2 і 4 і 8 |
| Мікалай Ромак, сыны Пракоп і Янук | | 1 | | 4 | 2 і 2 і 8 |
| Андрэй Камінскі, сыны Мікалай і Ян, зяць Янук Касцюк | | 2 | | 4 | 4 і 8 |
| Палуша, удава Ярмантовіча, сыны Ігнат і Мікалай, пляменнік як мужа Юзаф Ярмантовіч | 2 | 1 | | 4 | 2 і 4 |
| У гэтай вёсцы трымае Базыль Шарапа вёскі Карпекі | | | | | 4 |
| У гэтай вёсцы трымае Марцін Ярмантовіч з вёскі Карпекі | | | | | 4 |
| На двор засяваюць пустых | | | | | 3 і 3 |
| **Вёска Карпекі (сучасныя Карпейкі):** | | | | | |
| Мар'ян Ярмантовіч, сыны Мар'ян і Мікалай, брат жанаты | 1 | 1 | | 4 | 4 |
| Мікалай Ярмантовіч, жанаты сын Леон | 1 | 2 | | 4 | 4 |
| Андрэй Ярмантовіч, сыны Янук, Ігнат, (?) і Міхал, яго брат Леон зараз у старостве Неманойцкім | 1 | 1 | 4 | 4 | 4 і 8 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Марцін Шарапа, брат Базыль, сыны Даніла | 2 | 1 | 1 | 4 | 4 |
| Паўлюк Ярмантовіч, жанаты | | 1 | | 4 | 4 |
| Хвёдар Рамашкевіч, яго жанатыя родныя браты: Адзін Васіль, жанаты, мае трох сыноў Паўлюка, Міхала і Мікалая, жыве пад ЯВп Завішынай, старасцінай Старадубаўскай ў вёсцы Якушы, я кая належыць двару. Другі Цімох, жанаты, жыве ў вёсцы Рыбаловы ў ЯВп Завішы, старасты Шмелтынскага. | 1 | | | 4 | 4 |
| Рыгор Ярмантовіч, сыны, жанаты Васіль і жанаты пляменнік | 2 | 2 | 17 | 4 | 4 |
| Пётр Ярмантовіч, сыны Янук, Томаш, Самусь | 2 | 1 | | 4 | 4 |
| Пётр Бурнос, сыны: Ігнат і Костусь | 1 | | | 4 | 8 |
| Удава Кастуся Бурноса, сыны: Янук і Леан | | | | 4 | 8 |
| Міхал Спевак за пастуха ў двары. Малы брат Аўрык гадуецца ў вёсцы Сяркі у Кастуся Цімкевіча Сядзіба пустая | | | | 5 | 3 |
| Янук Спевак з малым сынам Андрэям у двары, сядзіба пустая. Таксама яго родны брат, удавец Паўлюк Спевак, з'ехаў. Жыве пад ЯВп Сяклюцкім у Салешніках | | | | 4 | 8 |
| Стрыечны унук гэтага ж Янука Спевак, стрыечнага брата Міхала Спевака сын, Хвёдар Спевак, ткач у старасты Неманойцкага, сядзіба пустая | | | | 4 | 8 |
| Янук Шарапа, сыны Максім і Томаш, гэтага Янука Шарапы малады стрыечны брат Марцін Шарапа, жыве ў вёсцы Баяры Мажэйкаўскай воласці. | 2 | 1 | | 4 | 4 |
| Юзаф Вайдэл, сыны Лаўрук і Міхал | 2 | 1 | 6 | 4 | 4 |
| Алесь Вайдэл, жанаты | | 1 | 8 | 4 | 8 |
| Янук Вайдэл, малы сын Мацей, пры стрыі, сядзіба пустая | | | | 4 | |
| Андрэя Спевака сядзіба пустая | | | | 4 | |
| Костусь Млынар | | | | 4 | |
| У арэндзе Якуб Карпека мае жанатага сына Ясюка з дзецьмі Якуб Карпека, калі ў праве … у фальварку Казляны ЯВп лоўчага Літ. Яцынічу даным, … павінен належаць маёнтку Хацяновічы | - | - | - | - | - |

Падлік сядзібных цяглых валок - 8.
Падлік прынятых (наданых) 14 і чвэрць, і восьмая*.

За вёскай Ходараўцы бор Хмялішча ў якім борці з пчоламі ….

Млын на рацэ Лябёдка, палова яго належыць двару Хацяновічы, а палова двару Бяразавец. Рамонт млына і грэблі павінны рабіць гэтыя два двары.

Павіннасць цяглых падданых … з цяглай валокі робяць на тыдзень паншчыны з чым двор прыкажа … 12 дзён, жанчыны - 8, …

Штотыднёвая стража па-чарзе і начная варта - павіннасць кожнага гаспадара - улетку ад пачатку жніва ажно да яго сканчэння … у тыдзень цэлая дружына ..

Маюць адпрацоўваць гвалты.

Чыншу з кожнай цяглай валокі па грошу шэсцьдзесят …

Дзякла: жыта - 4 шанкі, аўсу - 4 шанкі, курыных яек - 20 з прыёмнай валокі, плацяць па 10 злотых з паншчыны, да Вільні і далей падводы ходзяць два разы ў год, бліжэй - колькі будзе патрэбы. …

* Лічбы ў калонках “Валокі” трэба разумець так: 1 - цэлая валока, 2 - палова, 4 - чвэрць валокі, 8 - асьміна, 5 - пятая частка, 3 - трэць і г.д. *Заўвага рэд.*

***Віктар Кудла,***
***дроздавец***

# ДРОЗДАВА

## *Віткі жыцця родзічаў і дроздаўцаў*

*(Працяг. Пачатак у №№ 70, 71, 92, 93, 99-100, 101,102, 103, 104, 105-106..)*

**Раздзел № 11.**

**Віткі жыцця маіх родзічаў і дроздаўцаў у гады акупацыі**

*Дзяцінства годы маладыя*
*ў душы з пяшчотай берагу.*
*Падзеі, сэрцу дарагія,*
*забыць ніколі не змагу.*

Вясной 1941 года дроздаўцы жылі сваім мірным жыццём: некаторыя старыя сядзелі на завалінках, успаміналі пройдзенае жыццё, перадавалі нажыты досвед сваім дзецям і ўнукам, іншыя працавалі на палях і ў хлявах, гадавалі многа жывёлы, па завядзёнцы крадком гналі самагонку. У Лідзе за яе можна было купіць кірзавыя і хромавыя боты, чаравікі, валёнкі, галіфэ, бялізну, а ў магазінах можна было набыць гатовае адзенне і фабрычныя тканіны.

У вольны час некаторыя сяляне чыталі новую раённую газету "Уперад". Моладзь, не звяртаючы ўвагі на пасты, у асноўным весялілася па суботах, арганізоўвала вечарынкі, на якіх хлопцы і дзяўчаты танчылі, у перапынак спявалі. Хлопцы пілі самагонку, а таго, хто адмаўляўся ад ўдзелу ў п'янай кампаніі, не лічылі сябрам.

Вучні скончылі вучобу ў Ганчарскай школе, дапамагалі бацькам па гаспадарцы, у дзесяцікласнікаў толькі што прайшоў выпускны вечар. Маладыя людзі будавалі вясёлкавыя планы, якім, на вялікі жаль, не наканавана было спраўдзіцца. Гэта былі апошнія дні, калі людзі жылі пачуццямі, эмоцыямі, маглі радавацца, весяліцца.

Па чыгунцы міма нашай вёскі Дроздава пачалі рухацца бясконцыя эшалоны з салдатамі і баявой тэхнікай у бок Баранавіч. Людзі душой і сэрцам адчувалі савецкія дамовы з Германіяй. Праводзіліся вялікія армейскія тактычныя манеўры, нават сялян ваенкамат прызваў на ваенныя зборы. Усім станавілася ясна, што вайна з Германіяй, мажліва, пачнецца, нягледзячы на газетныя запэўніванні ў дружбе з гэтай краінай.

**Каханоўская Ядвіга Міхайлаўна**, 08.12.1935 г.н., (наша суседка):

*“На світанку 22 чэрвеня прачнуліся мы ад выбухаў і невядомага гулу. У вокнах дрыжалі шыбы. Мне было пяць з паловай гадоў, хуценька адзеліся і выбеглі на вуліцу. Натоўпам накіраваліся на суседскі падворак Кудлы Алесі. Двор быў прасторны, з боку вуліцыраслі вялізныя ліпы, якія часткова прыкрывалі двор. Хто лёг, хто сядзеў бліжэй да ліп. Ціха перагаворваліся.*

*Алеся расказала, што яе сын - Ваня - яшчэ на вайсковых зборах, дзесьці за Гародняй. Пасля ад'езду сына давялося цяжка працаваць у полі. Пасеялі з пляменнікам Вадзям Гросам авёс, ячмень, гарох, пасадзілі бульбу.*

*Зусім засмуткавалі, калі ў пачатку чэрвеня атрымалі ліст, у якім паведаміў аб адтэрміноўцы збораў, каб салдаты трэніраваліся да ваенных дзеянняў. Нявестка Верка з вясковымі жанчынамі Надзяй Белавус, Вольгай Кумпяк, Стэфкай Дзікевіч і дзітрыкаўцам Міколам Дзікевічам паехалі наведаць пад Гародню сваіх мужоў-вайскоўцаў. Ці ўдасцца вярнуцца ім дахаты.*

*Людзі былі збянтэжаны, думалі што гэта, мажліва, правакацыя, то Чырвоная Армія адпомсціць зарваўшымся крыўдзіцелям.*

*І хтосьці раптам гукнуў:"Гэта-вайна"!*
*Тады і людзі зразумелі,*
*што пачалася зноў вайна,*
*Бо недзе выбухі грымелі,*
*на ўсход ляцелі бамбавозы...*

*Нам, дзецям, было незразумела, што гэта такое. Але тое, што будзе штосьці страшнае, зразумелі ўсе. Самалёты натужна гудзелі і ляцелі над вёскай. Вяскоўцамі было вырашана скаціну і коней загнаць у Ліпіцы, дзе застануцца і дарослыя. Нас, дзяцей, адправілі на хутары да сваякоў.*

*Праз некалькі дзён з'явіліся немцы. З’ехаўшы з шашы, размясціліся на пастой на гумнішчах у нас - Каханоўскіх, і ў Ванюшкавых - (Кудлы Івана). Там паставілі самаходы і палаткі. Помніцца, былі яны паўраздзетыя і вясёлыя, гаманлівыя, ігралі на губным гармоніку. Іх паходныя кухні дыміліся, вакол мітусіліся. Здаецца, шмат елі. Былі мірнымі, каб задобрыць вяскоўцаў, дзецей частавалі карамеллю, што было радасцю для дзетвары.*

*А мне запомніўся папробаваны іх наварысты смачны гарохавы суп.*

*У нас выцягнулі з хлява парсюка і закалолі. Аблілі*



*кіпнем, разабралі і варылі, смажылі ў нашай печы. Гэта была мая першая сустрэча з немцамі і першыя ўражанні пра іх”.*

У часы ваеннага ліхалецця з маім, Віктара Кудлы, нараджэннем і жыццём звязана рызыкоўная гісторыя: можна сказаць, я - удзельнік і ахвяра вайны.

**Бацька Ваня,**1908 г.н. расказваў:

*"Нягледзячы на руплівыя сялянскія клопаты па вясеннім пасеве, у красавіку 1941 года Лідскі ваенкамат прызваў на ваенныя зборы ў Гародню. Размясціліся спачатку ў цагляных казармах, пабудаваных яшчэ ў царскі час, унізе каля Нёмана,перад самым чыгуначным мостам.*

*Прыйшло разпараджэнне камандавання, каб з 15 чэрвеня ўсе вайсковыя часткі перадыслакаваліся ў летнія лагеры бліжэй да мяжы і праводзілі баявую вучобу. Па-гэтаму і нашых салдацікаў перагналі на левы бераг за горад у палаткі. Лагер быў у садочку каля вёскі Лабна, пры дарозе на Сапоцкіна. Праводзілі цвічэнне, было так, што капалі акопы, з вінтовак стралялі па мішэнях, кідалі гранаты ў кар’ер, і яны ўзрываліся. Я быў наменснікам камандзіра звяза, і вінтоўка на рамні была толькі ў мяне.*



***Фота з ваеннага білета***



СССР

ВОЕННЫЙ БИЛЕТ

Серия Б № 219551

Фамилия

Имя и отчество

Год рождения

Личная подпись владельца

Выдан

М. П.

I. Военно-учетные сведения

*Напісаўшы пісьмо дахаты, расказаў пра вайсковыя вучэнні і што ўжо пахла вайной. Прасіў, каб напісалі, як жывуць родныя, як спраўляюцца з гаспадаркай".*

**Мама Вера,** 1920 г.н. (на фота) была цяжарная мною. Атрымаўшы апошні ліст таты Вані, спалохаліся памежнай абстаноўкі і з вясковымі жанчынамі вырашылі наведаць сваіх мужоў на вайсковых зборах пад Гародняй, завезці хатняга гасцінца. У субботу 21 чэрвеня праз Ліду на спадарожных машынах з цяжкасцю дабраліся да Гародні. Дзітрыкавец Міко-ла Дзікевіч з Вольгай Кумпяк, Стэфкай Дзікевіч рушылі ў бок мяжы да Гожы, а мама з Надзяй Белавус далей пяхатою да вёскі Лабна, да самога палатачнага гарадка вайсковай часткі. Пад самы вечар сустрэліся і прывіталіся…



Першыя словы бацькі Вані былі: "Што ж вы прыехалі?! Вайна будзе! Афіцэры свае сем’і ўжо вывезлі… Уцякайце хутчэй дамоў ". І жонкі развіталіся і кінуліся на ўцёкі. Дабеглі ў горад і начавалі ў нейкай яўрэйкі, дзе а чацвёртай гадзіне раніцы нахлынула вайна: бомбы ўзрывалі дамы, вакол пажары, людзі бегалі, хаваліся, паўсюдна енк і крык…. Яны выбеглі на шашу ў напрамку Ліды. Уся дарога была забіта тэхнікай, людзьмі… З неба паласавалі самалёты, паўсюдна - выбухі, пажары... Як толькі ляцеў самалёт, усе ўрассыпную, хаваліся ў канаву або хмызнякі. Калі ўсё сціхала, гукалі адна адной: "Верка, ты жывая?"- "Жывая!". І беглі далей, дзесьці за Скідзелем затрымаўся грузавік з раненымі. Маму як цяжарную пасадзілі ў кузаў. Некалькі разоў выскоквалі і хаваліся ад самалётаў. Даехалі да Ліды, а там і дайшлі да Дроздава.



**Бацька расказваў:**

*"Раніцай вакол загрымелі выбухі. Усе салдаты выскачылі з палатак. Паніка… Камандзір звяза,*



*сабраўшы салдат, даў каманду адразу ачапіць сапоцкінскую шашу. Праз гадзіну ад граніцы пачалі шураваць на матацыклах немцы. Прылёгшы ў канаве, мы выстраламі па матацыклетчыках перабілі з дзесятак немцаў. Астатнія развярнуліся і рынуліся назад пад Сапоцкіна і Галынку.*

*Скінуўшы з матацыклаў забітых і некалькі параненых германцаў, вайскоўцы сяк-так завялі некаторыя матацыклы і загрузіўшыся па пяць-сем салдацікаў рушылі праз Ласосна да Гародні.*

*Праз стары мост, запоўнены транспартам і людзьмі, нягледзячы на бамбёжкі з нямецкіх самалётаў, ўсё ж такі перабраліся на правы бераг Нёмана, дзе былі нашы казармы. Дабраўшыся перад самым чыгуначным мостам, унізе каля Нёмана ўбачылі разбомбленую нашу казарму.*

*Гародня была ад выбухаў у пажары, з дымам. З атрадам салдат мы рушылі за горад у бок Ліды. Усе адступалі: машыны, фурманкі, людзі. Над шашой пікіравалі самалёты,страчылі пулямёты.*

*Я ўспомніў, што з правага боку ад шашы, з кіламетр ад шашы быў Кацярынінскі тракт. З атрадам чырвонаармейцаў перабеглі туды. Дарога гравійная, абапал прысады, больш-менш ціха.*

*Бачылі, як варожыя самалёты паласавалі тую шашу. Гэта нас і зберагло. Так за пару дзён праз Каменку, Жалудок дабраліся да Бяліцы. Па шашы ўжо з ляскатам шыбавалі нямецкія танкі, а потым матацыклы. Сустрэўшы вайскоўцаў Лідскага інжынерна-аэрадромнага дывізіёна пачалі атакаваць па дарозе рухаўшыхся немчукоў, каб перабрацца за Нёман і далучыцца да адступаючых савецкіх падраздзяленняў у раёне Дзятлава. Але ў Бяліцы мы наткнуліся на мотапяхоту ворага. Завязаўся цяжкі бой за пераправу цераз Нёман. З дзесятак немцаў палягло, але і наша падраздзяленне было амаль знішчана. Рэшткі параненых савецкіх воінаў былі захоплены фашыстамі ў палон. Мне з раненай нагой ўдалося схавацца ў бярэзніку і памалу, кульгаючы, адцыпаць у Істакі да Гросаў. Сястра Вольга перавязала рану і галоднага добра пакарміла. Давялося скінуць салдацкую форму. Швагер Валодзя аддаў свае порткі, рубашку і кашулю. Крыху адпачыўшы, праз пару дзён ноччу дабраўся ў Дроздава да сям'і. Вакол ужо гаспадарылі акупанты. Горкімі слязамі і гарачымі абдымкамі сустрэлі мяне маці Алеся, жоначка Верка і пляменніца Тамара. На ручкі ўзяў і абняўся з падросшым сыночкам Ігарам. Боль ад раны на назе,атрыманай пару дзён назад, занепакоіла і маму.*

*У лазні цёплай вадой змылі вайсковы бруд. Рану на назе ўкладвалі тысячаліснікам і лісточкамі падарожніка перавязваючы кавалкам дамашняга палатна".*

Знойдзены быў радыёпрымач. Некалькі жыхароў вёскі, пачуўшы па радыё выступ наркама замежных спраў В. Молатава аб навіслай бядзе, з застылай мінай на тварах выйшлі на вуліцу і расказалі вяскоўцам. Пачалося новае жыццё, не толькі не стала вечарынак, песень, музыкі, але людзі нават ад душы хваляваліся. Слёз пакуль не было, але гора, якое наблізілася, паспела накласці нябачаны трагічны адбітак на іх твары. Мужчыны збіраліся групкамі, пра нешта казалі, раіліся ісці на фронт, абараняць сваю Радзіму.

Актыўна дзейнічалі ў першыя месяцы вайны патрыёты камсамольскай арганізацыі вёскі Дроздава, якая была створана пры "першых Саветах" у пачатку 1940 года, першая на Лідчыне па ініцыятыве Шут Генадзія Сцяпанавіча ў складзе: Кудла Уладзімір Канстанцінавіч, Кудла Іван Канстанцінавіч, Кумпяк Віктар Вікенцьевіч, Каханоўскі Браніслаў Міхайлавіч, Курылаў Фёдар Дарафеевіч, Данэйка Леанід Канстанцінавіч, Ненартовіч Вацлаў Пятровіч.

Запіс са слоў бацькі **Шута Сцяпана Сямёнавіча** 1900 г.н. у Дроздаве, агентурны разведчык са жніўня 43 года. Маці - Вера Піліпаўна, 1896 г. н. Хата была побач з Ванюшкамі, у садку.

*"Сын Генадзь нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Дроздова. У 1939 годзе скончыў польскую сямікласную школу. Калі Заходняя Беларусь была ўз'яднана з СССР, ён паступіў вучыцца ў сярэднюю школу г. Ліды. На наступны год у Ганчарскай школе быў адкрыты 7-ы клас, і ў 1941 годзе Гена па-новаму скончыў 7 класаў. У траўні гэтага ж года быў прызначаны піянерважатым.*



***Шут Генадзь Сцяпанавіч, здымак 1940 г.***

*У першыя дні вайны Гена Шут і Ваня Кудла (Унучкаў) пайшлі на ўсход з адступаючымі часцямі Чырвонай Арміі і дайшлі аж да Магілёва, мяркуючы дзесьці сесці на цягнік і заехаць у Растоў на-Доне. Там жыла драздоўка - родная цётка Кудлы Івана. У Магілёве іх сустрэў сакратар Баранавіцкага абкама камсамолу, які пасля некаторай гутаркі з імі прапа-*

*наваў ім вярнуцца дадому і арганізаваць камсамол на барацьбу з фашызмам. Ім была дадзена запіска, у якой быў паказаны адрас у г. Ваўкавыску. Як казалі яны, там павінны былі сустрэць камуніста, які раскажа ім, чым і як трэба змагацца з акупантамі. У выпадку сустрэчы з немцамі сказалі ім - запіску трэба праглынуць. Так і выйшла, калі сустрэліся з германцамі - Генадзь паперку пражаваў. Вярнуліся яны праз месяц ці больш. Гена Шут сябраваў з Верай Казловай "Міхайла". Нейкая радня, працавала на цягніках. Была ў дружбе і Вольга Козел…*

*Хутка арганізацыя папоўнілася моладдзю з суседніх вёсак Ганчары і Агароднікі- Вера Ярашэвіч, Вера Кучынская, Антаніна Равяшка, Зінаіда Кумпяк, Марыя Быстрыцкая, Леаніда і Ніна Дзяшук.*

*У пачатку сваёй дзейнасці камсамольцы пісалі ад рукі і распаўсюджвалі ўлёткі, выратоўвалі ўцекачоў з фашысцкага палону, збіралі зброю і боеприпасы. Камсамольцы пілавалі паштова-тэлеграфныя і тэлеграфна-чыгуначныя слупы. Першай баявой аперацыяй патрыётаў з'явіўся разгром паліцэйскага ўчастка ў вёсцы Дакудава. Паліцэйскія разбегліся, а камендант паліцыі, які выслужваўся перад акупантамі, быў расстраляны".*



Праз чатыры месяцы пасля пачатку вайны, на чацвёрты дзень па Пакровах, 17 кастрычніка нарадзіўся я. Дарэчы, і тут таксама цікава склалася: мама Вера з татам Ваням наведвалі на хутары Праважа каля Забалаці родную маці Еўку (на фота) і праз пару дзён, спяшаючыся, падводай вярталіся дахаты. Нарадзіла мама мяне на возе, у палукашку, амаль на самым нашым падворку… Часта мама мне потым казала: "Радзіла я цябе ў дарозе, вось ты ўсё жыццё кудысьці і едзеш, і едзеш"…

Так і ёсць: у сталым узросце я аб'ехаў і наведаў шмат краін.

У халодныя студзенскія дні бацькі рызыкнулі мяне ахрысціць. Закалолі вяпрука, нагналі самагонкі, прыгатавалі многа разнастайнай закусі. Сваякоў Кудлаў і Белавусаў ды аднавяскоўцаў сабралася шмат. І вось прышлося выбраць хрышчоных: бацькам адразу - Цыпрука Павядайку, меў пад 40 год, а вось за маці хрышчоную выбралі трынаццацігодку Тамару Грос. На санках прывезлі ў ганчарскую царкву, і знакаміты бацюшка Мікалай Усціновіч акунуў у вадзіцу, і па расказах бацькоў усе дні завіруха замятала гурбамі вуліцу і дарогі. Госці некалькі дзён з задавальненнем частаваліся і вясяліліся… Расказвалі, што мяне калыхалі ў калысцы, бацька прыгожым голасам за сталом спяваў старынныя расейскія і беларускія песні.



*Першая мая фатакартка: Я на руках у мамы Веры, побач старэйшы брат Ігар, ззаду - тата Ваня.*

*А адарваны вугал фота (зразумела чаму?) - мамін дваюрадны брат Мікола Грэбень, член СБМ (Саюз Беларускай моладзі) быў у форме, служыў паліцэйскім у ахове чыгункі на ганчарскім паўстанку, тайна трымаў сувязь з драздаўскімі партызанамі… Мажліва, гэта і ўберагала нашу сям'ю".*

У "Лідскім летапісцы" № 81-83 быў багаты матэрыял Янкі Жамойціна "З перажытага", у якім многа апавядаецца пра яго маладога сябра Міколу Грэбеня, з якім у Варшаве вучыўся на святара.

*У гэты дзень я быў на печы,*
*А дзе ж яшчэ малому быць*
*Зімой марознаю. Дарэчы,*
*Адтуль за ўсім лягчэй сачыць.*

Памятаю: у хату зайшлі дзядзя Мікола Грэбень і немец, пачаставалі нас кругленькімі, што шашачкі, ледзянцамі. Было мне больш годзіка, і быў я ў адной кашульцы. Немец узяў мяне на рукі і высока падкінуў угору, аж пад сталяванне, ды так, што я ад страху закрычаў, драпнуў і пырскнуў яму ў твар. Ён рэзка



**_Пасля малебня ў Ганчарскай царкве на муражку. Прысеўшыя: тата Ваня, цёця Вольга, бабуля Алеся. Прылёгшыя: Грэбень Мікола і нехта са службоўцаў…_**

кінуў мяне на падлогу, таўкануў нагою, вымацюкаўся: "Швайне хунэ".

Чым мог закончыцца "мой напад" на акупанта невядома, але маці хуценька падабрала і закрыла мяне ў каморы, а "гасцям "накрыла стол. І бацька па-гасцінnаму размаўляў, пакарміў з самагоначкай.

*Маё дзяцінства працякала*
*ў ваенныя гады.*
*Было ў ім радасці замала,*
*хапала ж гора і бяды.*
*Ды многа памятаю злога,*
*мо пасвядомасць дадае,*
*У думках выцягнуць з былога*
*тугу і крыўды ўсе мае.*

Як жа жыла вёска ў гады акупацыі? Бо ў сеціве можна знайсці шмат здымкаў, зробленых нямецкай прапагандай, на якіх паказана, як нямецкія салдаты сябравалі з акупаваным насельніцтвам, маўляў, нікога не крыўдзілі . Праўда была крыху іншай. Як распавядала бабуля Алеся, галоўнымі словамі, якія немцы вывучылі лепш за ўсё, былі "млека","яйка" і "матка, давай ежу". Ні пра які мір не было і гаворкі. Немцы прыйшлі заваёўваць, а не дзяліцца радасцю з вясковымі жыхарамі.

Уся гаспадарка ў жыхароў абіралася, прычым, накладваўся своеасаблівы падатак з кожнага двара. Таму, пакапаўшыся ў архівах і ва ўспамінах, хачу паказаць, а як насамрэч жыла вёска ў перыяд акупацыі. Па сведчаннях відавочцаў і тых мясцовых жыхароў, з якімі мне самому ўдалося пагутарыць: пры акупацыі вёска пазбаўлялася буйной рагатай жывёлы, ішлі адразу на мяса. Немцы выкарыстоўвалі каровы на малако або вывозілі ў Германію. Тут асабліва ніхто не цырымоніўся.

З расказаў **таты Вані, мамы Веры, бабулі Алесі**:

*“У шматпакутнай вёсцы Дроздава ў гады акупацыі жыццё ішло сваёй чаргой, вяскоўцы, як звычайна, працавалі на зямлі ад відна да відна, да сёмага поту. Жанчыны пралі, ткалі, вышывалі. У гаспадарцы бацькі былі конь, дзве каровы і цялушка, авечкі, свінні, куры”.*



Побач з падполлем у пачатковы перыяд вайны пачаў разгортвацца партызанскі рух. Першыя партызанскія групы ўтварыліся ўжо ў 1941 годзе.

Партызанскі рух пачаў развівацца ў Налібоцкіх лясах. Касцяком атрадаў былі ў асноўным воіны чырвонаармейцы, якія з баямі адступалі з заходніх раёнаў, але якім не ўдалося перайсці лінію фронту.

Восенню 1942 года ў сувязі з узмацненнем фашысцкіх рэпрэсій асноўная дроздаўская падпольная камсамольская група сышла ў партызанскі атрад Радзецкага, які знаходзіўся ў ваколіцах вёсак Пудзіна-Бярозаўка-Уселюб.

У канцы 1942 года пад вёскай Дакудава і за Нёманам абаснаваўся партызанскі атрад"Іскра", штаб базаваўся ў Альхоўцы. Той край больш вядомы як Налібоцкая пушча. Суцэльныя лясы з высачэзнымі, стройнымі, старадаўнімі дрэвамі.



Трэба сказаць, што Альхоўку немцы называлі "другой Масквой" - настолькі непрыступныя былі тыя, акружаныя шчыльнымі лясамі, месцы для гітлераўскіх салдат.

З далучэннем атрада Радзецкага да атрада "Іскра" Генадзь Шут стаў разведчыкам, сувязным брыгады з міжрайцэнтрам, а ў апошні час намеснікам камісара па камсамолу атрада "Іскра". Удзельнічаў у баі пад Гярвенікамі, у падрывах эшалонаў, знішчэнне фанернай фабрыкі ў Сяльцы. Двойчы быў паранены. Прадстаўляўся да ордэна Чырвонай Зоркі.

Астатнія патрыёты: Кумпяк Віктар, Каханоўскі Броніслаў, Данэйка Леанід, Ненартовіч Вацлаў працягвалі барацьбу ў падполлі. Яны распаўсюджвалі ўлёткі, па заданні партызанскага камандавання хадзілі на разведку ў Ліду, Бярозаўку, Агароднікі, Даржы і іншыя варожыя гарнізоны.

У сакавіку 1942 года ў паўднёвай частцы Лідскага раёна партызанскую групу стварыў камуніст П.К. Макараў, на базе якой хутка вырас партызанскі атрад імя Варашылава. У суровай перастрэлцы з акупантамі быў паранены Пётр Макараў. Партызаны запынілі з падводаю дроздаўца Каханоўскага Бронака, і ён адвёз ляжачага Макарава на хутар Масявічы да Уладзіміра Говара - актывіста, дэпутата сельскага Савета. Праз месяц Пётр Макараў вылечыўся, працаваў у гаспадарцы, араў, сеяў, малаціў, дапамог пабудаваць лазню. Уся сям’я прывязалася і палюбіла Пятра. Пазнаёміўся і ажаніўся з дачкой Говара - Марыяй. Восенню 1942 года атрад перабазіраваўся ў Ліпічанскую пушчу, адкуль

наносіў адчувальныя ўдары па фашыстах.

P.S. Пасля вайны іхні сын Алег Пятровіч ажаніўся з драздаўкай Галінай Быстрыцкай і, пабудаваўшы дабротны дом у Дроздаве, стварыў актыўную фермерскую гаспадарку.

З савецкімі партызанамі ў вёсцы былі ўсталяваныя свядомыя адносіны, мясцовае насельніцтва аказвала дапамогу прадуктамі і знойдзенай зброяю. Сяляне, як маглі, шкодзілі акупантам, дапамагалі партызанам спілоўваць тэлеграфныя слупы, разбіраць чыгуначнае палатно, спальваць мосцікі

Вяскоўцы вымушаны былі карміць і немцаў, і тых ды тых партызан. Каб мець хоць невялікую наяўнасць марак, вазілі на продаж у Ліду масла, яйкі, смятану. Не заўсёды гэта былі лішкі ў гаспадарцы, але для сям'і грошы былі патрэбныя.

*У нашай вёсцы для сялян*
*Сістэма збору існавала,*
*Каб забяспечыць партызан.*
*Сістэма тая прымушала*
*Сялянам у тэрмін пастаўляць*
*Крупу, гародніну і сала,*
*Таксама хлеб ім выпякаць.*
*Адмовіць ім - сабе, вядома,*
*Прысуд смяротны падпісаць,*
*А пагадзіцца, то для дома*
*Ад немцаў трэ бяду чакаць.*

**Грос Тамара Уладзіміраўна**, 2.11.28 г.н. расказала: (запісана на дыктафоне В.К.і бацька праслухаўшы дабавіў.)

*"Я добра помню і знаю: дзядзька Ваня часта вазіў прадукты партызанам за Нёман і нават аддаў рэвальвер. Аднойчы аж тры дні там быў - не вяртаўся. Я перажывала і надта плакала, як і тады, калі дзядзю Ваню забралі на зборы ў армію і пачалася вайна. Я плакала-плакала, малілася, і ён, слава Богу, праз тыдзень вярнуўся. Вымыўся ў лазні,лячылі раненую нагу.*

*Ад партызан прывозіў многа-многа газет. Хаваў. Кожны раз заступалі немцы на мосце цераз Нёман, шукалі ў возе, ператраслі ўсё, але не знайшлі. А ён удачна схаваў у хамуце на кані.*

*Чытаць давалі і суседзям, потым хавалі пад падлогу. Неяк было, што мой бацька Валодзя прымаў сувязь з гарадскімі актывістамі і прынёс дзядзю Ваню лісточкі: "Улётка галоўнага палітупраўлення РККА", каб адзін перадаць партызанам, другі чытаць вяскоўцам.*

*На наступную паездку дзядзя зноў нагрузіў на падводу прадукты і ў Ганчарах заехаў да паліцэйскага бункера, сустрэўся з Колем Грэбенем і папрасіў, каб на нёманскім мосце пад Агароднікамі паліцыянты прапусцілі, маўляў, вязе на рынак жыхарам Бярозаўкі на продаж муку, сала, гародніну. Усё атрымалася - прапусцілі, і паехаў далей праз Альхоўку, аж да Пудзіна. Сустрэў драздаўскіх партызан, пагаварылі, разгрузілі падводу. Дзядзя Ваня выняў з кішэні акуратна, у чатыры разы складзены лісток і перадаў камандзіру.*

*Тады той сабраў групу партызан, разгарнуў, паказаў лісток і прачытаў:* "Партызаны! Вы чуеце грукат нямецкага цягніка па вашай зямлі. Ён вязе разбойнікаў з фашысцкай Германіі. Ён вязе танкі, артылерыю, боепрыпасы, паліва і г. д.

Для чаго вязе ўсё гэта праклятыя фашыст? Для таго, каб забіваць вашых братоў, бацькоў і маці, вашых родных дзяцей, каб разбурыць ваш горад, вёску, дом. Што ж рабіць? Трэба рваць варожыя эшалоны на чыгунцы і ператвараць ў кучу металу. Хай ён стане магілай для кожнага акупанта. Не прапускайце іх да фронту! Гэта будзе ваша канкрэтная дапамога Чырвонай Арміі, гэта будзе ваш асабісты ўдзел у абароне сацыялістычнай Айчыны."

*Камандзір падзякаваў дзядзю Ваню за прывезеныя прадукты і важнае распараджэнне".*

Летам 1942 года драздаўскія патрыёты здзейснілі некалькі буйных дыверсій. Спосабам развядзення рэек каля паўстанцыі Ганчары на чыгунцы Ліда-Баранавічы група камсамольцаў спусціла пад адхон варожы эшалон з ваеннай маёмасцю.

Вагоны, звальваючыся ў кучу, ламаліся з раздзіраючым душу металічным скрыгатам. Частка гітлераўцаў прыйшла ў сябе, стралялі ва ўсе бакі, не ведаючы, дзе знаходзяцца партызаны. А партызаны тым часам усё далей і далей адбягалі з месца дыверсіі. Пры крушэнні было забіта і паранена многа гітлераўцаў. Аб гэтай дыверсіі паведаміла Савецкае інфармбюро.



**Земскаў Ф.А.:** *"3 лістапада 1942 года партызаны атрада "Іскра" пачалі праводзіць падрывы варожых эшалонаў выбухоўкай (толам) спосабам міравання чыгункі цалкам стокілаграмовымі бомбамі або рабіліся з толу пакеты па 40-50 кг, якія так-*

*сама добра дзейнічалі, як і бомба, і падрывы выводзілі абодва палотны чыгункі з ладу, а цягнікі ляцелі пад адхон".*



**Багатыроў М.М.** *"У жніўні 1943 г. кіраўніцтвам атрада было дадзена заданне групе партызан замініраваць і падарваць мост Даржы, размешчаны на чыг. Ліда-Баранавічы за 6 км ад г. Ліды. Мы падрыхтавалі пакет з толам у 15 кг і ўсё неабходнае для аперацыі. Ноччу ўтрох падкраліся да моста, заклалі міну, падпалілі бікфордаў шнур, які быў злучаны з капсулем і пакетам толу, а самі адышлі ў сховішча. Праз некалькі хвілін пачуўся выбух і мост паляцеў у паветра, рух цягнікоў на ўчастку Ліда-Баранавічы быў спынены на некалькі гадзін, былі затрыманы эшалоны з ваеннай тэхнікай, рыштункам і з жывой сілай, якія рухаліся да лініі фронту. Выканаўшы заданне, вярнуліся ў размяшчэнне атрада, аб выкананні задання далажылі кіраўніцтву. Быў складзены дыверсійны акт. За паспяховае выкананне баявога задання кіраўніцтвам атрада групе перад шыхтам была аб'яўлена падзяка".*

Акрыленныя поспехам, неўзабаве дзесятак падпольшчыкаў на чале з Генадзем Шутам заклалі ля вёскі Дроздава на той жа чыгунцы пад рэйкі 100-кілаграмовую бомбу з толавай шашкай. З боку Ліды эшалон набліжаўся да месца мініравання каля паўстанцы Ганчары. Партызан тузануў шнур. І тут жа хлопцы покатам паляцелі ад рэек. "Чорт, - чагосьці вылаяўся Феакцістаў і таропка ўхапіўся за лейцы. - Трымайся, хлопцы". Успыхнуў вялікі слуп агню і моцны выбух. Данёсся грукат, ляск, нямыя крыкі немцаў. Не паспелі праскочыць і сотні метраў, як грамавы раскат аглушыў наваколле, цемру паласнула бліскавіца.

І тут жа праз лічаныя імгненні адбылося неверагоднае: пачаўся такі лязгат і выбухі, што, здавалася, сама зямля расколецца. Над намі з шыпеннем і свістам паляцелі абломкі, а над чыгункай запалыхаў цэлы фантан агню. Паравоз, моцна свістаючы з катла парай, упаў пад адкос. Застаўшыеся ў жывых акупанты адкрылі шалёны агонь з аўтаматаў і кулямётаў. Як пазней высветлілі, выбухам і ў выніку крушэння былі пашкоджаныя паравоз, дзясятак вагонаў з жывой сілай і дзве платформы з ваеннай тэхнікай. Паранена і забіта многа гітлераўцаў.

**Ражнова (Каханоўская) Ядвіга Міхайлаўна**, 08.12.1935 г. н., в. Дроздава (г. Ліда, вул. Набережная, 2, кв. 19; тэл. 61-81-91.



*"За дзве сотні метраў ад шашы Ліда-Беліца на чыгуначным пуці быў, і зараз ёсць, бетонны мосцік (насупраць хаты Шута Канстанціна Ануфрыевіча). На гэтым мосціку ноччу 7 лістапада 1943 года, быў узарваны нямецкі грузавы цягнік. Лакаматыў, уздыбіўшыся на вогненнай успышцы, паляцеў пад адхон. За ім - вагоны, апошнія вагоны спецыяльна прыстасаваныя для аховы, абсталяваныя падвойнымі сценкамі, паміж якімі засыпаны пясок, заставаліся цэлымі, не паляцелі пад адхон.*

*Пад канец гэтага ж дня вёску Дроздава ачапілі фашысты, сабралі застаўшыхся ў вёсцы старых і жанчын на наш двор перад хатай і выказалі свае патрабаванні з-за чыгуначнай аварыі. Высокі і худы немец стаяў на пні грушы і выдаў ультыматум.*

*(У 1940-м годзе ад вялікіх марозаў вымерзлі ўсе садовыя дрэвы. У нашым двары перад вокнамі расла вялізная старая, з вельмі смачнымі пладамі, груша. Яна і вымерзла. Тата, Каханоўскі Міхаіл, спілаваў засохшую грушу, ад яе застаўся вось гэты высакаваты пень).*

*Говарка была рэзкая, надрывістая, як гаўканне сабакі. Перакладчык пераклаў яго ўльтыматум. На працягу сутак жыхары вёскі Дроздава павінны здаць немцам непамерна вялікую колькасць кароў, многа свіней, авечак. У іншым выпадку вёска будзе спалена разам з яе жыхарамі.*

*Дзяды сабраліся ў нас, Каханоўскіх, і хімічным алоўкам амаль усю ноч займаліся складанай арыфметыкай. Пры гэтых падліках была праяўлена сапраўдная людскасць, узаемаразуменне, спагада адзін да аднаго. Кожную сям'ю разглядалі персанальна, лічылі дзяцей малых, старых, каму ў гаспадарцы неабходна карова, а хто можа пражыць і без яе. Раніцай пачалі выводзіць з хлявоў жывёлу і ўсю загналі немцам. Так мінавала кара дроздаўцаў.*

*Аднаго разу бацькі былі вельмі ўсхваляваныя, дазнаўшыся, што будзе рухацца праз вёску нямецкі дывізіён. Сказалі мне і брату хутка адзявацца. Мы адзеліся, і мама нас павяла на хутар да Школкаў. І быць мы павінны там столькі, пакуль па нас хтонебудзь з сям'і не прыйдзе. Чулі нейкі шум на дарозе, потым стала ціха. Гаспадыня сказала, што немцаў болей няма. Пайшлі дадому самастойна.*

Напішу больш пра гэты хутар таму, што з ім звязаны падзеі - два вяселлі. Першае - праходзіла ў халодны

цёмны час сутак, прыкладна ранняй вясною 1942 года.

*“Гэта было партызанскае вяселле на дроздаўскім хутары "За шашой". Замуж выходзіла Анюта Кудла (Унучкава) за партызана п/а "Іскра" Кіслага Леаніда - родам з Альхоўкі, што за Бярозаўкай. Мы, дзетвара, тапталіся на двары, у сенях. Усе чакалі жаніха з яго дружынай, а ён доўга не прыязджаў. Я не памятаю весялосці, не было музыкі, і толькі ціхая размова дарослых гасцей: "Што зробіш, трэба чакаць. Ён жа партызан! А можа што здарылася?" - і працяжныя ўздыхі. Нарэшце, жаніх Лёня прыехаў з дружынай на двух павозках, з музыкантамі. Думаю, дзесьці было 11 гадзін, мабыць, трохі пазней. Пасядзелі некалькі гадзін за сталом з дружынаю і раднёй, пачаставаліся, патанцавалі і, забраўшы маладую Анюту, з дружынай цемнатою ад’ехалі за Нёман у Альхоўку.*

*Болей у вайну вяселляў у нас не было”.*



***Кіслы Леанід Іосіфавіч, здымак 1944 года***

Ажаніўшыся Леанід Іосіфавіч, 1924г. н. з Анютай Канстанцінаўнай (Унучковай)1926 г.н. нарадзілі дочак: Ганну ў1943 годзе, Дануту ў1946 годзе. Пасля вайны Лёня вучыўся ў Вільні на сталяра,працаваў у лідскай будаўнічай арганізацыі.

З расказу **таты Вані і маіх успамінаў**.

У некаторыя месяцы немцы ў вёску заходзілі нячаста. У асноўным яны былі з бліжэйшага Даржоўскага гарнізона, які ахоўваў чыгуначны і шашэйны масты цераз раку Дзітву. Прыходзілі яны па прадукты. Мы з Ігарам сядзелі на печы прытуліўшыся да бабулі Алесі. Зайшоўшы ў хату па-нямецку патрабавалі масла, эйер, шпэк (яйкі, сала). Вялі сябе яны грубавата, пахамску: самі заходзілі ў камору, лазілі на гару, нават у падвал. Сярод немцаў выдзяляўся хахол-паліцай. Ён не хаміў і ад мамы Веры атрымаў усё, чаго хацеў.

Нярэдка дзень пачынаўся са страшных звестак. Хтосьці з сяльчан прыносіў навіны аб пажарах у суседніх вёсках, аб забітых і замучаных земляках. У нашу вёску заязджалі і "белыя". Першыя гады - ноччу. Стук у вокны, дзверы і голасам: "Одэмкні!" Прыводзілі ў жудасны страх усю чалавечую сутнасць.

Пазней "белыя" рабілі наезды і днём. Неяк летнім днём каля працуючага таты, мы з Ігарам гулялі на гумнішчы, тата рамантаваў калёсы. Прыбегла бабуля Алеся: "Ванечка хавайся - па вёсцы шастаюць белапалякі!" Бацька хуценька нырнуў у гумно - меў там схованъ паміж тарпякамі снапоў.

Я ж, двухгадовы, сяк-так дачыкілдаў да сцяны гумна і ў дзірачку: "Тата, ты тут, ты тут! Вазьмі і мяне". Бацька ціхенька:"Віценька, табе не можна сюды - бяжы дахаты з Ігарам, бо за гумном ваўкі"... На шчасце, акаўцы пачуўшы ад мамы Веры, што муж на сенакосе, не шукалі, а пайшлі далей па вуліцы.

А вось ваўкамі мы, малышня, дарэчы ўжо раней былі напалоханы. Неяк ноччу прачнуліся ад брэху, а затым ад енку сабакі. Раніцай знайшлі яго разарваным, а з хлява ваўкі выцягнулі з-пад падваліны барана і за шашой валяліся шкура ды косці…

*Ваўкі з хлявоў у вёсцы кралі*
*Гусей, авечак, парасят.*
*А ёсць спрыяльныя умовы,*
*Дык іх ваўкі не абмінуць,*
*Каня зарэжуць ці карову...*
*Адно што рогі не з'ядуць.*

Пасля такіх візітаў нам, малым, рабілася дрэнна, ікалася, ноччу не маглі заснуць, амаль не харчаваліся. З медыцынай тады было дрэнна, лекараў і фельчараў не хапала, таму на дапамогу прыходзілі ўладальнікі народных талентаў.

У нашай вёсцы, ды і ў акрузе, бабулю Альжбету Кудлу называлі чараўніцай. Наколькі я памятаю, да яе звярталіся і з зубным болем, рознымі крывацёкамі, скардзіліся на засмучэнні страўніка, і з іншымі пошасцямі. І яна бралася дапамагаць, добрым словам, усяленнем упэўненасці, што ўсё будзе добра. Ну, і магічныя дзеянні: шаптанне нейкага таямнічага набору слоў, пераборлівае чытанне малітваў, пагладжванне рукамі хворых месцаў, замовы на яйках і попеле. Неяк раз назіраў, як ад яе ў мужчыны спыняўся крывацёк, сціхаў боль. Людзі выходзілі з удзячнасцю, забываючы аб нядаўніх пакутах. Усе маніпуляцыі бабуля рабіла бяскарыслівa, бясплатна.

Так і мяне з Ігарам мама вадзіла на край вёскі да Альжбеты (маці двух партызанаў Валодзі і Вані), каб выкачаць пярэпалахі.

Добра памятаю, як сухенькая бабулька Альжбета па ляжачым, на спіне качала вараныя яйкі, а на грудзях губамі высмоктвала і выплёўвала слюну па некалькі разоў. Потым мы рукі клалі на протвінню з попелам, і яна ножычкам каля кожнага пальца раз за разам выскрэбвала попел і шаптала нейкую малітву. І гэта дапамагала нам.…

Ужо падросшым памятаю, неяк ноччу лямант сабак, усе прачыналіся. Стук у вакно, грукат у дзверы, наведаліся на гэты раз "чырвоныя"..

Зайшлі двое ўзброеных, як кажуць, "шукаць коней у куфры". Забралі дзяругі, посцілкі, з вешалкі знялі бацькаву марынарку, суконную бурку і хромавыя боты. У сенцах тупаў мясцовы "наводчык". Зноў зайшлі захопнікі і патрабавалі шлюбныя залатыя пярсцёнкі, а з шафы забралі бацькаў вясельны касцюм.

Дзесьці ў пачатку пяцідзесятых на хутары ў Жамойцінаў было вяселле. Бацька Ваня быў у кампаніі

вясельнікаў і пазнаў свой касцюм на былым партызане Кіслым Леанідзе і паказаў нам. Мы сабралі хлапцоў-падлеткаў і на падворку падпільноўвалі, каб раздзець яго. Тым часам бацька ўцяміў, што зрабіў памылку, выбег да нас і даў адбой : "Не чапайце - хай яму мой касцюм будзе на пахаванне"...

**Каханоўская Ядвіга Міхайлаўна**:

*"З Ганчароў калі-некалі прыязджалі паліцаі. Каб трымаць у полі зроку маладых людзей, немцы распачалі торфараспрацоўку на забалочаных сенакосах, якія знаходзіліся за чыгункай. Усю моладзь зганялі на гэтае балота. Яны пад кантролем і аховай капалі торф і складывалі яго брускамі ў пірамíды. Гэтыя тарфяныя брыкеты ніхто нікуды не забіраў і не адпраўляў. Іх пірамíды доўгія пасляваенныя годы стаялі, як помнік людскога зневажання.*

*На гэтыя тарфяныя распрацоўкі хадзіла мая 15-гадовая сястра Ірына і некаторы час мой 16-гадовы брат Браніслаў.*

*Солтыс вёў улік выхадаў на тарфянік і, калі чалавек не выйшаў, то ён заходзіў у дом і высвятляў прычыну адсутнасці на рабоце. Мой брат не хацеў хадзіць на торфараспрацоўку. Згаварыўся з Юзікам Шутом і з яго дапамогай, пашкодзілі брату галенастопны сустаў, падобны на пералом. Юзік прывёў брата да нас дадому. Нага пасінела, распухла. Мама адразу закрычала, у паніцы, не ведаючы, што рабіць. На дапамогу прыйшлі суседкі. Аблажылі нагу гліняным кампрэсам, хтосьці прынёс мазь "Сакольніка". Брат ляжаў на канапцы. На работу не выйшаў. Раніцай з'явіўся солтыс, пачаў правяраць, нават прымусіў зняць абмотку.*

*Пазней выздаравеўшага Браніслава адпраўлялі на будаўніцтва ваеннага бункера ў вёсцы Ганчары. Там ён атрымоўваў інфармацыю пра немцаў і перыядычна перадаваў яе партызанам. (У тым бункеры ў пасляваенны час размясцілася школа.)*



*Мяркую, што ў траўні 1943 года ранняй раніцай насупраць нашага дома спынілася фурманка з акаўцамі (белымі). Адзін з іх зайшоў у наш дом і запатрабаваў, каб Браніслаў (на фота) выйшаў за ім. Яны селі ў фурманку і паехалі ў бок Ліды. У сям'і пачаўся неспакой, плач. Куды і навошта? Праз нядоўгі час брат вярнуўся здаровы і пра нешта распавядаў ціха бацькам. Вось яго аповяд праз дзесяцігоддзі:*"Белыя" загадалі завесці да дома Пазняка Мікалая, паколькі яны не ведаюць, дзе яго дом. Сярод "белых " у павозцы мясцовых не было, усе незнаёмыя. Размаўлялі на польскай мове, не думаючы, што юны фурман усё зразумее, разглядалі спіс, у якім значыліся прозвішчы дроздаўскіх жыхароў. Брат што пачуў, а што падгледзеў і хутка зразумеў, што трэба збегчы. Калі мінулі пераезд, ён пачаў прасіць, каб яго адпусцілі, паказаўшы ім патрэбны хутар і сказаў: "Вунь там, за тымі "кшакамі" (рос хмызняк). "Белыя" параіліся паміж сабой і брата адпусцілі.

Ён пару хвілін пастаяў, пакуль фурманка ад'ехала, а затым панёсся да Валодзі Кудлы (Юрчака ), каб папярэдзіць аб небяспецы. У спісе было яго прозвішча. Далей Бронак канавай пабег у вёску, каб папярэдзіць сям'ю Фёдара Курылы, а тыя, у сваю чаргу, іншых спісачных…

*У тую раніцу абышлося без ахвяр. Пазняк Мікалай убачыў "гасцей" здалёк і ўцёк у балотныя кусты. Паспелі схавацца і астатнія. У тую раніцу 16-ці гадовы брат Браніслаў так выратаваў жыццё аднавяскоўцаў".*

***P.S.*** Неяк пад канец вайны Мікалай Пазняк каля ганчарскага паўстанка затрымаў чалавека, які аказаўся амерыканцам, завялі ў кусты і забілі. Знялі гадзіннік, залатыя ланцужкі і нешта яшчэ. Пры саветах Пазняка асудзілі на некалькі гадоў.

Нягледзячы на жахлівыя часіны вайны, на цяжкую працу, сяляне заўсёды адзначалі хрысціянскія святы, цікава арганізоўвалі адпачынак. Цікава і радасна, святкавалі Каляды.

Перш за ўсё, кожны гаспадар стараўся навесці парадак у сваёй гаспадарцы. Жанчыны мылі, бялілі сцены, усюды падмяталі, засцілалі ложка прыгожымі даматканымі пакрываламі, вокны ўпрыгожвалі каляровымі фіранкамі, выразанымі прыгожымі ўзорамі.

Сцены ўпрыгожвалі рознымі вырабамі з саломы, фасолі. Запальвалі газавую лямпу з абажурам, зробленым з саломкі. Каля печкі, уставіўшы ў трэшчыну, запальвалі лучыну і пад яе святло чыталі ўлёткі.Чырвоны кут, дзе віселі абразы, упрыгожвалі яловымі галінкамі, ад якіх па хаце разносіўся водар лесу.

Сотні расійскіх асоб падвергнуліся "эвакуацыі" - гвалтоўнаму высяленню на захад, у тым ліку і на Лідчыну. На каталіцкія каляды ў1943 годзе чыгуначны цягнік прывёз бежанцаў. Па камадзе выгналі з таварных вагонаў шматпакутных, дрыжачых ад холаду з пустымі сумкамі. Людзі, вывезеныя са Смаленскай і Бранскай абласцей, былі расселены па вясковых домаўладаннях.

У той жа дзень і на другі пачалі групамі і сем'ямі ісці бежанцы з Ліды і ў Дроздава. Сярод іх былі раненыя, яны заходзілі ў дамы адпачыць, пераначаваць. Наша хата стаяла блізка да шашы, па-гэтаму такіх людзей у нас было шмат. Памятаю жанчыну з разарваным плячом. Рана была адкрытай. І пры нас яе чымсці абвязвалі. Людзі стагналі, плакалі, моцна крычалі.

Трэба адзначыць добрыя адносіны мясцовых жыхароў да вымушаных перасяленцаў, якія са слязамі на вачах бралі яду і кланяліся за прыветлівасць. Вяскоўцы дапамаглі пазбавіцца ад заўшыўленнасці газай і мыццём "лугам" з попелам на вадзе. Яны жылі і працавалі ў сялянскіх гаспадарках. Некаторыя з іх хварэлі

на тыф. Але сяляне дапамагалі бежанцам, чым маглі: давалі харчы, адзенне, хворых разбіралі па хатах. Ні адзін з іх не памёр на вёсцы, але пасля вызвалення Беларусі ў асноўным большасць вярнулася на радзіму, і толькі хтосьці застаўся. Яны пасяліліся ў сем'ях, якім патрэбны былі работнікі.

Так дзве сястры-блізняты выйшлі замуж: Анюта за Кудлу Сашу і Маша за Казла Валодзю. Бежанкі Тамара і Жэня жылі і працавалі ў Пазняка Юзафа і Ашмяны Вані. Бежанец Бурдзей Іван жыў у Трапячыхі.

Далей выбраны матэрыялы пра партызанскі атрад "Іскра".

Не дажыўшы да перамогі над фашысцкай Германіяй, загінулі ў барацьбе за Радзіму партызаны-камсамольцы Уладзімір Кудла, Іван Кудла, Віктар Кумпяк.

**Кудла Елізавета** (Альжбета) Юльянаўна,1888 г.н. На краі вёскі хата. Зямлі - 3,36 га, ворыва - 1,88, выган - 1,06 га. У сувязі з тым, што муж Канстанцін памёр раней, на вядзенне гаспадаркі прыехаў з Дакудава брат Альжбеты - Місь Васіль Юльянавіч, 1894 г.н, разумны, адукаваны, хораша спяваў. Пры "першых Саветах" выступаў на сходах, ды аднойчы штосьці не так сказаў пра ўладу. Арыштавалі, пасадзілі на некалькі год і з пачаткам вайны вярнуўся да сястры гаспадарыць. З-за партызан-пляменнікаў Васіля Юльянавіча забілі акаўцы ў Бяліцы 25 чэрвеня 1944 года.



Пра сыноў. **Ваня Альжбецін**, 1915 г.н. таксама хораша спяваў. Ваню забілі немцы ў 1942 годзе. Ён ішоў дахаты, на пераездзе сустрэўся з абходчыкам хахлом Мікалаем: "Што ты, Ванька, самагон нясеш?" Абмацалі, знайшлі пісталет і запал ад гранаты. Як брата партызана Валодзі, завялі ў Даржы, загадалі выкапаць яму на беразе Дзітвы і расстралялі. Перахаваны каля Ганчарскай царквы (на фота яго помнік).

**Валодзя** (абзывалі “байструк”). "Я - байструк з Божых рук, а ты з казінай сракі"... Валодзя быў чэсным, сапраўдным партызанам, вазіў партызанам патроны, ваяваў, удзельнічаў у падрыве цягнікоў. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Забілі ў сутычцы свае партызаны, ці то дзевак не падзялілі.

Напісаў **Лернер Іосіф Беркавіч (Барысавіч)**, нам. камісара атрада імя Арджанікідзэ па камсамольскай рабоце, пасля вызвалення раёна першы інструктар Лідскага ГК ЛКСМ, намеснік начальніка ГУПА МУС Ліды па палітычнай частцы, потым нам. начальніка ГПО па палітычнай частцы ў Гародні.



***Кудла Уладзімір Канстанцінавіч, здымак 1940-х гадоў***

***Кудла Уладзімір Канстанцінавіч,*** *"афіцэр" (1921 -18.03.1944) нарадзіўся ў Дроздаве, камсамолец. Відавочцы расказвалі, што сумесна з іншымі хлопцамі вёскі Драздова ўжо ў першыя дні вайны не даваў фашыстам спакою. Яшчэ да ўзнікнення атрада "Іскра" Валодзя Кудла ноччу здзяйсняў аварыі на чыгунцы: з уласнага ручнога кулямёта абстрэльваў чыгуначныя масты. Гэта па закліку свайго сэрца рабіў юны бясстрашны патрыёт задоўга да ўзнікнення атрада.*

*З красавіка 1942 г. у групе Радзецкага-Громава, у "Іскры" з лютага 1943 г., спаліў фанерную фабрыку. У баі пад Покасцю, калі немцы і паліцыя наляцелі на атрад і атрад вымушана адышоў, кулямётчык Уладзімір Кудла і яго чатыры партызаны завязалі бой. Застаўшыся на месцы для забеспячэння адыходу, яны трапным агнём паклалі двух і некалькі паранілі, пасля чаго прымусілі да ўцёкаў вялікую нападаючую групу немцаў і паліцаяў. У баі з белапольскай бандай у вёсцы Боркі, калі на групу партызан зрабіла налёт адна з белапольскіх банд, то першым агонь адкрыў кулямётчык Кудла Валодзя і пасля прыкрываў адыход усёй групы. У гэтым баі знішчыў 5 белапалякаў і 9 параніў. Пад Рудой падрыўная група партызан у колькасці 4-х чалавек пад камандаваннем кулямётчыка Кудлы Уладзіміра была абстраляна белапалякамі, у завязаным баі гэтая група знішчыла 5 белапалякаў, а частка разбеглася. Гэтая маленькая група ўзяла трафеі - 4 вінтоўкі.*

*Ва ўсіх астатніх баях з ворагамі Кудла Уладзімір ніколі не кідаў сваіх таварышаў, заўсёды быў наперадзе і выратоўваў сам у самым бязвыхадным становішчы.*

*Добра валодаючы польскай мовай, з сябе ўдаваў "польскага партызана"... Кудла выяўляў сярод цывільнага насельніцтва шпіёнаў і асоб, якія працуюць на белапалякаў. Гэта быў самы дзейны і няўрымслівы партызан. Амаль не было выпадку, каб Уладзімір Кудла, будучы паблізу чыгункі, не абстраляў бы "штрайфу". Гэта была яго хвароба, у яго заўсёды меліся дзясяткі планаў: як зрабіць засаду на трох немцаў, якія ездзяць у Панявічы прадаваць газу, як знішчыць чатырох немцаў, якія ездзяць па раніцах у Ганчары па рабочую сілу, як вылавіць якую-небудзь "сволач" і г.д. Нястрымная баявая дзейнасць - гэта быў яго запал.*

*За ўсю сваю партызанскую дзейнасць Кудла Уладзімір п'яны ніколі не быў, быў дысцыплінаваным, смелым партызанам-камсамольцам. Не было выпадку,*

*каб ён, адпраўляючыся на якое-небудзь заданне, не ўзяў бы з сабой зводак Саўінфармбюро, газет, улётак. Паказваючы сваім таварышам свой камсамольскі білет, ён ганарыўся гэтым, таму што быў адзіны, які захаваў камсамольскі білет у атрадзе.*

*Летам і зімой насіў афіцэрскае савецкае абмундзіраванне.*

*Гэтую сваю прыналежнасць да Ленінскага камсамолу пацвярджаў шматлікімі баявымі справамі. За яго баявую дзейнасць камандаванне ўзнагародзіла ўрадавай узнагародай - ордэнам Чырвонага Сцяга, рыхтавала матэрыял да другога прадстаўлення. За яго кіпучую дзейнасць, за смеласць, выручку ў баі, дружбаю прывязаліся да яго таварышы і за гэта ж любілі яго камандзіры.*

*Пры выкананні задання каля вёскі Альхоўка загінуў у сутычцы Уладзімір недарэчна. Мажліва, з-за канкурэнцыі за прыгожую дзяўчыну партызанку, яго выпадкова застрэліў камісар атрада "Акцябрскі" Дзяругін Ф.Н. і атрымаў вышку.*

*Вось чаму пры труне загінулага Кудлы Уладзіміра, партызаны (Коннаў, Цімафееў) не саромеючыся, плакалі, развітваючыся са сваім таварышам. Быў бы сярод нас пісьменнік, то несумненна скарыстаўся б вобразам Валодзі для стварэння прыгожага твора. На подзвіг падобна подзвігу Матро-сава былі здольныя многія з партызан атрада "Іскра", але першым здзейсніў бы яго, я ўпэўнены, Уладзімір Кудла, які марыў стаць савецкім афіцэрам. Я быў сведкам, з якім гонарам ён нам хваліўся сваім камсамольскім білетам".*



Пахаваны Уладзімір Кудла ў Ганчарах каля царквы ( на фота).

**Кудла Іван Канстанцінавіч (Унучкоў),** (1924-1943), з Дроздава. У 16 гадоў уступіў у камсамол, высокі, сімпатычны, хадзіў у школу. У атрадзе "Іскра" з чэрвеня 1942 г. быў актыўным партызанам, удзельнічаў у баях з фашыстамі.

Так, 12 снежня 1943 года група падрыўнікоў з удзелам Кудлы Івана пад кіраўніцтвам Бутоўскага на чыгунцы Ліда-Гародня ля вёскі Далекія з дапамогай авіябомбы з толавой шашкай пусціла пад адхон варожы эшалон з жывой сілай. Наваколле азарыла яркая ўспышка, прагрымеў моцны выбух. Праз імгненне, паравоз моцна штурхнула, але з рэек ён не сышоў.

Частка гітлераўцаў прыйшла ў сябе, стралялі ва ўсе бакі, не ведаючы, дзе знаходзяцца партызаны. А партызаны тым часам усё далей і далей адходзілі з месца дыверсіі.

Быў выпадак з Ванем Кудлам, будучы ў бацькоў на хутары, застаў немцаў на падворку і спрабаваў адабраць вінтоўку ў акупанта. Той не здаўся і выстраліў, добра што міма пляча Вані, і той даў ходу.



***Фатакартачка 1940 года***

**Бацька Кудла Канстанцін (Унучкоў)** (1898-1943гн.) граматны, разумны, пры "першых Саветах" быў дэпутатам Ганчарскага савета. У той дзень, калі на хутары шасталі немцы, Косця пачаў хавацца каля свайго хлява. Выбег за гумном і прыгнуўшыся, пад жытам прылёг. Усклікнуў паліцай: "Стой!" І стрэлілі ў спіну, паранілі і дабілі прыкладам.

Загінуў і сын **- Ваня Кудла -** актыўны партызан. Неяк акупанты вакол Пудзіна рабілі аблаву. Ваня ў вёсцы выконваў заданне камандзіра. Калі немцы акружылі і шукалі партызан, Ваню ўдалося ўцячы і схавацца за вёскай ў бульбяной яме. Немцы прачэсвалі ваколіцу, шукалі і знайшлі, выцягнулі і забілі Івана. Пахаваны ў Ганчарах каля царквы.

**Кумпяк Віктар Вікенцьевіч** (1922 -1943) з Дроздава адзін з першых камсамольцаў у Лідскім раёне. Хлопец пісьменны, цямлівы, зрабіў ровар з дрэва і катаўся па брукаванай вуліцы. Пайшоў у партызаны за Бярозаўку ў атрад"Іскра". Удзельнічаў у актыўных баявых нападах на нямецкія гарнізоны, мініраванне чыгуначных рэйкаў.

Неяк на мастку над чыгункай смяльчак праходзіў на парэнчах. Пры закладцы пад рэйкі чыгункі падарваўся на міне. Так загінуў пры спробе падрыву эшалона акупантаў, пахаваны ў Ганчарах.

**Кудла Васіль Васільевіч (Базыль)**, 1898 г.н., быў адукаваны, граматны, меў кніжкі, у польскі час быў старшынём мясцовай "Грамады", цяпер нікуды не ўлазіў. Жонка Антаніна Іванаўна, 1888 г.н. (Васілёва). Сыны Толя з жонкай Зояй былі настаўнікамі. Настаўнікам пры немцах быў і сын Жорж, жыў ў Слоніме. Немцы добра ведалі пра гэта і не перашкаджалі мужчынам з Дроздава і Жучкоў збірацца ў хутаран. Пэўна, хацелі паказаць свой нейтралітэт. Толькі працягваўся ён нядоўга.

Восенню 7.11.1943 г.на хутар да Васіля Кудлы з'явіліся акаўцы, бо ўведалі што начаваў Іосіф Лукашэвіч з Жучкоў. Бандыты бязлітасна збілі яго прыкладамі і тут жа застрэлілі з-за таго, што брат быў у партызанах. Тут жа гаспадару хаты Васілю Васільевічу забрахалі: "Ты

добры чалавек, але хаваў бандыта, станавіся да сценкі!" Не білі, адразу застрэлілі.

Да сказанага варта дадаць, што трагедыя разыгралася ў хаце, якая знаходзілася літаральна за некалькі дзясятках метраў ад нямецкага паста. Стала ясна, што аперацыя была ўзгоднена акаўцамі з фашыстамі. З той чорнай раніцы дроздаўскія мужчыны асцерагаліся начаваць на хутары, што знаходзіліся непадалёк ад нямецкага паста, які ахоўваў чыгунку.




**Дзявяты Іосіф (Юзюк) Рыгоравіч (Салаткавы)**, 1890 г.н., маці Дамяніка,1864 г.н.,жонка Надзея Іосіфаўна, 1892 г.н., сыны: Косця,1927 г.н., Ваня 1934 г.н., дочкі: Вера 1931 г.н., Саша 1937 г.н. Жылі на хутары Любаўшчына, зямлі мелі амаль 9 гектараў, добра вялі гаспадарку. Мелі кабылу, карову, свіней і авечак. У той дзень (1943 г.) каля чыгункі чагосьці пайшлі перастрэлкі. Юзюк, замарыўшыся ад працы, зайшоў у хату і прылёг на ложку. Хтосьці стрэліў у сцяну, куля раніла ў жывот, і праз некалькі гадзін памёр ва ўласнай хаце. Родныя дзеці пахавалі бацьку і потым доўга так і не высветлілі, хто забіў і за што…

**Курыла Дарафей Рыгоравіч**, 1870 г.н., жонка Чыжык Аляксандра Міхайлаўна,1889 г.н. з Дзітрыкаў. Роднага яе брата Івана (Ванюся) немцы арыштавалі і дзесьці ў турме і загінуў, больш яго не бачылі… Мужу, Дарафею Рыгоравічу, было за 70 год, здавалася б, што ўзяць ад старога - малоў муку для партызан. Але з-за партызанства сыноў Фёдара і Гены ўсё ж забілі ў 44 годзе белыя у Бяліцы.

Калі хавалі Дарафея, жонка Алеся самлела і Тома Грос з ёй разам. Думалі, што хворая. Дочка Ніна,1929 г.н.

**Курылаў Фёдар Дарафеевіч** распавядае (дырэктар Лідскага краязнаўчага музея Хатылёў запісаў):

*"У Дроздаве нас было 8 камсамольцаў. Калі прыйшлі немцы, мы пачалі рыхтавацца да барацьбы з акупантамі. У нас быў у кожнага пісталет і нават адзін станковы кулямёт. Дасталі радыёпрыймач і паставілі ў Шута Сяргея Іосіфавіча на хутары каля Нёмана паблізу Агароднікаў. У лютым 1942 года сышлі ў групу Радзецкага я, Шут Генадзь, Кудла Іван і Кудла Уладзімір і пачалі дзейнічаць.*

*Міхаіл Раманавіч Радзецкі з Пудзіна, камуніст, дэпутат Народнага сходу Заходняй Беларусі і член камісіі па выпрацоўцы дэкларацыі ў 1939 г., старшыня Дакудаўскага сельсавета ў 1940 г., начальнік аддзела сацзабеспячэння Лідскага гарвыканкама ў 1941 г., пачаў хавацца з ліпеня. Пасля акупацыі пайшоў у лес, арганізаваў падпольную групу. Прыкладна ў красавіку нас было ў атрадзе 35 чалавек. У траўні 1942 года мы разбілі ўвесь гарнізон у Бярозаўцы. Потым разбілі станцыю Яцукі, Уселюб.*

*Атрад яшчэ папоўніўся за кошт мясцовых жыхароў і часткова за кошт ваеннапалонных. З самага пачатку арганізацыі камандзірам быў Траццякоў Антон, ваеннапалонны лейтэнант. У пачатку чэрвеня да нас далучылася група Громава ў колькасці 5 чалавек, і ён абіраецца камандзірам, а камісарам застаецца Радзецкі. Навагрудскую Бердаўку разбівалі пры ўдзеле Громава, разбівалі Збойск Іўеўскага раёна. Забілі ў 1942 годзе Лідскага гебітскамісара або яго намесніка. Яны ехалі на трох машынах. Мы зрабілі засаду. Было чалавек 30 немцаў. Перабілі ўсіх немцаў і спалілі машыны. Мост на Дзітве за Даржамі палілі двойчы. Разбівалі Белагруду разам з брыгадай Варашылава, камандаваў Макараў.*

*У восень 1942 года не стала Громава. "Громава забіў Радзецкі. Радзецкі быў дружны з Лявонам Даўлюдам і яго жонкай Сюзанай, жылі яны на хутары Ясінава Навагрудскага раёна. Да іх дачкі заляцаўся Громаў і адвёў іх дачку з сабой у атрад. Сям'я настойвала, каб Радзецкі пакараў Громава ". (Багмут Е.І.).*

*Радзецкі камандзірам атрада сам не хацеў быць і не быў ім. На сувязь з падпольшчыкамі ў Ліду пасылалі актыўных сувязных Шута Сцяпана, Быстрыцкую Марыю, Ярашэвіч Веру, Кучынскую Веру, Жукава Пятра.*

*У Навагрудскім раёне мы зладзілі засаду на немцаў. Але пра нашу засаду немцам паведаміў мясцовы солтыс. Быў базарны дзень. Для сваёй бяспекі немцы, вяртаючыся з Навагрудка, пасадзілі на падводы мірных жыхароў і самі па адным размясціліся на падводах. Адкрываць агонь было немагчыма. Мы знялі засаду. Як толькі мы знялі засаду немцы адкрылі агонь. Былі забіты два нашыя партызаны. Праз некаторы час мы прыйшлі шукаць прадажніка-солтыса. Зайшлі на хутар, там сядзеў мужчына. Мы спыталі, дзе знаходзіцца солтыс.*

*А гэта быў сам солтыс. Бачачы, што ён хоча ад нас ўцячы, мы вырашылі яго не адпускаць. Ён павёў нас у свой дом. Зайшоўшы ў дом ён спытаў у сваёй жа жонкі: "Дзе твой гаспадар?". Жонка адразу смякнула і сказала, што ён пайшоў дзесьці на хутар. Мы разам паехалі на другі хутар. Як толькі заехалі ў лес, ён саскоквае з падводы і бяжыць у лес. Я кінуўся за ім наўздагон, пры гэтым, каб хлопцы не стралялі, крыкнуў ім, бо маглі забіць і мяне. Я пераследваў солтыса метраў 150, пакуль не дагнаў і не забіў.*

*Неяк вярталіся дадому, каля хутара Звяркі, побач Пудзіна нас сустрэла група партызан з атрада Чапаева, прыкладна чалавек 20, усе ўзброеныя. Падышоўшы да нас яны звярнуліся да Радзецкага, каб ён здаў сваю зброю. Радзецкі зброю аддаў. Нас яны не чапалі і зброі не адбіралі. Ад'ехаўшы метраў сто, яны з аўтамата (хто менавіта і за што - невядома) стрэлілі ў Радзец-*

*кага. Міхаіл Раманавіч паспеў толькі крыкнуць: " Паміраю за Сталіна!". Спачатку ён быў пахаваны каля хутара, а затым дзесьці перапахаваны.*

**Багмут Е.І.** *"Радзецкага забілі партызаны з атрада Чапаева. Курыла стаяў разам з Радзецкім пад адным кустом. Гэта было 19 лютага 1943 г. Але Курыла здолеў уцячы ў адных шкарпэтках. А перад гэтым Радзецкі адправіў усіх рускіх на ўсе чатыры бакі. Яны засталіся чалавек 9 і хісталіся сяк - так.*

*20.03.1943г. Кудла Уладзімір, Курылаў Фёдар, Селіванаў, Арлюк, Тыгр, Белазёраў, Лучко, Кісялеўскі, Кудзі Саша, Кудзі Жэня ўзарвалі эшалон у раёне чыг. станцыі Агароднікі каля Нёмана".*



***P.S.*** Курылаў Фёдар Дарафеевіч нарадзіўся ў 1922 г. у в. Дроздава, адукацыя 7 класаў. У 1941 г. партызаніў у групах Радзецкага, Громава, у атрадзе "Іскра". З 10.02.1942 года начальнік агентурнай разведкі, арганізатар падрыву нямецкай аўтамашыны 23.03.1944 г.

Узнагароды: ордэны, медалі. Пасля вайны некаторы час быў старшынём калгаса ў Сяльцы *(на фота)*. Нават зрабіў добрыя паказчыкі гаспадаркі, чакаў узнагароду. Але высветлілася, што закуплялі на рынку масла, яйкі і здавалі за калгас. Скінулі са старшыні, і ён пераехаў у саўгас "Лідскі " заўгасам, з 1973 г. у в. Жырмуны Лідскага раёна.

**Курылаў Генадзь Дарафеевіч** у 15 гадоў стаў партызанам.

23 сакавіка1944 група партызан у колькасці 6 чалавек пад камандаваннем камандзіра звяза Аляксандра Балтунова ў складзе: Аркатаў Емяльян, Курылаў Генадзь, Сапешка Барыс, Кудла Іван, Шуціла Яўген на дарозе Ліда - Наваградак узарвалі нямецкую аўтамашыну. Адзначыліся Аркатаў, Курылаў і Шуціла.

У 1948 г. прызваны ў Чырвоную Армію. Жаніўся з Дзявятай Галінай Антонаўнай, 1929 г.н. Трактарыст, брыгадзір калгаса, узнагароджаны ордэнамі Кастрычніцкай рэвалюцыі і "Знак Пашаны".



***Фота 1943 года***

**Данейка Леанід Канстанцінавіч**, 1923 г.н., жыў на хутары "За масток" у Дроздаве за Дзявятымі, бесталковы і да маці Антаніны Іванаўны ставіўся дрэнна. У пачатку 1940 года пры "першых Саветах" быў у камсамольскай арганізацыі мясцовых камсамольцаў. Быў партызанам у п/а "Іскра", удзельнічаў у многіх аперацыях. Партызаны каля падворка стралялі па паўстанку Ганчары.

Пасля вызвалення раёна быў агентам Герваніцкага сельсавета...



**Быстрыцкая** (**Хімінчук** -у замужжы) **Марыя Іванаўна**, 1922 г.н., з вёскі Дроздава. Адукацыя 4 класы, да вайны працавала ў цырульні. З вясны 1943 г. па заданні атрада працавала ў інтэрнаце нямецкіх лётчыкаў на аэрадроме, перадавала інфармацыю пра дзейнасць акупантаў. У чэрвені 1944 г. з Паўночнага гарадка сумела вывесці ў партызанскі атрад "Іскра" 26 ваеннапалонных.

**Жамойцін Канстанцін Іванавіч**,1899 г.н. гаспадарыў на дроздаўскім хутары "Цімошкаўня". Ажаніўся з полькай Фёкла Юльянаўнай,1884 г.н., і сам перапісаўся на каталіка, бралі шлюб у касцёле. Нарадзіліся дзеці: Уладзімір,1926 г.н., Ірына,1934 г.н., Канстанцін, 1939 г.н. Старэйшы сын Антак,1923 г.н., пайшоў на вайну радавым салдатам і не вярнуўся, памёр ад ран 3.10.1945 г., Пахаваны ў г. Дзяржынск Горкаўскай вобласці. Канстанцін Іванавіч - радавы 3-й роты п/а "Іскра", удзельнічаў у падрыве аўтамашыны 7.05.1944 г.



**Кухарскі Аляксандр Іосіфавіч** нарадзіўся ў 1908 г. у в. Даржы. У атрадзе з кастрычніка 1942 года.У Даржах 14.02.1944 года нямецкія фашысты расстралялі ўсю сям'ю партызана Сашы: маці Вольга,1890 г.н., сёстры Марыя, 1924 г.н., Зіна, 1914 г.н. Пахаваныя на могілках Ганчарскай царквы.

**Максімовіч Васіль Аляксандравіч** нарадзіўся 5 чэрвеня 1924 года ў в. Дроздава ў сялянскай сям'і. Калі пачалася вайна Васілю было ўжо 17 гадоў. Працаваў на гаспадарцы бацькі: партызанам не быў, у сям'і існавала правіла, асабліва яго

прытрымлівала маці: “Пойдзеш у партызаны - будзеш рабаваць і забіваць. Табе гэта трэба?” Жыў спакойна, нікога не пакрыўдзіў.

***Запісаў на дыктафон В.К.***

*“Успаміны пра вёску Дроздава з ваеннага часу. Немцы ў кожнай вёсцы прызначалі солтыса. У Дроздаве на гэтую небяспечную пасаду трапіў 50-ці гадовы Аляксандр Кумпяк па мянушцы "Кажаш". Ён быў настолькі бедным, што не было чым накрыць нават дах хлява, дзе зімавала карова. Чалавек меў невялікі кавалак зямлі, маленькую хатку, але заўсёды ў іх было чыста. Хата была за Беляўскімі, затым - Вінцуковых. Ніколі не хапала хлеба. Зімою нават карову заводзілі ў хату, затое Бог паслаў яму пяцёра дзяцей. Аляксандр лічыўся простым і бяскрыўдным, хаця непісьменным чалавекам. Але старастам выбралі менавіта яго, бо ведалі, што ён у крыўду аднавяскоўцаў не дасць. Вось усе дружна і вырашылі выбраць яго солтысам. Не прыдзіраўся ён да людзей, жыў з людзьмі па-людску. Вяскоўцы не мелі на яго крыўды. Становішча солтыса ўскладнілася, калі 20-ці гадовага сына Фёдара загналі ў паліцыю. Яны ўпіраліся абодва, ды немцы прыстрашылі. Фёдар не выслужваўся ў немцаў, нават шукаў сувязі з партызанамі, хацеў супрацоўнічаць з імі...”*

Партызаны ліквідавалі ўсю сям’ю солтыса. Былі забітыя:

Кумпяк Аляксандр Васільявіч, 50 год;
Кумпяк (Шут) Юлія Янаўна, жонка, 45 год;
Кумпяк Фёдар Аляксандравіч, 20 год;
Кумпяк Ганна Аляксандраўна, 18 год;
Кумпяк Зіна Аляксандраўна, 12 год;
Кумпяк Іван Аляксандравіч, 22 гады;
Кумпяк Стэфка,жонка, 19 год.

Назаўтра суседзі-аднавяскоўцы баяліся заходзіць у хату. Аднавяскоўцы ўсю сям'ю "Кажаш" загарнулі ў палотны і пахавалі на бяняўскіх могілках у адну яму.

Назаўтра ж пасля забойства сям’і солтыса ў вёску наляцелі немцы, паліцаі, шукалі партызан, пачаліся пагрозы, ультыматумы. Прайшла чутка, што будзе праходзіць акцыя - знішчэнне жыхароў.

**Каханоўская Ядвіга Міхайлаўна:**

*“Бацькі хуценька сабралі нас з меншым братам Іванам (яму было тры гады). З нашуйкай за плячыма з братам на руках і я, учапіўшыся за спадніцу, маці павяла нас праз выган, поле, балота да родзічаў - Паўліны Ненартовіч на Жучкоўскі хутар, які размяшчаўся за балотам, паміж вёскамі Супраўшчына і Дзітрыкі. Ішлі босыя, хаця ўжо была позняя восень. Было холадна і голадна. Сям'я цёткі была вельмі беднай.*

*Праз тыдзень назад дадому прывёз тата.*

*Якія ўмовы ставілі немцы перад жыхарамі, я не ведаю. Ведаю адно - усе засталіся жывыя. Напэўна, і немцы сваіх падсобнікаў не цанілі высока! Відавочна, што "акцыі" такога кшталту ажыццяўляліся невыпадкова. Мэта - застрашыць насельніцтва і дабіцца яго поўнай паслухмянасці.*

*На тым, што здзейснілі чырвоныя партызаны, не скончылася трагедыя Дроздава. Наперадзе былі амаль два гады акупацыі і сапраўднага бязмежжа трох узброеных груповак на Беларусі”.*

**Шут Зоя Канстанцінаўна**, дачка, Кастуся Янава запісала:

*“Пры акупацыі прыходзілі чырвоныя партызаны, прасілі паесці. Бацькі давалі сала, кумпяк, яйкі. Я не помню, каб яны самі шукалі што-небудзь у хаце.*

*А вось аднойчы прыйшлі "белыя", штосьці пагаварылі і забралі бацькаў пінджак з польскай арміі. Бацька ў 1939 годзе служыў у польскай арміі. "Белым" патрэбна было абмундзіраванне. Порткі бацька паднасіў, а пінджак захаваўся ў добрым стане.*

*Праз некалькі гадзін прыйшлі немцы і запыталі: "Хто ў вас быў? Партызаны?Ды не, а белапалякі".Усё ж такі забралі бацьку і павялі ў Даржы на мост, дапытвалі. У кар'еры, дзе бралі гравій, заселі партызаны і стралялі ў бок моста. Бацька напалову размаўляў па-нямецку, што не звязаны з чырвонымі. Але малодшаму немцу далі загад расстраляць бацьку. На той бок, за чыгункай, жылі Янчыкавы (Кудла Сяргей). Прывёў бацьку туды немец, адпусіў і сказаў: "Маці, калі адпраўляла на фронт, сказала, каб ад маёй рукі ніхто не загінуў. Ідзі, мужык, да дому і маліся за маю маці".*

*Калі пад канец вайны немцы адступалі, яны распалажыліся ў нашым чыстым падгрэбеным ляску. Тут жа былі іхнія кухня, палаткі, рацыя…*

*Было трывожна. Бацькі вырашылі з'ехаць ад магчымага бою. Бацька запрог каня, прывязаў да воза карову. Паехалі ў Навасады да сваякоў, дзесьці ў падворку размясціліся, часткова і ў хаце. Малодшаму брату Мішу быў адзін годзік і ён плакаў. Раздзелі, а ён увесь у тараканах, напэўна блашчыцы ўпіліся ў маладое цельца. А бабуля Агаф'я Лаўрэнцьеўна, 1858 г.н., не паехала, на вёсцы прымала роды”.*

З вясны 1944 года стратэгічная ініцыятыва апынулася ў руках Чырвонай Арміі, фашысцкія войскі каціліся на захад. Падчас адступлення з тэрыторыі Беларусі гітлераўцы праводзілі палітыку "выпаленай зямлі". Так яны спалілі некалькі хатаў на дроздаўскіх хутарах.



**Козел Уладзімір Міхайлавіч**, 1932 г.н.

*“Кубарчыкі жылі на краі вёскі, бедна. Зямлі - 1,70 га., ворыва толькі - 13 сотак. Астатняе - сенажаць, выган, кустарнікі, неудобіца. Мелі кабылку і карову, плуг, барану, сячкарню… Бацька Міхаіл прывёз з Расіі, дзе былі ў бежанцах, жонку сімпатычную, працалюбівую Пелагею Антонаўну. Радзіла Валодзю і Віктара. Уладзімір узяў Машу-бежанку. Сястра Ганна выйшла замуж за Іосіфа Кудлу (Унучкава), і былі яны бяздзетныя. Віктар Козел падтрымліваў "акаўцаў". Бацька Міхаіл памёр рана. Пелагея выйшла замуж за белапаляка (Кастусёва?). Той выйдзе на вуліцу: "Бэндзем страляць камуністаў". І ўсё! Неяк прыйшлі чырвоныя партызаны, забілі яго. Хавалі сваякі. За гэта "акаўцы" з Пелагеі здзекаваліся і забілі ў Беліцы 25 чэрвеня 1944 года”.*

**Козел Віктар Міхайлавіч (Кубарчык)**,1923 г.н., прыгожы, жаніўся з Нінай Жамойцінай, 1921 г.н., вяселле згулялі - і усё! Не жылі - разышліся.

І да яе прыбіўся вайсковы расеец Сяргееў Аляксандр, бязрукі. Пасля вызвалення раёна працаваў ваенруком у Ганчарскай школе.У іх нарадзілася Кацярына, 4.02.1947 г. Потым, можа праз год, Ніна сышла і ад яго.





**Кудла Канстанцін Адамавіч**, 1886 г.н. (Солтусавы, Кастуськовы), жонка Марыя Васільеўна, 1888 г.н. Сын Коля спачатку пайшоў у партызаны, але бацькі накрычалі, што акупанты заб'юць усю сям'ю. І ён больш не пайшоў у лес. Неяк быў на танцах у Канюшанах, цягнулі сячкарню, засталі чырвоныя партызаны." Чаму кінуў партызанства?" Вывелі і застрэлілі.

**Кудла Віктар (Юльчыкаў)**, 1933 г.н. *(Запіс В.К. у Бярозаўцы ў 2011 г.)*

*“Быў выпадак. Мне было 11 год, я пабег з хутара ў вёску да Косці Кумпяка на падворак, а там "белы"і мне ў зубы дула вінтоўкі. Другі акавец падбег і выратаваў: "Што ж ты малога ставіш да сценкі?" Адпусцілі.*

*Каля пераезда жыў Мікалайка Шут (Гарбаценькі), Юзіка Шута бацька. Немцы знайшлі пад рэйкамі міну. Узялі Мікалайку і прымусілі дастаць міну і аднесці ўбок. На шчасце яму ўдалося ціхенька адкапаць і бяспечна дастаць міну.*



*Другі выпадак. Акаўцы загадвалі здаваць малако. Я нёс бляханчык за пераезд да Петравых (Ненартовічаў). На пераездзе прайшоў цягнік, і толькі мінуў мосцік, што каля "Разумеша" (Шута) - і выбух. Поезд - чах-чах і стаў на шпалах. Прыбеглі немцы, і на шчасце мяне не чапалі. А тут жа выпадкова ішоў Козел Шурык - сын Аксенькі, чамусьці яго западозрылі ва ўдзеле ў мініраванні, хаця ён не быў звязаны з партызанамі. На жаль, гэтым усё не закончылася. Яго трымалі ў даржаўскім нямецкім гарнізоне. Па словах сведак, мучылі, цкавалі сабакамі. Яго замучалі да смерці і закатавалі.*

*Неяк я хадзіў па грыбы, не баяўся. Пераезд ахоўваўся. Бункер быў агароджаны калючым дротам, абнесены бярвеннямі, паміж іх - пясок. Пасу каровы, ганю цераз пераезд. З вышкі над галавамі страчаць з кулямёта. Білі з бункера мінамётамі. Каровы падалі, і я прылёг пад кустом хмызняку.*

*Так было абнойчы. Дзеці палілі кастры, клалі патроны. Выбухі. Прыбягалі з бункера паліцаі, думалі, што атакуюць партызаны. Выйшаў у нямецкай форме ахоўнік, па польску запытаў: "Што ўзрываеце, для чаго? Каб больш такога не было, а то расстраляем".*

**Шут Зянон Іосіфавіч**, мянушка **“Дзескаць да”**. Гаспадарка пад канец вёскі, каля шашы… Мікалай Мікалаевіч Дзікевіч вучыўся ў школе разам з сынамі Жоржам і Віктарам. Пры Польшчы Зянон Іосіфавіч быў вясковым актывістам, пры "першых Саветах" членам КПЗБ, супрацоўнічаў з уладай.



Зенон быў башкавіты агітатар, разумны, адукаваны, пісаў вершыкі, прашэнні за аднавяскоўцаў. Усё жыццё быў за Савецкую ўладу. З пачаткам вайны гэта ён арганізаваў у вёсцы партызанскую групу з вясковых хлапцоў. Тут былі і яго сыны. Але яму не далі камандаваць. Пакрыўдзіўся. А жонка Зіна, родам з Ваўкавыска яму кажа: "Ты ж у арміі не быў, чаго прэшся камандаваць?"

Сыны Віктар і Жорж, спачатку пайшлі ў партызаны. А калі Зянон даведаўся, што некторыя чырвоныя партызаны ходзяць і абіраюць людзей, сказаў. "Дзескаць да! Трэба чэсна ваяваць, а не абіраць".

Тады і сам не пайшоў, і сыноў забраў. Жорж пачаў працаваць на чыгунцы, потым перавялі ў паліцаі. Жонка Віктара - Зіна з Ваўкавыска.

Партызаны вырашылі з імі расплаціцца і Зянону стала вядома.Усю сям'ю адправіў з хаты, сам адзін застаўся. А калі пачалі страляць, схаваўся паміж печчу і сцяной. Потым учуў, што хтосьці выламаў аконную раму і сунуўся у пакой. Зянон падбег і абухам сякеры так лупануў па галаве, што той зваліўся назад, а сам заскочыў на гарышча. Жонка Зіна сядзела на агародзе ў бульбяной яме і бачылала як ваякі - Гена Сцёпаў, Федзя Курылаў, Іван Унучкаў, Валодзя Альжбецін насілі салому і, аблажыўшы вакол хаціны, падпалілі.

З дымам Зянон праз шчыт выскачыў на зямлю і босым перабег да Юзюка Кудлы. Далі анучы, абкруціў ногі і дабег да Трапілы (радня).

Будучы ў маіх бацькоў у 1972 годзе перадаў вершыкі:

*Калі ты будзеш рабаваць, забіваць людзей,*
*Што вы павінны чакаць назаўтра ад іх?*
*Зрабіў бандзе я папрок спыніць бандыцтва!*
*Загубішы сваю сям'ю,*
*неабходна ў сорам мірыцца…*

Калі сыноў напрыканцы вайны арыштавалі, забралі ў Польшчы, то Зянон з'ездзіў у Маскву. Паказаў дакументы, што пры Польшчы быў камуністам. Заступіўся за сыноў, і іх адпусцілі. Сыны Віктар і Жорж трапілі на Захад, а пасля перабраліся ў Аўстралію. Коля Грэбень з імі дзесьці там сустракаўся і адаслаў з Амерыкі іхняе фота да нас.



**Шут Філіп Міхайлавіч**,1909 г.н. На выдзеленую зямлю недалёка ад пераезда перанеслі хатку, хлеў, а гумно не закончылі да 1940 года. Зямлі - 3,70 га, ворыва - 2,70 га, астатняе выган і крыху лесу.

Жонка, полька Станіслава Пятроўна,1918 г.н. Немцы засталі ў хаце партызан, яны ўцяклі праз гарышча. За гэта немцы забілі Станіславу.

Неабходна адзначыць, што ў апошнія гады пачалася актывізацыя белапольскіх банд, і прычым тэрарыстычную сваю дзейнасць яны накіроўвалі не толькі на сем'і партызан, але нават супраць сялян, якія здавалі пастаўку прадуктаў партызанам.

З успамінаў **Галіны Якубаўны Кудзі**, жыхаркі в. Дакудава:

*"Мы тут побач на хутары жылі. Страшна вельмі было. Я маленькая яшчэ была (1939 г. н.). Памятаю, што прыходзілі да нас гэтыя бандыты ў белых кажухах да каленяў. Мне здавалася, што за гэта мясцовыя называлі "белымі" воінаў Арміі Краёвай, ад якіх ішла вялікая пагроза. Асабліва распраўляліся акаўцы з сем'ямі, члены якіх былі ў чырвоных партызанах або падтрымлівалі чырвоных партызан.*

*У вяскоўцаў з партызанамі Арміі Краёвай адносіны не складваліся. Акаўцы ўсё ж такі клікалі насельніцтва ў свае атрады,забіралі польскае абмундзіраванне. Пры адмове везлі ў вёску Табала, дзе здзекаваліся над праваслаўнымі жыхарамі, а затым везлі ў Бяліцу і каля сцяны царквы расстрэльвалі, імкнучыся, каб сляды ад куль назаўжды ўрэзаліся ў сцены храма. Асабліва шчыравала АК пад праваслаўныя святы, часта замест святочнага служэння ў храме даводзілася адпяваць загінуўшых. Каб не трапіцца белапалякам, мужчыны стараліся хавацца".*

А здарылася трагедыя 25 чэрвеня 1944 года.

Дзесьці ў 5 гадзін раніцы белапалякі акружылі Дроздава (дакладна так, як рабілі гітлераўцы), сагналі ўсіх у цэнтр вёскі, некаторым мужчынам загадалі запрагаць коней і станавіцца калонай уздоўж вуліцы.

На фурманкі пагрузілі маёмасць, пасадзілі арыштаваных старых і дзяцей, а маладых, у асноўным жанчын, пад узмоцненай аховай павялі пешшу. Усяго было арыштавана некалькі сем'яў - каля 30 чалавек. Цікава, што ўсё гэта адбывалася сярод белага дня, адкрыта. Канешне, са згоды немцаў.

**Грос Іван Уладзіміравіч**, 10.03.1937 г. н.:

*"Я толькі што прахапіўся ад штуршка маёй бабулі Алесі і пачаў уважліва прыглядацца на вуліцу, куды яна паказвала рукой: " Вунь, унучак, бандыты вядуць людзей дроздаўскіх. Там, напэўна, і мой Ванька едзе з абозам". Чуцен быў плач жанчын. Я налічыў каля дзесяці фурманак, сярод якіх ішла група арыштаваных, акружаная ўзброенымі мужчынамі ў польскай форме. Бабуля выбегла да людзей, але яе не дапусцілі і блізка. Яна так і не даведалася пра сына".*





**Шут Канстанцін Сямёнавіч**,1915 г.н. *(Кочман, на фота).* Жонка Марыя Лявонцьеўна, 1916 г.н. *(Кочманіха),* дочка Ніна,1940 г.н.,

сын Лёня,1943 г.н., дочка Тамара,1947 г.н. Мелі хату з хлявом і адрынаю. Зямлі - 6,69 га, на аселіцы выган каля гектара, а ворыщнай - 5,61 га.

**Шут Ніна Канстанцінаўна,** 1940 г.н. *(Сымонава)*, муж **Кудла Віктар** (*Юльчыкаў)*, 1933 г.н.

*(Запіс В.К. у Бярозаўцы ў 2011 г. і фота).*



*"Як забілі Шутоў, дзеда Сямёна і бабу Ганну і маю маці Зою. Дзядзька Сцяпан з сям'ёй быў у партызанах, бацька Косця - сувязным.*

*У той дзень зайшоў у хату паляк, яшчэ малады: "Збірайцеся!" Нас, дзяцей, пабудзіла мама: "Хутчэй, хутчэй адявайцеся". Было яшчэ шара. Маці падаіла карову. Малако брала з сабою. Хадзіла па хаце, га-ласіла, плакала. Маці апранула меншага Лёню і мяне, паставіла на лаву перад абразамі. Памаліліся.*

*Пагналі праз вёску. Мама Лёню несла на руках, а я трымалася за падол спадніцы. Выбегла з хаты Агата да нас. Мама папрасіла сказаць нашым, што нас забралі. Загналі ў хату Альжбеты. Там сядзела многа людзей на зямлі. Людзі сядзелі ўсе адзін да другога: "За што гэта мяне? А за што мяне? Што я зрабіла? У чым я вінавата? За што мне гэта пакута?" "Няўжо мы вінаваты, што дваюрадны брат Шут Гена Сцяпанаў пайшоў у партызаны?"*

Калі "акаўцы" акружылі вёску і зганялі вяскоўцаў весці ў Бяліцу, Альжбета Кудла выскачыла з хаты і ўцякла на загуменні, на бульбяныя ямы. Белыя абіралі хату і хлеў. Пляменніку Альжбеты Дзіму Місю сказалі: "Прынясі вяроўку каб вяпрука звязаць". Ён зайшоў у каморку і са страху праз вузенькае акенца ўсё ж такі выціснуўся і ўцёк. Было б і яму, як бацьку Васілю Місю.

***P.S.*** **Грос Тома** гаварыла:

*"А Дзіма Місь - прыгожы, высокі, чарнявы, малодшы, да мяне сімпатызаваў. Падабаўся і мне, але я не згадзілася. Пачаў хадзіць да Алі Дзевятай (Каласковай). Ужо пасля вайны яго нехта падпільнаваў і там забіў у гумне. Я хадзіла на пахаванне, паплакала".*

**Бацька Косця Сямёнавіч** (Сымонаў) уцёк і схаваўся ў сястры Надзі Кудлы (Юстынавай) у свіронку. Сястра расказала, што нашых забралі акаўцы і павезлі ў Бяліцу, і ён выскачыў і праз шашу перабег у качывінку. Так і ўратавася.

Потым падагналі падводы. Усё загрузілі. Нас з хаты выгналі. "Дзяцей не будзем браць - хай хто забярэ". Альжбеціну хату запалілі.

**Данэйка Лідзія Міхайлаўна,** за Кудлам Толем (Юстынавым), 1932 г.н.расказвала мне:



*"Бацька Данейка Міхаіл Лук'янавіч падтрымліваў савецкую ўладу, палітыкай цікавіўся, браў ў Ванюшкаў прымач і любіў радыё слухаць, чытаў газеты абмяркоўваў з суседзямі.*

*Калі акаўцы акружылі вёску, не дай Бог вайны, бацька Міхаіл ухітрыўся праз лаз перабрацца са свайго гумна і схавацца за свірнам суседа Ашмяны. Яго старанна і доўга шукалі, але так і не знайшлі. Вёску акружылі, людзей сагналі ў Альжбеціну хату. Дзеці сядзелі на зямлі, плакалі. Адзін акавец улёгся са стрэльбаю на тапчане. Акаўцы забіралі ўсё з нашай гаспадаркі ў Міхаіла Лук'янавіча: 2 каровы, свінчо, курэй, нават падушкі. Што не забралі, то разбілі родную хату так, што страшна потым было заходзіць. Нават перагародку пасеклі, печ разбілі".*

Маці Міхаіла Лук'янавіча - Ганну Андрэеўну, 1875 г.н., і жонку Серафіму Міхайлаўну, 1910 г.н., а таксама дачку Лідзію арыштавалі, апошнюю, праўда, адпусцілі, дзяўчынцы было толькі 12 гадкоў. А жанчын расстралялі. Пасля забойства маці і жонкі Міхаіл Лук'янавіч праз агародніцкі мост перабраўся за Нёман ў партызаны і да вызвалення ўдзельнічаў там у гаспадарчых клопатах: харчаванне, начлег, лазня.

**Кудла Уладзімір Мікалаевіч** *(Юрчыкаў)*, 1900 г.н., родны брат Івана, хатка без хлявушка.Зямля запушчаная. За сувязь з партызанамі забралі "акаўцы" і расстралялі 25 чэрвеня 1944 года каля цэрквы ў вёсцы Бяліца.

Гэткі ж лёс напаткаў з-за сына Віктара-партызана Кумпякоў- бацьку Вікенція Васільевіча,1900 г. н. і маці - Юлію Вікенцьеўну, 1900 г. н. А ў той дзень Вінцуковы малыя сыны Міша і Косця сказалі: "Пойдзем з бацькамі!" Адзеліся і падводай паехалі. У Саламянцы акаўцы іх палажылі на вуллі, моцна далі бізуноў і прагналі ад бацькоў.

Я з расказаў таты і мамы вярнуся да трагічнай чэрвеньскай раніцы. У тую цёплую чэрвеньскую раніцу 1944 года вёска Дроздава не далічылася многіх сваіх жыхароў. Белапалякі ў той дзень арыштоўвалі, грузілі на калёсы жыхароў вёскі, сваякі якіх былі датычныя да партызанаў. Чутно было, як раздзіраюць душу крыкі, плач, маленні аб літасці, але акаўцы пугамі па спінах супакойвалі жалобшчыкаў…

Бабуля Алеся, мама Вера і мы, дзеці: Ігар, і я, і пляміннік Ваня Грос, стаялі каля вокнаў і бачылі, як цягнулі рэчы з дамоў і грузілі на фурманкі.

У абоз па дастаўцы арыштаваных быў мабілізаваны разам з іншымі вяскоўцамі і мой бацька Іван Кудла. Хоць ад Дроздава да Бяліцы адлегласць невялікая, каля 12 км, акаўцы зрабілі чамусьці прывал паблізу вёскі Баравічы. У Саламянцы побач з дарогай стаяў вялікі і багаты хутар Качаноўскіх. Тут белякі і вырашылі адпачыць. Фурманам загадалі стаяць ля сваіх вазоў, арыштаваных адвялі ў бок, пасадзілі на зямлю пад узмоцненай аховай.



Як апавядае мой бацька, хутка да іх лагера пад'ехалі трое верхавых. Адзін з іх паўглядаўся і затым паказвае на тату: "Злапалі і гэтага жуліка, то чаму ён не разам з арыштантамі?" Тату Ваню хацелі тут жа далучыць да іх, але тут умяшаўся Качаноўскі. Ён сказаў, што гэта добры чалавек, яго ўсе ведаюць, ён нікому не зрабіў зла, усе могуць пацвердзіць гэта. Акавец пасля гэтага адступіўся, але са злосцю буркнуў: “Усе праваслаўныя бандыты…”

Мой бацька пазнаў акаўца, ён быў з недалёкай вёскі. Яшчэ да вайны яны неяк паспрачаліся каля млына Лупеніцы, нахабнік хацеў без чаргі змалоць збожжа, яму, аднак, не далі. Той даўнейшы, нязначны выпадак, але тата ледзь не расквітаўся з жыццём. Зласлівы выпадак хацеў адпомсціць за нанесеную яму "крыўду". Такія вось "парадкі" ўстанаўлівалі акаўцы ў нашай мясцовасці.

Абоз накіраваўся ў Беліцу, дзе была турма, збудаваная акаўцамі. За сувязь сям'і з партызанамі дапытвалі ўсіх-усіх. Як гналі на допыт, то не мелі права зірнуць у бок, білі шампаламі, здзекваліся. Жанчынам абразалі вушы, насы. Лямант, крык, стогн… Потым прымусілі выкапаць яму і каля сцяны праваслаўнай цэрквы расстралялі адзінадцаць дроздаўцаў і засыпалі зямлёй. Раптам нейкі бедалага паварушыўся і застанаў. Расказвалі, што яшчэ некалькі дзён зямля трапятала (варушылася).

Пасля вызвалення раёна родныя адкапалі пабітых і перахавалі на беняўскіх магілках.

Жыхары вёскі Дроздава, расстраляныя "акаўцамі" 25 чэрвеня 1944 года ў вёсцы Беліца:

Данейка Ганна Андрэеўна, 1875 г.н.
Данейка Серафіма Міхайлаўна, 1910 г.н.
Козел Пелагея Антонаўна родам з г. Чалябінска.
Кудла Уладзімір Мікалаевіч, 1900 г. н.
Кумпяк Вікенцій Васільевіч, 1900 г.н.
Кумпяк Юлія Вікенцьеўна, 1900 г. н.
Курыла Дарафей Рыгоравіч, 1870 г.н.
Місь Васіль Юльянавіч, 1894 г.н., з в. Дакудава.
Шут Ганна Міхайлаўна, 1909 г.н.
Шут Зоя Міхайлаўна, 1913 г.н.
Шут Сямён Іосіфавіч, 1875 г .н.

Нават з гэтага невялікага спісу добра бачна, якія розныя людзі гінулі па ўзросце і роду заняткаў, нацыянальнасці і веравызнанні. Але было ў іх і шмат агульнага - жылі з верай у заўтрашні дзень, сумленна працавалі і служылі сваім родным.

**Каханоўская Ядвіга Міхайлаўна:**

*“Пасля выгнання немцаў і вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у першыя дні Шут Генадзь Сцяпанавіч быў абраны сакратаром Лідскага ГК ЛКСМБ.*

*8 ці 9 ліпеня, да нас у дом зайшлі партызаны, у асноўным моладзь, на чале з маім братам Браніславам. Сярод іх былі: Гена Шут, Фёдар Курыла, Лёня Данэйка, Мікалай Пазняк і хтосьці яшчэ. Пілі, закусвалі, галдзелі. Штосьці абмяркоўвалі. Радасці і шчасцю не было канца. Праз 2-3 дні, у першую нядзелю пасля вызвалення, на Хутарской вуліцы (пра якую я гаварыла раней) ладзілася першае пасляваеннае вяселле Сяргея Кудлы і Антосі Дзевятай. На сваё вяселле Сяргей запрасіў і маладых партызан-камсамольцаў. Пасля звычайнага вясельнага застолля ўсе госці выйшлі на вуліцу, каб праводзіць маладых да вянчання. Тут здарыўся забаўны эпізод. Сяргей раптам заявіў: "Не паеду вянчацца, пакуль не дасце выстраліць!" Пачаліся жарты, угаворы, што страляніны не бывае на вяселлі. Было смешна, радасна, весела. Урэшце далі яму ружжо, і ён выстраліў у паветра. Я ўжо не памятаю твара Сяргея, але назаўсёды застанецца ў памяці гэты эпізод з застыўшай фігурай з паднятым ружжом у неба, падобнай чымсьці на калодзежнага жураўля. Затым задаволены Сяргей сеў у вазок з Антосяй і з шамкамі. Вясельны картэдж рушыў наперад да вянчання ў Ганчарскую царкву.*

*12 ліпеня 1944 года партызаны Гена Шут, Баніслаў Каханоўскі, Фёдар Курыла і, магчыма, Лёня Данэйка селі на павозку і выехалі ў Ліду для далейшага праходжання службы. Даехаўшы да ракі Дзітва, вырашылі кінуць у раку застаўшуюся ў іх трафейную гранату, каб прыхапіць на горад рыбы. Генадзь і Браніслаў злезлі з павозкі і спусціліся да ракі. Гена ўзяў у руку нямецкую гранату, зняў кальцо і раптам*

*выбухам разарвала жывот, пасекла твар… Хлопца кінулі ў паўкашак, і конь галопам рвануў да горада. Генадзь так стагнаў і прасіўся: "Прыкончце … дабіце..." У шпіталі так і сканаў..*

*Пахавалі Шута Генадзія Сцяпанавіча ў Ганчарах з ваеннымі ўшанаваннямі пры дарозе цераз канаву ў агародчыку Кучынскіх і Міцюкевічаў, паставілі пամаляваны драўляны чырвоны помнік з зоркаю. (Як партызан-бальшавік, ні пры царкве, ні з крыжам не ўпісваўся.)*

*У жыцці часта здараецца, што радасць і гора ходзяць побач. Так было і ў гэты дзень, 12 ліпеня: "Свадьба пела и плясала". У гумне дзеда Сымона мужчыны стругалі і збівалі труны для перазахавання родных і аднавяскоўцаў, забітых белымі бандытамі ў Бяліцы. У гэты ж час пачуўся моцны выбух, які забраў жыццё Гены. Усе мужчыны, якія рабілі труны, уся вёска чула гэты страшны выбух, толькі пазней даведаліся, якая здарылася трагедыя.*

*Два дні нябожчыкаў хавалі,*
*Цяжкія працы там былі.*
*Мужчыны яму дзень капалі,*
*І труны збілі за тры дні.*

*Хавалі Гену Шута якраз ў дзень перазахавання забітых у Бяліцы аднавяскоўцаў на могілках каля царквы. Да канца жыцця мой брат Браніслаў памятаў пра трагічную гібель Гены і заўсёды са слязамі і хваляваннем пра гэта ўспамінаў. І ў яго гонар і памяць даў свайму сыну імя Генадзь".*

Я, **Віця Кудла,** добра памятаю:

*"У канцы вайны бомбы падалі на Ліду, і каля Масявіч грымелі выбухі… Нас, малых, выносілі пад ліпкі каля плоту, сядзелі на падушках. Па небе курсіравалі самалёты. Чутны былі ўзрывы, ці каго-небудзь забілі? У ліпені 1944 года пачалося іншае жыццё. Воінаў Чырвонай Арміі сустракалі з кветкамі. Але ў вёсцы яны не затрымліваліся, як ішлі, так і прайшлі. У асноўным былі конныя воіны, але былі і ЗІС-5-палутаркі."*

**Загінуўшыя партызаны і воіны в. Дроздава падчас Вялікай Айчыннай вайны:**

Козел Аляксандр Іосіфавіч, 1919 г.н. Расстраляны немцамі. Пахаваны на могіпках в. Ганчары.

Міцюкевіч Канстанцін Іванавіч, нарадзіўся ў в. Дроздава. Загінуў у гады вайны.

Шут Зоя Іванаўна, 1919 г.н. Працавала на гаспадарцы. Загінула ў 1943 г. у г. Лідзе.

Быстрыцкі Аляксандр Аляксандравіч, 1924 г.н., радавы. Прапаў без вестак у траўні 1945 г.

Дзявяты Аляксандр Фёдаравіч, 1910 г.н. Трапіў у палон 10.08.1941 г.

Козел Іван Іосіфавіч, загінуў у 1944 г. пад Ленінградам.

Кудла Аляксандр Іванаввіч, н. у 1911г., у в. Дроздава, радавы, прапаў без вестак.

Кудла Канстанцін (Унучкоў, 1898-1943 г.г.).

Жамойцін Антак Канстанцінавіч, 1923 г.н. пайшоў на вайну радавым салдатам і не вярнуўся, памёр ад ран 3.10.1945 г. Пахаваны ў г. Дзяржынск Горкаўскай вобласці.

**Яны прайшлі дарогамі вайны і засталіся жывымі:**

Ашмяна Іван Іванавіч, 1913 г.н., радавы, быў у палоне.

Быстрыцкі Аляксандр Іванавіч, 1923 г.н., медаль "За перамогу над Германіяй".

Быстрыцкі Віктар Іванавіч, 1926г.н., беларус, радавы 1-га Беларускага фронту, медаль "За перамогу над Германіяй".

Быстрыцкі Іван Якаўлевіч, 1917 г.н., беларус радавы 1-га Беларускага фронту.

Белавус Канстанцін Васільевіч, 1907 г.н. на ваенных сборах першыя дні вайны на абароне Гародні.

Гульнік Уладзімір Іванавіч, 1921 г.н., партызан.

Данэйка Уладзімір Іванавіч 1920 г.н., радавы. Ордэн Айчыннай вайны 2-ой ступені, Славы і медалі.

Козел Іван Міхайлавіч, 1919 г.н., радавы. Узнагароджаны ордэнам, медалямі.

Кудла Іван Іванавіч, 1908 г.н., нам. камандзіра звяза - першыя дні вайны быў на абароне Гародні.

Кудла Мікалай Іванавіч, 1910 г.н., радавы 1-га Беларускага фронту. Ордэн Славы 3 ступені, медалі "За адвагу" і "За перамогу над Германіяй"

Кудла Сяргей Іванавіч, 1915 г.н., радавы.

Курылаў Фёдар Дарафеявіч, 1922 г.н., партызан. Ордэны і медалі.

Курылаў Генадзь Дарафеевіч, 1928 г.н., партызан. Ордэн і медалі.

Каханоўскі Браніслаў Міхайлавіч, 1926 г.н., сувязны п/а" Іскра". Ордэн і медалі.

Шут Іосіф Міхайлавіч,1924г.н., сувязіст на фронце.

Для напісання нарыса выкарыстаны расказы маіх родных: таты Вані, мамы Веры, бабулькі Алесі, а таксама ўспаміны, запісаныя на дыктафоне і фатакартачкі дроздаўцаў: Каханоўскай Ядвігі Міхайлаўны, Данэйкі Лідзіі Міхайлаўны, Казак Кацярыны Аляксандраўны, Дзявятай Веры Іосіфаўны, Максімовіча Васіля Аляксандравіча, Грос Тамары Уладзіміраўны, Кудлы Віктара Юльянавіча, Курылы Марыі Генадзеўны, Шут Ніны Канстанцінаўны, Шут Зоі Канстанцінаўны, Шута Зянона Іосіфавіча.

Дапамагалі ў падрыхтоўцы матэрыялаў пра партызанскі атрад "Іскра":

супрацоўнікі ДУ " Лідскі гістарычна-мастацкі музей";

Каладзяжная Анастасія, навуковы супрацоўнік;

Васько Уладзімір. Газета "Уперад", 15.08.1980 г.;

Грос Іван. Штотыднёвік "Народная трыбуна", 1992 год.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Віктар Кудла,***
*54 гады на другой малой радзіме - у Дворышчы*

# ДВАРЫШЧАНСКІЯ ХРОНІКІ

**№ 1. Кудла В.,Суднік С. Дворышча. Лідскі летапісец № 35. 2006 год.**

**№ 2. Сліўкін В. Маёнтак Дворышча-1520-1850, Лідскі летапісец № 91. 2020 год.**

**№ 3. Сліўкін В. Маёнтак Дворышча 1850-1870. Лідскі летапісец № 92. 2020 год.**

**№ 4. Сліўкін В. Маёнтак Дворышча 1870-1915. Лідскі летапісец № 93. 2021 год.**

**№ 5. Кудла В. Пачатак XX стагоддзя. Першая сусветная вайна і яе след у гісторыі Дварышчанскага краю. Лідскі летапісец № 105-106. 2024 год.**

## № 6."За польскім часам" Частка I

*" Як дрэва не можа жыць без каранёў,*
*так і народ не можа існаваць*
*без сваёй гісторыі, культуры, сваіх сімвалаў".*
*В. Ляшковіч.*

Перамогу польскага войска над Чырвонай арміяй пад Варшавай назвалі "Цудам над Віслай".

28 верасня 1920 года"чырвоныя" пакінулі Лідскую зямлю. Раніцай з боку Жырмун увайшлі польскія войскі і праз пэўны час устанавілі на новай мяжы пагранічныя слупы.




4 лютага 1921г было ўтворана Навагрудскае ваяводства, у склад якога ўключылі Лідскі павет з тэрыторыяй 6038 кв. км., з насельніцтвам 219 тысяч чалавек, у тым ліку ў Лідзе пражываў 13 401 чалавек.

У Жырмунскай гміне налічылі 9950 жыхароў, 4773 мужчын і 5177 жанчын. Палякамі сябе запісалі 9468 чалавек, беларусамі - толькі 77. У гміне было 149 паселішчаў, у тым ліку 67 вёсак, 35 фальваркаў, 11 засценкаў, 11 калоній, адно мястэчка - Жырмуны, дзве чыгуначныя станцыі - Беняконі і Гуды.




Пасля Першай сусветнай вайны на месцы былога панскага двара паўстаў фальварак Dworzyszcze. Мясцовасць адносіліся таксама да Жырмунскай гміны Лідскага павета. Паводле перапісу 30.09.1921г. у 8 жылых дамах фальварка пражывалі 103 чалавекі, 84 з іх рыма-каталікі, 12 - яўрэі, 6 - евангелісты (сям'я Амберга) і нехта 1 праваслаўны.

Вёскі ўзнікалі пры дварах, калі колькасць работнікаў, патрэбных для апрацоўкі зямель двара пачынала перавышаць колькасць, якую можна было непасрэдна размясціць у двары. Па-гэтаму вёскі каля фальварка былі невялікія.

**Дворышча-1** размясцілася ў бок Лідскага гасцінца на месцы старой вёскі, расселенай у 1859 г. Аляксандрам Вольскім. Тады было 8 жылых будынкаў і 50 жыхароў.

**Дворышча II -** ад фальварка ўздоўж дарогі ў бок Мяргінцаў, там - 9 жылых дамоў і 49 жыхароў.

Пасля заключэння мірнай дамовы паміж Расіяй і Польшчай на нашай тэрыторыі ўстанавілася польская ўлада, і прызналі ўладальнікам фальварка Дворышча вядомага ўжо Аўгуста Амберга, які тут гаспадарыў з сям'ёй з 1911 года. Латыш Амберг меў жонку польку па імені Яна - Яніна і чацвёра дзяцей, якім далі цікавыя імёны: сынам - Аляксандр і Вернер, а дочкам - Гертруда і Эльза.

Тады яны жылі ў драўляным чатырохпавярховым палацы, які стаяў тут на ўзвышшы, апраўлены з двух канцоў цаглянымі вежамі, і быў упрыгожаннем



маёнтка. Але ў Першую сусветную вайну ад германцаў палац згарэў, захаваліся толькі 4-х і 3-х павярховыя вежы. І пану Амбергу з сям'ёй давялося жыць у старым эканамічным доме. Дом быў пабудаваны памерам 25,5 х 6,5 м на каменным падмурку, з ачасанага хваёвага дрэва, звонку абабіты дошкамі, дах пакрыты дранкаю, пафарбаваны цёмначырвонай фар-бай. У гэтым доме было трое сенцаў, 8 абтынкованых пакояў, сталяванне і падлога з дошак, у кухні падлога, бітая з гліны, печы з двума выведзенымі на верх страхі комінамі з цэглы, дзверы на жалезных завесах, вокнаў невялікіх - з дзясятак.

Пад гэтым домам быў невялікі склеп. У кухні выкапаны калодзеж з меднаю помпою і трубою з кранамі, якая праходзілі у пральню, дзе была ўладкована печка з цэглы і ў яе змешчаны медны кацёл для награвання вады для мыцця бялізны.

Фальварак складаўся з зямельнага ўчастка каля 500 гектараў і з комплекса жылых і гаспадарчых пабудоў, дзе самастойна вялася панская гаспадарка.

За польскім часам у дваровыя збудаваннi прастакутнага ўчастка ўваходзілі акрамя дома адміністратара, шасцярык і дзве невялікія хаты для працоўных парабкаў, вартаўніка і хата для мельніка. Сядзібны комплекс уключаў гаспадарчыя пабудовы: свіран з сутарэннямі, стайню для коней, два хлявы для быдла, аўчарнік, хлеў для курэй.



***На фатакартцы: гумно як сенавал 27х7,5 м. з сасновага дрэва на каменным падмурку, крытае жытняю саломай, унутры з сячкарняю і арфай***

Па ўсім гэтым комплексе гаспадарчых пабудоў можна меркаваць, што Дворышча было ўзорным фальваркам на Лідчыне.

Фальварак заставаўся асноўным месцам працы для парабкаў і жыхароў вёсак. Працавалі крухмальны завод, вадзяны млын, мураваны бровар выганяў многа гарэлкі, якую прадавалі ў карчме.

Пан не быў злы, не катаваў сялян, якія працавалі ўяго цэлы дзень. Улетку жанчынам ён плаціў 1,5 злотага. На гэтыя грошы можна было купіць пуд жыта і 0,5 кг сметанковага масла. Узімку плаціў 1 злоты.

Пан быў багаты, сядзіба шыкоўная, шмат коней. Сыны Аляксандр і Вернер, пасталеўшы, раз'язджалі на тройках, а потым на купленым бацькам аўтамабілі.

Каб прыглядваць за працай парабкаў, пан вёў назіранне з чатырохпавярховай вежы.

**Тумілевіч Станіслаў Станіслававіч** расказаў:

*"Бацька мой - Станіслаў Антонавіч - 1899 г.н., скончыў 2 класы царскай школы, умеў чытаць паруску. Палюбіў простую дзяўчыну з вёскі Дворышча і ажаніўся з Пашкялевіч Соф'яй Пятроўнай,1903 г.н.*

*Шлюб узялі 19.09.1927 г. у Тракельскім касцёле".*



***На фатакартцы справа налева: Тумілевіч Стась, жонка Соф'я - ззаду за дваюраднымі сёстрамі***

*"Пачаў працаваць мельнікам у памешчыка Аўгуста Амберга.*

*За нешта бацька пасварыўся з панам і перабраўся ў Бердаўку. Але потым Амберг прыехаў і забраў усю сям'ю назад у Дворышча. Пасяліліся ў хаце мельніка каля самай Жыжмы, якой не менш як гадоў сто, дзе мы і жылі. У Дворышчы мала хатаў было.*

*Старыя могілкі пры шашы абкладзены каменным плотам. Горку вакол могілак высыпалі жвірам.*

*Памятаю старую капліцу: была невысокая - шасцівугольная. Уваход быў ад дарогі На сцяне алтара вісеў абраз у срэбным акладзе....*

*Маці мая каталічка Зоф'я была верніцай, цягала і мяне на святочныя малебні.*

*Тады ў пачатку верасня з'явілася Мясцовае свята. Ля капліцы штогод пачалі праводзіцца набажэнствы пры вялікім зборы навакольнага народа".*

У панскай сядзібе адкрылі польскую школу для сялянскіх дзяцей.

*"У школу я пачаў хадзіць рана- з шасцігадоў. У школе было два пакоі, у адным пакоі-клас, у другім жылі каморнікі. Вучылі на польскай мове.*

*У школу апраналіся хто ў што мог: у паўкажушкі на аўчыне. Адзенне, купленнае ў краме, адзявалі рэдка. Абувалі трэпы-абутак з драўлянымі падэшвамі і верхам, змайстраваныя са старых чаравікаў. Восеню і вясной многія хадзілі босыя. Сшыткі, падручнікі і дапаможнікі насілі ў торбах, зробленых з палатна, на доўгім пасе цераз плячо. Тата Стась купіў акардэён, і я вучыўся ў музыканта.*



*Бацька быў галоўным мельнікам. У добрым стане захоўваў механізмы вадзяного млына: мяшкі з зернем пасля вагаў грузіліся на платформу і віндай падаваліся на трэці паверх праз драўляны балкон у тарцы будынка. Потым засыпалася зерне у бункеры і праз заслонку сыпалася ў жорны.*

*Дзве чугунныя турбіны круцілі вал з колам і праз доўгі пас круцілі каменныя жорны, дзе малолася зерня. На вальцах выраблялася з пшаніцы пытляваная мука, а на крупарушцы шатравалі грэцкія крупы. Частку першага паверху займаў тартак. Магутная сіла вады круціла і пілы тартака, дзе распілоўвалі бярвенні на дошкі, на бэлькі. Каб размалоць збажыну сялянам, даводзілася па некалькі тыдняў сядзець на мяшках і чакаць чаргі".*

**В.К**. Пры сустрэчы на кватэры запісаў на дыктафоне, а потым сын Алік адкарэкціраваў расказ бацькі.

Распавядае **Рамук Станіслаў Мацвеевіч:**

*" З бацькамі жыў у вёсцы Забалаць пры беразе Жыжмы, з вярсту ад Левашоў. Мелі дзясятак гектараў зямлі з кустарнікамі і балотам. За польскім часам трымалі карову, каня, пару свіней, дзясятак авечак і курэй. Мелі плуг, барану, цапы, сячкарню, сярпы. Зямлю аралі плугам, выраўнівалі бараной драўлянай. На палях сеялі восенню азімае жыта, ранняй вясною - авёс, ячмень, пшаніцу, і пазней - віку і грэчку. Ад актыўнай працы, але са слабых палёў збіралі невялікі ўраджай. Давялося хадзіць у Дворышча да багатай Гяцэвічыхі. Працаваў на палях, пасвіў каровы.*



***Рамук Станіслаў Мацвеевіч, 25.02.1923 г.н.***

*Падросшы адвучыўся на краўца. Удалося купіць швейную машыну "Singer" за 520 злотых, што амаль 5 кароў. (Зінгер і Сіманто - два браты пабудавалі фабрыку.) Абшываў усю акругу і нават сям'ю Амберга і зарабляў грошы.*

*З тканага на кроснах палатна шыў кашулі, ручнікі, дзяругі, бурносы.*

*Помню добра, Аўгуст ростам не высокі і жонка Яніна не высокая, а дзеці ўсе высокія. Палац быў на горцы, дзе цяпер бэз.*

*Амберг запрасіў дапамагаць кіраваць працаўнікамі. Пасяліў ў хаце мельніка на другой палавіне, побач з мельнікам Тумілевічам Стасям. Ён быў сур'ёзным чалавекам, сталі на ўсё жыццё закадычнымі сябрамі, а жонка Зоф'я крыху шалапаватая…*

*Старэйшы брат Ян некалькі гадоў аж да вайны служыў у польскім войску."*



***Рамук Ян Мацвеевіч***

*"Расказаў, як разам святкавалі Вялікдзень. Дом быў прыбраны, да сцяны прыбілі паперу. На стол ставілі пірагі, мяса, капусту. За сталом сядзелі як каму патрапіла. Пацеры кажуць, ломяць аплатку, жадаюць здароўя, потым ядуць. Пасудзіна: гліняныя збаны,*

*бочкі драўляныя, саганы, каструлі жалезныя, драўляныя лыжкі, відэльцы".*

На Вялікдзень валачобнікі хадзілі по хатах, такія словы казалі незамужнім дзяўчатам:

*Добры вечар, дама злота!*
*Проша адэмкнуць браму, окна.*
*Проша паслухаць тэй новіны,*
*Тэй новіны з Украіны.*

*Сподзевайся цо годзіны,*
*Цо годзіны, цо момэнта,*
*Бэндзеш паненка госця мяла,*
*Госця мяла, ктурэго не знала.*

*Его тэраз нема в дому,*
*Он поехал до Кракова,*
*А краковянкі аж памлелі,*
*Такего паніча не відзелі".*

У вёсцы Дворышча - 1 за польскім часам жылі, працавалі, вялі гаспадарку і прайшлі навучанне, у асноўным усе чатырохкласную школу:

- Гяцэвіч Браніслава Вікенцеўна, 1886 г.н. Сыны: Францішак, 1922 г.н., Мар'ян, 1929 г.н., дочкі: Ядвіга, 1923 г.н., Уладзіслава, 1927 г.н., Аляксандра, 1935 г.н. Мелі 9 га.
- Юрша Іосіф Іосіфавіч,1904 г.н., жонка Алена, 1909 г.н., дачка Марыя, 1923 г.н. Мелі 12 га.
- Гяцэвіч Аляксандр Антонавіч, 1873 г.н., жонка Разалія Францаўна, 1889 г.н., сын Вітольд, 1918 г.н. Дочкі: Станіслава,1922 г.н.,Зоф'я, 1927 г.н., Рэгіна, 1931 г.н. Зямлі - 10 га.
- Дуброўскі Альфонс Адамавіч,1907 г.н., жонка Яніна,1914 г.н. Маці Галавач Броня Іосіфаўна,1880 г.н. Зямлі - 15 га.
- Гяцэвіч Міхаіл Антонавіч,1846 г.н., жонка Ганна Юр'еўна, 1900 г.н., дзеці: Міхаіл,1924 г.н., Яніна, 1928 г.н., Іосіф, 1929 г.н., Соф'я, 1933 г.н. Зямлі - 9 га.
- Гяцэвіч Паўліна Ігнацыеўна,1888 г.н. Дзеці: Іван, 1925 г.н., Юзэфа, 1927 г.н., Вера, 1930 г.н., Антон, 1932г.н., Эдвард, 1934 г.н. Мелі 9 га зямлі.
- Бобін Ева Іванаўна,1886 г.н., Марыя Пятроўна, 1926 г.н. Зямлі - 3,33 дзесянціны.

На працягу некалькі стагоддзяў упрыгожваннем дварышчанскага паселішча быў драўляны касцёл Святой Марыі Ружанцовай, як філіяльны касцёл ад Тракельскага касцёла, збудаваны пры езуітах у 16 стагоддзі. А праз два стагоддзі пасля зруйнавнай старога касцёла, езуіты пабудавалі новую драўляную капліцу. Дальнейшы ўладальнік Дворышчаў Аляксандр Вольскі шчыра адносіўся да веры і ў 1850 г. пабудаваў на тым жа месцы новую васьмікутную капліцу і ахвяраваў абраз у срэбнам акладзе на алтар капліцы..

Жонка Аляксандра Вольскага - Станіслава Святаполк-Мірская памерла 7 траўня 1864 года ва ўзросце 67 гадоў. І ў гэтай капліцы тракельскі прабошч Кастусь Стэфановіч адпеў пахавальны рытуал і цела Станіславы было пахавана ў шкляной труне.

У тым жа годзе адышоў ад жыцця і сам гаспадар Аляксандр Вольскі. Побач з жонкай улажылі труну ў склепе пад фундаментам капліцы.

Пасля гэтага на могілках пачалі хаваць саміх сялян, асабліва з вёсак Дворышча, Бянейкі, Марысева, Мяргінцы. Некаторыя з іх маюць помнікі і большасць надпісаў на польскай мове, а некаторыя толькі адзін крыж.

### СТАРЫЯ ДВАРЫШЧАНСКІЯ МОГІЛКІ

Гэтыя могілкі сталі памяццю гісторыі Дварышчанскага краю.

Там пахаваны жыхары з тых далёкіх гадоў.

Лыскаўкі былі першымі пахаванымі на гэтых могілках.



Лыскаўка Пётр, 08.07.1842 г.
Лыскаўка Сафія, 1815-1859 гг., пражыла 44 гады.
Лыскаўка Андрэй, 1822-1874 г.г., пражыў 52 гады.
Ендза Томаша жонка Тэкла, 22.10.1886 г.
Лыскаўкі Адольф і Эмілія, у1887 годзе.
Пашнік Мацей, 07.12.1887 г.
Уласава Эва, 1878-06.05.1892 гг., пражыла 14 гадоў.
Драб Міхал, 1822-07.03.1896 гг., пражыў 74 гады.
Дзеркачовічы: Ян і Катажына, 1899 г.
Пакшыс Юзаф,1819-20.02.1901 гг., пражыў 82 гады.
Лыскаўка Агата, 1846-27.10.1901 г., пражыла 55 гадоў.
Яскель Эльжбета з Шамрэяў, 04.08.1903 г.
Лыскаўка Эва, 1886-1905 гг., пражыла 19 гадоў.
Яскель Кароль,13.05.1916 г.
Яскель (імя не выявілі), 1927 г.
Томшыс Адам,1855-20.09.1931 гг., пражыў 76 гадоў.
Пашнік Марыя,1904- 02.10.1931 гг., пражыла 27 гадоў.
Клябека Ян, 1865-28.10.1931гг., пражыў 66 гадоў.
Лукашэвіч Эмілія,1861-18.12.1931 гг., пражыла 70 гадоў.
Ендза Міхал Тамашавіч,1868-25.06.1932 гг., пражыў 64 гады.

Ендза Эмілія, 1852-08.12.1932 гг., пражыла 80 гадоў.

Вяршыла Міхал, 1836-05.10.1936 гг., пражыў 60 гадоў.

Улас Мацей,1894-15.10.1936гг., пражыў 42 гады.

Лыскаўка Антоні,1872-10.03.1937 гг., пражыў 65 гадоў.

Улас Мар'янна,1877-20.03.1937 гг., пражыла 60 гадоў.

Змітровіч Пётр пражыў 83 гады і яго жонка Агата Арловіч.

Клябека Андрэй, пражыў 73 гады і яго жонка Эльжбета, пражыла 85 гадоў

Некраш Мікалай.

Бурбліс Міхал і Катажына.

(**В.К**. Вось на апошніх з помнікаў не ўдалося ўстанавіць гады нараджэння і смерці.)

Успаміны родных запісаў Пётр Енза з вёскі Эйтуны:

*"Мяне з дзяцінства цікавіла гісторыя. Яшчэ ў школьныя гады я даведаўся ад маці Леанарды пра свае карані па яе лініі.*

*Мой прадзед па лініі маці Марцін Стэфановіч паходзіў са шляхецкага роду, меў вялікую гаспадарку, у іх было аж 200 дзесяцін зямлі, 4 кані, два валы, статак кароў, свіней і дзесятак вуллёў пчол".*

**Пратакол ад 21 мая 1938 года**
***(скарочаны пераклад)***

*Пасяджэнне гарадскога суда ў Іўі.*

*Дагавор паміж Марцінам Стэфановічам (бацька) і Мацвеем Стэфановічам (сын).*

*Бацька Марцін Стэфановіч аддае свайму сыну Мацвею Стэфановічу ў бязвыплатнае карыстанне 11 га зямлі ў маёнтку Ліпнішкі. Узамен сын адмаўляецца ад спадчынных правоў на нерухомую маёмасць бацькі пасля яго смерці...*



Odpis.

Nr. Co 20/38

P R O T O K Ó Ł

Dnia 21 maja 1938 r.

OSOBNI:
Sędzia J.Suroś

Sąd Grodzki w Iwiu na posiedzeniu jawnem rozpoznawał sprawę z wniosku Macieja Stefanowicza o [illegible] Marcina Stefanowicza do pojednania

Po wywołaniu sprawy stawili się:

Maciej i Marcin Stefanowiczowie, którzy oświadczyli, że zawierają ugodę następującą: 1/ Marcin Stefanowicz oddaje swojemu synowi Maciejowi Stefanowiczowi na wyłączną własność 11 ha / jedenaście ha / ziemi nabytej z majątku Lipniszki w uroczysku "Zawiergańskie piaski" w granicach: od południo-zachodu - grunt [illegible], Bohdanowicza i Jurkowskiej, od północo-zachodu i południo-wschodu - grunt Leopolda Chroma, od północo-wschodu - grunt Marcina Stefanowicza, z tym że południowo wschodnia granica działki Macieja Stefanowicza biec będzie równolegle do granicy południowo zachodniej, 2/ Maciej Stefanowicz uznaje za obowiązującą go umowę dzierżawy 2 dziesięcin ziemi położonej w obrębie jego działki, która to umowa została zawarta przez Marcina Stefanowicza z [illegible] na piśmie, 3/ Maciej Stefanowicz zrzeka się wzamian za wyżej wymienioną działkę ziemi wszelkich praw spadkowych do mienia, jakie pozostanie po śmierci Marcina Stefanowicza. Odczytano. Maciej Stefanowicz niepiśmienny, za niego na skutek jego osobistej prośby /-/ Stanisław [illegible] Marcin Stefanowicz z powodu słabego wzroku nie może podpisać się, na jego osobistą prośbę podpisał /-/ Justyn Stefanowicz Sędzia Grodzki /-/ J.Suroś
Wobec zawarcia ugody Sąd postanawia pobrać od stron 4 złote tytułem wpisu. Postanowienie ogłoszono. Sędzia Grodzki /-/ J.Suroś.



*"Мая маці Леанарда Стэфановіч нарадзілася ў 1939 годзе ў вёсцы Завяргане, на Івейшчыне, як яна казала: "Тое месца пры Польшы называлі Засценак". Нажаль, назва яго знікла з карты Гарадзеншчыны, як і сама ўся вёска.*

*Дзед па лініі бацькі Аляксандр Енза, нарадзіўся ў вёсцы Эйтуны, меў зусім невялікі надзел зямлі.*

*Анастасія Бурак, яго жонка, нарадзілася ў 1920 г. у маёнтку Дворышча, у той час слова вёска не ўжывалася.*

*У бабулі былі тры браты і дзве сястры (Ганна, а другая Эмілія - памерла, пахавана на старых магілках каля капліцы, і там бацька дзеда)".*

Вось дадзеныя на помніках на старых могілках:

Ендза Міхал Тамашавіч,1868 г.н.-25.06.1932 г., пражыў 64 гады.

Ендза Эмілія,1852 г.н.-08.12.1932 г., пражыла 80 гадоў.

*"Маёнтак ўяўляў панскі двор з гаспадарчымі пабудовамі.*

*Бацькі Буракі Аляксандр і Анастасія служылі ў пана Аўгуста Амберга, бо мелі мала сваёй зямлі ў Эйтунах.*

*Было цікава слухаць аб тым, як яны жылі пры польскім часе.*

*Бабуля Анастасія расказвала, што метраў 30 ад цяперашніх развалін крухмальнага завода, стаяў дом, дзе жыла прыслуга, яшчэ яго самі людзі называлі - шасцярык. Каля яго і панскага маёнтка прайшло іхняе дзяцінства.*



***Бурак Анастасія і сын Енза Стась***

*Па яе ўспамінах, сам маёнтак з панскімі хатамі і гаспадарчымі пабудовамі стаяў на ўзвышшы.*

*У пана Аўгуста была багатая гаспадарка, шмат коней, кароў і свіней.*

*З чатырохпавярховай вежы, якая засталася ад спаленага панскага палаца, вялі тры падземныя хады:*

*адзін у млын, другі выходзіў да сажалкі каля дарогі, трэці ішоў да рэчкі Жыжмы.*

*Пад другой вежай быў зроблены ляднік. Работнікі пілой рэзалі ў сажалцы лёд і завозілі яго ў ляндоўню, дзе перасыпалі апілкамі, там ён ляжаў цэлае лета.*

*Парабчанкі-жанчыны тры разы ў дзень абдойвалі вялікі статак кароў, малако ад якіх злівалі ў вялікія бляханы і астуджалі ў карытах з ільдом. Для вырабу масла карысталіся спецыяльнай маслабойкай, кола якой круцілі два работнікі.*

*Гэтая прылада напамінала вал з ручкай у вясковым калодзежы, дзе ў бочцы барабанам круцілася смятана, з якой і атрымлівалі масла, якое разам з самаробнымі сырамі вазілі на продаж у Ліду, а бывала і ў Вільню. Маслёнку аддавалі не толькі панскім свіням, яе маглі забіраць і працаўнікі.*

*Бабуля Стася, калі трохі падрасла, працавала ў доме пана. Набірала цёплую ваду ў медны дуршляк, і прыбірала ў панскіх пакоях, мыла падлогі, а з каструлі меднай мыла вокны. У мыечнай была ванна медная, кацёл для бялізны, кадушкі невялікія дубовыя, цэбар з бярозы.*



*У кухні стаяла шафа драўляная ў выглядзе камоды з шасцю скрынямі з перагародкамі для ссыпкі. Дзве бодні сасновыя вялікія і дзве памені, адна з іх акованая жалезнымі абручамі. Стол просты з сасновых дошак і дашчатая лава з хваёвымі ножкамі.*

*У кухні бабулька Стася са сваёю маткаю памагала рыхтаваць з паннай Янінаю святочную ежу для ўсёй сям'і ў чыгунным гаршку тушонку з бульбы, квашаніну-халадзец. У печы пяклі хлеб і булкі, да іх рыхтавалі кісель і квас.*

*Там было многа рознага драўлянага посуду, бярозавыя лыжкі з жалезнай ручкай і дуршляковая лыжка з ручкай.*

*Бабуля ўспамінала такі выпадак, калі яе маці пайшла ў камору, каб зачэрпаць маслёнкі, то здзівілася, чаму там плавае кажух? А калі разглядзелі, што там за дзіва, то аказалася, што гэта затануўшыя пацукі. Бочку з маслёнкай і пацукамі вывалаклі на падворак, вылілі і здзівіліся, колькі ж іх там было, можа з тысячу…*

*Але пасля гэтага выпадку ўсе пацукі збеглі з маёнтка. Гэта было дзіўна, усе, хто прыязджаў на млын хадзілі паглядзець на кучу пацукоў і меркавалі, што бы гэта значыла, чаму столькі развялося.*

*Перад тым, як запусціць млын на рэчцы, трохі вышэй ад моста апускалі драўляны шлюз на заставе, каб перакрыць ваду на рэчцы і накіраваць яе па канале да млына.*

*Гэты млын асаблівы, фундамент стаяў на сасновых палях, якія ў вадзе сотню гадоў не псаваліся, таму што вада паступала па цэнтры, а не падала на кола збоку, як на іншых млынах. Каб запусціць вадзяное кола і пачаць круціць два каменныя жарнавы, якія з зерня малолі муку і крупы, трэба было шмат вады, таму перад млыном была выкапана сажалка, вада з якой падала на кола".*

У Заходняй Беларусі да 1920 года панавала буйное памешчыцкае землеўладанне, таму польскі ўрад ставіў на мэту не толькі павялічыць сялянскі надзел, але і ўмацаваць сацыяльную апору польскай дзяржавы шляхам надзялення зямлёй асаднікаў і распродажу часткі памешчыцкіх зямель мясцовым заможным сялянам пры частковым захаванні памешчыцкага землеўладання. Праводзілася яна на аснове закона аб аграрнай рэформе: "Аб надзяленні салдат польскай арміі" (17.12.1920). Згодна з гэтым законам добрыя ўчасткі (парцэлы) памешчыцкай і дзяржаўнай зямлі пачалі выдзяляцца асаднікам, якія маладымі дабраахвотна праслужылі некалькі гадоў у польскай арміі жаўнерамі.

Так на такарскай мясцовасці засяліліся сем'і чатырох асаднікаў.

Асаднік **Жук Бярнард Іванавіч**, нарадзіўся ў 1902 годзе, адслужышы пяць гадоў у польскай арміі Пілсудскага, атрымаў 18 га зямлі на ўрочышчы Больцішкі ад лесу да лесу. (Побач дзве гаспадаркі БолтуцьЧаслава Альбінавіча і брата Уладзіміра.)

Сям'ю Бярнарда складалі: жонка Ганна Людвігаўна, н. у 1903 годзе, сыны: Антон н. у 1925 г., Сцяпан н. у 1926 г., малыя дочкі: Вераніка, Леакадзія, Яніна. Добра вялі гаспадарку, трымалі каровы, свіней, авечак. Яго хата ў Такарах потым стала школай.

Мелі лес, сенажаць. Сеялі лубін, ячмень… Перад пачаткам сяўбы ўся сям'я садзілася за стол, гэта сімвалізавала дружныя ўсходы, багаты ўраджай.

**Бэндар Вацлаў Іосіфавіч**, 1870 г.н., жонка Марыя Фёдараўна, н. у 1874 годзе, сястра Ядвіга Іосіфаўна, н. у 1913 г., дзеці Мацаян, н. у 1930 г., Ганна н. у 1934 г., Тарэза, н. у 1935 годзе. Зямля на Крутоўшчыне перад вёскаю

Сліжы.

**Волах Уладзімір Іванавіч**, н. у 1900 г., жонка Юзэфа Сцяпанаўна, н. у 1900 годзе. Дзеці: Тадзік, 1920 г.н., Станіслаў, н. у 1927 г., Іосіф, н. у 1930 годзе.

У Волаха зямлі было больш за дзесяць гектараў каля Ігнатовіча Пятра і Івана.

Хата і гаспадарчыя пабудовы на горцы каля лесу, а ў нізіне балотца каля Жыжмы.

**Асадніка Моцевіча** зямля за Такарамі, так званая Зацірка. Там у лесе хутаранін Лукаш Стась. Меў больш за дзесяць гектараў зямлі, трохі лесу, трохі балота, на краі вёскі.

Адразу ўраджай на новых землях быў вельмі кепскі. Пачалі сеяць лубін пад заворванне, для жывёлы - люцэрну, канюшыну. Трымалі пару кароў, быка, каня. Лубін заворвалі і паднялі ўраджайнасць, да 40 коп жыта пачалі збіраць.

Ужо з дзяцінства асаднікаўскія хлопцы старанна працавалі на гаспадарцы: у полі канём аралі, баранавалі, з сявенькай сеялі зерне. Летам сенавалі ў пойме Жыжмы, нарыхтоўвалі корм для хатняй жывёлы. З надыходам восені збіралі небагаты ўраджай бульбы, збажыны. Потым была цяжкая праца вымалаціць цапамі снапы, правеяць арфаю зерне, каб потым змалоць на жорнах у муку.

У ліпені 1925 года польскі сойм прыняў закон аб парцэляцыі, адно з асноўных мерапрыемстваў аграрнай рэформы ў Польшчы.

***ПАРЦЭЛЯЦЫЯ:*** *(франц. parcelle - часцінка), называлася разбіўка на дробныя ўчасткі (парцэлы) ад 1 да 20 га і продаж праз дзяржаўныя банкі зямель дзяржаўных, памешчыцкіх і пакінутых бежанцамі 1-й сусветнай вайны, якія па розных прычынах не вярнуліся на радзіму.*

У Жырмунскай гміне парцэляцыя пачалася ў 1921 годзе. Пад прыкрыццём аграрнага закона памешчыкі распрадавалі свае горшыя землі па шпекулятыўных цэнах, недаступных для збяднелага сялянства.

Такая дзікая аграрная рэформа не задавальняла бяднейшую частку сялян, і яны выступалі супраць такога спосабу.

Другая зямельная рэформа, якую ў тыя гады праводзілі польскія ўлады, прадугледжвала так званую "камасацыю" (землеўпарадкаванне). "Камасацыя" была разлічана па захаванне абшарніцкага землеўладання. На аснове Закона аб аграрнай рэформе 1925 г. найперш улічваліся інтарэсы абшарнікаў. Зямлю ў іх не адбіралі, а скарб купляў частку зямлі, каб потым прадаваць яе.

Дзяржава ў Лідскім павеце за бюджэтныя сродкі выкупіла надзелы зямлі, і частка іх была перададзена ў гмінны фонд, адкуль зямля дзялілася на невялікія роўныя надзелы (каля 0,24 га) і за 200 злотых прадавалася ў карыстанне сялянам, грошы за гэтыя надзелы сяляне маглі плаціць шмат гадоў.

Малазямелле было гадоўнай хваробай сялян, большасць сялянскіх сем'яў, цяжка працуючы, дзесяцігоддзямі збіралі злоты да злотага, каб дакупіць кавалак зямлі. Так у Жырмунскай гміне частка зямель фальварка Дворышча трапіла пад парцэляцыю і была прададзена мясцовым сялянам. Захаваўся акт Дамовы (на польскай мове) аб продажы Аўгустам Амбергам з маёнтка Дворышча адной парцэлі зямлі плошчай 1,432 га селяніну Міхаілу Гяцэвічу з вёскі Дворышча-2.

**Дамова аб продажы 19 красавіка 1928 г.**
*(Скарочаны варыянт)*

*Мы, ніжэй падпісаныя: з аднаго боку Аўгуст Амберг, які жыве ў маёнтку Дворышча, а з другога боку Міхал сын Антонія Гяцэвіч (Giecewicz), які жыве ў вёсцы Дворышча-2, абодва гміны Жырмунскай, павета Лідскага, і якія ў названых мейсцах маюць права на законнае пражыванне, па сутнасці сённяшняга акту заключылі дамову аб намеры продажу нерухомай маёмасці наступнага зместу.*

*1) Аўгуст Амберг мае намер і абяцае прадаць Міхалу Гяцэвічу са складу земскага маёнтка пад назвай Дворышча, які знаходзіцца ў яго ўласнасці, размешчанага ў Жырмунскай гміне Лідскага павета, (№ зап. у гіпатэчным архіве ў Вільні 617) адну парцэлю зямлі, пазначаную на парцэляцыйным плане часткі таго маёнтка, упарадкаванай мернікам (землямерам) Я. Ненартовічам у 1927 г., акцэптаванага старшынём Наваградскай акруговай земскай управы ў Гародні 11 лютага 1928 г. № 7, заверанай плошчы 1,4320 га*



[illegible]

m. Lida, dn. 19 kwietnia 1928 r. my niżej podpisani: z jednej strony August Amberg, zamieszk. w maj. Dworyszcze, a z drugiej strony [illegible] Giecewicz, zamieszkały we wsi Dworyszcze, obaj gm. Żyrmuńskiej, pow. Lidzkiego, i w powyższych miejscach obierając prawne miejsce zamieszkania dla skutków aktu niniejszego, zawarli [illegible] przyrzeczenia sprzedaży majątku nieruchomego, treści następującej:

1/ August Amberg przyrzeka i przyobiecuje sprzedać [illegible], ze składu stanowiącego [illegible] majątku ziemskiego pod nazwą Dworyszcze, położonego w gminie Żyrmuńskiej pow. Lidzkiego Nr. hip. Arch. Hipoteczn. w Wilnie 617 [illegible] parcelę ziemi oznaczoną na planie parcelacyjnym części tego majątku, sporządzonym przez mierniczego J. Nienartowicza w 1927 r. i akceptowanym przez Prezesa Nowogródzkiego Okręgowego Urzędu Ziemskiego w Grodnie 11 lutego 1928 r. Nr. [illegible], mierzącą obszaru 1,4320 ha [illegible]

2/ Cena sprzedażna dobrowolnie została ustalona przez strony w sumie [illegible] za cały objekt sprzedaży. Na poczet powyższego szacunku, nabywca wypłacił, zaś sprzedawca otrzymał i z odbioru kwituje, sumę [illegible] zaś pozostałą resztę szacunku, t.j. [illegible] nabywca zobowiązuje się zapłacić sprzedawcy przy sporządzeniu [illegible] Notarjusza, sporządzającego akt kupna. [illegible]

3/ Powyższy obszar ziemi winien być sprzedany wolny od wszelkich [illegible] i długów, wobec czego sprzedawca na swój koszt i staraniem usunie wszelkie obciążenia sprzedawanego objektu i dowody powyższego [illegible] w dniu sporządzenia aktu kupna.

4/ Obydwie strony zobowiązane niezwłocznie po zawarciu umowy niniejszej poczynić należyte starania w celu uzyskania zezwolenia na przeniesienie sprzedawanego obszaru na rzecz nabywcy i złożyć w tym celu wszelkie wymagane przez Urzędy Ziemskie papiery i dokumenty.

5/ Akt kupna winien być sporządzony w kancelarji Notarjusza [illegible] w ciągu dwóch tygodni od dnia otrzymania zezwolenia na przeniesienie od Urzędów Ziemskich.

6/ Koszta starań w Urzędzie Ziemskim, koszta umowy niniejszej i [illegible]


7/Wrazie nie dojścia do skutku aktu kupna, bez winy stron/nie wyd[illegible]
zezwolenia na przewłaszczenie [illegible] Urzędu Ziemskich/to w tym wypa[illegible]
sprzedawca zwraca nabywcy otrzymaną od niego na poczet kupna kwot[illegible]
poczem umowa niniejsza rozwiązuje się bez żadnych wzajemnych pret[illegible]
sji stron. Jeżeli akt nie kupna nie dojdzie do skutku z winy sprze[illegible]
cy, to w tym wypadku sprzedawca winien zwrócić nabywcy otrzymaną o[illegible]
niego kwotę na poczet tego kupna w podw[illegible]. Natomiast [illegible]
akt kupna nie dojdzie do skutku z winy nabywcy, to wpłacona na poc[illegible]
kupna kwota przechodzi na rzecz i korzyść sprzedawcy.----------
8/Oryginał umowy otrzymuje nabywca, zaś odpis-sprzedawca. [illegible]
[illegible]
[illegible] Podpis rosyjski oznacza "Michał Gi[illegible]
[illegible] przetłumaczy NOTARJUSZ [illegible]
[illegible] Nr. 2049. Dnia dzie[illegible]tnastego Kwietnia roku tysiąc dzi[illegible]
więćset dwudziestego ósmego ja, Henryk Piekarski, notarjusz przy Wil[illegible]
[illegible] Sądzie Okręgowym, mający kancelarję swoją w m. Lidzie przy ul. Su[illegible]
walskiej w domu pod Nr. 48, zaświadczam, że powyższe podpisy położone
zostały w mojej obecności własnoręcznie przez znanych mnie z oso[illegible]
do dziś[illegible] [illegible] Augusta Amberga, zam. w maj. Dworzyszcz[illegible]
[illegible] i Michała Giecewicza, zam. w [illegible] Dworzyszcze, obu z gminy Żyrmuń-
skiej, pow. Lidzkiego. Opłaty stemplowej pobrano z gotówki jeden zł. 10
groszy i 10% dodatki II gr. i zapisano w repertorjum pod Nr. niniejsz[illegible]
go zaświadczenia.
Notarjusz [illegible]
HENRYK PIEKARSKI NOTARJUSZ w LIDZIE

*(адзін, чатыры тысячы трыста дваццаць).*

*2) Прадажная цана дабраахвотна была ўстаноўлена бакамі ў суме 529 зл. 50 гр. (пяцьсот дваццаць дзевяць зл. 50 гр.) за ўвесь аб'ект продажу. У залік гэтай сумы новы пакупнік заплаціў, а прадавец атрымаў з афармленнем квітанцыі 100 (сто) злотых.*

*Дагавор куплі-продажу ад 19.04.1928 г. участка зямлі плошчай 1,432 га, коштам 529 злотых пераклаў натарыюс Генрык Пякарскі. Засведчыў, што вышэй зробленыя подпісы былі пастаўлены ў маёй прысутнасці працаздольнымі панам Аўгустам Амбергам, які жыве ў маёнтку Дворышча і Міхаілам Гяцэвічам, які жыве ў вёсцы Дворышча, абодва гміны Жырмунскай, павета Лідскага".*

Нашым сялянам пры панскай Польшчы жылося нялёгка. Вяскоўцы былі прыгнечаны высокімі падаткамі, страхоўкамі і абавязкам плаціць толькі грашыма. А каб іх мець, трэба было прадаць зерне, жывёлу, малако і масла, якіх не заўсёды хватала нават дзецям…

Нарэшце, узгадаем цэны на некаторыя прадукты харчавання, якія былі ў Лідзе. Так, бохан чорнага хлеба каштаваў 32 грошы, кілаграм пшанічнай мукі - 50 грошаў, кілаграм бульбы - 5 грошаў, кілаграм ялавічыны - 98 грошаў (а ў Варшаве ўжо 1,43 злотага), кілаграм свініны - 1,25 злотага, кілаграм сала - 1,78 злотага, літр малака - 18 грошаў, кілаграм масла - 3 злотыя 90 грошаў, дзесятак курыных яйкаў - 60 грошаў, кілаграм цукру - адзін злоты, 10 кілаграмаў вугалю - 32 грошы, літр газы - 35 грошаў, а за 10 кілават электраэнергіі трэба было заплаціць 7 злотых.

Нельга сказаць, што людзі паміралі з голаду ці навалам надзявалі жабрацкія торбы. Сяляне суседніх вёсак жылі даволі бедна, але хто не ленаваўся, неяк зводзіў канцы з канцамі. Але гэты паўсядзённы мужыцкі груз паднявольнай працы пертвараў жывога чалавека ў цяглавую жывёліну. Таму што выйсця з гэтага зачараванага кола не было. Малыя надзелы зямлі не давалі магчымасці назбіраць багацця. Яны давалі толькі магчымасць пракарміцца сям'і і то толькі пры ўмове неймавернай працы.




***Вось польскія злотыя і грошы, знойдзеныя ў зямлі разваленага панскага палаца. Будуць экспанаамі новага дварышчанскага музея***

Вырошчвалі, як і раней, азімае жыта, у невялікіх колькасцях пшаніцу, яравыя ячмень, авёс, грэчку, гарох, сачавіцу, бабы, лён, каноплі, саджалі бульбу, буракі, капусту, агуркі. Ураджаі былі невысокімі - сам 4-5. Выкормлівалі буйную рагатую жывёлу, коней, авечак, свіней, коз, курэй, гусей.

Працоўны народ стварыў здаровую філасофію сялянскага жыцця, глыбока шанаваў прыстойныя паводзіны і ўзаемаадносіны паміж людзьмі.

Асабліва высока цанілася такія якасці чалавека, як працавітасць, кемлівасць, руплівасць, дабрата, смеласць, праўдзівасць, сціпласць.

Найбольш дрэннымі лічылася гультайства, няўмельства, дармаедства і п'янства.

Селянін лічыў сваім жыццёвым абавязкам выхаваць у дзяцей лепшыя чалавечыя якасці. Асноўнай мэтай і галоўным сродкам народнай педагогікі была праца. У традыцыйным побыце школу працоўнага выхавання чалавек праходзіў у сям'і.

З дзяцінства хлопцы прывучаліся араць, баранаваць, касіць, вучыліся традыцыйным для сваёй мясцовасці рамёствам.

Дзяўчаты авалодвалі майстэрствам вырошчваць агародніну, даглядаць жывёлу, жаць, прасці, ткаць, шыць, гатаваць ежу. Сям'я вучыла дзяцей сумленным адносінам да працы, павазе да старэйшых.

Праца фармаравала і эстэтычныя погляды, з чым былі звязаны ўяўленні аб прыгажосці. Адносіны да працы былі крытэрыем эстэтычнай ацэнкі чалавека: *"Не той харош, хто тварам прыгож, а той харош, хто на справу гож"*.




***На карце за польскімі гадамі. Гасцінец-тракт: шыракая праезджая дарога, абмежаваная канавамі, абсажаныя абапал дрэвамі***

За польскім часам дарога з Ліды да маёнтка была выбрукавана камянямі. Брук рабіўся метадам шарварку, кожная сям'я атрымоўвала ўчастак дарогі і мусіла без усялякай аплаты гэты ўчастак выбрукаваць. Таму гэты тракт быў вельмі ажыўленым.

Сялянскія абозы з жыўнасцю і дарамі палёў спяшаліся на кірмашы ў Тракелі, Геранёны, а то і ў Жамослаўль. Хтосьці з прадпрымальных людзей залазіў і ў Вільню, паколькі там можна было з вялікай выгадай набыць патрэбную ў гаспадарцы начынне.

У святочныя дні па гэтым гасцінцы ішлі натоўпы вернікаў пакланіцца цудатворнаму абразу касцёла ў Тракелях або пабыць на імшы ў Суботніцкім храме.

Дворышча ў тыя часы выступала як бы прамежкавым пунктам. Тут таксама можна было з выгадай набыць нейкую жыўнасць і прадукты, а хтосьці з багатых людзей мог на пару дзён спыніцца ў мясцовага ўладальніка маёнтка Аўгуста Амберга, пасядзець у карчме,

агледзець яго ўладанні - крухмальны і піваварaны заводы, з высокай вежы ўбачыць усё цікавае наваколле.

Напісаў успаміны **Гойдзь Аляксандр Браніслававіч:**



*"Нашыя продкі Гойдзі пераехалі меркавана ў канцы 19-га стагоддзя з тэрыторыі пад Літвой (а магчыма, недзе з-пад Іўя - там шмат людзей з такім прозвішчам). І заснавалі гаспадарку на краі вёскі Дворышча-2, каля вярсты да Мяргінцаў.*

*Да гэтага дзядуля Марцін з'ездзіў на працу ў Амерыку і добра зарабіў. Так што здолеў купіць шмат зямлі ворнай, лугавой і ўчастак лесу.*

*Як добры будаўнічы майстар разам з немцамі ўдзельнічаў у рэканструкцыі дварышчанскага мураванага млына і добра зарабляў. Узяўся будаваць пры дарозе хату і гаспадарчыя пабудовы.*

*Новую хату пабудавалі значна палепшанай планіроўкі: сцены вянкамі з абчэсаных кедравых дрэваў, накрылі кулявой саломай, вокны майстравалі з дубэльтамі, у хаце - спальня, кухня, сені, камора. На ацяпленне хаты зрабілі печ, і ў зімку секлі хмызнякі, якія раслі ў межах паселішча. Прысупоніўшы, да сядла, так выцягвалі бярвенні з паляны.*



*Кажуць, давялося па лес на будаўніцтва ездзіць нават недзе ў Сібір. Вялікія абозы з працаўнікамі адпраўляліся ў доўгае падарожжа (да паўгода) па вельмі стойкі кедр. Можа, таму дом і стаіць так доўга.*

*Вакол дома ўдала гаспадарыў на зямлі, вырошчваў, збожжа, бульбу, бручку, тытунь. На забалочаным лузе гадаваў жывёлу, нарыхтоўваў сена ...*

*Марцін выбраў спрытную, працалюбівую дзяўчыну і ажаніўся з Тэкляй. І праз год нарадзіўся 20.09.1908 г. сын Браніслаў".*

Падросшы Браніслаў актыўна дапамагаў у вядзенні гаспадаркі… быў пчаляром.

Сям'я трымала вялікую гаспадарку: кароў, свіней, авечак, хатнюю птушку. Сеялі шмат збожжавых культур. Па словах бацькі, у іх былі наёмныя работнікі-парабкі: Драб, Кузюк і іншыя, якія пасвілі кароў і дапамагалі па гаспадарцы, асабліва ранняй вясною парамі коней заворвалі поле, каб пасля баранавання пасеяць збажыну…



Ураджай малацілі цапамі ноччу, таму што зімовага дня не хапала на ўсе работы. Бабы ткалі палатно да позняй ночы, таму што трэба было і апранаць сям'ю. І ў цьмянай хаце, дзе гарэла лямпа, а дзе дыміла лучына, на глінянай падлозе мясцілася дзетвара.

Дваццацідвухгадовага Браніслава ў 1930 годзе прызвалі на службу ў Польскае войска. Захавалася вайсковае пасведчанне з дадзенымі на польскай мове:

*“Вайсковае пасведчанне.*

*Браніслаў Гойдзь, сын Марціна і Тэклі.*

*Нарадзіўся: 20.09.1908 у вёсцы Дворышча -2, гміна Жырмуны, павет Ліда, ваяводства Наваградак.*

*Рэлігія (веравызнанне) - каталіцкае.*

*Нацыянальнасць - паляк.*

*Пражывае ў вёсцы Дворышча.*

*Род заняткаў - селянін.*

*Адукацыя - чытае і піша*

*Рост - 169 см.*

*Валасы - светлыя, бровы - светлыя, вочы - блакітныя, нос - прамы, вусны - тонкія, барада, твар - авальныя”.*

Пастановай камісіі ў Лідзе 25.06.1930 г. залічаны

IV Wykształcenie cywilne czytać i pisać

V. Rysopis Wzrost 169
Włosy blond Brwi blond.
Oczy niebieskie Nos śr. zwkł.
Usta ciemne Broda cof. wyp.
Twarz owalna Szczególne znaki

VI Orzeczeniem komisji poborowej [* głównej, dodatkowej, konsularnej, rozpoznawczej] w Lidzie z dnia 25 / VI r. 1930 zaliczony został do pospolitego ruszenia z bronią na podstawie art. „38 lit C" Ustawy o powszechnym obowiązku wojskowym

Lida dnia 25 / VI r. 1930

Podpis: Powiat. Komend. Uzup. lub Wojskow. Członka Kom. Pob.

Komenda Uzupełnień Lida

* Wyrazy zbędne skreślić

I. Przynależność do P. K. U.

| | Nazwa P. K. U. | L. gł. ks. ewid. (aneksu) |
|---|---|---|
| W chwili wydania zaświadczenia | Lida | 2073 |
| Późniejsze zmiany wskutek przesiedlenia | | |

II. Zaświadczenie wojskowe.

Imiona Bronisław
Nazwisko Gojdź vel Gojcew
syn Marcina (imię ojca) / Gekl. (imię matki)
urodz. dnia 20 / IX r. 1908
w Dworyszcze gm. Żyrmuny
powiat Lida woj. Nowogr.
wyznanie rz-kat narod. polska
zamieszkały w Dworyszcze gmina Żyrmuny pow. Lida (podać dokładny adres)

III. Zawód cywilny rolnik

ў шэрагі вайскоўцаў.

Адслужыўшы некалькі гадоў у польскім войску Браніслаў ажаніўся з Шурмей Марыяй Іосіфаўнай з вёскі Крупа,каля Ліды.

VII. Przysposobienie wojskowe

VIII. Poświadczenia o zgłoszeniu się do zebrań kontrolnych oraz do służby wojskowej



***Шурмей Марыя Іосіфаўна (злева) са сваячкамі і сяброўкамі***

***Дамова куплі-продажу ад 08.06.1922***

*Бакі дамовы: Юльян і Людвік Пілецкія - прадаўцы - Ян Шурмей - пакупнік.*

*Прадмет куплі-продажу - участак зямлі ў вёсцы Крупава плошчай 2 дзесяціны.*

*Кошт участка - 2.376.000 марак.*





REPERTORJUM № 1300



Сям'я Гойдзяў, мяркуючы па фота, была вялікая. Сядзяць: Марцін з жонкай Тэкляй, ззаду: сын Браніслаў з жонкай Марыяй і побач за спіною сястра Марціна Соф'я (з'ехала за мяжу, быццам бы, у Польшчу), унізе малыя ўнукі Марціна.



Звестак аб далёкіх сваяках - цётках і дзядзьках, якія рэдка прыязджалі на святы, гасцілі, апавядалі пра жыццё-быццё, дарылі фатакарткі ў бацькі не захавалася, не захаваліся іхнія імёны, акрамя адной цёткі Сафіі, якая аднойчы прыязджала аднекуль з-за мяжы.

Нарадзіўся 20.12.1933 года сын Аляксандр.

Падросшы яшчэ каля шасці гадоў пайшоў вучыцца ў першы клас польскай школы ў Дворышчы.







З польскага пісьма Дароты Гульпоўскай, жонкі Станіслава.

*"Густаў Станіслававіч Гульпаўскі-Шульц, 1888 г.н., ажаніўся з Басяй (Юліяй). Вырасцілі дваіх хлопчыкаў Стася, Юрка і дочаньку Данусю.*

*Па ўспамінах Густава Гульпоўскага - Шульца іхняя сям'я жыла ў Лідзе, працавалі ў школе настаўнікамі. У жніўні 1937 года пераехалі ў Дворышча і жылі ў доме Бічэля на школьным двары.*

*З пачаткам вучэбнага года Густаў і жонка Юлія пачалі працаваць у чатырохкласнай школе. Юлія ў доме пані Маравей вучыла дзетак у першым і трэцім класах. Густаў вучыў школьнікаў у другім і чацвёртым класах у хаце Гяцэвіча. На сцяне віселі партрэты Іосіфа Пілсудскага і Ігнацыя Масціцкага. Вучні пісалі ў сшытках пер'ем і чарнілам. Кнігі, сшыткі і алоўкі куплялі самі бацькі. Настаўнік Густаў на уроках выдаваў падручнікі па фізіцы, геаграфіі, польскай гісторыі. У класе вучыліся 6-7 дзяцей".*

**Ліст Станіслава Гульпоўскага-Шульца** (быў аднагодкам з Сашам Гойдзем і яны актыўна сябравалі).

*"Шаноўная пані Ліля Гойдзь!.*

*Нарэшце высылаю фота і пішу ліст. Цэлы фільм з фотаапарата- гэта каля 900 фотак, і так не ўсе выцягнулі з кампутара.*

*Пішу па-польску, бо не хачу калечыць рускую мову. Ведаю, што вы перакладзеце на рускую.*

*Брат Юрак і сястрычка Дануся дзівіліся, што я зрабіў столькі здымкаў вашай старой хаты: яна ж - гэта ўсё маё дзяцінства. Памятаю кожную дэталь з тых гадоў. Да таго ж яна - помнік даўніны, ёй*



***Ліля Гойдзь***



*больш за 100 гадоў. Колькі ў ёй рэчаў, якія маглі б быць у музеі! Тая настаўніца з Дворышча збірала розныя прадметы даўніны з суседніх вёсак, верагодна, магла б узяць што-небудзь і ў вас з вашай хаты".*

Пэўны ўплыў на культуру наваколля дварышчан рабіла мясцовая рэлігія.

Паводле веравызнання жыхары ў большасці былі каталікі, а частка праваслаўныя хрысціяне. Так у асноўным праваслаўныя жыхары былі ў вёсках Сліжы, Меляшы.

Згодна запісаных дадзеных па дзясятку ў Эйтунах, Гурынах і Гімбутах.

Жыхары ніколі не вызначаліся глыбокай рэлігійнасцю, фанатызмам, але ў побыце па традыцыі прытрымлівалася рэлігійных святаў, пастоў.

Рэлігійны адбітак набылі некаторыя народныя святы і абрады, якія царква і касцёл прыстасоўвалі да сваіх патрэб.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Юзаф Кардаш***

# Ліда праўдзівая*

*(Працяг. Пачатак у папярэдних нумарах.)*

**Частка II**

**Вакол вытокаў ракі Лідзейкі**

**Кірунак на Жырмуны**

Закончыўшы вандроўку па вуліцах Навасельскай, Рачной і Стругах падаёмся ў паўночным кірунку на другі чыгуначны пераезд на шашы Ліда-Вільня. Тут развітваемся з Лідай і павандруем вакол вытокаў ракі Лідзейкі.



***Вёска Стругі***

За пераездам у заходнім кірунку відно салтысоўства Зосіна, а з правага боку шашы Ліда-Вільня стаяць сядзібы Гарнастаяў, Альтаровічаў, Пілінкі і двух Жылюкоў, якія не далі сабе "ў кашу дуць". Далей з таго самага боку ляжыць вёска Гуды, а ў ёй жылі Ненартовічы, Болтуці, Грынцэвічы, Рынкевічы, Роўба, Залескі, Матусевіч і Юрша. Некаторыя з іх былі заможнымі гаспадарамі.

Перад глабальнай калектывізацыяй у 1950 годзе па распараджэнні Сталіна арыштавалі і інтэрнавалі ўсіх перадваенных і часоў нямецкай акупацыі солтысаў, іхніх намеснікаў, а таксама іншых абывацеляў, якія карысталіся павагай і аўтарытэтам у мясцовым грамадстве. Іх лічылі за апорны элемент, які можа паслужыць кепскім прыкладам. Арыштавалі і Залескага, солтыса ў Гудах у часы нямецкай акупацыі. Усе інтэрнаваныя атрымалі выракі па 25 гадоў. Вярнуўся ён з лагера ў Нова-Барысаве толькі ў 1954 годзе пасля смерці Сталіна, а жылі тыя, хто вяртаўся, у сярэднім ужо толькі каля шасці месяцаў.

На поўнач ад Ліды арганізавалі тры калгасы, з заходняга боку - імя Сталіна, на поўначы - імя Дзяржынскага і на ўсходзе - імя Свярдлова. Грамадства, загадзя аслабленае рэпрэсіямі, амаль не супрацiўлялася арганізацыі калгасаў. Зрэшты, каб згладзіць напругу, бальшавікі ў некаторых асяродках дапускалі мажлівасць выбару на старшынь калгасаў мясцовых людзей. У калгас імя Сталіна з сядзібай у вёсцы Гуды ўключылі вёскі: Бялевічы, Сарокі, частку Вялікага Сяла, Аўсядава і Верхліду. У Гудах і Аўсядаве былі моцныя гаспадаркі, а іхнія уладальнікі патрафлялі сумленна працаваць. У 1951 годзе мясцовы старшыня Вацлаў Роўба, часткова верачы палітыцы бальшавікоў, звярнуўся да членаў калгаса, каб працавалі, як для сябе. Абяцаў за тое, што з большых ураджаяў будзе можна пасля разліку з дзяржавай пакінуць рэшту збожжа для падзелу. Прыйшла восень, а з ёю тэрмін абавязковай здачы збожжа, жывёлы, льну і іншых павіннасцяў. Гуды і Аўсядава з гэтым справіліся, але астатнія вёскі, якія мелі землі IV-V класаў, высокіх ураджаяў сабраць не маглі. Дзяржаве да гэтага справы не было, і багацейшыя брыгады (брыгада - гэта вёска) мусілі пакрыць недахопы бяднейшых. Абрабавалі ўсіх дадаткова праз так званы "дабраахвотны продаж звыш плану". Даўні заможны земляроб Людвік К. аказаўся вінаваты калгасу за круглагадовую працу 40 кг збожжа, бо браў уласнага каня (цяпер калгаснага), каб прывезці галля з лесу, завезці хворую жонку і дзіця да фельчара, а таксама два разы, каб спачатку пасадзіць, а потым хоць бы абагнаць 10 сотак бульбы.

А як выглядала жніво? Вось у поле выязджаў камбайн і жаў да вечара, пакуль на збожжа не ўпадзе раса. Пасля цэладзённай працы з апошнім поўным бункерам зерня камбайн заганялі на двор аднаго з найлепшых членаў праўлення і выгружалі збожжа. Так на працягу лета пару членаў праўлення з кожнай брыгады атрымоўвалі тону або дзве збожжа, якое пазней вывозілі на рынак і прадавалі, дзелячыся грашыма са старшынём калгаса. Адзін са старшынь, каб адправіць сваю дачку па вышэйшую адукацыю ў Менск, меў на хабар 10 тысяч рублёў, што ў тыя часы раўнялася 20-месячнай высокай зарплаце. Старшыня іншага калгаса за два гады сабраў аж 25 тысяч рублёў і купіў сабе домік у Лідзе. Іншы зноў жа за пару гадоў выбудаваў сабе мураваны домік у Менску. У 1957 годзе адзін з членаў праўлення схаваў на гарышчы хаты крадзенае збожжа, а паколькі яно было вільготнае, то адбылося самаўзгаранне і збожжа згарэла разам з пабудовай. Але ўжо ў 1958 годзе ён выбудаваў сабе дом на так званыя два канцы, што ў тыя часы вымагала вялікага капіталу. У калгасах праз кожныя некалькі год змянялі старшынь, даючы магчымасць чарговым партыйцам набіваць кішэні і дзяліцца з началь-

* *Пераклад Станіслава Судніка з кнігі: Jozaf Kardasz, "Lida prawdziwa", Agiencja Wydawnicza, "Remix", s.c., Olsztyn, 1997 r.*

нікамі. “Этого изгнать, другой придёт, лучше будет”, - пераконвалі калгаснікаў. Так дзейнічала скарумпаваная бальшавіцкая мафія.

Калі прыходзіла вясна, а яшчэ дзе-нідзе ляжаў снег, не было чым карміць калгасную жывёлу. Калгаснікі зрывалі тады з яшчэ не разабраных гумнаў стрэхі, рэзалі салому на сечку і тым дакармлівалі калгасных і часткова сваіх кароў і некалькі пазасталых у жывых кляч. З 34 коней, сабраных у адной брыгадзе восенню ў калгас, пасля зімы засталося толькі адзінаццаць. Калі ў першыя дні святаў Вялікадня старая бабка тупала ў касцёл у аддаленай мясціне, несучы свянціць у кошыку два яечкі, шчопаць солі акрайчык хлеба, то калгаснікі сварыліся ў канюшні за свежы конскі кал, які ўжываўся як дадатак у корм для свіней.

Летам падчас калгаснага жніва калгаснікі складаліся па пару рублёў, каб купіць камбайнёру бутэльку самагонкі. Падкуплены жняяр падымаў вышэй касілку, пакідаючы высокае ржышча. Познім вечарам і ноччу калгаснікі касілі яго і ў посцілках на плячах зносілі на сядзібы. Ржышча з травой сушылі на корм для кароўкі, а чыстае ішло на падсціл. У добрым гуморы весяліліся калгаснікі так званымі “частушкамі”:

*А корова громко плачет, слёзы капают на нос,*
*Отрубите хвост по жопу, не пойду я в ваш колхоз.*

Калі была мажлівасць, калгаснікі кралі 1-2 кг зерня, хаваючы яго ў калошах портак або ў гумовых ботах, каб накарміць сям’ю. Жонка калгасніка не раз вымаўляла мужу, калі той вяртаўся з працы ў калгасе і прасіў абед:

- Колькі зарабіў, столькі і з’еш! Я наварыла супу з крапівы (вясной), забяліла яйцом і накарміла дзяцей.

Такім было жыццё беднага, зняволенага, загнанага ў калгас народа, напужанага вязніцамі і Сібір’ю. Суцяшэннем былі жарты і анекдоты пра бальшавіцкую сацыялістычную гаспадарку.

*У калгас прыязджаюць аграном і ветэрынар, каб агледзець “дасягненні” ў гаспадаранні і даць парады. Аграном за будынкамі згледзеў разлеглае поле, зарослае пустазеллем.*

- *Что это растёт?* - *пытаецца.*

- *Это чепуха!*

- *Ну так вы сейте побольше, чепуха хорошо растёт,* - *пахваліў аграном.*

А як выглядалі калгасныя пабудовы і сядзібы калгаснікаў, распавядае іранічны лірызм:

*Прыйдзі, Сталін, падзівіся,*
*як калхозы развіліся.*
*Хата - ракам, пуня - бокам*
*і кабыла з адным вокам.*

Пакінем вёску Гуды, пра якую яшчэ не ўсё сказана, і прадоўжым шлях Віленскай шашой аж да дарогі, якая паварочвае ўлева і вядзе ў маёнтак Жырмуны. У палове алеі, высаджанай прыгожымі срабрыстымі яварамі дыяметрам пня да 80 см, стаяла сярод дрэў мастацкі выразаная фігура св. Яна. Каля 5 км ад маёнтка на захад цячэ разлівістая рака Дзітва з разлеглымі балотамі і лугамі, распарцалёванымі на вялікую колькасць гаспадарак нават з адлеглых суседніх вёсак. Людзі ездзяць зімой па скошанае сухое сена, бо летам з балот яго нельга вывезці. Жартуюць паміж сабой вяскоўцы, што ехалі каля Яна на санях (Яна - 24 чэрвеня). З ракой Дзітвой, якая цячэ аж з-пад мястэчка Радуні, звязана адна з вельмі значных у тым басейне трагедый. У ваколіцах былі вялікія згрупаванні аддзелаў АК, у іх служылі у т.л. Раўбо, Куйжа, Запаснік, Пац, Антак Міцкевіч і іншыя. Пасля прыходу расейцаў у 1944 годзе да “вызваліцеляў” звярталіся маладзёны, каб служыць бальшавікам і пазбегнуць вывазу ў Расію на прымусовыя работы. Былі сярод іх сыны досыць заможных гаспадароў. Маладыя хлопцы Антак Вайтовіч, Стасяк Звярынскі з вёскі Верхліда, а таксама Эдзік Вароніч з вёскі Чэхаўцы зімой 1944-1945 года былі высланы НКУС на акцыю ў ваколіцы ракі Дзітвы. Там яны дапускалі бясчынствы. Апавядала мне пані Гелена Р., што ў адной вёсцы зайшлі яны да беднага мужыка, што ў адзіночку выхоўваў траіх малых дзяцей, якія на вячэру атрымалі па маленькай місачцы заціркі. Група траіх хацела ад бацькі, каб даў ім есці. Мужык наліў у міску заціркі і паставіў на стол. Адзін з ператрасаўшых шафачку з прадуктамі схапіў міску з зацiркай і кінуў пад ногі. Мужык запрапанаваў ім збанок з малаком, але і той аказаўся на падлозе. Вясной 1945 года знайшлі целы нападнікаў у рацэ каля моста ў ваколіцы Мыта. Мелі звязаныя дротам рукі. Іх жывымі апусцілі пад лёд.

Рухаючыся віленскай шашой на поўнач дойдзем да вёскі Вялікае Сяло. Паблізу ад яго знойдзены целы многіх чалавек, замардаваных у час вайны. Былі гэта пераважна людзі, якія хацелі на вёсцы купіць нешта з жыўнасці, прадаць, пагандляваць, абмяняць вопратку, абутак і да т.п. Дастаткова было, каб незнаёмы меў на выгляд добры абутак, годны для ўжытку ровар, яшчэ цэлае паліто, неабшарпаны касцюмчык. Гаварылі, што рабілі тыя злачынствы расейцы, якія хаваліся ад немцаў, у змове з мясцовымі рабаўнікамі, як і адзіночкі, якія ў 1944-1946 гг. хаваліся там ад бальшавікоў. Недзе ў 1949-1950 гг. расейцы натрапілі на магілы з забітымі. Следства ўстанавіла некалькі вінаватых. Суды асудзілі каля 10 чалавек з гэтай і суседніх вёсак. Некалькі з іх прыгавораны да 25 гадоў вязніцы, а пару бандытаў да найвышэйшай меры пакарання.

З Вялікага Сяла падаёмся на ўсход у вёску Сарокі. Жылі там Няміры, Цярэшка, Банюк, Данілецкі, Коўкель, Радзюк, Белавокі і іншыя. Міхась Белавокі быў народным паэтам - гавяндзістам. Вось частка аднаго з яго вершаў пра сябе і пра суседзяў, якія ў вольны час укладаў і дэкламаваў на беларускай мове.

*Яшчэ не бачыў свет шырокі,*
*што вам скажа Белавокі.*
*І пра вас, і пра нас,*
*і пра гудаўскі калгас.*

*На пясках ляжаць Сарокі,*
*кругом вёскі - ялаўцы.*
*Жыве ў вёсцы Белавокі,*
*у ялаўцах жывуць зайцы.*
*Дым курыцца ў мяне з хаты,*
*бо вару я самагонку.*
*Па закону не жанаты.*
*Маньку-ўдаву дзяржу за жонку.*
*Манькі дзеці забаўляю.*
*Маньцы жыта малачу.*
*Сеяць збожжа памагаю.*
*З Манькай жыву, як хачу (...)*
*Заўжды ў дзень галасавання*
*граў людзям я на кларнеце.*
*Людзі слухалі, глядзелі,*
*як танцуюць вучні-дзеці.*
*Строік у маім кларнеце*
*зусім зграўся пад зубамі.*
*Украў другі я школьным дзецям,*
*ну аж мне сорамна часамі.*
*Смяяўся ў душы сам дырэктар,*
*што на кражу я пайшоў.*
*Мой кларнет быў велькі, Б-ейны,*
*строік з Эс-нага не ішоў.*

А вось што казаў Белавокі пра суседа-спрытнюгу з блізкай суседняй вёскі:

*Быў суседам Броніcь Кеса,*
*што з удавой ён ажаніўся.*
*Была ў яе дачка Тарэса,*
*Броніcь дзяцей не дарабіўся.*
*Броніcь лоўкім быў, не скажаш,*
*чытаць, пісаць, ані чуць-чуць,*
*Але як папаў у горад,*
*начальніка ўмеў абмануць.*
*Вэрця ўдава была ў вёсцы*
*па нябожчыку Кудошу.*
*Малыя ў яе былі хлопцы,*
*таму патрэбны ёй былі грошы.*
*Вэрця была ну так прыгожа,*
*прама аж не наглядзецца.*
*Садзіў ёй Броніcь усе грошы,*
*але і сам меў у што адзецца.*
*Рабіў ёй Броніcь гаспадарку:*
*касіў, гараў, баранаваў.*
*Пасля работы выпіў чарку.*
*Не адну ноч з ёю праспаў.*

У той вёсцы і ваколіцах хаваўся польскі вайсковы асаднік Міхал Дурас з вёскі Колышкі, які 10 лютага 1940 года ноччу ўцёк са сваёй сядзібы і не паехаў у Сібір. Удалося яму так пратрымацца да прыходу немцаў у 1941 годзе.

З вёскі Сарокі накіруемся на ўсход. За чыгуначным пераездам, на адлегласці паўкіламетра, дойдзем да скрыжавання палявых дарог. Адна з іх паварочвае направа і вядзе да чыгуначнай станцыі Гуды, другая вядзе напрамую да вёскі Аўсядава, а трэцяя - на поўнач да вёскі Гярвенікі. Каля паўкіламетра ад скрыжавання ў паўднёва-ўсходнім кірунку відаць былі дзве сядзібы - гэта Янава. Адна (далейшая) належала кавалю Францішку Стасяку (Екацярыновіча). другая была ўласнасцю Вітольда Свідзінскага, дабраахвотніка польскіх войскаў 1920 года. Жонка Вітольда мела сына Эдзіка і дачку Разалію, была кроўнай сваячкай сям'і Пілсудскіх, паходзіла з Білевічаў. Сын Эдзік належаў да АК. Асуджаны бальшавікамі і прыгавораны да 10 гадоў у 1944 годзе, вярнуўся з вязнення ў 1956 годзе.

У сонечную нядзелю ліпеня 1952 года я быў выпадкова запрошаны Вітольдам у яго дом. Быў вельмі здзіўлены, бо сустрэў там намесніка каменданта філіі пляцоўкі АК аддзела "Іскра" Станіслава К., у прысутнасці якога я разам з калегам Станіславам Дзякевічам прыносіў прысягу. Здзіўленне было тым большае, што адбывалася гэта пры жыцці Сталіна. Вельмі цікавы жыццярыс гэтага чалавека; у 1958 ці таксама ў 1959 годзе ён выехаў у Польшчу ў Старгарад Ш., здаецца, пад чужым прозвішчам.

Бліжэй да скрыжавання дарог у полі ляжаць крушні спаленай сядзібы. Былі гэта пабудовы капрала 77 палка пяхоты ў Лідзе Казіміра Дармягі, каменданта пляцоўкі АК. Ён быў застрэлены бальшавікамі восенню 1944 года, калі ўцякаў з дому ў паўночна-ўсходнім кірунку да сядзібы Фелікса Казлоўскага. У склад плутона (паўзвяза, два аддзяленні) пад камандаваннем капрала Казіміра Дармягі, пс. "Воўк" уваходзілі: Эдзік Свідзінскі, Юзак Ірчыц, Данільцы і Бальцэвічы з вёскі Аўсядава, намеснік камандзіра Адам Лашакевіч, Вацак і Янак Будрэвічы з вёскі Ясвіты, Бронак Грыгель, Антак і Стасяк Асвейскія з вёскі Ячанцы, Бронак Казакевіч з вёскі Шаўдзюкі, Вацак і Леан Сегені, Эдзік Шамрэй, Мар'ян і БолякГрыгелі, Казік Вінкель, Вітак Стэфановіч, Вацак, Костак, Міхал і Юзак Карповічы, Стасяк Азевіч - усе з вёскі Гярвенікі, Антось НН, пс. "Сялява" з Новай Вілейкі, Януш Себасцянскі з Гудаў, Костак Няміра і Пётр Блажэвіч з Вялікага Сяла і іншыя, разам 35 чалавек. Да АК належала амаль уся моладзь з навакольных вёсак. Пасля вызвалення арганізоўвалася супраціўленне бальшавіцкім уладам. Палягала яно ў ліквідацыі сельсаветаў (улада гміны), знішчэнні ў іх дакументаў і ліквідацыі жорсткіх бальшавіцкіх начальнікаў і адміністратараў.

Глянем яшчэ са скрыжавання дарог у паўночна-ўсходнім кірунку на схіл узвышша, дзе на адлегласці 700-800 метраў відно пажарышча. Была гэта сядзіба Дабравольскага. У ёй у 1944 годзе бальшавікі размясцілі сельсавет. Мясцовае АК восенню таго ж года спаліла дом і бальшавікі перанеслі сельсавет з Гярвенік у Гурыны паблізу Дворышча. Пасля гэтай акцыі вырашылі ліквідаваць сельсавет ў мястэчку Жырмуны, у доме, дзе жыў Болтуць. Заданне пад кіраўніцтвам Адама Лашакевіча, пс. "Бліскавіца" мелі выканаць: Вацак і Янак Будрэвічы. Бронак і Мар'ян Грыгелі, Антак і Стасяк Аўсеўскія, Эдзік Шамрэй, пс. "Віхр". Бронак Казакевіч і Антось НН, пс. "Сялява". Падчас атакі з акна сельсавета ўдарыла чарга з аўтамата, смяртэльна працяўшы грудзі Эдзіку Шамрэю. У той момант Мар'ян Грыгель ухіліўся

за печ, а Адам Лашакевіч кінуў гранату ў акно. Цяжка параненага Эдзіка сябры хацелі завезці ў дом пчаляра Ліса пры шашы Ліда - Вільня, дзе паблізу жыў фельчар Хадыка. Нажаль, Эдзік у дарозе памёр Пахавалі яго на адлегласці 100 метраў ад Віленскай шашы пры дарозе, якая вяла ў вёску Каварыкі. Раслі там тры-чатыры сярэдняй велічыні сасёнкі. Дзядзька Эдзіка - Людвік Карэнік, які жыў у Гервяніках на Пасеках, патаемна перавёз цела жаўнера АК на могілкі ў Жырмунах.

Са скрыжавання дарог падаёмся на поўнач дарогай, якая вядзе да вёскі Гярвенікі. Першая сядзіба - гэта калонія Пасекі. Па левым баку за загайнікам малы фальварак плошчай звыш 30 га займаў Ян Вінкель. Сын яго Казік належаў да АК і пайшоў у аддзел на Вялікдзень 1944 года. У 1945 годзе бальшавікі арыштавалі сястру Казіка - Гелену. Яна правяла некалькі гадоў у лагеры. Вярнулася ў 1948 годзе моцна схварэлая, і прайшло пару гадоў, пакуль вярнула здароўе. У 1949 годзе арыштавалі яе бацьку Яна Вінкеля. Абвінавацілі яго ў тым, што як кулак не вывез абавязковых паставак, не заплаціў падатку. Памёр ён зімой у вязненні. Восенню 1949 года арыштавалі і мужа Гелены - Антонія Міцкевіча, жаўнера АК родам з-пад Радуні. Асудзілі яго вельмі сурова і саслалі ў лагеры. Праз пяць гадоў уцёк з лагера і пяшком перайшоў пустыню Кара-Кум. Два гады хаваўся ў радзімых краях, а калі гэта стала ўжо немагчыма, перабраўся цераз зялёную мяжу ў Польшчу. Тут адведаў жыўшага ў Варшаве брата Цэзарыя і яшчэ тады жывога Казіка Вінкеля. З Польшчы падаўся ў Аўстрыю, і след яго прапаў. З Пасек у Гярвеніках уся моладзь належала да АК, а сярод іх быў названы раней Вітак Стэфановіч, які падчас адпачынку дома быў злоўлены немцамі і забіты.

Затрымаемся ў наступнай сядзібе, якая належала Марыі Карэнік. Муж яе Пётр згінуў на пачатку вайны ў 1939 годзе, і Марыя засталася адна з дзвюмя малымі дачушкамі. У яе доме разыгралася страшная трагедыя. З Марыяй жыла братовая Броня з дому Сарэла, жонка Антака Карэніка, якая паходзіла з-пад Аран і расіянка. Антак загінуў ад рук гестапа ў Вільні разам з братам Янкам, а замешаны яны былі ў нелегальным распаўсюджанні прадуктовых картак. Да прыходу немцаў Броня працавала ў якасці настаўніцы, расіянка займалася толькі перадшкольнай падрыхтоўкай. У 1941 годзе пасля праходу нямецкага фронту засталося шмат акружэнцаў, расейскіх салдатаў. Некаторыя жыхары Пасек узялі па адным з іх работнікамі. І так Мар'ян Грыгель прыняў Мікалая Удавічэнку, Ганна Дзянкевіч - Ваську Астальцова, Ян Вінкель - Сашку (Пенкіна?), а Марыя Карэнік - Мікалая Гаркаўца. Праз год немцы хацелі забраць тых расейцаў і вывезці на работы ў Германію, але яны пачалі хавацца, заняліся рабункамі, якія грамадства прыпісвала жаўнерам АК. Расейцы часамі адведвалі дзвюх названых маладых настаўніц. У жніўні 1943 года забілі абедзвюх разам з дзецьмі ва ўзросце 1,5 і 2 гадоў. Броню пахавалі сваякі, а цела расейкі з дзіцем вывезлі і выкінулі на вялікую кучу палявых каменняў паміж сядзібамі Яна Карповіча і Мар'яна Грыгеля, пры дарозе да вёскі Ячанцы. Расейку пахавалі пры той жа дарозе каля ляшчынавых зарасляў. Аднаго з экзекутараў немцы забілі.

Мінаючы сядзібу Баляслава Грыгеля даходзім да пажарышча дома, які належаў Ганне Дзянкевіч. Летам таго ж 1943 года рабаўнікі наведалі дом Ганны і часова там схаваліся. Партызаны акружылі дом, потым яго падпалілі. Астальцоў кінуўся ўцякаць, быў застрэлены і павіс на плоце. З палаўшага дома Ганна некалькі разоў выносіла сваю маёмасць і вопратку дачушкі. У замяшанні, дыме і хаосе забілі і яе. Невядома, што сталася з Удавічэнкам. Гаркавец прабраўся ў Рудніцкую пушчу і далучыўся да яўрэйскіх партызан; у 1946 годзе напісаў з Краснадара ліст у Пасекі. Сашка Пенкін на заклік немцаў у 1942 годзе згадзіўся на выезд. Праўдападобна, што адзін з расейцаў, якія тут хаваліся, што перажыў нямецкую акупацыю, праінфармаваў НКУС пра дзейнасць АК на гэтай тэрыторыі, а гэта досыць хутка і дакладна дазволіла распрацаваць усю сетку. Ужо восенню 1944 года і на пачатку 1945 усіх канспіратараў арыштавалі. У сакавіку і красавіку Вацак Карповіч з Гярвенікаў, Костак Няміра і Пётр Блажэвіч з Вялікага Сяла, а таксама Януш Себасцянскі з Гудаў атрымалі выракі смерці. Страчаны яны былі ў Лідзе ў вязніцы пры вуліцы Сыракомлі. Чаму так хутка іх страцілі? Вось жа пасля ўступлення бальшавікоў у 1939 годзе Вацак Карповіч быў уцягнуты ў камсамольскую арганізацыю. Як камсамолец разам з участковым Гярвеніцкага сельсавета Бародкам лавіў хаваўшагася польскага асадніка Дураса. Пасля ўступлення немцаў Дурас разам са сваім сябрам Урбановічам справілі камсамольцу Вацку добрую лупцоўку, дараваўшы яму жыццё з увагі на паважны век яго бацькі. У 1943 годзе Вацак уступіў у АК. Пасля вяртання бальшавікоў у 1944 годзе НКУС пачало лавіць Вацка, як АК-аўца, лічачы яго яшчэ і за здрадніка. Пасля затрымання прыгаварылі яго да кары смерцю, а з ім і яго паплечнікаў.

Зтакой самай прычыны загінуў таксама і Ежы Баклажац, пра якога пісалася раней. Яго аднафамілец, а можа сваяк Аляксандр Баклажац быў у Лідзе шчырым бальшавіком у 1929-1932 гадах. Не вядома, якія партызаны і за што восенню 1943 года забілі Міхала Лыскаўку, мужа Зофіі, сястры згаданай Ганны. Зофія адказ знайшла, але са страху перад помстай не выдала таямніцы нават сынам аж да смерці. Пра аднаго ўжо нежывога толькі я ведаю. Міхал меў сувязь з дзвюмя партызанкамі і зашмат ведаў.

Найдалей высунатай на поўнач у Пасеках была сядзіба земляроба Вінцэнта Статкоўскага. У гандлёвы дзень у Лідзе прадаў ён карову, узяўшы за яе 30 тыс. рублёў паводле тагачаснага курсу. Жонка забрала грошы і проста з рынку падалася ў Вільню па пакупкі. Засталася ў горадзе ў дачкі. Муж вярнуўся дадому, маючы пры сабе ледзве 30 рублёў (тры чырвонцы). Ноччу прыйшлі бандыты, каб забраць грошы і забілі яго, знайшоўшы толькі тыя чырвонцы. У доме была чужая малая дзяўчынка-пастушка, якая здалела схавацца ў старых лахманах за печчу. Бандыты яе не ўгледзелі, а яна чула ўсё і пазнала жыхара з суседніх ваколіц. Дзякуючы яе паказанням бандытаў устанавілі і арыштавалі, а паколькі

было гэта ў 1946 годзе, то атрымалі яны высокія выракі паводле спецыяльнага распараджэння, у найвышэйшай меры пакарання.

У 1942 годзе ў кірунку ад Ліды праходзіла група расейскіх партызан (узарвалі яны чыгуначны перагон у лесе паміж шашой Ліда-Тракелі і чыгуначнай станцыяй Гутна). Лясныя затрымаліся на адпачынак у вёсцы Гярвенікі, у гумне земляроба Юзафа Кудаша. Немцы пераследвалі партызан. Нехта паказаў ім дакладна месца размяшчэння апошніх. Партызаны ўцяклі, але ў спешцы пакінулі не зацёртыя сляды лежбішча, вайсковую шапку. Немцы застрэлілі гаспадара і яго малую дачушку, якую ён трымаў на руках. Жонка Вераніка разам з двума сынкамі здалела ўцячы і ацалела.

Каля кіламетра на поўнач ад вёскі Гярвенікі ляжыць вёска Ячанцы. Восенню 1949 года грамадскасць Беларусі мусіла, вітаючы Сталіна, складаць яму падзяку за "волю і шчаслівае жыццё". Была выдана спецыяльная брашурка, у якой вершам на беларускай мове напісаны тэкст:

*Мы роднаму Сталіну ў песні*
*Любоў і падзяку прынеслі*
*З палёў беларускай зямлі.*
*І раннія росы, і чыстыя воды*
*У гэтую песню ўплялі.*

Жыхары вёскі Ячанцы сабраліся ў доме дэпутата Мацея Матулевіча, паставілі подпісы на спецыяльна падрыхтаванай чыстай старонцы брашуркі і разышліся па дамах. Адзін з іх, Костак Юрэвіч - каваль і музыкант, запрапанаваў, каб я зайшоў да яго ў хату. Быў там яшчэ адзін селянін. Пры малым кілішку сівухі той селянін прадэкламаваў перароблены тэкст падзякі, за які можна было атрымаць ад бальшавікоў 25 гадоў вязнення:

*Мы Сталіну збою у песні*
*Няшчасця і гора прынеслі*
*З палёў беларускай зямлі.*
*І слёзы нядолі,*
*Як камні на полі*
*Разбойніку ў песню ўплялі.*

За вёскай Ячанцы ў паўночным кірунку ляжыць вёска Кабыльнікі. Восенню 1945 года забілі ў ёй старшыню сельсавета ў Гярвеніках, які быў расейцам. Запрасілі яго ў госці разам з усёй сям'ёй у вёску Кабыльнікі. Калі яны туды з'явіліся, акружылі дом і ліквідавалі яго, жонку і яе матку, а таксама сынка, яшчэ падлетка. Целы схавалі ў ямах у кустах. Гэтае забойства мела прызнак бандытызму. Пасля адшукання целаў НКУС арыштаваў тады 18 мужчын і хлопцаў з вёсак Кабыльнікі, Бянейкі і Пашунцы.

**Да вытокаў ракі Лідзейкі**

Рака Лідзейка ў сваім верхнім цячэнні плыве амаль дакладна з поўначы на поўдзень. Будзем рухацца з Ліды на поўнач да яе вытокаў. Каля чыгуначнага моста, дзе закончылася вуліца Халодная, польскія жаўнеры зрабілі сабе пляж. Русла ракі мела там ад чатырох да пяці метраў шырыні, а вада ў некаторых месцах сягала да пояса. Берагі аж да вёскі Малэйкаўшчыны былі невысокія, але абрывістыя, рэдка парослыя кустамі, а вада ў рацэ ледзяная.



***Від з чыгуначнага моста ў кірунку вытоку рэчкі Лідзейкі***

У паўночна-ўсходнім кірунку на адлегласці каля двухсот метраў ад моста і васьмідзесяці метраў ад чыгуначнай каляі, стаяў досыць вялікі і прадстаўнічы, як на перадваенныя часы, дом. Меў ён дах са "зрэзанымі лбамі", крыты бляхай. Гэта дом пасла (дэпутата) у Сойм Рэчы Паспалітай пана Брыльскага. У 1940 годзе расейцы размясцілі ў ім нярвова хворых і калек, а тых немцы пасля ўступлення ў 1941 годзе адразу выбілі.



***Дом дэпутата Брыльскага***

Па суседстве, на адлегласці двухсот метраў стаялі сядзібы Кахны, трыста метраў - Змітровіча і чатырыста метраў - Гольманта, Каспяровіча і Кашчыца. Каля сядзібы Кахны, яго дачок і зяця Захватовіча расло некалькі прыгожых, вельмі старых, магутных ліп. Пару з іх захавалася да сёння. Змітровіч разам з Кахном загінулі ў



***Некаторыя старыя ліпы захаваліся да сёння***

першыя дні вайны 1941 года. Праходзячы паблізу вайсковых складоў, былі застрэлены бальшавіком.

Кашчыц быў закрыстыянам Фарнага касцёла ў Лідзе. Тэафіл Гольмант за часы нямецкай акупацыі меў клопатаў не ў меру. Выконваў ён функцыі намесніка солтыса вёскі Малэйкаўшчына. Бацька Тэафіла за жонку меў яўрэйку, таму сын успадкаваў рысы Ізраілевы. Адведвалі яго немцы, даючы яму даручэнні, як солтысу. Аднаго разу прычапіліся, што жыд, "юдэ", і канец. Жыхары вёскі пачалі іх прасіць, бараніць яго, што ён - хрысціянін, ходзіць да касцёла, дзяцей мае хрышчоных у касцёле. Даліся немцы неяк сябе пераканаць, доўга да яго прыглядваліся, нарэшце адзін сказаў: "А ўсяроўна ён з жыда паходзіць". Тэафіл перажыў вайну. Дачка яго Катажына была ладная дзяўчына, а Геня мела рысы бацькі.

Пройдзем трохі за паўкіламетра на поначд да самай вёскі Малэйкаўшчыны. Першая сядзіба належала Барану. Яго сыны Уладак (шавец), Антак і Янак - мілыя хлопцы і добрыя таварышы. Янак і сястра Люба, прыгожая дзяўчына, мелі блакітныя вочы, як кветкі льну. І тут вайна пакінула след. Вясной 1944 года да Уладка ехаў на ровары жыхар вёскі Юрэвічы Стэфан Більдзь, мужчына гадоў каля трыццаці. Вёз ён, бадай, боты ў рамонт. Сустрэў яго нейкі Васілец, які быў гаёвым (леснікам), або выконваў у немцаў іншыя функцыі. П'яны рэнегат затрымаў Стэфана і без прычыны стрэліў, пашкодзіўшы яму пазваночнік. У выніку атрыманай раны Стэфан памёр у бальніцы ў Лідзе. Дома застаўся малодшы брат Янак, сёстры Бронька і Ядзя, а таксама маці.

У сярэдзіне вёскі над ракой стаяў млын Стаха Сапуна. З адной з сясцёр Стаха ажаніўся Антак Хруль з Чэхаўцаў, які, не раз праклінаючы бальшавікоў, называў і "сабачымі сынамі", што пры яго "шапялявасці" гучла вельмі гумарыстычна. У 1959 годзе выехаў у Польшчу і асеў у Гданьску.

Цэнтр вёскі - гэта дамы Караля Сяглы і яго брата Міхала, якога называлі Мішка. Пабіўся перад вайной на забаве Мішка досыць моцна з братам Антака Хруля - Олькам, якому ратавалі жыццё ў бальніцы. Кароль, як стары кавалер гадоў каля шасцідзесяці, быў прыемным, ветлівым і добрасуседскім чалавекам. Калі часамі ранкам заходзілі да яго таварышы, ён часта яшчэ ляжаў у ложку. Побач стаяла шафка, на ёй шклянка, а ў шафцы графін "сівухі". Праз прабой у столі працягнуты шнурок, а на ім прымацаваны кавалак вэнджанай шынкі.

- Сядайце, калегі, - прапаноўваў Кароль, - вазьміце там з паліцы кубачкі. Выцягваў з шафкі графін з "сівухай", паволі адкручваў шнурок з цвіка каля ложка. Так апускаў з-пад столі вяндліну і наліваў па кілішку. - Рэжце вяндліну, а я памыю рукі, - заахвочваў гасцей. Сядаў каля шафачкі і ініцыяваў "за здароўе". - Рыбкамі не пачастую, учора не налавіў, - гаварыў. Быў заядлым рыбаком. Плаваючы на лодцы па ставах пры млынах Сапуна і Колі Каршуля, біў рыбу гарпуновымі осцямі. У цэнтры вёскі стаялі сядзібы Стрыбуцяў, Адэлькі і Ганны. У Ганны былі чатыры сыны: Антак, Пётрык, трохі хуліганісты Стасяк і Казік. Пётрак, брунет нізкага росту, восенню 1944 года быў забіты бальшавіцкім участковым, садыстам Федзькам. Наймалодшы з братоў Казік лічыўся "філосафам і дваровым палітыкам". Сын Адэлькі Валодзя лічыўся вельмі інтэлігентным, але нямым. Дачка Адэлькі і сястра Валодзі была жонкай Ваўчка, які працаваў у Лідзе ў пякарні. Мелі яны дачку Гелену, адзіную, па бацьку атлетычнага складу, з валасамі бліскучай бландынкі, а скура па маці, як кроў з малаком. Яе прыгажосць вабіла шмат маладых хлопцаў, таму адбываліся там досыць часта сходкі моладзі. Найбольшымі паклоннікамі Гелены былі два Стахі, адзін з вёскі Доўкні, а другі Дзякевіч з Колышак. Адна са сходак моладзі вясной 1944 года скончылася трагічна. У святочны дзень з горада вярталіся трое маладых хлопцаў ва ўзросце 22-26 гадоў. Для кавалера "тры кіламетры ўбок - гэта па дарозе". Збочылі на блізу 800 метраў з дарогі да дома і затрымаліся ў Гэлі. Там выпілі па кілішку, потым па другім. Калі забракла гарэлкі, ужо досыць позна пайшлі шукаць яе ў суседзяў. Нешчасліва трапілі ў сядзібы Валадкевіча і Малаўскага. Як сябе вялі, не вядома. У тых сядзібах былі пасечаны сякерамі. Адным з забітых быў Стасяк Гебень з вёскі Доўкні, другі - Чарняк са станцыі Гутна (вёска Абманічы), трэці - Мужычка з вёскі Гайтуны, якая ляжыць пры тракце Ліда-Тракелі. Хлопцы гэтыя карысталіся наогул добрай рэпутацыяй. Выканаўцаў злачынства немцы не шукалі і не пакаралі. Адзін з уладальнікаў сядзібы, у якой загінулі хлопцы, меў адзіную дачушку, тады яшчэ 5-6 - гадовае дзіця. У 1959 годз выехаў у Польшчу ў Старград Шчэцінскі. Другі застаўся на месцы і жыў самотна. Далейшыя сядзібы - гэта пабудовы Маркевіча, Баршчэўскіх, Бубноўскіх, Лянкевіча і Петрыкоўскіх. Уся сям'я Петрыкоўскіх загінула ўжо пасля вайны. Галава сям'і Баляслаў працаваў у ліцейні жалеза, на фабрыцы сельгасмашын у Лідзе. Яго жонка паходзіла з вёскі Споркаўшчына. Баляслаў перад вайной належаў да ППС, але калі спазнаў бальшавікоў, унікаў з імі актыўнай супрацы. Быў сціплым, спакойным і працавітым чалавекам. Сыны: Томак - 25 гадоў, Эдзік - 18 гадоў і дачка Геня - 21 год былі мілымі, сімпатычнымі і таварысцкімі.

Паводле паведамлення жыхароў вёскі Малэйкаўшчына, у траўні 1946 года вайсковы асаднік з вёскі Колышкі (Міхал Дурас), які хаваўся ад НКУС, уварваўся ноччу з некалькімі кампаньёнамі ў дом Петрыкоўскага, забіў Баляслава, яго жонку, сына Тамаша і дачку Геню. Сына Эдзіка не было дома, але Дурас чакаў да раніцы і дакончыў злачынства. (Злачынцам зрабілі яго бальшавікі.) Прычынай была сімпатыя сям'і да бальшавікоў, чаго нельга пацвердзіць. Гэта была трагічная палітычная памылка, бо справа ішла пра сям'ю зычлівую і дабрасуседскую. Такім смутным эпізодам закончу ўспаміны пра пабітых маладых людзей, маіх знаёмых і таварышаў. Няхай тыя некалькі вобразаў умацуюць памяць пра іх.

Я прапускаю вёску Малэйкаўшчыну, не высветліўшы пару трагічных здарэнняў, і павандрую ўздоўж русла ракі Лідзейкі на поўнач да яе вытокаў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Яўстах Шалевіч***

# УСПАМІНЫ*

## Першая частка ўспамінаў

***Гісторыя Жалудоцкага касцёла і ўспаміны пра Жалудоцкую парафію. Некалькі слоў пра суседнюю Ішчалнскую парафію і трошкі пра Шчучын. Ліда. Калясніцкая парафія***

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Здаецца, Язафата праз Урбановіча загадала парафіянам, што каб убачыць у Жалудоцкім касцёле вялікі цуд, трэба шчыра пасціцца 12 пятніц на Узнясенне Маці Божай. Некаторыя пасціліся, але ніякіх цудаў не было. Мне моцна не падабалася, што некаторыя з памочнікаў Язафаты мелі з усяго гэтага прыбытак. Урбановіч хадзіў па вёсках, разносіў цудоўную ваду, заклікаў да пасту і малітвы і начаваў у вёсцы Дзірванцы, у добра знаёмага яму гаспадара Коўчыка. Неяк на ранку ў гэтай хаце сабралася шмат народу на супольную малітву, падчас якой з ім адбылася вельмі непрыемная гісторыя. З-за сораму, ён больш у гэтай вёсцы не паказваўся.

Праз нейкі час губернатар вырашыў паставіць у Доўгай варту з казакаў і жандараў і загадаў: "Разгонять!". Жандары нарабілі спраў, а казакі неміласэрна разганялі пабожных вернікаў нагайкамі. Сярод народу з'яўлялася інтэлігенцыя ў сялянскай вопратцы, бо з сялянамі паліцыя ласкавей сябе паводзіла. Калі знаходзіцца ў Доўгай стала немагчыма, людзі пачалі збірацца па начах, каб памаліцца недалёка ад крыжоў.

Гэта ўсё цягнулася 2 гады. Пад канец другога года, мне ў галаву прыйшла думка таксама падлячыцца ў Доўгай. Можа, і я атрымаю якія ласкі нябесныя, бо шмат пілігрымаў атрымлівалі дапамогу ад Маці Божай? Неяк я намовіў пайсці на ўсю ноч у Доўгае разам з сабой 8 моцных, як дубы, мужчын. Пачатак пілігрымкі быў вельмі паэтычным. Калі мы былі паміж мястэчкам і дваром, над намі праляцеў вельмі прыгожы метэарыт, ён разбіўся на вялікія часткі і знік у бязмежнай прасторы. Потым мы бачылі частковае зацьменне Месяца, што на мяне зрабіла дзіўнае ўражанне. Потым перад намі дарогу перайшоў воўк, што павінна было абазначаць шчасце. Але закончылася наша пілігрымка вельмі непрыемна.

Маімі таварышамі ў гэтым падарожжы былі: раней згаданы арганіст, другі - яго стрыечны брат, добра знаны ў Жалудку Люцыян-слесар, і быў паміж намі нават адзін праваслаўны. Мы шчасліва прыйшлі ў вёску Прэцім, дзе хаваўся жандар. Пасля зацьмення, у небе ўжо ярка і прыгожа свяціў месяц. Нарэшце, спыніліся недалёка ад крыжоў. Паўсюдна, каля крыжоў і на полі былі бачны купкі людзей, якія маліліся ўкленчыўшы.

З нашай групы першым укленчыў я, другім - арганіст. Мы рупліва, у голас адчыталі Літанію да Найсвяцейшай Панны. Тады да мяне падышоў жандар, заглянуў мне ў вочы і сказаў: "Сколько вас тут?" Тады арганіст ускочыў і пабег так хутка, як толькі змог, а жандар кінуўся за ім. "Стой", - закрычаў жандар і стрэліў з рэвальвера ў паветра. Арганіст меў трошкі лепшыя ногі, і жандар застаўся далёка ззаду. Уцякаючы, арганіст зачапіўся за сялян, якія спалі ў полі і ўпаў. "Злодзей", - закрычалі сяляне і схапілі арганіста, але ў цемры разабраліся, каго злапалі, і далі арганісту каня, каб ён як найхутчэй патрапіў дамоў.

Наш шаноўны Люцыян-слесар пабег у бок вёскі, але яго злапалі, ён атрымаў нагайкі і быў арыштаваны. Нас засталося чацвёра: я, сталяр Вількін, шавец Мацей (праваслаўны) і яшчэ адзін, але як пачалася страляніна, усе куды-хто падзеліся, а як толькі з'явіліся конныя казакі з нагайкамі, усе людзі пабеглі ў бок лесу. Сталяр быў ужо немалады чалавек, але страх мае вялікія вочы, і адкуль у яго толькі ўзяліся ногі? Хутка на полі каля крыжоў нікога не засталося. Я прыбег да лесу і, каб адпачнуць, трошкі паляжаў, а потым пайшоў берагам лесу ўправа. Стаяла глухая ноч. Знайшоў нейкі дом, пагрукаўся ў дзверы. Выходзіць нейкі напаўраспрануты яўрэй і пытаецца, адкуль я буду і чаму ўначы швэндаюся? Спытаў дарогу да Жалудка, ён рукой паказаў мне накірунак сказаў, каб я ішоў напрасткі праз поле і лес у тым кірунку, у лесе будзе вялікая дарога, і па ёй, у правы бок да Жалудка - 10 вёрст.

Акрамя мяне, жандар пазнаў усіх жалудоцкіх (бо я жыў за некалькі вёрст ад мястэчка) і запакаваў усіх "да казы" (мясцовая часовая вязніца - *Л. Л.).* Выпытваў ва ўсіх, хто такі быў з вамі у чорным адзенні? Усе адказалі, што не ведаюць, бо гэты чалавек далучыўся да іх па дарозе. Калі б мяне ўзялі - мне было б найгорш. Справа гэта была ў 1869 г., праз няшмат гадоў пасля паўстання, і шляхту яшчэ паўсюдна высялялі, а я ж быў шляхціцам. Жалудоцкай "казой" для мяне справа б не закончылася, пазнаёміўся б я і з лідскім "частаколам" [17] (турмой - *Л.Л.*).

---

* Пераклад і каментарыі Леаніда Лаўрэша.

[17] У Лідзе турма складаецца з двух дамоў: мураванага і драўлянага якія агароджаны вялікім частаколам. Пераважна ў гэтым месцы ў памятны год сядзелі палітычныя злачынцы. - *заўвага аўтара.*

Я тую памятную ноч пехатой зрабіў каля 4 міль. Ад мяне да Жалудка было 4 вярсты, адтуль да Доўгай - 8, да таго фальварка - 2, разам 14. А яшчэ назад. Вось і падлічвайце.

Час ад часу я пытаўся ў Урбановіча: "Што чутно?" Ён заўсёды адказваў: "Усё ў нас добра". А наогул, гэтыя падзеі далі надзею, што праз цуд і нашу веру, наш касцёл выстаіць.

Пасля вяртання з турмы Язафата мела яшчэ дзіцё, якое, калі выжыла, дык мае сёння 44 гады. Праз некалькі гадоў Язафата і яе памочнікі Урбановіч і Сіпайла - усе адышлі ў вечнасць.

І ўсё прайшло, і ўсё мінула, і ўсё засталося ў мінулым … а што там такое яшчэ было - невядома.

Канец.

P.S.

У Жалудоцкай парафіі, як і ў іншых месцах, панавалі жудасныя забабоны.

Божае Нараджэнне, Вялікдзень і Зялёныя Святы заўсёды святкавалі па 4 дні.

У вёсцы Дзірванцы жыў каваль Станіслаў Зацікевіч. На другі дзень пасля Новага года я прыехаў да яго з работай. Каваль сказаў, што рабіць ён не можа, бо сёння свята.

- Якое ж сёння свята?

- А, таксама Божае Нараджэнне.

- Дык, калі яно ўжо было?

- А ў нас свята ад 1-га дня Божага Нараджэння да Новага года і яшчэ 1 дзень пасля Новага года[18].

Кс. Ясінскі сябе не шкадаваў, каб выкараніць гэтыя звычаі, але ў яго не атрымалася. Народ хутчэй адроксяад гарэлкі, чым ад забабонаў. […]

25 гадоў таму месціч А.Б. адчыніў маленькую крамку. Калі яўрэі прыйшлі ў Літву і завалодалі гандлем, дык, можа, ад тых часоў гэта быў першы гандаль, які адкрыў неяўрэй. Нашы браты, замест дапамогі свайму, як маглі яго ўціскалі - казалі, што ён лянівы католік, не хоча працаваць і таму адкрыў краму. І прыйшлося А.Б. хутка зачыніць сваю краму. На тым жа месцы адчыніў крамку праваслаўны адстаўны жаўнер, у таго справа пайшла лепей, бо ён на вынас гандляваў гарэлкай з закускай.

Гэтак было 25 гадоў таму. Некалькі гадоў таму я чуў, што ў Жалудку адчынілася кааператыўная крама і справы ў ёй ідуць нядрэнна.

У Жалудку сярод месцічаў былі дзве важныя асобы. Арганіст Вінцэнт Ліхвяровіч - вялікі майстар-самавук і шавец-паэт Казімір Куцэвіч. Арганіст ужо не жыве, а паэт яшчэ не памёр. Па яго вершах бачна, што не меў ён ніякай навукі, але ў вершах яго ёсць пачуцці, і бачна, што аўтар мае вялікі і рэдкі талент.

Я нарадзіўся ў Жалудоцкай парафіі і жыў у ёй 30 гадоў, і яна назаўсёды застанецца ў маёй памяці.

**Некалькі слоў пра суседнюю парафію ў Ішчалне**

Маёнтак Ішчална, каля якога стаіць парафіяльны касцёл, належаў Валям. Дачка апошняга Валя выйшла замуж на лідскага віца-маршалка Лясковіча, а дачка Лясковіча стала жонкай Важынскага. Такім чынам, Ішчална належала гэтым апошнім. Апошні з Важынскіх - Баляслаў, быў жанаты з малодшай сястрой Станіслава Грабоўскага, якая ў пасаг прынесла мужу 75 000 рублёў. Гэтая магнатка, бачачы нешта нядобрае ў паводзінах мужа, сама забрала сваё жыццё стрэлам з рэвальвера. Засталіся 3 дачкі і сын, які вучыўся ў Рыжскай гімназіі і, падобна, вучыўся добра, што сярод дзяцей магнатаў бывае рэдка. На жаль, ён памёр, калі вучыўся у 5-м класе. Маёнтак застаўся ў руках яго сёстраў[19].

Недалёка ад палацыка, у маёнтку стаіць невялікі мураваны дамок-скарбец. Там захоўваюцца некаторыя гістарычныя рэчы Валяў: браня, шышакі і г.д.[20] Сховішча было ў асобным пакоі. За некалькі тыдняў да самазабойства Важынскай яе служка ўвайшоў у сховішча і ўбачыў там нейкага невядомага, прыгожага пана ў чорным убранні. Невядомы ўхапіўся за руку служкі і так моцна сціснуў яе паміж плячом і локцем, што на руцэ засталіся сінія плямы. Невядома, ці казаў што гэты невядомы прыгажун. Служка закрычаў з вялікім намаганнямі вырваўся з рук невядомага, потым кінуўся ў палацык і расказаў ўсё, а як доказ, прадэманстраваў сінякі (распавёў пра гэта тагачасны Ішчалнянскі пробашч кс. Свяцкевіч).

Пры касцёле маецца прымураваны трысценак - як быццам пакой. Там захоўваецца 6 трунаў з парэшткамі былых уладальнікаў маёнтка: Валяў, Лясковічаў, Важынскіх. Валь памёр ужо гадоў 120 таму, а Важынскія гадоў з 50. Я яшчэ памятаю, як гадоў 40 таму адчыняліся ўсе труны і я бачыў парэшткі гэтых магнатаў[21].

Таксама гадоў з 40 таму, у Ішчалнянскай парафіі, у часы вышэйзгаданага пробашча кс. Свяцкевіча адбылася страшная авантура, ці дакладней - злачынства. Памёр тут багаты селянін па прозвішчы Ёч. Яго прыгожа апранулі і пахавалі на парафіяльных могілках. Назаўтра людзі прыйшлі зноў кагосьці хаваць. Знаёмыя Ёча пайшлі праведаць ягоную магілу і ўбачылі жудасную карціну: магіла раскапаная, і цела без вопраткі і нават без бялізны выкінутае з труны, а ў нябожчыка адрэзана кісць адной рукі. Адразу пра гэта расказалі пробашчу, і той выклікаў паліцыю. Распачалося следства, але паліцыя нічога даведацца не змагла[22].

Праз некалькі тыдняў, васілішскі ключвойт Галу-

[18] У нашай карчме з-за гэтых святаў Зэлік меў вельмі добры прыбытак. - *заўвага аўтара*.

[19] Падрабязна пра гісторыю Ішчалны, гл: Лаўрэш Леанід. Страчаная цывілізацыя. Гістарычныя хронікі: Маёнтак Ішчална // Новы замак. 2022. Выпуск 10. С. 179-200.

[20] Пра прыватны музей-архіў Ішчалны гл: Лясковіч Караль. Красовы двор і яго суседзі. (Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша) // Лідскі летапісец. 2021. № 3-4(95-96). С. 85-104.; 2022. № 1-2(97-99). С. 43-84.

[21] Пра пахаванне ў касцёле гл: Лясковіч Караль. Красовы двор і яго суседзі.

[22] Пра такія злачынствы, гл: Лаўрэш Леанід. Прыход у Мыто // Лідскі Летапісец. 2021. № 2 (94). С. 19-29.

шка (зараз гэта ўраднік), аб'язджаючы свой участак, заехаў у карчму ў Масявічах і знайшоў там адстаўнога жаўнера, які падазраваўся ў крадзяжах, са скуранай торбай на плячах.

- Ты маеш пашпарт?

- Я хаджу па сваёй воласці, і пашпарта мець не павінен.

- А што маеш у торбе?

Той адчыніў торбу - на версе ляжала чыстая бялізна.

- А што там пад бялізнай?

- Там ляжыць кавалак сала, які мне гаспадыня дала.

Злодзей бярэ гэта ў рукі і закідвае за ложак яўрэйкі. Паліцыянт загадвае дастаць і бачыць, аж там адрэзаная чалавечая кісць рукі!

Ураднік арыштаваў яго і даставіў у Васілішкі. Следства паказала, што гэта была кісць нябожчыка Ёча, нябожчыка абабралі 3 злачынцы, і, зразумела, усе яны былі пакараныя.

У 1863 г. пробашчам у Ішчалне быў кс. Фалькоўскі. Ён прачытаў заклік да сялян далучацца да паўстання, за што быў расстраляны ў Лідзе. Месца пакарання выбралі недалёка ад горада, на Выгане, дзе зараз стаіць ветраны млын. Не раз, ідучы гэтым месцам, я думаў пра гэтую магілу нашага шаноўнага кс. Фалькоўскага.

**Некалькі слоў пра Шчучын**

Сімпатычнае мястэчка Шчучын знаходзіцца за 2 мілі ад Жалудка і за 8 ад Ліды. З ранейшых часоў і зараз гэта ўласнасць князёў Друцкіх-Любецкіх. Здаўна там былі 2 кляштары: піяраў і сясцёр міласэрнасці.

Ксяндзы-піяры утрымлівалі 6-ці гадовую школу[23]. У гэтай школе вучыўся і мой бацька. Ён расказваў, як іх вельмі грунтоўна вучылі і каштавала гэта 40 грошаў у год. Ніякай формы ў вучняў не было, і кожны хадзіў у школу ў сваёй вопратцы, нават хоць у кажушку. Гаспадыням кватэр, якія здымалі, плацілі прадуктамі. Усе было на дзіва танна, і пуд жыта каштаваў 25 грошаў, а ўсё ацэньвалася ад гэтага кошту[24]. Утрыманне аднаго хлопца ў школе каштавала 20 рублёў у год (?). Усё гэта было каля 1812 г. Ксяндзы-выкладчыкі вучылі вельмі старанна і розгаў не шкадавалі.

Адзін з прафесараў школы, кс. Астроўскі, як мне апавядаў прафесар Урбановіч, быў знакамітасцю. Пэўна праз 40 гадоў пасля яго смерці, я бачыў яго намаляваны алеем партрэт. Гэты партрэт знакамітага каплана і педагога пераехаў у жытло арганіста.

Не ведаю добра, у якім годзе, але недзе пасля 1831 г. закон піяраў скасавалі. Не ведаючы сваёй будучыні, піяры перад сваім упадкам пабудавалі прыгожыя і вялікія мураваныя касцёл і кляштар. У ваколіцах Шчучына ксяндзы-піяры мелі свой вялікі маёнтак і пасля скасавання закона піяраў, як і касцёл з кляштарам, ён патрапіў у рукі ўрада.

У Шчучыне здаўна меўся закон сясцёр міласэрнасці[24]. Яны таксама мелі свой маёнтак. Сёстры ў сваім кляштары ўтрымлівалі 20 - 30 бедных хворых і няшчасных, якім яны стваралі добрыя ўмовы жыцця. Напрыклад, нейкая невылечна хворая па прозвішчы Дабачынская, ляжала ў іх кляштары 23 гады.

Пасля скасавання кляштара, яго маёмасць таксама была канфіскавана, а кожнай з сясцёр прызначылі пенсію па 15 рублёў штогод.

Гаспадары навакольных маёнткаў, як маглі, прысылалі ім збожжа, бульбу, птаства і іншыя прадукты. Гэтак, з ласкі Божай, і жылі сёстры пры гэтым дзяліліся лішкамі ежы з нэндзамі. Яшчэ яны ўтрымлівалі школку для дзяўчынак і штогод вучылі па 20 чалавек. За стол і навуку бралі вельмі няшмат, а з бедных наогул нічога не бралі. Вучылі дзяўчынак рэлігіі і дамаводству. Дзяўчынкі вышывалі для касцёлаў прыгожыя арнаты, капы, дываны і г. д. Мая старэйшая сястра атрымала выхаванне ў гэтым кляштары, і таму я добра пазнаёміўся з гэтай установай у 1853 г., якраз, калі там вучылася мая сястра. Старшай паннай там была Жадзейка, панна-ахмістрыня Юзэфа Качаноўская, далей: панна Кацярына Панятоўская і панна Ганна Стэфановіч. Кухняй і гаспадаркай займалася панна Францішка, прозвішча якой я забыўся. Панна Жадзейка памерла ў 1853 г., і яе месца заняла панна Качаноўская. Немаладая панна Францішка таксама хутка памерла, і засталіся толькі 2 манашачкі. У 1866 г. іх перавялі ў Вільню. Гадоў 20 таму ў Вільні я зайшоў ў кляштар і сустрэў там раней знаёмую мне манашку Ганну Стэфановіч.

У Шчучыне заўсёды былі добрая дактары. Адзін з іх, Жахоўскі, хутка вылечыў мяне ад болю ў горле, ад якога, з перапынкамі, я пакутаваў амаль што 22 гады. Другі доктар, Іваноўскі, быў добрым урачом і чалавекам, нават ад багатых браў няшмат грошай, а ад бедных наогул не прымаў платы. І калі памёр, пакінуў сваёй жонцы 400 рублёў.

Шчучынская парафія не вызначалася пабожнасцю і, акрамя гэтага, у Шчучыне меўся дрэнны звычай - рынкавы дзень тут быў прызначаны на нядзелю. У выніку гандляры і шынкары жылі, як каралі, а ў касцёле заўсёды было некалькі дзесяткаў ці яшчэ меней людзей. Здаецца, зараз ужо адмянілі гэты дрэнны звычай і рынак,

[23] Піярскія калегіюмы ў ВКЛ з'явіліся пры канцы XVII ст. Сапраўдны росквіт гэтых устаноў наступіў у нас пасля заканчэння вынішчальнай Паўночнай вайны, пасля 1721 г., і ў 1736 г. утварылася асобная Літоўская правінцыя піяраў. Але яшчэ ў 1718 г. уладальнік Шчучына Ежы Юзафовіч-Глябніцкі запрасіў манахаў-піяраў, каб яны адкрылі школу. У 1726 г. Сойм пацвердзіў заснаванне ў Шчучыне калегіюма піяраў і ўсе фундацыі яму ад Юзафовіча-Глябіцкага і яго дачкі Тарэзы, якая пасля смерці бацькі апекавала калегіюм.

[24] 1 злоты быў роўны 15 капейкам срэбрам, а 1 грош, які традыцыйна адпавядаў 1/30 злотага, роўны 1/2 сярэбранай капейкі.

[25] Сёстры міласэрнасці св. Вікенція дэ Поля, вікенціянкі (Szarytki), шэрыя сёстры, каталіцкая жаночая кангрэгацыя, заснаваная ў 1633 г.

калі не памыляюся, перанеслі на аўторак[26]. Я ўжо 25 гадоў як выехаў з тых мясцін і не ведаю, што там зараз робіцца.

Царквы ў Шчучыне ніколі не было, бо праваслаўных, можа мелася некалькі чалавек. Хутка пасля паўстання каля касцёла пабудавалі і царкву.

З Шчучынскай мяжуе Васілішская парафія. У ёй здаўна жыў вельмі пабожны народ. У парафіі мелася 2 касцёлы: адзін, парафіяльны па-дамініканскі ў мястэчку, другі, філіяльны, за 2 вярсты ад мястэчка.

У 1866 г. парафіяльны касцёл перавялі пад царкву. Сведкі гэтага распавядалі, што калі пачалі выносіць з касцёла найсвяцейшыя сакраманты і ўсё начынне, стаяў страшны плач, енк і лямант. Калі быў скасаваны касцёл у Дубічах[27], званы з яго перавезлі ў васілішскі касцёл. Толькі гадоў з 8 таму, Васілішскія парафіяне дачакаліся прыгожага мураванага касцёла ( у Старых Васілішках - *Л. Л.*)[28]. Праўда, я сам яго не бачыў, але іншыя расказваюць пра яго з захапленнем.

**Ліда**

Ліда, мая любімая Ліда! Тут я правёў тры гады за навукай (з 1855 па 1858 г.). Тут мне з дзяцінства ўсё знаёмае, усе дрэвы і кожны камень у бруку!

Пасля вялікага пажару 1892 г. Ліда непазнавальна змянілася. Раней гэты быў невялікі павятовы горад, які зараз моцна вырас і стаў непадобным сам на сябе. Ад ранейшай Ліды застаўся замак закладзены вялікім князем ВКЛ Гедымінам. Калі я ўпершыню ўбачыў замак, сцены яго былі значна вышэйшымі, але святатацкая рука моцна разабрала іх, а сёння губернатар загадаў абляпаць цэментам і такім чынам падтрымаць сцены[29].

Я памятаю, што за замкам было чыстае поле, але ўжо даўно тут вырасла вялікая частка горада, якая мае назву "Ферма". У маі тут прыгожа, як у раі! Усе дамы ў зелені.

Таксама за чыгункай ўтварылася вялікая вуліца[30]. Наш прыгожы горад дачакаўся дзвюх чыгунак, якія прайшлі праз яго[31]. Раней было некалькі заезных корчмаў, а сёння тут маецца 8 паважных гатэляў. Дрожак наогул не было, а зараз іх некалькі дзясяткаў. У Лідзе закладзена каапературыўная крама, але з-за непаразумення паміж заснавальнікамі яна хутка знікла.

Некалькі гадоў таму, паненка, сваячка дэкана Шкопа, заснавала каля касцёла кніжную краму, якая нармальна працуе. Наколькі ведаю, у горадзе маецца некалькі неяўрэйскіх крам, найлепшая з іх каля кніжнай крамы. Таксама ёсць крамка на ўскрайку горада, якая сябе там добра адчувае[32].

Раней у горадзе былі 3 касцёлы: фарны, кармелітаў і піяраў. Кармеліцкі зачынілі пасля паўстання 1831 г., піярскі згарэў 1845 г., але яго мураваныя сцены стаялі да 1861 г., калі яго перарабілі ў царкву. Застаўся адзін фарны касцёл. Муры кармеліцкага касцёла доўга стаялі але 3 гады таму былі разбураны[33].

Лідская парафія вельмі вялікая. Некалькі гадоў таму арганіст казаў мне, што яна мае 16 000 вернікаў.

Могілкі знаходзяцца за вярсту ад касцёла. Тут ёсць некалькі прыгожых помнікаў, але на могілках адбылася гісторыя, якая мне вельмі не падабаецца.

Некалькі дзесяткаў гадоў таму, павятовым доктарам у Лідзе быў Садоўскі. Невядома ад чаго адначасова ў яго памерлі двое дзяцей. Яго жонка не змагла гэтага перажыць і з роспачы атруцілася. Усіх траіх пахавалі каля самай паўночнай сцяны капліцы[34] і паставілі не надта вялікі помнік, на якім выгравіравалі прыгожы вершык, якога я, на жаль, не памятаю.

10 гадоў таму я не знайшоў помніка Садоўскай на сваім месцы і моцна здзівіўся, бо на яго месцы стаяў помнік па доктару Гузе. Капаючы гэтую магілу, парэшткі Садоўскай і яе дзяцей былі выкаваны, а помнік аднесены на якія 10 метраў ад капліцы! Зямля пад магілы Садоўскіх калісьці была купленая, але нават пасля гэтага іх парэшткі выкапалі і перанеслі ў іншае месца.

Я лічу, што адміністрацыя касцёла зрабіла ўсё гэта вельмі не па-людску, дэканам у той час быў вядомы … кс Сянкевіч (на месцы характарыстыкі Сянкевіча стаіць трохкроп'е - *Л. Л.*).

---

[26] Рынак у Шчучыне ўжо з паловы XVIII ст. збіраўся па нядзелях, У 1895 г. нядзельныя кірмашы перанесены на чацвер. Абарот кожнага такога рынкавага дня ў 1868 г. не перавышаў 800 рублёў.- Гл: Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 78.

[27] Мірон Браніслаў Нарбут пісаў: *"У Радунскай парафіі быў філіяльны касцёл у Дубічах, пабудаваны ў лесе над возерам, дзе знаходзілася фігура Пана Езуса, слынная сваімі ласкамі. Сюды з розных, нават далёкіх краёў збіраліся людзі для атрымання адпушчэння граху. Цяпер на загад расійскага ўрада касцёл знесены, а фігура Збавіцеля перанесена да касцёла парафіяльнага ў Начы"*. - гл: Нарбут Мірон Браніслаў. Лідскі павет у сярэдзіне XIX ст // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Мінск, 2015. С. 106-124.

[28] Гл: Панімаш Г.І. Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў Старых Васілішках // Рэха мінуўшчыны: Зборнік Студэнцкага навуковага таварыства факультэта гісторыі і сацыялогіі ГрДУ. Вып. 1. Гродна, 2010. С. 158-168.

[29] Маецца на ўвазе кансервацыя замка да Першай сусветнай вайны. Гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 32-33.

[30] Гл: Абрамовіч Уладзіслаў. Слабодка - прадмесце Ліды // Лідскі Летапісец. 2014. № 1 (65). С. 65-66.

[31] Гл: Лаўрэш Леанід. Лідская чыгунка. Дакументальная аповесць // Маладосць. 2018. № 7. С. 120-139.; № 9. С. 116-122.

[32] Пра кніжныя крамы таго часу гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. С. 48.

[33] У 1908 г. касцёл кармелітаў быў разабраны, хоць касцельныя муры ўсё яшчэ стаялі да ўзроўню даху. Цэгла выкарыстоўвалася для будаўніцтва кашараў Паўночнага вайсковага гарадка. У тым жа 1908 г. кляштар занялі вайскоўцы. Пад час нямецкай акупацыі ў будынку былога кляштара месціўся жаўнерскі клуб, а з 1927 г. тут стала размясцілася староства Лідскага павета.

[34] Жонка Максімілія Садоўская з Даўгялаў (узрост - 27 гадоў), дзеці Людвіка і Ян. Памерлі 13 лістапада 1845 г.

**Калясніцкая парафія**

Зараз я даўно ўжо стала жыву ў гэтай парафіі. Пасля 1831 г. драўляны касцёл адсюль быў перанесены ў Радунь, а парафію падзялілі на 3 ці 4 часткі і далучылі да іншых парафій. Аднак праз нейкі час, стараннем вялікай колькасці асоб, быў закладзены новы касцёл, а парафія адноўлена ў старых межах. Пробашчам сюды перавялі з Гародні вельмі руплівага і працавітага каплана кс. Рудзіса. Была пабудавана драўляная капліца, у якой і сёння адпраўляюцца набажэнствы, і быў закладзены вялікі мураваны касцёл. Закладны кутны камень гэтага касцёла быў пакладзены біскупам Ропам. Наш новы касцёл ужо накрыты, але да заканчэння працы яшчэ далёка, і дай Божа, каб за 5 гадоў дабудавалі[35].

Калясніцкім ксяндзам раней належаў прыгожы фальварак Калеснікі. Пасля канфіскацыі ён пераходзіў з рук у рукі ,покуль не дастаўся Цітову, дзеці якога і сёння валодаюць гэтай маёмасцю. Ранейшы касцёл стаяў у самым фальварку, акружаны прыгожым садам і могілкамі. Святатацкая рука знішчыла ўсе помнікі, пакінуўшы толькі адзін - нейкага Жаброўскага. Нядаўна ў фальварку мелася манаполька (крама гарэлкі - *Л. Л.*), але яна была зачынена, а ў яе памяшканні заснавана школа[36].

Знакаміты прамоўца кс. Рудзіс ў мінулым годзе цяжка захварэў, працяглы час лячыўся за мяжой, пасля чаго ўсё ж вярнуўся ў парафію, але дактары забаранілі яму працаваць. Сёння парафіяй займаецца кс. Казімір, якога нядаўна тут сустракалі вернікі.

Парафія складаецца з палякаў, летувісаў і беларусаў, і кс. Рудзіс гэтак паставіў справу, што ў нашым касцёле не было ніякіх крыўдаў і спрэчак.

Са слоў нашага арганіста, у Калесніцкай парафіі налічваецца каля 5 000 вернікаў, з якіх 500 выехала ў Амерыку [37].

Некалькі гадоў таму ў Калесніках створана сельскагаспадарчае кола і кааператыўная крама. Справа на пачатку ішла добра, покуль, усё не сапсаваў няшчасны алкаголь. Але зараз з іншымі людзьмі справа пайшла добра. Старшынём нашага сельскагаспадарчага кола ёсць Сядлікоўскі[38]. Акрамя гэтай, паўсталі тры іншыя хрысціянскія крамы, і зараз у нас 4 хрысціянскія на 2 яўрэйскія крамы.

Кіраўнік нашай кааператыўнай крамы В. Б., сын селяніна ў вёскі Крывілі, з'яўляецца сапраўдным аматарам літаратуры і навукі і мае не малую бібліятэку, недзе з 200 тамоў. Я час ад часу да яго прыязджаю ці прыходжу ўпешкі і маю прыемнасць размаўляць з ім пра навукі і літаратуру, чаго пазбаўлены ў сваім доме. Ён здаўна выпісвае 1 ці 2 газеты, шмат чытае і ведае больш, чым любы іншы месціч. Сяляне - вернікі нашай парафіі, выпісваюць недзе з 10 газет, з якіх, можа, 2, а можа, болей - летувіскія.

Не магу не расказаць пра адну забаўную спрэчку.

У вёсцы Н. ёсць вельмі разважлівая і сімпатычная дзяўчынка Н. якая заўсёды жадае усё гвалтам перарабіць на летувіскую мову, а я прыкладаю ўсе свае высілкі, каб утрымаць яе ў сваёй нацыянальнасці. Ёй даюць чытаць кніжкі, выдадзеныя хоць і па-польску, але ў летувіскім духу, а я, каб усыпіць яе пільнасць, апошнім разам даў ёй пачытаць "Ядвігу - каралеву польскую". Але іншыя асобы маюць на дзяўчыну ўплыў большы за мой. Адзін з іх, дзіўна зацяты летувізмам, вельмі дрэнна абазваў каралеву Ядвігу, што мяне моцна пакрыўдзіла. Я так разумею і чытаў пра гэта, што шаноўныя летувісы не жадаюць прызнаць таго, што польская каралева Ядвіга вырвала іх з паганскай цемры і прывяла да сапраўднай веры.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[35] У ліпені 1911 г. паведамлялася, што будаўніцтва касцёла ў Калесніках з-за недахопу грошай ідзе цяжка, гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. С. 35.

[36] "У кастрычніку 1906 г. Расійскае тэлеграфнае агенцтва паведамляла, што *"пад уплывам ксяндзоў у Эйшышскай і іншых суседніх парафіях Лідскага павета арганізаваныя таварыства цвярозасці, сябры таварыстваў устрымліваюцца ад ужывання алкаголю. Абароты манапольных крамаў зменшыліся да мінімуму. У Калесніках такая крама наогул зачынена"*. - Цыт па: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. С. 17.

[37] Прэса пісала, што эміграцыя настолькі пашырылася, што на радзіме ўжо месцамі пуставалі палі. З суседняй з Калеснікамі вёскі Бутрыманцы, народны карэспандэнт пісаў у газету "Наша Ніва": *"Сярод эканамічных праяў у жыцці тутэйшых вёсак ёсць адна вельмі цікавая і важная - гэта эміграцыя ў Амерыку. Пачалася яна тут ужо гадоў дзесяць, або і больш, і цяпер ужо ўзрасла да вялікай меры. Ёсць тут у ваколіцы такія вёскі, у каторых прыходзіцца на кожную хату па "амерыканцу", а часам і больш. Едуць найбольш людзі маладыя, дужыя, назбіраўшыя на роднай зямліцы запасы сілы, каб там, за морам, прамяняць яе на амерыкансія долары. Едуць нават дзяўчаты і падросткі. Я пільна ўслухаўся да гутарак аб гэтай Амерыцы аб "амерыканцах" і ня чуў ні разу скаргі на няўдачу, нараканні на тое, што ездзілі, ці выпраўлялі каго ў Амерыку. Праўда, два чалавекі вярнуліся, страціўшы грошы і не даехаўшы - бо іх ашукалі агенты. А шмат хто, прыехаўшы прывозіў з сабой грошы, часам, вялікія грошы. Гэтыя амерыканскія грошы не пайшлі прахам, а далі змогу шмат каму з сялян паадкупляць ад паноў зямлі. І дзеля гэтага, тутака гаспадары па вёсках жывуць ня бедна, хоць зямля і не надта выгодная - бо каменістая, але ж маюць яе шмат: па паўвалокі і больш. Ці не дзеля гэтага тут і народ святлейшы, як па іншых кутох Беларусі"* - Гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. С. 63.

[38] Газета "Кур'ер Літоўскі" ў 1908 г. пісала пра : *"Калеснікі. Падобна, пачынаецца нейкі рух па падвышэнні асветы і дабрабыту народу. Рух гэты пачаўся з заснавання ашчадна-пазыкавых кас, сельскагаспадарчых таварыстваў, кааператыўных крам і г.д. …Па вясне сп. Station Браніслаў Ёч, Пётр Сядлікоўскі і ксёндз Рудзіс арганізавалі сельскагаспадарчае таварыства... Сябры таварыства чытаюць сялянам лекцыі па аграноміі... Колькасць таварыства дасягае 40 чалавек"*. У 1911 г. у мястэчку Калеснікі ўжо стала працавала сельскагаспадарчае таварыства і кааператыўная крама. - Гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. С. 18.

***Леанід Лаўрэш***

# Лісты Тэадора Нарбута да Аніцэта Рэніера

Трэба трошкі расказаць пра Аніцета Рэніера і яго вядомую ў нашым краі сям'ю.

Заснавальнік роду Рэнігераў у Літве прыбыў да нас з Францыі ў 1646 г.

У беларускай навуковай літаратуры браты Рэнігер таксама вядомыя як Рэніер. Прафесар Хаўстовіч пісаў, што прозвішча *Рэніер* сустракаецца толькі ў некаторых дакументах, а на віленскіх могілках Росы, на помніку Аніцэта напісана: *"Reniger Anicet Dr medycyny, czlonek Wilenskiego Towarzystwa Lekarskiego i innych (1805-1877)"*. Рэнігерамі браты запісаны і ў спісах выпускнікоў Першай віленскай гімназіі[1].

Тым не менш доктар Аніцэт Рэніер вывучаў медыцыну ў Віленскім універсітэце. Яшчэ не закончыўшы ўніверсітэт, як лекар, ён прыняў удзел у паўстанні 1831 г. Пасля паразы паўстання, разам са сваім аддзелам, быў інтэрніраваны ў Прусіі, але ў 1832 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. У 1836 г. атрымаў дыплом урача і хутка стаў знаным у Вільні лекарам.

А Мамерт Рэнігер хаваў апошняга беларускага базыльяніна а. Кірыла Летаўта ў сябе на вёсцы, а потым у сваім доме на Антоклі. Хаваючыся, Летаўт жыў у адным з драўляных дамкоў Рэнігера і штодзённа служыў святую імшу. Тут пад страхой доўгі час захоўвалася і перапіска Мамерта Рэнігера[2].

Яшчэ Генадзь Кісялёў пісаў: *"Рэніер Мамерт - доктар, сябар беларускага рэвалюцыянера і паэта Ф. Савіча. У 40-я гады разам з братам Аніцэтам абвінавачваўся ў сувязях з эміграцыяй і рэвалюцыйнай прапагандзе. Пісаў па-беларуску"*[3]. Як бачым, Мамерт Рэнігер сябраваў з беларускім рэвалюцыянерам і паэтам, сынам уніяцкага святара Францішкам Савічам.

Вядома, што чатыры з шасці братоў Рэнігераў пакінулі свае запісы ў "Альбоме" Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Сярод іх быў Аніцэт Рэніер, які ішоў па адной справе з лідзянінам Бальтазарам Калясінскім і быў сасланы ў Сібір. Сябар манаха Летаўта - Мамерт Дэзідэрый нарадзіўся 13.03.1814 г., менавіта ён пакінуў у альбоме Вярыгі-Дарэўскага свой беларускамоўны верш[4].

Акрамя Вярыгі-Дарэўскага, Мамерт Рэнігер сябраваў і перапісваўся з Адамам Кіркорам. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у лісце да Яна Карловіча ад 16 верасня 1868 г. пісаў: *"Пан будзе вельмі рады знаёмству з Вішнеўскім, ... асабліва наш супольны прыяцель Мамерт Рэніер. Яны могуць даць пану матэрыялы для народнай літаратуры. У Рэніера, пан, можа, і Купалу знойдзеш"*[5]. Таксама Дунін-Марцінкевіч адзначаў, што Мамерт Рэнігер меў шмат беларускамоўных твораў свайго часу[6]. Як мы ведаем, архіў Мамерта Рэнігера, які захоўваўся "пад страхой" яго дома, знік[7], таму, верагодна, зніклі і ўнікальныя тэксты беларускай літаратуры.

У 1842 г. сябар Нарбута Аніцэт Рэніер становіцца членам Віленскага лекарскага таварыства і прымае на сябе кіраўніцтва медыцынскай бібліятэкай таварыства. Ён меў на ўтрыманні вялікую сям'ю і, нягледзячы на добры даход, які давала лекарская практыка, жыў небагата, аб чым у 1843 г. пісаў Тэадору Нарбуту, з якім сябраваў: *"... не магу ўзняцца з беднасці, і ніхто мне ў гэтым не дапаможа. Трэба шмат працаваць самому, покуль магу і покуль хапае моцы"*. Але матэрыяльны стан не перашкаджаў яму думаць пра будучыню краю, у тым жа годзе пісаў Нарбуту: *"Колькі мільёнаў людзей трымаем як быдла ... будзем гніць разам з імі ў чужынскай няволі, бо самі гэтаму дапамагаем"*, а ў 1845 г.: *"На маіх плячах ляжыць вялікая адказнасць, ад якой я, пакуль хапае сіл, не магу адрачыся"*[8]. Цікава, што Аніцэт Рэніер пісаў пра масавы супраціў беларускіх сялян супраць ліквідацыі ўніяцкай царквы, што стварала спрыяльны грунт для дзейнасці канспіратараў на вёсцы. Вясной 1845 г. Рэніер пісаў пра *"ўніятаў, якіх сілай і ўціскам навяртаюць у праваслаўе"*[9].

Да 1845 г. Аніцэт Рэніер арганізаваў у Вільні тайную бібліятэку, у якой, акрамя дазволеных, меліся і кнігі, выдадзеныя за мяжой. Потым паліцыя знайшла матэрыялы, абапіраючыся на якія, даведалася, што бібліятэка мела 71 чытача, з якіх 43 чыталі выключна антыўрадавыя кнігі. Чытачамі была дробная і сярэдняя шляхта, чыноўнікі, журналісты, літаратары, лекары і іншыя асобы з усёй Беларусі. Віленская група канспіратараў гуртавалася вакол бібліятэкі Рэніера.

28 лістапада 1844 г. доктар Аніцэт Рэніер пісаў да

[1] Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст // Acta Albaruthenica. 2015. Т. 15. С. 246.

[2] Лаўрэш Леанід. Апошні беларускі базыльянін XIX ст. // Наша слова. 2019. 10 ліпеня.

[3] Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / Укл. Г.В. Кісялёў. Мінск: Навука і тэхніка, 1977. С. 236.

[4] Лаўрэш Леанід. Бальтазар Калясінскі, лідскі паўстанец і сябар Тараса Шаўчэнкі // Наша слова. № 24 (1435), 12 чэрвеня 2019.; № 25 (1436), 19 чэрвеня 2019.

[5] Цыт. па: Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст. С. 244-245.

[6] Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст. С. 243-251.

[7] Pozniak Jan. Ostatni bazyljanin litewski // Preglad Wilenski. № 21-22, 20 grudnia 1932. S. 11.

[8] Fajnhauz Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Bialorusi, 1846-1848. Warszawa, 1965. S. 100., 129.

[9] Там жа. S. 125-126.

Тэадора Нарбута: *"Калясінскі прыехаў у Вільню, і я з ім некалькі разоў сустракаўся"*. Лідзянін Бальтазар Калясінскі быў чынным чальцом канспіратыўнага гуртка і ад пачатку існавання карыстаўся тайнай бібліятэкай, бо быў добрым сябрам Аніцэта Рэніера, а хутка стаў і адным з кіраўнікоў усёй канспірацыі[10].

Трэба сказаць, што нашчадкі братоў Рэніераў у першай палове XX ст. падтрымлівалі сяброўства з беларускім грамадскім дзеячам Янам Пазняком - любоў і павага да беларушчыны ў гэтай сям'і з'яўлялася сталай, шляхетнай традыцыяй[11].

Вось з такім чалавекам сябраваў і ліставаўся Тэадор Нарбут. З перапіскі бачна, што галоўны спосаб ліставання - праз ганца ці з аказіяй. А калі Нарбут нешта атрымліваў па пошце, дык адмыслова паведамляў пра гэта, таму, магчыма, гэта было выключэннем.

## Лісты Тэадора Нарбута да Аніцэта Рэніера ў Вільню[12]

**1.**

*Шаўры, 3 лютага 1840 г.*

Дарагі і шаноўны пан-дабрадзей Аніцэці!

Я толькі што быў у Гародні і атрымаў ваш ліст ад 3 студзеня, напісаны ў Вільні. Я зрабіў усе неабходныя намаганні ў нашай справе. Губернатар нібы быў рады з-за намеру надрукаваць кнігу пра воды Друскенікаў[13], зрабіў толькі заўвагу, ці не занадта гэта рана[14]. Таму было дарэчы сказаць пра тваё жаданне на нейкі час прыехаць для лячэння. Гэта ён дазволіў кіўком галавы. Але з яго пытанняў, я зразумеў, што Замбжэцкі цалкам пераехаў у Друскенікі і атабарваецца тут, як назаўсёды, Хоча быць вольнапратыкуючым лекарам, каб не патрэбна была яму больш нічыя ласка. Губернатар адказаў, што дамовіцца з вамі па пошце. Шпакоўскаму ліста я не аддаў, бо губернатар сказаў ці зрабіў заўвагу, што ні план, ні відарыс Друскенікаў, не можа быць надрукаваны, бо кожны год усё змяняецца з-за новабудоўляў.

Маім сяброўскім пажаданнем ёсць, каб ты пакінуў на нейкі час віленскае кола і як надаўжэй выбраўся ў нашу старану. Знойдзеш адчыненым для сябе маё сэрца і мой дом, будзеш мець медычную практыку ў нашай ваколіцы, бо Вайцяхоўскі ўжо ўладкаваўся на пастаяннае жыццё ў Свіслачы і хоча жаніцца і г. д., а Казлоўскі ажаніўся і з'ехаў. Таму мы не маем лекара. Адсюль зручна даехаць у Друскенікі і можна працаваць з літаратурай, напісаць і падрыхтаваць да друку кнігу. Маё здароўе настолькі палепшылася, як я і сам не спадзяваўся. Нягледзячы на тое, што я не прытрымліваўся дыеты, а часта і празмерна ўжываў ежу, не дасыпаў па начах і г. д., гэта мне не шкодзіла і не выклікала нават найменшай хваробы.

Аднак, у Друскеніках трэба пабываць, паедзем разам у траўні. Зараз я нічым не займаюся, не пішу і мала чытаю, бо закончыў апошні том "Гісторыі ..." і ён знаходзіцца ў цэнзуры.

Прыязджай, шаноўны пан Аніцэці, прыязджай да мяне. Даехаць зручна, па добрай дарозе, па якой мае фурманкі возяць прадукты, таму - сам у адной, рэчы ў другой і трэцяй - на яе можна паставіць куфар з усім неабходным. Пісар, які будзе з фурманкамі, атрымае ад мяне неабходны загад. Калі зараз не можаш, дык праз некалькі тыдняў мае фурманкі зноў павязуць прадукты.

Змілуйся, паразмаўляй са знаёмымі і з Струмілам[15], якому я прасіў перадаць мой ліст. Ці знойдзецца для мяне садоўнік? Папярэдняму плаціў 20 рублёў срэбрам і жытло, нежанатаму даў бы 25 рублёў срэбрам

[10] Гл: Лаўрэш Леанід. Бальтазар Калясінскі, Аніцэт Рэніер і Каятан Дарашкеіч // Лідскі Летапісец. 2021. № 1(93). С. 37-44.

[11] Хаўстовіч Мікола. Тэкст і кантэкст. С. 246-247.

[12] Kronika Rodzinna. № 9 (1 maja 1888), S. 262-266.; № 10 (15 maja 1888), S. 294-300.; № 11 (1 czerwca 1888), S. 328-335.; № 12 (15 czerwca 1888) S. 356-359.; № 13 (1 lipca 1888) S. 393-398.; № 14 (15 lipca 1888). S. 425-430.

[13] У 1873 г. Каміла Юрэвіч з Нарбутаў (дачка Юстына Нарбута) надрукавала нарыс пра Араны, Мерач і Друскенікі, у якім акрамя апісанняў Арнаў, Мерачы і Друскенкаў, яна адносна падрабязна апісвае гісторыю лякарні водамі ў Друскеніках. Каміла пісала, што тутэйшая вада па сваіх лекавых якасцях стаіць у адным шэрагу з лепшымі водамі Еўропы. Гл: Kronika Rodzinna: pismo dwutygodniowe. № 17, 1 wrzesnia 1873. S. 260-261. - *Л. Л.*

[14] Гаворка тут пра апісанне Друскеніцкіх вод, якія ў наступным годзе Ксаверый Вольфганг, у надрукаваў у часопісе "Ундзіна", які з 1844 г. выходзіў пад яго рэдакцыяй. З гэтых лістоў бачна, што пачатак справы належыць Рэніеру і Нарбуту.

[15] Юзаф Струміла († 1847 г.), уладальнік вялікага саду ў Вільні, аўтар кнігі "Паўночныя сады", якая шмат разоў перавыдавалася і карысталася шырокай вядомасцю. У 1847 г. віленская прэса пісала: *"Вільня. 18-га чысла гэтага месяца, сканаў ... тытулярны дарадца і кавалер ордэна св. Ганны 3-й ступені Іосіф Струміла, сапраўдны член Імператарскіх таварыстваў: Сельскай гаспадаркі і Аматараў садоўніцтва, аўтар вядомай і вельмі карыснай кнігі "Паўночныя сады" ў 3-х тамах. Ён жыў 73 гады. З 1801 года, на працягу 25 гадоў, увесь час быў сакратаром па выбарах дваранства ў Віленскім дваранскім дэпутацкім сходзе, пры гэтым набыў сабе агульную павагу. Вольныя ад службовых заняткаў хвіліны ён, пераважна, прысвячаў садоўніцтву, да якога з юных гадоў адчуваў непераадольную цягу, і якое, як у тэарэтычных так і практычных адносінах, давёў да высокай ступені дасканаласці. Ён першы ў нашым краі ўзвысіў і акультурыў садоўніцтва, навучыўся злучаць у ім карысць з прыемнасцю. Яго багаты сад, заснаваны ім за ўласныя грошы, карыстаецца агульнай вядомасцю. Насенне і расліны гэтага саду развозяцца штогод у самыя далёкія месцы. Акрамя вышэйзгаданага сачынення, нябожчык Струміла выдаў яшчэ наступныя: "Садовае пчалярства", "Разважанне пра вяргіні" і іншыя, менш значныя, сачыненні па садоўніцтву. Сябры і значная колькасць публікі аддалі апошні доўг яго астанкам, якія 21 ліпеня пахаваны на Бернардынскіх могілках"*. - цыт па: Виленский вестник. 1847. № 59. С. 471. - *Л. Л.*

у год. Зрабі такі запыт, каб праз некалькі тыдняў я мог ведаць, ці знойдзецца садоўнік. Парнік яшчэ не заклаў. Меў садоўніка з Гародні, але яго збаламуцілі.

Выязджаючы на вёску, вазьмі з сабой аптэчку. Будзь здаровы і памятай пра нас.

Слуга, Нарбут.

**2.**

*31 сакавіка 1840 г.*

Дон Кіхота атрымаў, самае новае і лепшае выданне 1837 г., Парыж, французскае[16].

Зверыў якасць перакладу з іншымі выданнямі, і калі нішто не перашкодзіць, да Зялёных Святаў ці да ліпеня ў мяне палова перакладу будзе гатовая. Сервантэс мяне вельмі забаўляе, бо мае выдатны гумар. Але польскі стары пераклад шукаю з вялікай прагай, мне сказалі, што ў ім дасціпна перакладзены прыказкі і слоўцы непараўнальнага Сервантэса.

Калі ласка, прыязджай, і можа ты параіш мне, што рабіць з маімі пакутамі і лекі прывязеш.

Слуга найніжэйшы,
Нарбут.

**3.**

*Шаўры, 10 траўня 1840 г.*

Дарагі і шаноўны пан Аніцэці, дабрадзей!

Я буду пасылаць коней і добрую карэту за табой. Хачу, каб як мага хутчэй ты падрыхтаваўся да выезду ў Друскенікі.

Пра сябе паведамляю, што я цалкам здаровы, жаўтуха пасля тваіх рэцэптаў прайшла. Калі ласка, купі тэрмометр, бо мой разбіўся. Трэба купіць звычайны, пасаджаны на простую бляху, галоўнае, каб ён быў дакладны і меў надзейную шкалу. Мой чалавек возьме грошы ад Марціноўскага[17], каб выканаць некаторыя даручэнні.

Што будзем чытаць у Друскеніках?

Калі маеш якія кніжкі, каб узяць з сабой, дык бяры. А можа Дон Кіхота ўжо набыў?

Чакаю цябе з адкрытым сэрцам. Але, але! У вёсцы ў нас шмат хворых, бяры лекі, асабліва ад ліхаманкі і гарачкі.

Сапраўдны сябар і слуга,
Нарбут.

**4.**

*Шаўры, 2 кастрычніка 1840 г.*

Шаноўны дабрадзей Аніцэці!

Вялікі дзякуй за адрамантаваны гадзіннік. Чалавек, які перадасць табе гэты ліст, Іцак Карантовер, верне табе 3 рублі за рамонт, каб разлічыцца са мной, вазьмі грошы ў Марціноўскага ці са сваёй кішэні.

Літаратурныя навіны досыць вялікія, але не надта цікавыя. Трэба выпісаць "Вільню" Крашэўскага[18] і яшчэ што-небудзь.

Учора мелі як быццам першы дзень без дажджу - тры тыдні стаялі халады, і ішоў дождж, на нізінах небывалая паводка, пасеянае збожжа не расце, а запозненыя снапы гніюць. Няма ні восеньскай гароднiны, ні насення кветак.

Раз ты так ласкава ставішся да мяне, я прашу знайсці час і паглядзець мэблю, якая прадаецца па аб'яве ў дадатку да "Кур'ера". Хачу купіць з дзясятак крэслаў, вялікую парадную канапу і дзве маленькія канапы ці шэзлонгі ў гасцёўню, два столікі, каб паставіць перад імі, і, можа яшчэ што-небудзь такое. Каб даведацца пра кошт і дамовіцца, а можа і заплаціць - перш за ўсё за крэслы і канапу, пан Марціноўскі будзе ласкавы даць вам грошы ці гарантаваць аплату.

Мае дзеці, з ласкі Божай, ужо выздаравелі. Уладкаваўшы ўсё дома, пастараюся прыехаць у Вільню. Ты быў у Аранах, гэта вёрст 20 з лішкам ад Шаўроў, чаму не заехаў? Дарога не дальняя.

Будзь, пане, здаровы! Ёсць аказія адправіць карэктуру, з'явілася яна ўчора пад вечар, і сёння на раніцы адпраўляю. Спяшаюся вычытаць карэктуру і паўсонны, ледзь маю час накрэмзаць гэты ліст[19].

Здароўе маё, з большага, у норме. Нядаўна ўначы нечакана паднялася тэмпература, таму мала пісаў.

**5.**

*Шаўры, 20 кастрычніка 1840 г.*

Шаноўны дабрадзей Аніцэці!

Пасылаю карэктуру і экземпляр VIII тома, і таму маю прыемную нагоду напісаць табе, мой дарагі сябар. Калі Марціноўскі выдасць экземпляры, трэба будзе перадаць Завадскаму[20] мой ліст, няхай ён возьме 20 ці болей экземпляраў, сабе вазьмі 1, а мне дашлі астатнія. Калі кнігі яшчэ няма, дык ліст Завадскаму аддаваць не трэба. Мне патрэбна Барбара з Радзівілаў Балінскага, том 2[21]. Пішу Марціноўскаму, каб выдаў вам у рукі для перасылцы пры аказіі мне.

Мэбля мне патрэбная, аднак у віленскіх сталяроў яна занадта дарагая, я ўжо знайшоў сталяра і вясной змагу яго наняць. Аднак было б добра купіць мэблю на танным аўкцыёне, але прашу купіць яе толькі, калі будзе

---

[16] Нарбут перакладаў усяго Сервантэса, шмат пісаў пра гэта ў лістах, але пераклад не быў надрукаваны, бо не знайшлося выдаўца.

[17] Антоні Марціноўскі, некалі рэдактар "Дзённіка Віленскага" і "Кур'ера Літоўскага", уладальнік друкарні, выдавец кнігі Нарбута "Дзеі народа літоўскага".

[18] Kraszewski Jozef Ignacy. Wilno od poczatkow jego do roku 1750. T. 1-4. Wilno, 1838-1842. - *Л. Л.*

[19] Тады друкаваліся VIII і IX тамы "Гісторыі…".

[20] Юзаф Завадскі - віленскі друкар і выдавец. - *Л. Л.*

[21] Balinski Michal. Pamietniki o krolowej Barbarze, zonie Zygmunta Augusta. Warszawa, T. 2. 1840. - *Л. Л.*

па-сапраўднаму танна. Адну канапу ці сафу, з тузін лёгкіх крэсел, маленькі, нізкі камод чырвонага дрэва, два шэзлонгі і больш нічога.

На сваёй гаспадарцы я зрабіў дзіўнае назіранне, што белыя цукровыя буракі (ці шлёнскія), на маёй зямлі ў Шаўрах пастаянна незвычайна добра родзяць. Ужо некалькі гадоў, як быццам на пробу, сею іх і штогод атрымліваю добры ўраджай. Напрыклад, у гэтым годзе яны нідзе не ўрадзілі, а ў маім нізкім гародзе, у вельмі вільготнае лета, сабралі 5 бочак з паловы гарнца насення, але, па-праўдзе, буракі былі малыя. Раскажы свайму брату пра гэта[22]. Ці можна мне з ім паразмаўляць самому, можа мы закладзём якую цукровую вытворчасць? Мне добра было б мець чалавека, які б мог параіць і дапамагчы. Ты казаў мне, што твой брат ведае, як мураваць прамысловыя будынкі, напрыклад, ёмістасць для бровара. Папрасі яго, каб даслаў мне інфармацыю з малюнкамі пяром ад рукі пра тое, як вымураваць дужую ёмістасць. Добра было б зрабіць гэта за тыдзень. Бо буду мураваць, а маразы ўжо блізка.

Не паверыш, якую шкоду нарабілі нам дажджы. Лугі пазаліваныя, сена няма, гародніна, авёс, гарох, грэчку - з поля гнілое звозілі. Бульбы мала сабралі. Будзе голад у нашых сялян. Трэба запасацца хлебам, прадаваць няма чаго.

Шкада, што ты пакінуў нашу старану. Некаторыя пайшлі да прабацькоў з-за адсутнасці добрага лекара. Хенфзель (Henfzel), чалавек стары, але з моцным целам і здароўем, з-за дрэннага лячэння дзюры ў назе дастаў гангрэну і памёр. Казлоўскі лячыў яго.

Спытай Завадскага пра "Дамашні музей" [23]. У 1838 г. ён даслаў мне бракаваны экземпляр першага тома, а потым даслаў мне другі том, і першага я не маю. Таксама другі том 1839 г. я не маю, хоць і заплаціў за яго.

Я яму пра гэта напішу. Пачні здалёк размаўляць з ім пра "Дон Кіхота", што ён пра гэта думае? Можа Рубэн (Рафаловіч)[24] альбо Глюксберг возьмуцца за друк? У лісце да Завадскага я напісаў, што любую дамову, якую ён заключыць з табой, я прыму як сваю. Калі маеш што новага даслаць пра Друскенікі, дасылай, я буду рады.

Слуга,
Нарбут.

6.

*Шаўры, 27 кастрычніка 1840 г.*

Шаноўны дабрадзей Аніцэці!

Калі ты такі ласкавы, што бярэш пад сваю апеку мае літаратурныя інтарэсы, за што я табе бясконца ўдзячны, то асмелюся абцяжарыць цябе сваімі просьбамі. Завадскі прышле мне грошы праз гэтага пасланца за 20 экземпляраў VIII тома, калі хоча хай бярэ яшчэ 10. З іншых 10 асобнікаў восем трэба прадаць яўрэю, які за выяву атрымаў VI том. Да камплекту я дасылаю яму 8 экземпляраў VII тома, і з яўрэя трэба будзе за 16 экземпляраў узяць 32 рублі срэбрам, ці суму, якую сам захочаш атрымаць. Грошы можаш забраць у яго па частках, па меры таго, як ён будзе прадаваць кнігі. Засталося 2 экземпляры VIII тома, адзін возьмеш сабе, а адзін перашлі Аляксандру Ельскаму.

Завадскі мне вінен том II "Музея" за 1839 год, у якасці доказу дасылаю рахунак і лісты, дзе 5 сакавіка ён піша, што другая частка 1839 г. будзе мне даслана бясплатна, бо рахункам, які дасланы разам з лістом ад 27 лютага, ужо аплачаны дзве часткі за 1839 год. А першую частку за 1838 г. я яму вярнуў, бо яна была бракаваная.

Наконт "Дон Кіхота", гэта рэч галавакружная, але смешна гучыць на нашай мове [...] ... калі абмяркоўваць ганарар, дык можна казаць пра 600 рублёў срэбрам, ні менш ні больш, і 60 экземпляраў аўтару. За свае кнігі я бяру па 300 рублёў срэбрам ганарару за том, за пераклады палову гэтага, "Дон Кіхот" будзе ў 4 тамах, 30 выдавецкіх аркушаў, вялікім літарамі. Можам зрабіць новае выданне ў Расіі, а калі выдавец не захоча плаціць грошы за гравюры Плюшчава з Пецярбурга, дык Азямблоўскі зробіць свае гравюры. Канчатковую карэктуру я б ўзяў на сябе.

Не пішу пра гэта Марціноўскаму, бо трэба было б шмат напісаць, а ён не любіць адказваць, але можаш з ім параіцца. [...]

Хачу напісаць губернатару Допельмейру пра Друскенікі: па-першае, каб загадаў палепшыць дарогі, па-другое, папрасіў бы надрукаваць добры і кароткі артыкул пра воды, які можна было б узяць з "Кур'ера" ці пецярбургскага "Тыгодніка" [25] і передрукаваць яго ў берлінскай "Газеце Паўшэхнай", бо гэтыя воды таго вартыя. Пастарайся напісаць галоўнае, потым мы з гэтага зробім артыкул і дашлём губернатару.

Памятай, што трэба пагаварыць з тваім братам, у якога я хацеў бы папрасіць парады, нават дапамогі і супрацоўніцтва ў справе пабудовы цукровай фабрыкі, якую патрабуе мой добры ўраджай буракоў. Я такі чалавек, калі нешта задумаю, дык распачынаю справу разважліва, а калі яна пачынае атрымлівацца, актыўна бяруся і заканчваю. Зараз гэтая фабрыка ў маёй галаве, і я хачу знайсці знаўцу гэтай справы. На бяду, з табой і тваім братам мы не жывём у адным горадзе, але спа-

---

[22] Аніцэт Рэніер меў 6 братоў, акрамя яго, найбольш вядомы таксама лекар Мамерт Рэніер, вядомы знаўца і аматар беларускага фальклору. - *Л. Л.*

[23] "Muzeum Domowe albo czytelnia wieczorna, dzielo posw. historii, statystyce, moralnosci, naukom, sztukom pieknym i literaturze krajowej". Штотыднёвік, а потым штомесячнік, выдаваўся ў Варшаве ў 1835-1839 гг. - *Л. Л.*

[24] Рубэн Рафаловіч, кнігар, пазнейшы выдавец некаторых прац Нарбута.

[25] "Штотыднёвік Пецярбургскі" ("Tygodnik Petersburski") - палітычна-літаратурнае выданне, якое выходзіла ў Санкт-Пецярбургу ў 1830-1858 гг. пад рэдакцыяй Юзафа Працлаўскага і Францішка Малеўскага. - *Л. Л.*

дзяюся, што справа атрымаецца.

Калі гэта пішу, прыйшла маленькая Ёгалька[26], а потым Крысціна[27] спытала, ці пішу зараз я пану доктару? Адказваю: “Так”. - "Тады вельмі прашу яму кланяцца і дзякаваць, што ўзяў Эдварда пад сваю апеку і робіць яму дабро". Ёгалька таксама робіць рэверанс і просіць кланяцца. Людвісь[28] усё памятае і скардзіцца, што матылі памерлі. Меў тры прыгожыя вусені, з якіх ён расціў матылёў, але 2 уцяклі са шклянкі, трэці ператварыўся не ў матыля, а ў лялькy, і ён бядуе, што яна непрыгожая і мёртвая. Сказаў яму, што ўвесну з яе будзе матыль, але ён не верыць, што з мёртвага можа паўстаць жывая істота.

Я нідзе не быў. Пасля гэтых дажджоў заняты фабрыкамі. Вечарам з серады на чацвер у мяне быў выпадак. З боку саду, злодзей выбіў шыбу і ўлез у пакой. Ён скраў са стала падсвечнікі, бо думаў, што яны срэбныя, насамрэч яны толькі маюць пакрыццё. Юстына пачула шум, падумала што кот разбіў шкло, загадала падаць агонь, і кот на двух нагах але без хваста ўцёк праз тую ж дзюрку, у якую ўлез. Не магу зразумець, адкуль узяўся такі смяльчак. Бо такога ў нашых краях ніколі раней не было.

Будзь, пане, здаровы, шчаслівы і нас заўсёды памятай.

Слуга,
Нарбут.

**7.**

*Шаўры, 24 лістапада 1840 г.*

Я вельмі ўдзячны любаму пану Аніцэту за дапамогу ў вырашэнні маіх невялікіх праблем. Па падпісцы атрымаў "Барбару …" і "Дзённік" [Варшаўскі]. Ці даслаць грошы, якія я вінен? Трэба патаргавацца з Марціноўскім аб "Дзённіку..", я пісаў яму, каб больш за 3 рублі на год за падпіску не браў. Атрымаў 20 тамоў "Паментніка Варш."[29] Дмахоўскага, але для мяне тут малое жніво. Непараўнальна з ім мне патрэбны "Паментнік Львоўскі"[30] за 1817 г. усе, да IX тома, мусіць гэта быць у Завадскага, хай пазычыць 1817 г., папрасі ад майго імя.

Калі ўбачыш пана Ірча, паразмаўляй з ім і падзякуй за "Паментнік" Дмахоўскага, які ўжо ёсць пад рукой. За "Тыгоднік" дзякуй, але гэты год праглядаў, Марціноўскі мне яго даваў, але патрэбны нумары за іншыя гады. На гэты год разам з Ксаверыем[31] падпісаліся на нямецкую "Газету Аўгсбургскую".

Малога Турскага не было каму лячыць. Казлоўскі гарчычнікамі і п’яўкамі яго дабіў. Калі можна праз Парчэўскага даведацца, ці ёсць у святара Баброўскага[32] выданне Міхалона Ліцвіна[33], экземпляр, які ён купіў у Рыме пасля нейкага кардынала? Пра гэта мне казаў Анацэвіч[34]. Калі гэта так, дык якім чынам можна атрымаць доступ да гэтай кнігі, ці хоць атрымаць яе бібліяграфічны вопіс? Баброўскі жыве ў Шарашава. Я знайшоў у сябе рэдкую кніжку "Тыгоднік Віленскі" за 1804 г. […]

Рузя пайшла замуж. Як пасаг прызначыў ёй ганарар з VIII том, Марціноўскі абяцаў, але памыліўся, і я мусіў, каб стрымаць сваё слова, пазычыць і заплаціць 300 рублёў. Дзеці і Крысціна кланяюцца табе, з ласкі Божай усе здаровы.

Прагну ўбачыць дарагога пана Аніцэта, а покуль, прымі сардэчныя, сяброўскі і найлепшыя пажаданні.

Слуга,
Тэадор.

**8.**

*Шаўры, 30 лістапада 1840 г.*

Шаноўны дабрадзей Аніцэці!

Не маю нічога новага. А як ты бавішся? Калі не палянуешся і маразам зойдзеш у кнігарню, спытай, ці маюць яны кнігу Лелявеля[35] "Апошнія гады панавання Жыгімонта I"[36]. Гэтую маленькую кніжку Завадскі абяцаў мне прывезці з Варшавы.

Забраў рукапіс IX тома 18 кнігі, бо выкапаў новыя матэрыялы - рукапіс нейкага біскупа часоў панавання Жыгімонта Аўгуста - сапраўдны скарб цікавай інфармацыі.

Дзеці і Крысціна цалуюць панскія ногі, Ружа ўжо Адамовіч, але муж пасля вяселля захварэў на гарачку.

[26] Дачка гісторыка Яна. - *Л. Л.*

[27] Жонка гісторыка. - *Л. Л.*

[28] Людвік Нарбут, старэйшы сын гісторыка. - *Л. Л.*

[29] Pamietnik Warszawski - штомесячны навукова-літаратурны часопіс, які выдаваўся ў Варшаве ў 1815-1823 гг. - *Л. Л.*

[30] "Pamietnik Lwowski" - штомесячны навукова-літаратурны часопіс, выдаваўся ў 1816-19 гг. у Львове. - *Л.Л.*

[31] Родны брат Тэадора. - *Л. Л.*

[32] Грэка-каталіцкі святар і прафесар Міхал Баброўскі. Гл. пра яго: Лаўрэш Леанід. Выбітныя манахі-базыляне часоў ліквідацыі уніі // Biuletyn Historii Pogranicza. 2015. № 15. С. 65-89. - *Л. Л.*

[33] Міхалон Ліцвін (лац.: Michalon Lituanus, магчымае сапраўднае імя Венцлаў Мікалаевіч або Міхайла Цішкевіч) - аўтар трактата "Пра норавы татар, ліцвінаў і маскавітаў" (De moribus tartarorum, lituanorum et moscorum), які быў напісаны перад 1550, а выйшаў у свет у 1615 г. Міхалон Ліцвін абгрунтоўваў паходжанне літоўскай арыстакратыі ад Юлія Цэзара, які, быццам бы, захапіў Літву і зрабіў яе правінцыяй Рыма (легенда аб Палемоне). - *Л. Л.*

[34] Выдатны беларускі гісторык 1-й паловы XIX ст., прафесар Віленскага ўніверсітэта Ігнат Анацэвіч, быў вядомы сучаснікам пад псеўданімам Жэгота з Малой Бераставіцы. Гл. пра яго: Габрусевіч С. А., Марозава С. В. Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына. Гродна, 2005. - *Л. Л.*

[35] Яўхім Лелявель (1786-1861) - знаны гісторык і грамадскі дзеяч. - *Л. Л.*

[36] Ostatnie lata panowania Zygmunta Starego i poczatek panowania Zygmunta Augusta wyciag z rekopismu Historji Polskiej Joachima Lelewela (1821). - *Л. Л.*

Будзь здаровы, мілы сябар.
Твой слуга,
Тэадор.

**9.**

*Шаўры, 14 снежня 1840 г.*

Шаноўны дабрадзей Аніцэці!

Зараз праўлю апошнюю кнігу "Гісторыі …" бо здабываў матэрыялы, якіх раней не мог мець: 1) "Апошнія гады панавання Жыгімонта I", Лелявеля, Варшава, - Завадскі абяцаў дастаць, калі не ён, дык Рубэн ці Глюксберг; 2) "Помнікі гісторыі і літаратуры польскай" Міхала Вішнеўскага[37], - некалькі тамоў мае Глюксберг. Ты мусіш мне хутка іх выслаць, бо ўвесь IX том затрымліваецца.

Ці не была ў Вільні панна Адэля Гейштар? Ці нейкая іншая, якая пасля яе завалодала тваім сэрцам? Дзеткі здаровы, нізка кланяюцца. Хачу перад святамі быць у Вільні, а калі не змагу, дык буду прасіць пана Аніцэта на гэтыя святы прыехаць да нас, я прыслаў бы коней. Заканчвай раней свае медыцынскія справы і прыязджай на святы ў Шаўры.

"Тыгоднік пецярбургскі" адаслаў. Але, але! Не маю календара на 1841 г., прашу купіць. Можа пастараешся і некалькі "Дзённікаў" набыць. Якія нумары мае Марціноўскі? Бо ён мне пра гэта не адпісаў, сёння яшчэ раз у яго спытаю. […]

Бацька Струмілы памёр. Адна маладая і цёплая ўдава ўступіла ў наваградскія дамініканкі. Адна Ягамосць, выпадкова ў цемры жадаючы выпіць кілішак ратафіі (наліўка з садавіны - *Л. Л.*), выпіла купарос і памерла ў страшных пакутах. Стан здароўя нашых сялян добры, але вельмі цяжка з хлебам.

Ці верыш, як хачу цябе бачыць. Абяцай прыехаць на святы.

Слуга,
Тэадор.

**10.**

*Шаўры, 12 студзеня 1841 г.*

Той хто са мной мае ліставацца, не рады будзе гэтаму, бо шмат я дакучаю. Гэтак і з табой сталася, тыдзень за тыднем клапоцішся ты пра мяне. Даруй бедаку, калеку, старому інваліду, які цешыцца невялікім колам сяброў, сярод якіх жадае і цябе бачыць.

Святы мы правялі дома. На двары доўгія завеі і буры, і ўсё бліжэй голад, таму не хочацца гучных забаў. Дзякуючы Богу, яшчэ маю трошкі здароўя.

Пішу Марціноўкаму прыгожыя кампліменты, можа ў прэзент аддасць "Дзённікі".

Прагляджэў рээстр шлюбаў і вяртаю. "Помнікі" Вішнеўскага вельмі жадаў, але ў іх няшмат карыснага для маёй працы. […]

У нашай гісторыі так мала фактаў і так шмат фактаў у агульнай гісторыі, што яна зацяняе нашу гісторыю і дамінуе над ёй. Нарушэвіч[38] не пісаў пра народ, а падаваў толькі войны і дзеі ўрадаў. Лелявель, жадаючы гэта паправіць, робіць другую памылку, бо штукуе сваімі домысламі і параўнаннямі з гісторыяй іншых дзяржаў і не пакідае месца фактам. Я імкнуся трымацца сярэдняй лініі, выкладаю факты і пакідаю магчымасць самому чытачу дамысліць тое, чаго няма ў крыніцах. Узорам мне быў Юм[39], не ведаю нават, як так сталася. Ці маеш "Тыгоднік" з мінулага года? Прасіў бы даслаць. Ад святара Баброўскага чакаю адказ.

Атрымаў інфармацыю пра знойдзены нядаўна важны камень у Літве, на якім шмат невядомых надпісаў, але сёння ён ляжыць пад снегам, адкладу да вясны мой візіт да гэтага ветэрана нашай краіны. Таксама чуў пра другі камень з невядомымі надпісамі і фігуркамі і хутка чакаю больш падрабязных вестак. Маю цікавую дугу ад стрэмені, страчаную на полі бітвы ў 1386 г., у часы крыжовых паходаў. На тым полі да сёння 50 высокіх курганоў. У тым месцы выарана мноства металічных рэчаў, але покуль мне пра гэта паведамілі, сяляне перакавалі іх на сярпы і нажы.

Памятай, што трэба выбраць час, напрыклад на Запусты, і паведаміць мне, калі па цябе прыслаць коней, каб прывезці сюды і мець радасць бачыць цябе.

Будзь здаровы і вясёлы.
Слуга,
Нарбут.

**11.**

*Шаўры, 20 лютага 1841 г.*

За пажаданні здароўя і іншае, дзякую. Дрэнна толькі, што я не такі багаты, каб адарваць цябе на нейкі час ад лекарскай практыкі і цешыцца прысутнасцю дарагога сябра. Але ўпэўніваю, што заўсёды буду рад падзяліцца с табой усім, што маю. Падобна, што гэтай зімой у Вільні не буду, бо, па-першае: гаспадарка, па-другое: пахаванне брата[40] і сямейная жалоба, - усё гэта перашкаджае, да таго ж і грошай мала, бо нічога з прадуктаў не прадаў. Марціноўскі цягне. Мушу апошні рэсурс - тры валы, даслаць на продаж, бо грошай у доме няма. Будзь ласкавы, дапільнуй, дзе прадае Мацак, але і ў ім я не пэўны, бо можа дамовіцца з яўрэямі.

Абавязкова мусіш быць у нас на Вялікдзень, бо пamру і страціш самае прыязнае да цябе сэрца. […]

Будзь здаровы, ласкавы, даруй,
Тэадор.

---

[37] Wiszniewski Michal. Pomniki historyi i literatury polskiey. T. 1-3. (1835). - *Л. Л.*

[38] Адам Тадэвуш Станіслаў Нарушэвіч (1733, Лагішын, Пінскі павет -1796, Янаў-Падляшскі) - філолаг, гісторык, перакладчык, паэт і празаік. - *Л. Л.*

[39] Дэвід Юм (1711-1776) - шатландскі філосаф, асветнік. - *Л. Л.*

[40] Здаецца, я больш нідзе не бачыў інфармацыі, што Ксаверы Нарбут, які нарадзіўся ў 1787 г., памёр на пачатку 1841 г. - *Л. Л.*

**12.**

*Шаўры, 2 снежня 1841 г.*

Дарагі пане-дабрадзей Аніцэці!

Надарылася магчымасць паслання ў Вільню і хуткага адказу на твой ліст ад 29 лістапада. Вельмі дзякую за памяць аб маім здароўі, за згадванне мяне на мае імяніны і перад усім, за тваё сяброўскае сэрца. Паміж намі няма нічога такога, што магло б сапсаваць сяброўства. […]

З цікавасцю прачытаў крытычны артыкул у "Візерунках".

Атрымаў ліст ад прадаўца кніг з Познані сп. Паплінскага, у якім ён просіць даслаць 3 экземпляры маёй "Гісторыі…" у абмен на кнігі, якія ў яго выдаюцца і спіс якіх ён даслаў, ці гатовы заплаціць гатоўкай. Але не ведаю, як гэта зрабіць? Ці праз Завадскага, ці інакш, бо гэты ліст праз яго прыйшоў да Марцінoўскага, а потым да мяне, атрымаў яго 24 лістапада. Што да "Дзеяў касцёла рэфарматарскага" [41] сп. Лукашэвіча, дык гэта добрая праца, якую я буду мець спосабам, апісаным вышэй. Гэта нешта накшталт кнігі Валяр'яна Красінскага, выдадзенай па-англійску ў Лондане.

Але я маю столькі тэм для літаратурных спраў, для даследаванняў, для размоў з вільнянамі, што не магу ўсе апісаць у адным лісце. Таму абавязкова хачу да Новага года прыехаць у Вільню. Бяда, што дарога настолькі дрэнная, а трасяніна мне вельмі не пасуе.

Выпадкова дастаў два бракованыя нумары "Віленскага Дзённіка" [42] ад 1824 г. Астатнія мушу шукаць і нават пісаў пра гэта Марцінoўскаму. Ён хутка пачне друкаваць Х том, але вельмі марудна. Том будзе мець некаторыя дадаткі, я нават хачу уключыць у яго мой партрэт. Я пагадзіўся, але каб гэта не быў той партрэт, які Пянькоўскі намаляваў у Верках і які Азямблоўскі выразаў на камені, бо ён страшэнна не падобны[43].

[…]

Найніжэйшы слуга,

Тэадор.

**13.**

*Шаўры, 19 студзеня 1842 г.*

Дарагі сп. Аніцэці!

Даўно мы не ліставаліся, і за гэты час набегла шмат праблем, пра якія я буду цябе прасіць.

Прыкладаю карціну: гэта арыгінал карціны Бачарэлі, партрэт маладой жанчыны ў выглядзе Венеры[44]. Хацеў бы паказаць яе Азямблоўскаму і параіцца аб рэстаўрацыі яе пашкоджаных частак, неабходна яе пакрыць лакам і г. д. Можа Рыпінскі-старшы ўзяўся бы за гэтую працу, хацеў бы, каб гэта была рука майстра, якая не сапсуе карціну знакамітага мастака. Дамоўся пра аплату.

Ці маеш для мяне што-небудзь з "Дзённікаў"? Чуў, што выйшаў новы каляндар, які Мацей не купіць, без тваёй інфармацыі.

Пра сябе не маю сказаць нічога добрага. Здароўе не вельмі, пакутаю ад рэўматызму. Але заняўся новай працай, пачаў скарачаць "Гісторыю Літоўскую" каб зрабіць кампендыум у адным томе замест дзесяці[45].

Ад Завадскага нічога не маю, пішу да яго, можа што-небудзь дашле. Прашу памятаць пра "Тыгоднік Пецярбургскі". Яшчэ не маю новых газет. Не магу выбрацца ў Вільню, заўсёды нешта перашкаджае. Але калі я ў Вільні, дык цяжка вярнуцца дахаты, а ў мяне дома немагчыма без гаспадара.

Дзеці і Крысціна дасылаюць найлепшыя пажаданні.

Слуга,

Тэадор.

**14.**

*Шаўры, 5 лютага 1842 г.*

Дзякуй Богу, атрымаў ад Напэрскага добры адказ, які далучаю да гэтага ліста. Трэба паказаць яго Завадскаму і параіцца, як знайсці магчымасць, каб танна забіраць паперу з Рыгі. А можа ён мае стасункі з тамтэйшымі кнігавыдаўцамі і можна было б рабіць справу праз іх? […]

Калі сп. Завадскі будзе мець ахвоту прыняць мае працы да друку, дамовімся лёгка. З Марцінoўскім канцоў няма, абяцае і абяцае, і абяцанкамі ўсё заканчваецца. Прапаную яму, каб пакінуў мяне ў спакоі, і я тады сам паспрабую надрукаваць Х-ты том у іншай друкарні, спаслаўшыся на павелічэнне аб'ёму кнігі і таму непад'ёмны для выдаўца кошт. Зараз пішу яму пра гэта.

З "Дзённікаў" маю ўсе акрамя нумароў за травень і чэрвень 1820 г., студзень, люты, сакавік, красавік і травень 1823 г. Калі ёсць танныя нумары 1823 г., гатовы набыць. Змілуйся, дашлі кнігі ў пераплёт, бо пераплётчык каля 200 тамоў ужо аправіў і не будзе мець што рабіць далей. Я хацеў бы мець "Хроніку Віганда", выдадзеную ў Познані, пра якую ты мне паведаміў, па-польску і па-латыні. Дасылаю том IV "Гісторыі …",

[41] Маецца на ўвазе: Lukaszewicz Jozef. Dzieje kosciolow wyznania helweckiego w Litwie. Poznan, T. 1. (1842), T. 2. (1843).

[42] "Віленскі Дзённік" - адно з найважнейшых віленскіх перыядычных выданняў. Заснаваны Тадэвушам Чацкім у 1805 г., аднак у 1806 г. выданне было прыпынена і адноўлена Казімірам Контрымам толькі ў 1815 г. Нейкі час Контрым рэдагаваў часопіс сумесна з Антоніем Марцінoўскім. У перыяд 1818-1830 гг. выдаўцом і рэдактарам стаў Марцінoўскі, а з 1822 г. таксама яго адзіным уласнікам. - *Л. Л.*

[43] Гэты Х-ты том не выдадзены і да нашага часу. У ім змяшчаўся збор указальнікаў і рэестраў. Ні адна вялікая праца не абыходзіцца без такога эпілогу, калі яго няма, дык даводзіцца блукаць па шматтомніку, як у лесе. - *Л. Л.*

[44] Гэта партрэт далёкай сваячкі Тэадора, роднай сястры Юстына Нарбута Юліі Шышковай з Нарбутаў. У артыкуле Уладзіслава Сыракомлі Юлія намалявана ў выглядзе Зары. Пра яе гл: Лаўрэш Леанід. Юлія Шышкова з лідскіх Нарбутаў // Маладосць. 2019. № 6. С. 114-122.

[45] Гэтая кніга выйшла ў 1847 г.

можа каму будзе патрэбны, у мяне ён ляжаў сярод вялікай колькасці іншых тамоў. Быў рады мець I, IX і X тамы Нясецкага[46]. Напісаў невялікую рэцэнзію на кнігу, якую атрымаў з апошняй аказіяй, трэба перадаць яе Завадскаму, хай дашле ў "Рубон" [47] ці "Тыгоднік Пецярбургскі", яму карысна, калі хваляць кнігі якія ён выдаў, бо яны лепш прадаюцца. У "Дамашнім музеі" знайшоў дэфект - няма аркуша № 2, але пераплётчык ужо сшыў увесь 1838 г. у адзін том і таму я не магу вярнуць. Трэба сп. Шмітхазена запытаць, ці не мае такога аркуша? Можа з нераспраданага нумара вырве. "Тыгодніка" не выпісаў, бо і так маю шмат расходаў пры малых даходах - 50 вольных рублёў срэбрам цяжка знайсці.

Згадваў "Рубон", верагодна, гэта добры часопіс, ці не мае яго Завадскі? Варта было б папрасіць для мяне.

Кажуць, што прэлат Гразмані памёр. Пакінуў ён старажытныя рэчы, для мяне там цікавы толькі каменныя молаты (каменныя сякеры - *Л. Л.*) - два ці тры, астатняе не цікава. Можа ведаеш Далецкага, гэта мой кузэн і ўнук нябожчыка, сын яго пляменніцы, трэба яго папрасіць пра молаты. Ёсць і яго пляменнік Яўстах Гразмані, мой знаёмец з Лідскага павета, але не ведаю, каму гэтыя рэчы запісаны тастамантам.

Калі маеш пераплесці якія кнігі, дык мой пераплётчык зграбна працуе. Бярэ 20 грошаў за кнігу, я плачу 8, бо даю яму разам з жонкай жытло.

Здароўя, поспехаў і вяселля.

Слуга найніжэйшы,

Тэадор.

Пішу да Далецкага пра каменныя молаты, якія мне [раней] падараваў нябожчык, прэлат Гразмані. Я не забраў іх у прошлым годзе, бо забыў пра іх і ўвесь год больш не быў у Вільні, там яны і засталіся.

**15.**

*Шаўры, красавік 1842 г.*

Дарагі пан Аніцэці!

Я вам вельмі ўдзячны і вельмі абавязаны за дасыланне звестак пра важныя і архіпатрэбныя кнігі. Кнігі трэба купіць. Дасылаю каталог дзе "+" пазначаны кнігі якія абавязкова трэба купіць, "5" пазначаны не вельмі мне патрэбныя кнігі, але калі будуць грошы іх можна набыць, тыя перад якімі стаіць значок, можна купіць, калі яны танныя і хопіць касы. Тыя, нумар якіх перакрэслены, непатрэбныя. Не маю запасу грошай, бо пазычыў і на св. Юрыя чакаю, што вернуць. Таксама маю і вялікія расходы. Дасылаю асігнацыю ў 25 рублёў, астатнія з касы ці на абмен на экземпляр нашай "Гісторыі …". Пішу да Марціноўскага, прашу 50 рублёў срэбрам. Калі дасць, можаш узяць. Далучаю ліст да Завадскага, каб выдаў выпісаныя раней кнігі.

Ці не можаш купіць VI-ты том "Атэніума" [48], ён мне патрэбны, бо мушу туды напісаць заўвагі на Даніловіча. Гэтыя паны шкодзяць усёй нашай беднай Літве, самі не будучы ліцвінамі. Што піша Крашэўскі, тое з ветрам уляціць, але Даніловіч - гэта іншае, трэба яму адказаць прыгожа і моцна. Вярнуўшыся з Вільні, дастаў рукапіс хронікі, напісанай нямецкім вершам у 1293 г., больш поўнай ад друкаванай, якую меў раней. Там знайшоў біч на Даніловіча, аўтара завуць Дзітлеб фон Алнпеке, ён быў крыжацкім трубадурам[49]. Даслана з Дэрпта. У гэтых фаліянтах сяджу дзень і ноч, адкрываю рэчы, якія не ведаў раней. Я гэтыя рэчы ведаў у скароце, але зараз, перачытаўшы і ўчытаўшыся, убачыў шмат новага, нават тое, чаго раней за мяне не ўбачыў Фойгт[50], які чытаў гэта ў мінулым.

З Пецярбурга мне піша кнігар Шуберт, прапануе купіць новую вялікую гістарычную кнігу Фойгта з папярэдняй аплатай ў 155 рублёў!

Зробіш мне мілую прыемнасць, калі прыедзеш да нас на свята! Калі згодны, напішы, калі, як і што, тады прышлю брычку.

Слуга,

Нарбут.

**16.**

*Шаўры, 17 траўня 1842 г.*

Дзякуй за тое, што купіў і даслаў мне кнігі пра с.п. біскупа Клангевіча[51]. Патрэбны мне яшчэ Нясецкі і "Вільня" Крашэўскага, гэта ёсць у Завадскага. А таксама трэба карціна Дмахоўскага[52].

Патрэбна мне і "Гісторыя польскай літаратуры"

---

[46] Аўтар грунтоўнай шматтомнай працы па генеалогіі. - *Л. Л.*

[47] Часопіс "Rubon" выходзіў у Вільні ў 1842-1849 гг. і займаў важнае месца ў справе папулярызацыі культуры і гісторыі Беларусі. Стаў значаным "эпіцэнтрам" па вывучэнні рэгіёна (першым чынам, заходняй яго часткі). Усяго было выдадзена восем нумароў часопіса. Асобнае месца сярод публікацый займаюць працы фальклорнага і этнаграфічнага характару. - *Л. Л.*

[48] "Athenaeum. Pismo Poswiacone Historii, Literaturze, Sztukom, Krytyce itd." (1841-1851) - неперыядычны часопіс, які выдаваўся ў Вільні пісьменнікам Юзафам Крашэўскім. - *Л. Л.*

[49] Маецца на ўвазе "Лівонская старэйшая рыфмаваная хроніка" - наратыўная хроніка лівонскага паходжання, напісана каля 1290 г. на сярэдненямецкім дыялекце і складаецца з 12017 вершаваных радкоў. Доўгі час на падставе пазнейшага допісу на адным з рукапісаў хронікі аўтарства памылкова прыпісвалі Дзітлебу фон Альнпеку. гл: Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Жэшаў, 2000. С. 11, 12. - *Л. Л.*

[50] Іаганес Фохт (1786-1863) - нямецкі гісторык, прафесар у Кёнігсберге, "бацька" прускай гістарыяграфіі. - *Л. Л.*

[51] Андрэй Клангевіч (1767-1841) - прафесар універсітэта а потым віленскі і брэсцкі біскуп. - *Л. Л.*

[52] Вінцэнт Дмахоўскі (1807-1862) - мастак, вучань Яна Рустэма і Казіміра Ельскага, удзельнік паўстання 1831 г. Уладальнік маёнтка Нагарадавічы (у той час Лідскі павет). Пра яго гл: Лаўрэш Леанід. Гісторыя вёскі і маёнтка Нагарадавічы // Дзятлава і Дзятлаўскі край: гісторыка-культурная і археалагічная спадчына: зб. навук. арт. / Нац. акад, навук Беларусі, ін-т гісторыі; рэдкал.: В. Л. Лакіза [і інш.]. Мінск, 2023. С. 107-117. - *Л. Л.*

Вішнеўскага, пра якую пісаў да Завадскага, вазьму яе ў крэдыт на рахунак. Каб можна было яшчэ і лісты Жыгімонта ў Завадскага дастаць! Не магу плаціць гатоўкай, але аддам яму сваімі кнігамі. А калі возьмеш у Глюксберга, дык плаці гатоўкай і прашу прывесці з сабой.

Прыязджай, дарагі Аніцэці, будзем размаўляць аб усім, а калі нагаворымся, адпраўлю цябе на лячэбныя воды.

Усяго найлепшага.
Слуга,
Нарбут.

**17.**

*Шаўры, 15 жніўня 1842 г.*

Крысціна едзе наведаць дзяцей і пані Альшэўскую, і таму я маю прыемнасць напісаць да цябе. Рады, што ты добра бавішся, маеш шмат пацыентаў і хваліш лячэбныя воды як літаратар. […]

Заўсёды з сапраўднай павагай і прыязню.
Найніжэйшы слуга.
Тэадор.

**18.**

*Шаўры, 30 жніўня 1842 г.*

Дарагі пан-дабрадзей Аніцэці!

Дасылаю коней па пані Альшэўскую і маю прыемнасць напісаць хоць і кароткі, ліст. Набліжаецца канец купальнага сезона, і ты, пэўна, вернешся дахаты. Можа заедзеш па дарозе да мяне? Ты пішаш, што пані Вольфава, якая перадавала мне прывітанне, жыве недалёка ад мяне. Хачу спытаць пра назву месца, дзе яна жыве, бо для мяне была б вялікая прыемнасць мець такую шляхетную суседку.

Жыхар Лідскага павета Якімовіч узяў у арэнду па-францішканскі кляштар і жыве там ў келлі гвардыяна. Ён хацеў перарабіць спальню і за старой абіўкай знайшоў лацінамоўны рукапіс, напісаны вельмі старым почыркам, у якім меўся рэцэпт нейкага таямнічага спірту. Можа гэта быў рэцэпт алхіміка Твардоўскага ці Парацэльса? Захацеў паспрабаваць. Самым цяжкім было знайсці дзяўчыну. Знайшоў, наладаваў апарат, на які ў пэўнай позе села дзяўчына з нейкімі зёлкамі ў руках і з вянцом з зёлак і пёраў птушкі савы на галаве. Справа адбывалася ў поўнач. Тым часам апарат нагрэўся, колбы і рэторты ўзарваліся і разарвалі дзяўчыну на кавалкі. Сам Якімовіч атрымаў апёкі, ад якіх памёр, кляштар ледзь ўратавалі. Гэта адбылося ў Лідскім павеце, у ліпені, у кляштары Шайбакполе[53]. Інфармацыя дакладная. Інфармацыя для сп. Савіцкага[54].

Слуга,
Тэадор.

**19.**

*Шаўры, 6 снежня 1842 г.*

Парушыўся ў нас сезонны клімат гэтак жа, як і людскія норавы. Ні зімы, ні восені - восенню зіма, а зімой ні тое, ні сёе. Можа з-за дэфармацыі прыроды ідзе і маральная дэфармацыя. Няма сёння ў нас нічога добрага. Падаткі, утрыманне магазінаў (дзяржаўных складоў з харчаваннем - *Л. Л.*) і выплаты ў скарб перавысілі 4 рублі срэбрам з сялянскай душы, гандаль паралізаваны, упадак Вільні, пажары, голад і беднасць, народ хварэе, памірае, і калі так пойдзе і далей, дык і адсутнасць навукі для моладзі будзе мець свой уплыў на маральнасць і асвету. О, бедная Літва! Да чаго ты прыйдзеш!

Пра сябе скажу, што я па сваім фізічным стане ні здаровы, ні хворы. Парадкую свае кнігі і маю пераплётчыка. Прашу цябе падзейнічаць на Завадскага, каб трэці том "Гісторыі літаратуры" Вішнеўскага мне прыслаў зараз, хай бярэ за гэта два экземпляры "Гісторыі …" на замену, каб мне з ім разлічыцца. А можа даў бы мне "Бібліятэку Варшаўскую" за пазамінулы, мінулы і гэты год. "Тыгоднік" напомніў пра антыкрытыку "Гісторыі …", называючы яе заядлай і з'едлівай. Верагодна, Радзіцкі атрымаў слова.

Каб можна было бясплатна друкавацца ў гэтай "Бібліятэцы", можа тады б рэдактар даваў бы мне адзін экземпляр. Здаецца, Рубэн мае стасункі з рэдакцыяй.

Ці няма яшчэ з Ляйпцыга IX-га тома Нясецкага, маю з другога па восьмы.

У нас расказваюць пра празорліўцу пані Грасыльду, некаторыя ездзілі і казалі пра цуды. Што пра яе ў вас кажуць?

З Пецярбурга яшчэ нічога не маю. Там зараз мой прыяцель, можа што з літаратуры прывязе. Я перапісваюся з вучоным даследчыкам Наперскім[55]. З рыжскага архіва ён даслаў мне вельмі важныя копіі дыпламатычных актаў ажно з часоў Міндоўга, змест я іх ведаў, але не меў. Пра вялікага князя Рынгольда, існаванне якога Даніловіч адмаўляе, Наперскі думае, як і я. Мы павінны разам падрыхтаваць новае выданне хронікі Ал-сека (слова ў лісце не чытаецца).

[…]

З Даніловічам і Пшаздецкім яшчэ не зносіўся.
Слуга,
Тэадор.

**20.**

*Шаўры, 20 снежня 1842 г.*

Выправіў у Вільню трохі збожжа, бо цалкам бракуе грошай, якія патрэбны для гаспадаркі. З новага года мы разам з Наваградскім паветам будзем належаць да

[53] Пра гэты выпадак, са спасылка на Нарбута, пісаў Шымялевіч, гл: Шымялевіч Міхал. Збор твораў. укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 126. - *Л. Л.*

[54] Аптэкар у Вільні.

[55] Наперскі Карл Густаў (1793-1664) - інфлянскі гісторык і краязнавец, з 1843 г. член Пецярбургскай акадэміі навук. - *Л. Л.*

Віленскай губерні[56], нават Допельмаер перайшоў ад нас у Менск на тую самую пасаду. Падаткі і корчмы бязмерна спустошылі кішэню, а яшчэ да гэтага, аддаць рэкрута каштуе да 15 чырвоных злотых за кожнага.

Каб разлічыцца за кнігі, Завадскаму можна даць экземпляры "Гісторыі …", якія ёсць у цябе. Вельмі патрэбны III том "Гісторыі Літаратуры" Вішнеўскага, можа, з'явіўся IX том Нясецкага? "Музея Дамовага" бракуе першага тома за 1838 г. Маю пераплётчыка які можа ўзорна пераплесці перыядычныя выданні, якія я ў цябе бачыў, у палатно. Прашу ўзяць у Завадскага познаньскі "Залаты алтарык" у прыгожай вокладцы для ахмістрыні.

У нас кажуць, што генерал Касакоўскі пайшоў у лепшы свет. Пасля яго засталося шмат старых рэчаў. Было б добра атрымаць некаторыя з іх у музей літоўскіх старажытнасцяў[57].

[…]

Пачаў ліставацца з Наперскім і маю надзею набыць 500 копій важных дакументаў, ахвярую апошні грош, але за тое, вартасць майго збору вельмі ўздымецца, усе дакументы дыпламатычнай гісторыі Літвы будуць у адным месцы.

Ці даведваўся ў Глюксберга пра адрас Даніловіча? Кажуць мне, што ён пайшоў у адстаўку з маскоўскага ўніверсітэта і жыве ў Кіеве ці ў вёсцы каля Кіева. Мае шмат розных дыпламатычных актаў і розных рукапісаў, у тым ліку і па літоўскай гісторыі. Чалавек паважны, не такі як маладыя псеўда-літаратары, якія самі сябе такімі лічаць, як і свае творы літаратурай, якой да іх ніколі не было, а іх папярэднікі для нашай літаратуры былі нічога не варты. Чытаю "Тыгоднік Пецярбургскі", і ажно валасы на галаве паўстаюць.

Я яшчэ нічога не выпісаў з газет на наступны год, парадзь, што выпісаць, бо сам буду выпісваць нешта таннае. Ці зноў "Тыгоднік" ці "Кур'ер Літоўскі", ах … памыліўся, "Кур'ер Віленскі", "Віленскі".

Кажуць, што памёр прэлат Гразмані. Трэба пільнаваць, бо гэты стары меў шмат гістарычных каштоўных рэчаў для нашага музея.

Маю надзею хутка абняць цябе, а покуль прымі ад шчырага сэрца віншаванні з надыходзячымі святамі.

Слуга,

Тэадор.

**21.**

*Шаўры, 23 студзеня 1843 г.*

Пасля доўгага бездарожжа, прыйшоў час, калі можна выслаць некалькі фурманак ў Вільню, каб купіць неабходнае. Карыстаюся гэтым, каб даслаць дарагому пану Аніцэту мае сяброўскія віншаванні. Шчыра дзякую за кнігі, якія ты мне пераслаў. Не толькі "Дзённіка" мне бракуе, было б добра яшчэ дастаць ад Завадскага "Гісторыю літаратуры" Вішнеўкага Т. III., Нясецкага Т. IX. і "Музей" за 1838 Т. I. Пра ўсе кнігі, якія мне патрэбны, ужо пісаў раней. Яшчэ нічога не маю з Пецярбурга. Прашу памятаць пра дробязі, якія пасля смерці генерала Касакоўскага ёсць магчымасць атрымаць. Раней дамаўляліся, што ўсе мае кнігі можна прывесці ў Пецярбург, каб прадаць па папярэдніх замовах.

Як шкода Даніловіча! Ён сабраў шмат рукапісаў, сярод якіх павінна быць многа важных для гісторыі Літвы, зараз, хто ведае, куды гэта ўсё можа знікнуць?[58] Праўду я пісаў раней, што нейкі незайздросны лёс перашкаджае развіццю ў нас гістарычных даследаванняў. Абыякавасць, эгаізм ці выпадкі, якіх немагчыма прадбачыць - праблемы, праблемы.

Ці чытаеш "Бібліятэку Варшаўскую"? Варта было б з ёй пазнаёміцца. […]

Вядомая брашура Пачобута пра Егіпецкі задыяк - дзякую за яе, хай будзе мне ў памяць пра гэтага заслужанага езуіта.

У маёй працы зараз малы перапынак. Закончыў індэкс рукапісных матэрыялаў, якія былі выкарыстаны ў "Гісторыі …". Каля 2000 рукапісаў, пра кожны - змест, дата, інфармацыя пра арыгінал і копію. Чакаю з Рыгі ад Наперскага інфармацыю, колькі будзе каштаваць перапісаць з тамтэйшых збораў больш за 400 рукапісаў. Калі атрымаецца і копіі патрапяць у мае зборы, дык буду мець больш за 2000 дыпламатычных актаў, калі іх надрукаваць, дык зойме добрыя 3 тамы in-folio.

Заўсёды з шанаваннем і сяброўскім сэрцам,

Твой слуга,

Тэадор.

**22.**

*Шаўры, 14 лютага 1843 г.*

Пішу табе, бо Марціноўскі з аказіяй пераслаў мне ліст ад гр. Яўстаха Тышкевіча, да якога прыкладзены экземпляр яго кнігі па археалогіі з вялікімі кампліментамі да мяне як да гісторыка Літвы. У Завадскага была ўзятая непатрэбная кніга і таму адсылаю яе назад. […]

Дзякую тысячу разоў за збіранне для мяне брашурак і розных крыніц для маёй працы. Маю ўсе часткі "Дзённіка" акрамя двух нумароў - за травень і верасень 1820 года.

Чакаю каб прачытаць, што Жавускі напісаў пра

[56] Сталася інакш, Наваградскі павет з Гарадзенскай перайшоў у Менскую губерню, а Лідскі ў Віленскую.

[57] Юзаф Крашэўскі пісаў: *"Генерал Касакоўскі валодаў багатай калекцыяй рарытэтаў, сярод іх меліся і рэчы найвышэйшай рэдкасці - напрыклад ён меў літоўскія слязніцы. Але генерал зусім не разумеў іхняга значэння і гістарычнай вартасці, бо дэманстраваў усім слязніцы як шкляныя шарыкі, якія раней звычайна ўжываліся ў гардэробах дам для выгладжвання карункаў з Брабанту"*. - цыт. па: Konstanty hr. Tyszkiewicz. Wilija i jej brzegi. Pod wzgladem hydrograficznym,historycznym, archeologicznym i etnograficznym. Drezno. Drukiem i nakladem J. I. Kraszewskiego. 1871. S. 17.

[58] Вялікую калекцыю ад удавы Даніловіча набыў Яўстах граф Тышкевіч, яе апрацаваў вучоны сакратар Музея Старажытнасцяў у Вільні Маўрысій Круповіч. Было выдадзена вялікае двухтомнае выданне "Скарбец дыпламатаў …" (Вільня, 1860-1862).

мае "Дзеі". Крашэўскага падбухторваў Тэафіл Глюксберг, які зайздросціў Марціноўскаму. Бо твор, які крытыкуецца, траціць рэнтабельнасць, а пахвала паляпшае справу выдаўца. Гэтыя паны мала клапоцяцца пра аўтара, справу і праўду. Яны маюць надзею на сваю эфемерную славу, зарабляюць грошы і ім гэтага дастаткова[59].

[…]

Слуга найніжэйшы,

Нарбут.

**23.**

*Шаўры, 9 сакавіка 1843 г.*

Шлю табе тысячу падзяк за ўсё, што напісана ў апошнім лісце, і прашу Бога, каб я мог адплаціць свайму дабрадзею за тое, што ён для мяне зрабіў і за яго сяброўства. […] Я пішу Фойгту і прашу яго даць мне інфармацыю пра Грунвальдскую бітву, копія гэтага дакумента ён мае ў тайным архіве.

Калі ты знаёмы з Яўстахам Тышкевічам, паразмаўляй з ім пра мой збор старажытнасцяў і пра маю гатоўнасць падаць яго апісанне і гравюры. Але мне цяжка гэта зрабіць за свой кошт і таму, калі Завадскі не захоча, трэба знайсці нейкія сродкі. Можа пан граф багаты і захоча быць шчодрым. Буду рады пачуць любыя навіны.

Вітаю цябе сардэчна і цёпла.

Тэадор.

**24.**

*Шаўры, сакавік 1843 г.*

Дасылаю ганца ў Вільню па святочныя пакупкі і перадаю з ім ліст з віншаваннямі і падзякай за купленыя кнігі. […]

Абавязкова трэба прадаць Завадскаму хоць адзін экземпляр "Гісторыі …". Ён набыў у яўрэяў у Марціноўскага пэўную колькасць, падобна па 15 рублёў срэбрам, бо у мяне быў яўрэй-крамнік, і ён сказаў пра такі кошт. За гэта мы купілі б патрэбныя нам кнігі і аплацілі доўг.

Наперскі піша, што для мяне готовы ўжо каля 100 дыпламатычных актаў, але покуль не мае аказіі даслаць.

Хай Бог сцеражэ цябе, зычу здароўя і весялосці падчас надыходзячых свят.

Слуга,

Тэадор.

**25.**

*Шаўры, 21 красавіка 1843 г.*

Адсылаю "Кодэкс" Фойгта ўладальніку і разам з ім ліст з падзякай вучонаму мужу. Напісаў Наперскаму каб больш не капіраваў акты, бо 20 з ужо перапісаных я знайшоў у гэтым "Кодэксе".

Ці друкуе Завадскі матэрыялы да гісторыі Грабоўкага? Выберуся на кірмаш у Вільню, як толькі мая кішэня будзе добра адчуваць сябе, бо сёння яна занадта лёгкая. Вазьму з сабой яшчэ экземпляры "Гісторыі …", якія ў мяне засталіся, можа прадам.

Хачу бачыць дарагога і шаноўнага пана Аніцэта

Слуга,

Тэадор.

**26.**

*Шаўры, 6 лістапада 1843 г.*

Дарагі Аніцэці!

З сапраўднай прыемнасцю атрымліваю твае лісты, цяжка на гэтым белым свеце знайсці роўнага табе сябра і аматара гісторыі, якой прысвячаеш жыццё.

Ці не даслалі X том Нясецкага ці Вішнеўскага "Гісторыю літаратуры"?

Да ліста пану Кіркору прыкладаю пакет, дай Божа, каб "Радэгаст" меў поспех! Буду для яго дасылаць цікавыя рэчы.

Каяловіча шляхта ледзь не пасекла, гэта для мне не знаёма. "Дон Кіхота" аддам Д[60] … Пэўна надрукуе хутчэй за Бароўскага. Майго імені не будзе, але ведаю, што гэта не апошні мой пераклад. Калі Серванэс мае 8 перакладчыкаў на французскую, 7 на нямецкую, дык на польскую мову будзе ужо 3.

Яўстах Тышкевіч вярнуўся ў Швецыі і Даніі і ўжо напісаў мне.

Даніловіч памёр у Грэфенбергу. З Пецярбурга спадзяюся атрымаць шмат матэрыялаў ад Нацэвіча[61]. Зараз атрымаў ліст ад брата, ён вязе іх да мяне але яшчэ покуль бавіцца ў Беларусі.

Мая жонка кланяецца пану і я далучаюся да яе.

Слуга,

Тэадор.

**27.**

*Шаўры, 7 снежня 1843 г.*

Дарагі Аніцэці!

Атрымаў твой адказ на мой папярэдні ліст пазаўчора праз яўрэя, г. з. 5 снежня. Высылаю па ўжо трошкі замерзлай зямлі фурманку з жытам у Вільню і, каб не страціць аказіі, пішу гэты ліст.

Дасылаю рэестрык кніг, якія хоча мець наш гувернёр, прашу пераслаць яго да сп. Завадскага і прасіць яго выдаць гэтыя кнігі.

У вясковым грамадстве ідуць размовы пра празарліўцу Грасыльду Наркевіч, якую заможны Эйсмант прывёз у свой маёнтак пад Гародню і заняўся яе

[59] Гэта абвінавачванне цалкам не слушнае. Крашэўскі друкаваў у Глюксберга "Атэніюм" за свае грошы. Але ён быў аўтарам "Вільні" і "Літвы" і ведаў тое, чаго не ведаў Нарбут - чалавек працавіты і высакародны, але даверлівы. Адсюль крытычныя заўвагі Крашэўскага і адмоўнае стаўленне да яго Нарбута.

[60] Верагодна, Дварцову.

справамі. І з таго часу адбываецца цуд за цудам. Але падумай і скажы сваім разумным калегам-лекарам, што і раней былі празарліўцы, хоць нікому і не сніўся жывой магнетызм (гіпноз - *Л. Л.*). Паглядзіце толькі запісаны і надрукаваны ў Нясецкага ("Гербаж Польскі" Т. IX. С. 162-170.) вынятак з жыцця Зоф'і Тамінскай з Тыліцкіх (памерла ў Торуні 8 лістапада 1633 г.). Калі выключыць перабольшванні, наведванні д'ябла, вядзьмарства і дзіўнае бачанне сітуацыі яе біёграфам езуітам Бжэхвай, дык усяроўна яна будзе сапраўднай празарліўцай, якая з'явілася нам і сёння. Рэч вартая ўвагі. І добра было б знайсці кніжачку Бжэхвы, тытул кніжкі ёсць у Нясецкага і яна мусіць быць недзе ў бібліятэцы якога з віленскіх кляштараў. Вось, каб хто пашукаў! Бо Нясецкі перадаў толькі змест, а можа і сам нешта прыдумаў[62].

Жадаю усяго добрага.

Тэадор.

P. S. Прыкладаю ліст да прэлата Хербурта[63], у якім прашу па актах капітулы ўказаць месца пахавання в. княгіні, жонкі Вітаўта[64]. Бо мае крыніцы адрозніваюцца ад інфармацыі Крашэўскага ("Вільня", Т. X. С. 228.).

**28.**

*Шаўры, 27 снежня 1843 г.*

Дарагі пан-дабрадзей Аніцэці!

Праз пасланца я атрымаў ліст з літаратурнымі заўвагамі, якія знаходжу справядлівымі, хоць і крыху перабольшанымі. Наша літаратура заўсёды знаходзілася ў дрэнным стане, і сама сябе рабіла перашкоды для аднаўлення нават у цудоўныя часы Жыгімонта Аўгуста. Сёння, разам з упадкам народа, не дзіва, што, нягледзячы на намаганні адпаведна настроеных людзей, ёй цяжка стаць на ногі. Мае думкі цалкам у мінулым, і можа таму я не бачу добрай будучыні, але можа я і пішу глупства.

Польскія гісторыкі і даследчыкі заўсёды нас ліцвінаў прыніжалі і прыніжаюць, нават сёння апісваючы нашых герояў, Крашэўскі перайначвае імёны: з Міндаўга зрабіў Міндаўса, - так у нас сабак называюць. Яго дзецям ён дае нейкія неверагодныя імёны і нерыфмаванымі, дрэннымі вершамі, расказвае пра істоты, якія нікому ў нашым краі нават і не сніліся. Дык вось таму, з-за гэтых і падобных прычын, трэба збіраць помнікі літоўскага духу і паказваць, што мы іх шмат маем і яны лепшыя за польскія.

Тое, што ў Марціноўскага не выйшла, гэта з-за прагнасці. Ён надрукаваў больш за тысячу экземпляраў і хоча прадаваць кнігі па кошце больш за 20 рублёў за экземпляр. А калі б 1000 кніг прадаў бы па 15 рублёў, няўжо яму было б мала? Прадаў бы, пэўна гадоў за 6.

Мае "Хронікі" патрэбныя, сам Завадскі не раз казаў, што іх трэба друкаваць, але я вагаюся, не жадаю ісці на разрыў з Марціноўскім. Ён ужо спыніўся, а сябры мяне ціснуць. Па 3 рублі за друкаваны аркуш - малая плата, ведаю, што яўрэй даў бы болей, але з яўрэем заўсёды, як з яўрэем.

Да пабачэння, мой дарагі сябар.

Слуга,

Тэадор.

**29.**

*Шаўры, 23 лютага 1844 г.*

Дарагі пан Аніцэт!

Ты прымусіў мяне вельмі занепакоіцца за тваё здароўе, як паправішся, адразу дай мне ведаць.

У Завадскага на гэты раз няма што замаўляць, бо апошняя частка слоўніка не гатовая[65]. […]

Крытыку на "Міндоўса" якую паказваў табе, нехта скраў у Вільні, бо вярнуўшыся дадому, я яе не знайшоў. Пісаць крытыку на вершы - гэта для мяне новая праца і не мая тэма.

Дасылаю ў твае дарагія рукі, Аніцэці, сваю найвялікшую каштоўнасць, аўтограф хронікі Быхаўца. Перадай яе пану Вінцэнту Нарбуту, які жыве ў базыльянскім кляштары, ён павінен яе надрукаваць і пасля гэтага вярнуць мне.

Будзь, здаровы і ласкавы.

Слуга,

Тэадор.

---

[61] Анацэвіч. Ён сам пісаў сваё прозвішча як "O'Nacewicz".

[62] У Гарадзенскай губернскай газеце ад 16 сакавіка 1844 г. у раздзеле ўрадавых абвестак чытаем наступнае: *"З некаторага часу сярод жыхароў Віленскай і Гарадзенскай губерняў, дзякуючы незвычайнай эфектыўнасці лячэння хвароб, якое на кожны маладзік атрымлівалася падчас магнетычнага сну, стала вядома імя празарлівай шляхцянкі з Ашмянскага павета Віленскай губерні Грасыльды Наркевіч. Яна некаторы час жыла ў Гарадзенскай губерні ў мястэчку Воўпа. Найвышэйшым загадам з Пецярбурга быў прысланы адукаваны медык, і пасля яго самых старанных назіранняў і вопытаў, а таксама сумесных назіранняў разам з мясцовымі лекарамі, на працягу двух маладзікоў, было выяўлена, што шляхцянка Наркевічова, якая перыядычна пакутавала нярвовай хваробай, не валодае ніякімі ўласцівасцямі празарліўцы і што прычынай распаўсюджвання чутак пра яе цуды, была з аднаго боку народная схільнасць верыць ва ўсё звышнатуральнае, а з другога зацікаўленасць мужа гэтай жанчыны, які зарабляў грошы на наведвальніках. У выніку некалькіх незвычайных, але легкавытлумачальных выпадкаў з ёй і пайшлі пагалоскі пра цуды. Таму мясцовая ўлада, каб не дапусціць распаўсюду неабгрунтаваных чутак, выдала пастанову, якая забараніла збор цікаўных у Наркевічовай падчас яе нярвовых прыступаў".* - цыт па: Gazeta Codzienna. 1844, № 125. - *Л. Л.*

[63] Кс. Матэвуш Хербурт, які ужо некалькі гадоў як памёр, быў адным з самых вялікіх знаўцаў гісторыі Вільні і Віленскай дыяцэзіі. Яго агромністая калекцыя архіўных актаў дыяцэзіі і біскупства засталася ў рукапісах. Дзе зараз гэта ўсё знаходзіцца, не вядома.

[64] Па тэме гл: Артыкулы пра пошукі магілы Вітаўта // Наша слова.pdf № 50, 14 снежня 2022. - *Л. Л.*

[65] Маецца на ўвазе другое выданне лацінска-польскага слоўніка кс. Фларыяна Бaброўскага. Першы том выйшаў у 1841, другі ў 1844 г.

**30.**

*Шаўры, 22 красавіка 1844 г.*

[…]

Маю цяпер гістарычны здабытак са здабыткаў. Гэта зроблены з жалеза скіпетр Гедыміна, пакрыты лістамі карынфскай медзі і ўсыпаны цвікамі з чыстага золата. Зразумелыя толькі Пагоня і герб Калюмны, а вось іншае - "а ні ў зуб". Не разумею, што гэта значыць, і гэта пры мностве літар і малюнкаў. Ён даўжынёй у локаць, таўшчынёй у паўтары цалі. Але мне даслалі толькі копію, наклееную на дрэве і прасілі сказаць, што гэта такое? Можа атрымаю і арыгінал. Але яго існаванне яшчэ з'яўляецца таямніцай.

Прывязу гэта, і ты будзеш здзіўлены мастацтвам[66].

[…]

Т. Н.

**31.**

*Шаўры, 23 ліпеня 1844 г.*

Дарагі Аніцэці!

Ідзе дождж, дык дождж! Калі гэта не пачатак патопу, дык пачатак голаду і мору. Але так не паўсюдна: кажуць, што на поўдзень ад нас, за Нёманам, надвор'е добрае і ўраджай нядрэнны.

Хто такая пані Брахоцкая з Малеўскіх, дачка с. п. рэктара Віленскага ўніверсітэта? Яна скардзілася выдаўцу "Ундзіны" [67] Вольфангу, што мы надрукавалі (сшытак 1, С. 14 і 15.) звесткі пра страчанае надмагілле яе бацькі, яна ўспрыняла гэта, як абразу яго гонару. Але вы ўзялі гэта з "Візерункаў" Т. XIII, С. 44, дзе напісана, што сп. Марціноўскі недзе бачыў гэты помнік, чытаў надпіс і зразумеў, што гэта ён. Трэба было б мець прэтэнзіі да "Візерункаў". […]

Пра "Хроніку Быхаўца" нічога не чутно. Нарбут не піша.

Будзь здаровы і шчаслівы.

Слуга,

Тэадор.

**32.**

*Шаўры, 24 чэрвеня 1844 г.*

Дарагі пан Аніцэт!

Дасылаю нумар "Тыгодніка", твайго артыкула яшчэ няма, і я сумняваюся, што ён будзе апублікаваны. Тое што не смачна для Крашэўскага[68], "Тыгоднік" ніколі не будзе друкаваць. Пра герб Каяловіча знойдзеш у № 39 артыкул, там Крашэўскі мяне ўжо па-іншаму сустракае, відаць, М. Грабоўскі з-за мяне нарабіў шуму. Борх таксама ваюе супраць мяне, але сам не ведае чаму, бо справа ідзе пра гіпотэзы, у мяне адна, а ў яго іншая. […]

З найлепшымі пажаданнямі

Слуга,

Тэадор.

**33.**

*Шаўры, 12 жніўня 1844 г.*

Дарагі Аніцэці!

Я наўмысна пасылаў у Вільню па газеты і, атрымаўшы іх, спяшаюся напісаць вам гэты ліст. Я добра зрабіў, што не турбаваў сваіх сяброў, каб апублікаваць ваш артыкул, бо ён ужо надрукаваны. Я яшчэ раз умацаваўся ў сваёй веры ў ваш пісьменніцкі талент. Вы добра пішаце, вы маеце здаровую крытыку але не перабольшваеце. Маю цалкам добрыя адозвы пра нашу "Ундзіну". Я ведаю, чаму Рубэн разгубіўся, В. Нарбут піша, што папраўляе ўжо 5-ты аркуш "Хронікі Быхаўца", але гэта страшна марудная і нудная праца. Даўконт[69] з Пецярбурга быў у Вільні і думаў мяне наведаць, але паколькі хацеў за праваднікa мець Нарбута, а той адмовіўся, дык справа не задалася. Каб я ведаў, што ён у Вільні, сам бы да яго пад'ехаў, але Нарбут пра гэта не напісаў. Каб даведацца пра яго, пасля шабата зноў даслаў яўрэя ў Вільню.

Мяне моцна лаюць за тое, што не выдаў Х-ты том "Гісторыі …", а Марціноўскі заўсёды як Марціноўскі, ён маруда, які сам сябе губіць, а на мяне звальвае.

Пра варшаўскі павадак знойдзеш у газеце. У нас на працягу 5 дзён перад нядзеляй быў страшны лівень, якога раней не бачылі, ён таксама і ў нас выклікаў патоп. Дарога на Вільню была затоплена, паштовым трактам мог праехаць толькі вершнік. У Віленскім Зарэччы здарылася жудаснае: млыны, дамы з дзецьмі пайшлі з вадой у Вілію. У Паўлава Кабылінскага рэчка Мерачанка знесла мураваны бровар, пры гэтым быў страчаны і медны кацёл, які важыў 700 фунтаў. Ніхто ў нас не памятае такога павадку.

Усе табе кланяюцца і жадаюць здароўя.

Тэадор.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

---

[66] Як потым стала зразумела, гэта быў рунічны каляндар, яго копію потым меў Музей старажытнасцяў у Вільні, пэўна гэта быў дар Нарбута.

[67] "Ундзіна Друскеніцкіх крыніц" ("Ondyna Druskienickich srodel ") - літаратурна-гістарычны і медыцынскі часопіс ліберальна-асветніцкага кірунку, выходзіў у Гародні. Названы ад імя духа вады Ундзіны. Выходзіў у 1844-1846 гг. і ў 1929-1939 гг. на польскай мове ў час курортнага сезону (красавік-снежань) у Друскеніках. - *Л. Л.*

[68] Маецца на ўвазе стаўленне рэдактара "Тыгодніка Пецярбургскага" Восіпа Пшацлаўскага. Пра яго гл: Пшацлаўскі Восіп. Калейдаскоп успамінаў: Т. 1 і 2. Мінск: "Лімарыус", 2012. - *Л. Л.*

[69] Сымон Даўконт (1799-1864) - выпускнік Віленскага ўніверсітэта, гісторык, пісьменнік. З 1835 г. жыў у Пецярбургу, працаваў канцылярыстам Сената і памочнікам метрыканта пры Метрыцы Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар першай гісторыі Літвы на літоўскай мове. - *Л. Л.*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшаў мастацкі альбом “Капыльшчына”. 192 ст. Наклад 1000 асобнікаў.







У Менску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў 21-шы том “Поўнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча”, 480 ст. Наклад - 800 асобнікаў.







У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Барыса Далгатовіча “На заходнім фронце летам 1941 года. Людзі, падзеі, факты”. 288 ст. Наклад 1000 асобнікаў.

У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшла кніга “Ашмяншчына. Штодзённае жыццё жыхароў краю ў X - XXI стст.”. 468 ст. Наклад 300 асобнікаў.







У Лідзе ў выдавецтве ПУП "Пружмень" выйшаў капыльскі літаратурны альманах “Родныя пагоркі”, № 2, 108 ст., 120 асобнікаў.

У Лідзе ў выдавецтве ПУП "Пружмень" выйшла 4-я кніга Сатырычнай гісторыі Беларусі Язэпа Палубяткі “Вялікая жнівеньская”, 104 ст., 150 асобнікаў.

